№1 (122)
/студзень-люты/ 2023

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Леанід Галубовіч



...Настылы свет, паўжывы,
стуляе вейкі стамлёна...

# ...І будаваць надзеі храм

* * *

У маёй галаве – цэлы свет існуе,
які разам са мною сканае.
Трэба неяк яго ўратаваць –
волю даць,
вонкі выпусціць,
покуль не позна...

### *ЗАЗІМАК*

На вуліцы – паўзімы.
Там – дрэвы, нібы хімеры,
нахохленыя дамы,
гандлёвых радоў галеры;

ледзь-ледзь – нібы ўроскід – снег,
бы з зор рассыпаны ўночы...
Як быццам прачнуўся ў сне
і з явы за сном тым сочыш.

Ссівелая стынь травы.
Скалелыя рукі клёна.
Настылы свет, паўжывы,
стуляе вейкі стамлёна.

*16 лістапада 2011*

* * *

Дзікія качкі целам сваім
саграваюць палонку ў канале,
не даюць зімнай плыні
застыць канчаткова...
То падступае лёд,
то адступае,
а яны, сабраўшыся граем,
грэюцца-раяцца:
як выстаяць ім застуду?
На жаль,
жалобны жолаб жыцця
звужаецца
на даўжыню
знядужаных
крыл...

*7 лютага 2021*

* * *

Я часта думаю пра мёртвых,
якія мне былі бліжэй,
калі ім быў аптэчны морфій
за ўсё на свеце даражэй.

Чапляцца за жывых без сэнсу –
як будаваць надзеі храм,
дзе па табе адслужаць месу,
якой ужо не ўчуеш сам.

*28 сакавіка 2010*

* * *

Купіў насценны каляндар,
прысвечаны Алесю Разанаву.
Прыладзіў у вітальні.
Апранаючыся перад выхадам,
заўжды сутыкаюся з яго строгім
класічным позіркам.
–Ты куды? – пытаецца ён.
– У свет, – кажу, –
бо знялюдзеў на адзіноце...
Вярнуўшыся,
зноў апынаюся перад яго вачыма.
– Ну, што новага ў людзях? –
пытаецца ён.
– Анічога... –
адказваю я роспачна,
нібы сам вінаваты ў гэтым.

І скрушна перакідваю
чарговую старонку календара...

*27 кастрычніка 2022*

## НА КАЛЯДЫ

У мамы былі бабуліны кросны,
ткала яна то капу, то дыванок...
Днём зімовым ясным, марозным
стукалі бёрды і плаваў чаўнок...

Я, малы, але самы старэйшы,
гартаў на печы Купалаў том
і пад дзедаў кашаль старэчы
там забываўся дзіцячым сном...

І вось праз столькі гадоў прачнуўся:
няма ні мамы, ні кроснаў тых,
і толькі я на імгненне вярнуўся
да дзён, сатканых з хвілін былых...

*2 студзеня 2016*

## *У ВЯНОК ПАМЯЦІ НІНЕ МАЦЯШ*

Хто не ходзіць, той – лятае
(люд шануе, Бог – вітае).

Ад бацькоўскага камля:
табе – неба, нам – зямля.

Мы з утомы – да падушкі,
а табе – хоць бы ў пастушкі...
Нам – вясельны хмель гурбы,
табе – сонмішча журбы.
Плач разбудзіць нас дзіцячы,
Ты ж сама заб'ешся ў плачы...

Днём зямны мы торым шлях,
ты ж свой творыш па начах.
Зерне літар родных сееш
на загон свайго дысплея,
праз світальны манітор
вылятаючы ў прастор...

А ўзлятала ты высока,
што не раз знікала з вока...
Сёння вось – зусім прапала...
Бог паклікаў, сіл не стала?

Калі – так, прашу я ў Бога,
каб судзіў цябе не строга
не таму, што ты нябога,
а таму, што ў родным краі
дастаткова ўжо каралі.
Пацягалі тут па пекле –
памяць, мову й годнасць секлі...

Ты ж, Тварэц, памылку выпраў –
адмыслуй, дзе схібіў прыкра.

Дай ёй Там з народам гожым
пахадзіць па Раі Божым...

*25 снежня 2008*

## *СТАРАСЦЬ*

Ад страты памяці і слоў
сыходжу ў царства мрой і сноў...
Там ясны свет і чысты подум –
і смерць адкладзена на потым.

*9 верасня 2021*

Леанід Дранько-Майсюк



…праўда даходзіць да чалавека тады,
калі чалавек сам сваёю сківаю
ляснецца аб жалезную клямку…

# Якуш

***Апавяданне***

## 1

Стары кушнер Якуш надзею страціў, расчараваўся і ўжо не думаў: будзе добра; ужо не верыў: шчасце блісне яму наперадзе.

Не, не блісне (прыкрасць душыла Якуша!), бо ўсё яснае ўвачавідкі рабілася цьмяным – смерці не скажаш, як той кабыле, “тыр-но!”, каб адступіла назад.

Зрэшты, сказаць можна, але смерць не адступіць.

Якушу дух забівала.

Так, стары кушнер ужо глядзеў у зямлю, збіраўся рогі скласці.

Змірыўся ўжо і перад канцом не маўчаў, гаварыў сам з сабою, жонку хваліў і ўсё ўспамінаў залатую царскую пяцёрку, сціхаў на нейкую хвіліну і зноў успамінаў тое колішняе дробнае золата, і зноў жонку хваліў, бумкаў сабе і бумкаў.

І апошнія сілы намагаў, адыходзячы, каб убачыць усё сваё доўгае жыццё, а яно ўсё і не хацела бачыцца, толькі асобныя карціны блюзніліся – нешта з маленства, нешта з гадоў, калі ўжо хлопцам стаў, нешта з таго, як ажаніўся з Верцяй і нарадзіўся Лаўрусь, а тады ўжо і з таго, як вайна ўвярнулася і ў ягоны двор.

І ўсё на гэтым і спынілася, – ухлюпла ў вайне, як у багне.

Астатняе пражытае, як ні напружваўся, не вярталася ў аслабелую памяць, быццам і не было яго, быццам у тым астатнім пражытым Якуш ніколі і не існаваў.

І выходзіла так – толькі тое, што ўспомнілася, калі злёг назаўсёды, і было ягоным, Якушовым, жыццём.

Мала зусім аднавілася ў памяці.

Драбяза.

І тут нічога не паробіш, але, як любіў казаць Якушоў бацька: драбяза, а клопат вялікі!

І языком тут не пляснеш – маўляў, мінулае таму і мінулае, што мінула ўсё.

Не, не ўсё!

Жменя (таго, што было!) усё-ткі засталася.

## 2

Было тое за царом – перад Вадзанне́м[1], якраз бралася на моцны холад, нехта ў мястэчку нядобра паглядзеў на маленькага Якуша і сурочыў яго.

Хлопчык не мог заснуць, кідаўся ў ложку, і напалоханыя бацькі, цёпла ўбраўшы малога, сярод ночы павялі яго да шаптухі, каб адшаптаць сурокі.

“Ці хрышчонае дзіця?” – спытала шаптуха.

“Хрышчонае...”

“А ці ўвялі яго ў царкву?”

“Не, яшчэ не ўвялі...”

“Заўтра Вадзанне, зрабіце ўводзіны, а то сёння мая малітва не будзе мець сілу!” – пастанавіла шаптуха.

Бацькі паслухаліся і назаўтра, апрануўшы свайго Якуша ва ўсё чыстае і лепшае, увялі яго ў царкву.

Пасля ўводзінаў шаптуха ўзялася шаптаць і адшаптала сурокі...

Шчаслівыя бацькі не паскупіліся на грошы і шчыра дзякавалі добрай знахарцы, а тая на адвітанне дала яшчэ й такую параду:

“Калі дзіця зноў сурочаць, то чытайце «Ойча наш» з канца...”

“З канца?” – перапыталі Якушовы бацькі.

“Так, з канца наперад, і чытаць трэба дзевяць разоў!”

“Дзевяць разоў?!” – здзіўлена паглядзелі на яе бацькі.

Маленькаму Якушу тады здавалася, што яны, бацька і маці, гаварылі разам.

“Дзевяць разоў, – вяла сваё ўмелая знахарка, – і кожны раз чытайце на слова менш!”

“Як гэта на слова менш?!” – Якушовы бацькі слухалі добра, але, слухаючы, крыху збіліся.

“Кожны раз прапускайце адно слова, – вучыла шаптуха, – цяміце?!”

“М-м-м-ну-гм-а-а!” – бацька і маці паказалі, што ўцямілі ўсё.

---

[1] Свята ўводзінаў у храм Багародзіцы, якое праваслаўныя адзначаюць 4 снежня.

“Каб апошні, дзявяты, раз малітва пачалася са слоў... Але збаў нас ад злога!..” – так шаптуха сказала ў хаце, а ўжо на выстылым ганку скончыла сваё павучанне тым, што, каб добра было, то ўсё трэба рабіць тады, калі трэба рабіць: не раней і не пазней.

З таго часу акрыялы Якуш спаў ціха, ноччу не кідаўся – шэпты памаглі.

З таго часу, дзякаваць богу, на хлопчыка больш ніхто нядобра не глядзеў, не сурочваў яго, таму “Ойча наш” з канца, прапускаючы па слову, дзевяць разоў чытаць не давялося.

## 3

Было тое за Польшчаю – Якушу споўнілася трынаццаць, і ён ужо не раз чуў у роднай хаце: не трэба ляпіць сабе лішняга клопату, як і не трэба шукаць хваробу на сваю галаву, і перш чым збурыцца (надумацца) на нешта ці ў забаўцы, ці ў рабоце, варта кругом паглядзець.

Аднак жа аднаго разу (выпала ж такое!) Якуш добра кругом не паглядзеў.

Неяк зімовым, ужо даволі цёмным надвячоркам выбег у кажушку на рачулку Рубэлле і весела памчаў па лёдзе, у якім люстраваліся блакітныя і ружовыя зоркі.

Файна было коўзацца, аж дух займала, па ружовых і блакітных зорках – радасць поўная!

А трэба сказаць, што ўдзень на Рубэлле рыбакі нарыхтоўвалі вялікія кавалкі лёду, і тыя кавалкі, перасыпаныя тырсою, складалі ў лядоўню, дзе пасля зімы звычайна захоўвалася рыба.

Спрытна махаючы гострымі пешнямі, мужчыны прасеклі ў рачулцы доўгую палонку, у якую, у поцемках не ўбачыўшы яе, і ўляцеў Якуш.

Ягоная вопратка тут жа набракла, д’ябал нібыта ўсунуў у кішэні кажушка цяжкія гартованыя цагліны, – хлопчык пачаў тануць.

Але якраз гу́рэю (гуртам) нахапіліся большыя хлопцы і выцягнулі Якуша за настаўлены каўнер з чорнае вады.

Пабыўшы ў марознай палонцы, хлопчык ад холаду і страху сам ісці ўжо не мог, не валодаў нагамі – ногі закляклі, і хлопцы занеслі яго да хаты.

Бацька падсадзіў на цёплую печ, на чарэнь, засланую кухайкамі, а маці тут жа пабегла ў гумно па самагонку, глыбока схаваную ад паліцэйскага вока.

Каб хутчэй дзіця адхаяць, трэ было добра абцерці яго там, на чарэні, яшчэ і гарэлкаю.

Бацька тады зыкнуў Якушу:

– Пакоўзаўся! Ляснуўся голай сракаю аб плот?!

Якуш закруціўся з галавою ў верхнюю кухайку і не зусім цяміў, што да чаго тут выкрыкнуў бацька, бо і срака голаю не была, і плота ніякага не стаяла – кругом чарнела адна палонка.

Дыхаючы гарэлачным духам, ён хутка заснуў, і ўсялякія думкі тады валодалі ім.

Калі прачнуўся (ужо ранкам!), пачуў, як бацька, нібыта жартам, спытаў маці:

– А есці багато е?

– Багато е! – таксама нібыта жартам адказала маці.

– Ці наямося?! – паказаў здаволенасць бацька.

– Як у хаце ўсё паямо, то наямося! – і маці паказала здаволенасць.

Якуш пад кухайкамі ціха засмяяўся і адчуў сябе здаровым.

## 4

Змалку Якуш асабліва, здаецца, і не запамінаў нічога з патрэбнага надалей, аднак жа, маючы галаву (і маючы ў галаве!), навучыўся і малітве, і танцу, і рамяству, нібыта змалку ведаў: такую навуку, калі вырасцеш, як знойдзеш.

Яшчэ хлапецкія гады не перайшлі ў мужчынскія, а Якуш па-сталаму насабачыўся і ў тым, і ў гэтым клопаце, умеў і за розум ухапіцца, бо кроў меў не гарачую, таму, калі складна сказаць, лёгка цягнуўся да збруі і зусім не цягнуўся да зброі.

Спрытны быў на язык, але здольны быў тут жа і прытрымаць яго; калі хваляваўся, то затым, што казаў, коратка прыгаворваў: "...раз так..."; здаровая маладосць гаварыла ў целе, таму спраўна йшоў і ў касе, і ў плузе, мог і воску наплавіць, і свінцу.

Браўся ў гаспадарскую сілу хутка, не баяўся ні цапільна, ні грабільна; нехта шукаў чыстую работу, ён рабіў любую, а найбольш старанна кушнерыў – налаўчыўся ў бацькавага сябра дзядзькі Ёселя.

Якуш ніколі не ленаваўся, разбіваўся ў прах, каб выйсці на сваё, жыць так стараўся, каб не збіцца з капейкі; слухаў самога сябе і правіў сваё права.

І то сказаць, хлопцам яшчэ быў, а хату сабе з высокім ганкам паставіў – ягоныя ж гадкі́ (аднагодкі) спачатку жаніліся і толькі потым ужо недзе праз год, праз два, праз тры гады (маючы дапамогу сваякоў!) узбіваліся на сваё жыллё.

У 1929 годзе ён ажаніўся з Верцяй, і Верцін бацька (рады, што займеў такога ўдалага зяця!) прыгнаў у ягоны двор *вена* – карову, надзіва ціхую рахманую худобіну.

І Верця была ціхая, праўда, голас магла падняць, – на другі тыдзень па вяселлі ў нечым дробным хацела ў Якушовай хаце на сваім настаяць, нават маленькаю чапялою па прыпечку прыстукнула.

Так, Якуш кроў меў не гарачую, а стукання па сваім прыпечку не стрываў; Якуша ўзняло гэта, надта раззлавала.

Доўга не думаючы, тут жа навучыў маладую жонку паслушэнству – як мядзведзь, схапіў яе і так прыціснуў да дзвярэй, што яна ледзьве не задыхнулася.

Але як толькі трохі адпусціў, хітрая Верця здолела пажартаваць, пакурынаму выдыхнуўшы: "...ой, ратуйце мяне, людзі, прыціснулі к дзверам грудзі..."

Словам, дала знаць нястрыманаму ў гэтую хвіліну гаспадару, што не яна, а ён будзе першы ў хаце.

Якуш ацаніў жончына ўмельства паддобрывання і больш мядзведзем не кідаўся на яе; на ложак разам кладліся, а елі паасобку, ён сабе, яна сабе – так у іх павялося.

## 5

Разумная Верця надалей асцерагалася Якуша, зусім рэдка – толькі тады, калі яе чапляла, – выказвала яму ў вочы свае дробныя бзікі.

У міры кволым такім і жылі год за годам, і год за годам Верцю агортваў жаль, бо такая ўжо ў яе была чуллівая натура.

Жаль зменшыўся, калі нарадзіўся хлопчык Лаўрусь, і жаль заўсёды затухаў, калі Якуш ішоў надоўга ў сваю кушнерню.

Не зважаючы на жончына засмучэнне, Якуш Верцю ніколі не ганіў ні ў хаце, ні на людзях, аднак жа за Верцяю ніколі і не прападаў.

Гэта маладзіцу аніяк не крыўдзіла, яе чуллівая душа супакойвалася тым, што Якуш заўсёды меў цу́цму (шмат) грошай і ўмеў тыя грошы павярнуць так, што ў іхняй сям'і ўсё выходзіла на толк.

Любіў Якуш гэтае слова – толк.

Калі Верця, як ягоная памочніца, прыходзіла ў кушнерню і, умеючы, падшывала да футра кавалак сукна, Якуш хваліў:

– З толкам усё робіш!

А калі сварыўся на маленькага Лаўруся, які часам лез у шкоду, то перакрыўліваў рот зноў жа гэтым слоўцам:

– Каб твой толк высыпаўся!

Аднаго разу Лаўрусь калупаў шылам грубу.

Якуш даў яму па руках.

– Чаго б'еш дзіця?! – заступілася Верця.

– Каб не калупаў...

– Божа мой... Бяда вялікая...

– От табе й божа мой... От табе й бяда вялікая... Дакалупаецца да таго, што груба ўпадзе, а там пачне сцены калупаць, тады й хата лясне!

Ну, тут, што казаць, груба не ўпала б і хата не ляснула б – Якуш, вядома, перабольшваў страхі, але зноў жа перабольшваў з толкам, а раз так, то карысць была – Лаўрусь пільнаваўся, шылам больш нічога не калупаў, таму Якуш ужо і не лаяў яго, бачыў: сын цямны расце!

Якуша гэта цешыла, асабліва тады, калі хлопчык хапаўся за кушнерскае прыладдзе, звучваў бацькаву работу.

А кушнерня, трэба сказаць, не млын, таму Якуш не мяхі цяжкія варочаў, а душу сваю слухаў, шыючы футры.

Боязі перад жыццём не меў, толькі перад сваім кушнерствам – баяўся, што рана памрэ і не паспее ўсё, што трэба, дарабіць.

Плакаў бы, каб слёзы жыць памагалі; смяяўся б, каб смех ратаваў ад гаркоты; лямантаваў бы, каб зноў жа лямант душы ягонай спрыяў.

Аднак жа Якуш не плакаў, не смяяўся, не лямантаваў, – проста штодня, прапускаючы вялікія святы, рабіў, бо толькі ў адной рабоце і бачыў ратунак.

Ці лёгка на сэрцы, ці важкі сум апаноўваў – ішоў да варштата.

З Верцяю жыў, як збоку паглядзець, складна – накідваўся на яе тады, калі, скажам, яна тыкала Лаўрусю цукерка якога ці пернік.

Шчаслівы Лаўрусь бег на вуліцу, іншым дзецям хваліўся матчынымі смакоткамі, а Якуш тым часам гэтак на Верцю рот крывіў: свінню спачатку трэба карміць га́вазам ці якім іншым зеллем, і толькі пасля вобмешку варта даваць!

– Калі дзіця салодкае есць, то панам стане! – смяялася Верця.

– Толькі тады наша дзіця панам стане, як у мяне на далоні валоссе вырасце! – гыркаў Якуш.

Умеў сказаць і да сказанага прыказаць, словы звінелі ў яго, як тыя конскія падковы, аднак жа словам не верыў, нават не верыў і сваім словам, бо хіба яны могуць навучыць?!

Праўда ў словах не даходзіць!

Якуш ведаў: праўда даходзіць да чалавека тады, калі чалавек сам сваёю сківіцаю ляснецца аб жалезную клямку, паслізнуўшыся ў парозе.

## 6

Якуш не любіў людзей і не любіў бываць у людзях.

Чаму няміласць да людзей улезла ў ягонае сэрца?

Ці адказаў бы?!

У Якуша пра гэта, аднак, ніхто не пытаўся, а каб спыталі, то, мусіць жа, такія словы ад яго вечна парэпаных вуснаў адкалоліся б: куды ні зірнеш – чалавек, куды ні павернешся – другі, куды ні ўсунешся – а там і трэці з чацвёртым і пятым!

Замарока адна!

І кожны стаіць, як бало́бан (дурань), – адсюль і прыкрасці набягае гэтулькі, што не прадыхнуць.

А на базар, асабліва ў нядзелю, калі вялікі гандаль, то і носа не патыкай – там асталопаў і ёлупаў, як лесу наваленага.

І кожны цябе цягне, кожны валачэ да сябе, а гэта бяда, калі не ты цягнеш, а цябе цягнуць.

Не раз і не два Якуш заводзіўся на гаворку пра людзей...

– З людзьмі яно так, – Верця замятала пад жоўтую рагожу смецце, – як дурны ўкіне, то і разумны не вуйме!

– Людзей процьма! Каб іх трохі надрэзало! Трэба вайна! – гаўкнуў Якуш.

– Прыпулены! Што гаворыш?! – Верця ажно венік выпусціла з рукі і села на ўслон.

– Я прыпулены, а ты як мукой абсыпана! – адбуркнуўся Якуш.

– Мукой абсыпана, кажаш, а не падумаў пра тое, што ў нас ужо сын у спраўнага хлопца падымаецца! Для яго вайну клічаш?

– Ты мне пра сына, а я табе пра дрына. Я не пра нас, а пра іх... Менш людзей на свеце, больш толку...

– Ты са сваім толкам пазнаеш караля ў гаросе! – Верця незадаволена падхапілася і краем доўгай спадніцы матлянула па ўслоне.

– Сына мне падтыкаеш! – не здаваўся Якуш. – Набраўшыся розуму, уцяміць, што не поп і ў рызу ўбірацца не будзе! Раз так...

– Пра якога папа ты загаварыў?! – Верця нецразумела заплюскала вачыма.

– Не пра папа, а пра розум... Калі вырасце наш хлопец і не будзе лезці туды, куды не трэба лезці, то вайна ці не вайна, усё ў яго будзе добра... Раз так...

Лаўрусь усё гэта чуў, слухаць умеў і слухацца, здаецца, умеў ужо таксама.

У тыя дні Лаўрусь хадзіў па-даросламу засмучаны, быццам яму не давалі быць тым, кім ён хацеў быць, быццам Бог у яго пытаўся ўжо: “А кім ты хочаш усё-ткі стаць?” – і быццам бы Лаўрусь няпэўна адказваў Богу: “А каб жа я знаў...”

## 7

Трэба сказаць асобна, што яшчэ задоўга да гэтай хатняй гаворкі пра вайну рахманая карова Верцінага бацькі прывяла цялятка – цялушачку, якая, калі сілы крыху набралася, доўга ў рукі не хацела давацца, усё рвалася некуды, зусім нерахманая ўдалася, хітравала, натапырвалася, любіла ўпірацца.

Яе так і назвалі – Упіра...

“Хітрая Упіра сябе яшчэ пакажа!” – Верця нібыта бачыла наперад.

## 8

А от і вайна...

У верасні 1939-га немцы да Якушовай хаты не дайшлі – дайшлі таварышы-чырвонаармейцы; немцы ж са сваімі парадкамі завярнулі ў Якушоў двор пазней – у ліпені 1941-га.

Унтэр-афіцэр, абсыпаны барадаўкамі, даў Лаўрусю цукерка, і Лаўрусь пабег на вуліцу хваліцца гэтым цукеркам.

А Якуш вельмі здзівіўся: “Гэта ж трэба?! Ні царскія салдаты, ні гайдамакі, ні балахоўцы, ні польскія жаўнеры, ні таварышы-чырвонаармейцы дзецям цукеркаў не давалі... А гэтыя ваякі... Ты глядзі!”

Пакуль здзіўляўся, “гэтыя ваякі” (унтэр-афіцэр загадаў!) выгналі з адрыны рахманую карову і пасярод шырокага двара яе зарэзалі.

– Wir mussen essen![1] – такімі словамі адгрэбліся ад Якушовага маўклівага абурэння: “... а каб вы галавой налажылі...” і Верцінага ляманту.

Добра, што хоць Упіру не зачапілі, пакінулі ў адрыне, а ў двор тым часам падагналі ўжо і паходную кухню...

А далей жыццё настала зусім кручанае, і душа ад страху моўчкі разгаварылася, нібыта жадала паспець сказаць пра ўсё сваё, – усё адно, як перад канцом.

І толькі Бог адзін па-ранейшаму бачыў непазбыўную хітрасць – чалавек любіць гаварыць пра сябе (нават і моўчкі!), а калі яго слухаюць, то чалавек яшчэ хоча і пачуць пра сябе штосьці добрае.

Немцы ж тым часам паставілі вакол некалькіх вуліц агароджу з калючага дроту, зрабілі гета і гвалтам загналі туды працавітага дзядзьку Ёселя і ўсіх астатніх мудрых эляў ды разважных янкеляў з іхнімі руплівымі жонкамі і няшчаснымі дзецьмі.

Ішлі тыдні, а з гэтага загона не выпускалі.

Ноччу (зрэдку іншы раз нават і ўдзень!) апухлыя з голаду падпаўзалі пад калючы дрот, шыліся на волю, нішкам разбрыдаліся па дварах, просячы есці.

Не абмінулі і Якуша.

Неяк за сваёй кушнерняй, дзе віўся дзікі вінаград, Якуш убачыў аброслага старога з чырвонымі бульбатымі вачыма, з рудой запечанай крывёю на перабітым носе, у рванай шапцы, збітай на патыліцу.

Бядак згастрэў на шыла, што і не пазнаць, хто ён.

– Я вучыў вашага Лаўруся ў школе, – аброслы стары прашаптаў чорным ротам.

– Гэта мой настаўнік Ісак Мендалевіч! – Лаўрусь падбег да бацькі.

Настаўнік прыехаў у іхняе заходняе мястэчка з нейкай усходняй вобласці восенню 1939-га, а ўлетку 1941-га не даў сабе рады выбавіцца на ўсход.

– Усім не паможаш! – брыкнуў Якуш, але загадаў Верці прынесці гарачых разок з лустаю хлеба.

Зняўшы з перабітага носа павуцінку бабінага лета, Лаўрусёў настаўнік паеў, але не ўсё з’еў – рэшту стравы ашчадна пераліў у біклажку (была пры ім!) і з недаедзеным хлебам забраў з сабою ў гета.

Недзе з тыдзень употай Верця насіла ў дзікі вінаград поўную місу гарачых разок, бо недзе з тыдзень Лаўрусёў настаўнік прыходзіў есці.

Але от аднаго дня гліняная міса, пакінутая наперад, засталася ў густым лісці поўная і прастаяла да раніцы халодная.

---

[1] Нам трэба паесці! (*ням.*)

Верця забрала яе, выліла ў дубовае карыта, калі карміла Упіру, а назаўтра зноў місу разок паставіла ў вінаградзе, але й гэтым разам яна засталася некранутая – Лаўрусёў настаўнік больш не прыйшоў.

"А ты хацеў, каб людзей трохі надрэзало! От што значыць вайна!" – такая ў Верцінай душы варухнулася думка пра Якуша.

## 9

Бог, адстаронены ад людзей, у тыя дні думаў узвышана: "О, каб чалавек умеў шкадаваць чалавека! Тады, здаецца, і вайны не было б?!"

А Якуш думаў зусім проста: "Трэба спадзявацца, што ўсё абыдзецца так..."

Аднак жа так не абыходзілася, нядобрае круцілася не ўгадаць як – штурхала ў самыя розныя бакі, лёгка можна было збіцца са штыху (з добрай дарогі!).

У тыя дні мужчыны не лічылі сябе вінаватымі, але ў тыя дні ўсе мужчыны былі вінаватыя.

Зранку Лаўрусь бегаў у школку, але мусіў быў з тыдзень сядзець дома, бо неяк ноччу адразу ў дзверы і ў акно пастукаліся партызаны і напалохалі Якуша з Верцяю:

– Калі хлопец будзе хадзіць у школу, спалім хату!

Доўга ж без навукі Лаўрусю быць не давялося, бо неяк удзень прыйшлі з паліцыі:

– Чаму хлопец не ходзіць у школу?!

От і жыві пасля гэтага як хочаш і як можаш, а жыць жа трэба, і жыць трэба ціха, таму Якуш і Верця мусілі былі сына зноў пусціць у навуку.

Якуш з двара стараўся не вылазіць, кубліўся ў кушнерні, крыху абшываў немцаў, а калі на немцаў трэ было па-мужыцку рабіць – мост правіць, грэблю масціць, дошкі пілаваць, сена вазіць, дровы секчы, бульбу капаць, снег адкідаць – пасылаў адбываць такія шарваркі свайго спраўнага Лаўруся.

З лесу, дзякуй богу, ноччу больш не прыходзілі, хату не спалілі, а спалілі саму школу...

## 10

Аднаго ранку, награкаўшыся (нарабіўшыся), Якуш строіўся палуднаваць, есці жытнюю калатушу, у якую для закрасы Верця плiснула цягучую кроплю алею.

Лаўрусь у двары на прызбе сам з сабою гуляўся ў самаробныя карты, сам сабе здаваў, гаворачы: "Не буду дзівіцца, няхай казырыцца!"

Меціўся ўдалы хлопец у сваім прызбяным карцяжы самому сабе хадзіць з козыра.

А ў хаце, дагадзіўшы стомленаму Якушу, Верця прылегла на ложак; з Калядаў пачало нешта балець ёй у грудзях, часам нават Верця задыхалася.

Узяўшы абгрызеную кляновую лыжку, Якуш падзівіўся на жонку – яна ціха, але неяк зморана ляжала, роўна, але хвілінаю і няроўна дыхала; на яе грудзях гэтак жа то роўна, а то няроўна падымаліся і апускаліся блакітныя гузікі.

Раптам у хату мякка, як вуж, слізгануў Лаўрусь і, каб не разбіць матчын сон (маці ж нядужыцца!), аднымі вачыма паказаў на акно: "Бацька, паглядзі!"

Якуш адклаў лыжку і падступіў да акна – перад хатаю, як п’яны, стаяў, пахістваючыся, мадзьярскі абдзёрты салдат.

“О, гэты зараз, як той кульгавы конь, уваб’ецца ў дробную шкоду!” – Якуш нецярпліва згарнуў рукі.

А нягеглы мадзьяр і напраўду “ўбіўся ў дробную шкоду” – упёрся ў двор і выхапіў з дубовага карыта маленькі, пакінуты для Упіры чорна-жоўты качан капусты.

Але тут аднекуль вырас (і адкуль толькі ўзяўся!) афіцэр, таксама ж мадзьяр; ён вытурыў няшчаснага ваяку з Якушовага двара на вуліцу, і той, гнаны сваім нарваным (дурнаватым) камандзірам, грыз на хаду чорна-жоўты качанчык.

– О, і сабака ў двары не брахаў, а парася ўкралі! – скрывіўся Якуш.

– Які сабака? Якое парася? – Верця прахапілася і закашлялася.

– Спі сабе! – Якуш вярнуўся да стала і чарпянуў калатушы.

## 11

Прыйшла вясна, і Якуш не ведаў, што гэта апошняя вясна пад немцамі, хаця чуткі і былі такія, што немцы гэтае вясны не ўтрымаюцца.

Упіра тымі днямі прывяла цяля, а Верця патыкала-пасадзіла ў гародзе буракі, якія добра ўзяліся расці, праўда, ранішні марозік прыхапіў-пабіў іхняе лісце, аднак жа праз дзень-два, як пацяплела, лісце адышло.

Гледзячы на свае буракі, якія ажылі, Верця раптам адчула ў душы холад.

Замаркоціўшыся, вярнулася ў хату, паглядзела на ікону і, трымаючыся за грудзі, сказала сабе: “Лісце пайшло расці, а я памру... Упіра ацялілася, але не мне ўжо цяля даглядаць...”

Смутак ціснуў сэрца і быў неадчэпны – грыз і грыз!

Нешта цвёрдае з сярэдзіны сваёй істоты, з патаемнай яе глыбіні пачула Верця пра сябе, таму паволі адбілася ад яды і піты, і магло здацца, што самохаць пачала гінуць.

Якуш усё тое бачыў, тупымі пальцамі амаль да крыві расціраў патыліцу, едкі пот выціраў з лоба: “Тут ужо нічога не паможаш! Раз так... Тут ужо нічога не парадзіш! Раз так... Тут ужо рукі не падкладзеш! Раз так...”

І ўсё ж дабіўся да немцаў у шпіталь, да іхняга ваеннага лекара.

За царскую залатую пяцёрку і лісіны каўнер той узяўся лячыць, нават прасвятленне (рэнтген) лёгкіх зрабіў, але, калі паўглядаўся ў здымкі, незадаволена буркнуў: “Zu spat!”[1], а тады загадаў Якушу забіраць Верцю, лісіны каўнер аддаў, а царскую залатую пяцёрку пакінуў сабе.

Надзея на ратунак выйшла.

Паміраючы, Верця мучылася, цяжка дыхала, трызніла: “А ты хацела, каб нешта было?! Але адкуль жа яно магло быць, калі яго зусім не было!”

Праўда, пры астатняй памяці паспела зусім цвяроза шапнуць заплаканаму Лаўрусю: “Глядзі бацьку!”

Мо пра каханне думала ў апошнюю сваю хвіліну жанчына і з горкаю цяжкою думкаю пра нешта няспраўджанае ўвечары адышла.

Хортка ў Якушоў двор на ўсю ноч засталася адчыненай, і ўсю ноч пад столлю гарэла лямпа, – такі закон, калі ў хаце нябожчык ці нябожчыца.

---

[1] Занадта позна! (*ням.*)

## 12

Якуш збіў склепа (дамавіну), прымоўклыя Верціныя таварышкі прыбралі Верцю да хавання, а Лаўрусь пабег і паклікаў бацюшку, – найшла поўная хата людзей, сваякоў і суседзяў.

Змучаная горам Верціна маці нахілілася над склепам і падклала пад ясік, на якім назаўсёды супакоілася дачка, складзеную ў некалькі разоў новую спадніцу – думалася прыбітай старой, што на тым свеце яе дачцы спатрэбіцца і гэтае яшчэ не ношанае адзенне.

Перад тым як адпяваць нябожчыцу, бацюшка басавіта паясніў: “Я буду гаварыць пра душу...” – усё адно як папрасіў прабачэння за сваю не зусім зразумелую царкоўную мову.

Адгаварыўшы пра душу і дробна варухнуўшы худой буслінай шыяй, бацюшка перахрысціўся, перахрысціў таксама і сваё кадзіла, – па хаце паплыў ладан.

Лаўрусь плакаў, плакаў і Верцін бацька, а Якуш глядзеў на жонку ў склепе і думаў цвёрда: “Добра, што я тады аб дзверы яе ляснуў! Каб не зрабіў гэтага, то меў бы заразу, а не жонку!”

Адпяваючы нябожчыцу, бацюшка махаў кадзілам, але не шырока, у паўрукі, нібыта гэтым паказваў: з рэчамі, як і з людзьмі, трэба цішэй абыходзіцца...

Кадзіла звінела ўсімі сваімі звонікамі, нібыта конская збруя.

Ішлі на могілкі, і Якуш успамінаў (усё адно як трызніў!) толькі што пачутае ад бацюшкі: “...Цярпеў і быў пахаваны, і на трэці дзень уваскрос... Выйдуць тыя, што рабілі дабро...”

Калі вярталіся дадому, Якуш рэкнуў Лаўрусю:

– Не прапусці...

Лаўрусь паабяцаў:

– Не прапушчу, як убачу, тут жа цябе гукну...

Лаўрусь ведаў, што трэба не прапусціць – трэба будзе падпільнаваць момант і развітацца з першым пасля памерлай маці нябожчыкам – гэта значыць, прайсці за чужою труною хоць бы да першага рога, або пастаяць на адпяванні, калі не ў хаце, то ў царкве, тады развітанне з маці стане завершаным...

Прайсці за чужою труною выпала ўжо заўтра – ноччу на мястэчка быў партызанскі налёт, і пад выпадковую кулю (мо нават і сваю, нямецкую!) трапіў якраз той ваенны лекар, які ўзяўся было лячыць Верцю.

Якуш і Лаўрусь працупалі следам за вайсковай пахавальнай працэсіяй, але крыху воддаль ад немцаў і, як вымагаў звычай, да першага скрыжавання.

Вярнуўшыся дадому, Якуш надоўга зашыўся ў кушнерню, а Лаўрусь, напаіўшы Упіру і цяля, узяўся на прызбе за свае самаробныя карты.

Якуш у кушнерні думаў пра падстрэленага лекара і шкадаваў залатую царскую пяцёрку, а Лаўрусь на прызбе думаў пра апошнія матчыныя словы.

## 13

У самую Пятровіцу, у самае цяпло, немцы зубамі ляскалі, як у вялікі холад, бо адступалі.

– Паршываму парасяці і ў Пятровіцу холадна! – закапыліўся Якуш.

Аднак жа немцы гэта немцы, хоць і зубамі ляскалі, хоць і вочы іхнія патухлі, і запал, здаецца, прапаў, а страху ў душу наганялі яшчэ поўна.

Якуш і сам, хоць і коратка, але надрыжаўся ад такога страху.

От жа перад сваім адыходам салдаты зранку ўляцелі ў двор і забралі з адрыны Упіру.

То рэжуць худобу, то забіраюць – каб на іх звод!

Іншыя гаспадары (тыдзень мінуў!), як пагналі сваіх кароў хаваць на Прыпяць, у самую гнечу, у непралазны хмыз, а Якуш не пагнаў, бо думаў сваё: "Трэба спадзявацца, што ўсё абыдзецца так!"

Лаўрусь, якому ўжо пятнаццаты год ішоў, кінуўся быў не даць худобіну, – смелы хлопец, толькі ў ягонай смеласці розуму яшчэ мала!

Якуш ледзьве паспеў схапіць сына за руку: "А хіба я не казаў табе, што калі не поп, то ў рызу не ўбірайся!"

Лаўрусь паспрабаваў тут жа вырваць руку, ды Якуш утрымаў яго, шчапі́ў зубы (раззлаваўся):

– Не целяпайся без толку! Раз так...

Калі салдаты, гонячы карову з двара, сышлі з вачэй, Якуш нервова прысвіснуў:

– О, якая разумніца! Добра, што паддалася і немцаў на рогі не ўзяла, а то б і яе тут, у двары, паклалі б!

Сапучы, Лаўрусь маўчаў.

– Упіра прыйдзе! – Якуш абнадзеіў сына.

– Як гэта прыйдзе?! Яе што, адпусцяць?! – Лаўрусь вылупіўся на бацьку.

– Цяля ў адрыне засталося! Да цяляці й вернецца! От пабачыш! – у сваёй здагадцы Якуш пэўны быў.

А цяля й напраўду засталося: ці немцы яго ў дальнім закутку адрыны не ўбачылі, ці сумысля пакінулі – маўляў, не ўсё трэба забіраць, нешта ж і людзям варта пакінуць...

Забраны тавар адагналі ад мястэчка ўжо кіламетраў на пяць, аднак жа хітрая Упіра выбавілася ад бяды – як некалі не хацела давацца ў родныя рукі, так і тут не далася назусім у рукі чужыя.

Мела рацыю нябожчыца Верця: "Упіра сябе яшчэ пакажа!"

От і паказала.

Падпільнавала, калі зручней было, і ў нейкай лазе ці алешніку адбілася ад чарады (мо варта не згледзела, а мо Бог паспрыяў!) і ў той жа дзень, позна ўвечары, на Якушоў стрыманы ўсмех і Лаўрусёву бурную радасць вярнулася да цяляці.

*12 ліпеня 2022 г., аўторак, 22 г. 05 хв.; Менск, –*
*16 верасня 2022 г., пятніца, 21 г. 03 хв.; Менск, –*
*25 лістапада 2022 г., пятніца, 16 г. 41 хв.; Менск.*

паэзія

Аксана Спрынчан



...у храстве
найболей
ад Раства...

# Пахне лёс мой любістай

* * *

. вер.шы як людзі
ў . радзімках

.
літараў і і ё
і знакаў прыпынку
. .і нава.т
як верш без знакаў.
радзімкі ў абрысах літар
і нават паміж радкамі
пакінулі .нам паэты
найлепшыя .знаўцы
радзімка.знаўства
. . .

* * *

снег растае
найперш
вакол магіл
бо продкі
як і мы
вясну гукаюць
і жураўліны клін
калі ляціць
хоць пёрка
на сустрэчу
пакідае
і без журбы
у цішыні цішыняў
снег растае
найперш
вакол магіл
але й найперш
кладзецца
побач з імі

* * *

і халодна
і холадна
і халадно
гэтак цёпла гучыць
мая родная мова
саграе
ў завірухі
кутасы
завейкі
і змякчае
сняжынкамі
снежніцай
снежкай
наталяе
і снежыць
снязорыць
снягурбіць
карагодзіць
на шчасце
змяняючы
націск і нас

і халодна
і холадна
і халадно

* * *

і снег сышоў
і ты
і рыбка здохла
залатая
і я ніколі ўжо
не буду тая
а буду толькі
раставаць
і з дна каменні
мыць
і мыць
і мыць
і ўспамінаць Сізіфа
і ўяўляць СІЗА
кульгае свет
і мыліца з радкоў
усё
што падстаўляю
яму я

* * *

я працяг ручнікоў
радзінных
вясельных
і пахавальных
знішчаных
нашчадкамі майстрых
і ў музеях захаваных
атуляю абразы
і крыжы спавіваю
ёсць ува мне
крыху кужалю
а болей
нябеленага
цяжкага раю
ці плыву па рацэ ці ў песні
на руцэ

ручніковая лінія
лёсу
абраная
з ранаю
не цыраванаю

* * *

так усё дзіўна
ў гэтым жыцці
а ў іншым
магчыма
яшчэ дзіўней
мінаюць тыя
хто нібыта любіў
з'яўляюцца тыя
хто будзе любіць яшчэ
і мне шкада старых
і новых
крыху шкада
бо ўсім
адмерана лёсам
са мною
болю й святла

* * *

за воблакам тым
ці за тым
а мо і за гэтым
хаваецца тое
ці тое
а можа
і гэта
за самай жывой аблачынкай
ляціць пахаваным
каханне
ляціць
не ляжыць
і ў гэтым
магчыма
адхланне

* * *

*Стральцоў вучыў мяне любіць.*
**Сястра**

абдымеш падушку
а ў ёй аніводнага пёрка
і, можа, таму
гэтак горка
абдымеш другую
што побач ляжыць без патрэбы
успомніш “Мой свеце...”
Стральцова
і што яшчэ трэба
і ясна
і ўсё зразумела
што не зразумела
і блізка да слёз
і бліскае словам
надзея

* * *

кветкіяблыняўіграднеразбярэшштоляціцьжыццё

* * *

хрушчы
над зямлёю
Рушчыца
і маёю
усіх адценняў
зямлі
ценяў амаль
аднолькавых
лятуць у вакно
на святло маё

* * *

паміж марамі
пра мора
і неба
збіраю
чорныя парэчкі
маме

якая ляжыць
тату
які глядзіць
сяброўцы
на гомадыялізе
і дачку ўмольваю
з’есці хоць ягадку
і круцяцца
рэчкі згадак
пра Чорнага
і квадрат
і Панну
і дразды
чорныя-чорныя
і парэчкі вялікія
як вішні
такія бываюць
калі гадуе
Усявышні

* * *

*Аляксею Яскевічу*

ён загортвае скрыпкі
гуслі і морахарпы
ў свае кашулі
і чакае Волі
выпускаючы
ментолавыя аблачынкі
ў шэрае неба
ветрык варушыць на падлозе габлюшкі
светлыя
рыхтык выснены лёс
пяшчотныя
нібы кужаль
сохнуць яліны
бэзы, грабы і клёны
і мораны дуб
ужо колькі стагоддзяў
чакае свайго згукаванага лёсу
нават праклёны
здымуць ягоныя дудкі і рогі
якія разумеюць толькі роднае слова
варацца лакі
з замежных жучкоў

і вішнёвай смалы маленства
без сучкоў стварае быццё
Гаспадар Музычнага Саду

* * *

сівею як палын
які табе шукаю
які амаль знікае
як і знікаю я
у срэбры горычы
і горкага адчаю
галінка палыну
саломінка мая
і хай не маю долі
на каханне
і сохнуць палыну
ля ложка як ля печы
ты дадасі
лісток сівы
ў гарбату
і на адно бяссонне
стане меней

* * *

так лёгка нарадзілася полымя
не тое што я некалі
ягоныя языкі
мо і злізалі б маё самотнае свята
але сусед распачаў чытаць дачцэ
расейскія казкі
і я, начапіўшы падораныя сябрам акуляры
сышла глядзець на зоркі
якія ж яны яскравыя
калі хаця б не губляць зрок
зоркі не падалі
гэта я пагойдвалася
ці то ад вішнёвай наліўкі
ці то ад новых акуляраў
і зоркі чакалі магчымасць
загадаць жаданне
а я трымалася
не падала

бо ведала
што ва ўкраінскіх сваякоў
падчас вайны нарадзіўся Тарас
і верыла
што няхай і не ў сваякоў
але нарадзіліся ў Беларусі
і Максім, і Якуб, і Янка

* * *

*Уладзіславу Ахроменку*

пахнуць рукі любістай
насенне якой перад смерцю
набыў ты
пахнуць рукі любістай
яе да ўсяго дадаю
да журбы
і да радасці
і да супу з хвасолькай
і да чаркі з чароўным напоем
і да кніг
што з журбою
да радзюжак
што з мрояй пра радасць
і рай на зямлі
дзе любіста
дзе любоў
дзе ўсе л*ю*быя ведаюць
Бог жыве
ТУТ
пахне лёс мой любістай
ці жывая
жывая
жыве

* * *

мора маё
не ў Польшчы
не ў Грузіі
мора маё
ў гаршэчак
ля хаты
загружана
камяні

з маімі
слязінкамі
і вадою
нябёснаю
павуцінне
танюткіх
ветразяў
што нясуць
у адкрыты
верасень

* * *

Беларусь – краіна хараства
выцінае белы свет
з паперы белай
ён знікае
каб не знікнуць зноў
Беларусь – краіна хараства
ад усходу да заходу сонца
тчэ свой абыдзённік
тчэ штодня
ён абавязкова абароніць
Беларусь – краіна хараства
рай стварае
дывановы і радзюжкавы
каб і Бог адпачываў у нас
каб былі нібыта кветкі
зоркі
і нібыта зоркі
людзі
Беларусь – краіна хараства
праз рэпрэсіі
вязніцы
здрады
словы абіраюць ейны верш
Беларусь – краіна хараства

* * *

гіль
са сняжынкай
на крыле
я
са сняжынкай

на руцэ
і пад крылом
у мамы
яна не ходзіць
не лятаю я
ды ў кожнай з нас
ёсць радасць
за гіля
за тое
што з яго крыла
ўзляціць сняжынка
і на імгненне
стрэнуцца дзяўчынкі
абедзве ўжо
з мінулага
стагоддзя

* * *

у харастве
заўжды жыве
Раство
і ў харастве зімы
Раства чакаю
расце сумёт
ля хаты і хлява
расце чаканне
над маім адчаем
краіна светлая
дзе не стае святла
спрабуе падсвятліць
сябе сама
гірляндамі
і свечкамі
і цудам
і Бог здымае
цёплыя валёнкі
узлазячы на лаўку
ля вакна
у харастве
найболей
ад Раства

Уладзімір Міхно



…У цябе няма ні часу, ні права на асабісты лёс.

Ты – настаўнік!..

# Квадратны цвік

***Аповесць*[1]**

### Частка першая

Сакавік. Другі дзень і першы панядзелак вясны. Я зноў іду ў школу. Я – пажыццёвы вясковы настаўнік. С*і*дзень, мярл*ю*к – маміны слоўцы. Сяджу тут, у вёсцы, добраахвотным вязнем, у галечы... А равеснікі мае – у гарадах, пры далярах... Якія харошыя словы – “сідзень”, “мярлюк”! Колькі ў іх невыдумнага, сапраўднага – народнага! І знаходзіла ж мама гэткія слоўцы-дыяменты! Бывала, сыпле імі, як перлінамі. Мы ва ўніверсітэце дыялекталогію вывучалі, у нас, між іншым, сам Ніл Сымонавіч выкладаў. На практыку ездзілі фальклор збіраць, колькі касет паспісвалі, ды маміных слоў я нідзе там, на Міншчыне, не чуў. Мы – ві-

[1] Гэты твор быў перададзеная ў рэдакцыю «Дзеяслова» сястрой Уладзіміра Міхно спадарыняй Верай у верасні 2020 года, праз год пасля сыходу спадара Уладзіміра. Аўтарскі падзагаловак – «Аповед Журнала Фёдаравіча».

цебскія, у нас сваё, спрэс, ад Дуброўна да Бягомля... Мальцы... Дзе яшчэ пачуеш такое, акрамя як у нас?..

Зноў заснежыла. Сёння ўжо вясна скончылася, так і не пачаўшыся. Яшчэ пазаўчора было ціха, цёпла. Дзеці насіліся вокал школы, смоллю ліплі да возера, лезлі на лёд. І наш дырэктар Пагодзіна ўвесь дзень з імі гаўкалася. Лёд зараз подлы, здрадлівы: тоўсты, ды гнілы. Дзіва што! Пачынаючы ад зімовых канікулаў, стаяла ці то восень, ці вясна. А можа, прырода прыдумала ўжо нейкую пятую пару года, пра якую яшчэ ў падручніках не паспелі расказаць? Во дзе прастор для творчае фантазіі пісьменнікам!

Пазаўчора была вясна, а ўчора раптам наступіла зіма, тая самая, класічная, пра якую пісаў Іван Мележ: "Снег пацерусіў трохі і перастаў. Вецер за дзень вымеў белую муку, пазаганяў яе па шчылінах, па закутках. Яркія белыя пасы і латкі толькі дзе-нідзе пярэсцілі панурасць двароў і агародаў".

Я люблю "Палескую хроніку". І я люблю вось такую, сённяшнюю, зіму. Учора была толькі генеральная рэпетыцыя зімы – "енаральная парапіца". А сёння пачаўся сапраўдны спектакль. Вецер ганяе белую завею, выгульвае яе, як дбайны гаспадар маладую-неаб'езджаную наравістую кабыліцу. Чаго добрага, зараз вырастуць сумёты. Ці не ўпершыню за дзесяць гадоў майго настаўніцтва? А ў дзяцінстве я помню такія сумёты, калі мы на саначках каталіся са страхі і, між іншым, на фізкультуры не гулялі ў кампутарныя гульні, як цяперашнія вучні, а ганялі па возеры лыжныя кросы...

А завіруха прыгожая, смелая! Твар падстаўляй ветру, пазірай у вочы стыхіі і – нічога-нічога не бойся. І не трэба шукаць сцежкі, ідзі безвач, наўздагад! Гэтую сцежку я ведаю на памяць, як ведаю на памяць праграмныя вершы. Я адчуваю на ёй кожны каменьчык і кожную травінку, як адчуваю і знайду, калі спатрэбіцца, з заплюшчанымі вачыма любую старонку ў падручніку па беларускай літаратуры. Толькі не падумайце, што выхваляюся. Я ўжо выйшаў з тога ўзросту, калі была патрэба хваліцца і даказваць, што я не вярблюд, а – настаўнік... "Маладыя гады, маладыя жаданні..." Настаўнік павінен ведаць сабе цану. Інакш – бяда: з'ядуць. Зажуюць і выплюнуць. І нікому нічога не дакажаш. У школе – як у цырку: хто адмысловец-фокуснік, таму многае сыходзіць з рук, не важна, што працуеш, пускаючы пыл у вочы. Дзякуй Богу, што дзецям не трэба нічога даказваць. Яны даўно ўжо нас, настаўнікаў, раскусілі, расклалі на дробы і расфасавалі па гатунках...

Я люблю школу, нягледзячы ні на што. Люблю свой дзявяты клас. Стары "гарохавы кавалер" Журнал Фёдаравіч ажаніўся са школаю. І гэты шлюб – на ўсё жыццё...

Школа нашая арыгінальная. Мабыць, адна такая ў раёне, а можа, і ў вобласці. Нагадвае яна старажытны замак. А тут і праўда быў маёнтак, і жыў некалі славуты пан Грамніцкі. Паны ведалі, дзе сяліцца. Нашая школа стаіць на стромым узгорку, па-над возерам. Высокі драўляны ганак... самае цікавае, калі, бывала, пасля зімовае аплавакі ганак заледзянее, а Навумаўна аб'явіць страйк і не пачысціць яго. Навумаўне страйк аб'явіць, як раз плюнуць. Яна дэ-юрэ намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы, а дэ-факта намеснік Бога ў нашай Сматрыцкай базавай школе. Пад Новы год, калі сіноптыкі, памятаеце, аб'явілі пра лютыя маразы і пачалі ўвогуле пужаць сібірскаю зімою, а прырода, не доўга думаючы, кінулася спраўджваць прагноз, наша Навумаўна не тое, што страйк – барацьбу распачала за свае грамадзянскія і чалавечыя правы. Прыходзім у школу – па класах ды ў настаўніцкай гуляюць ваўкі, ад холаду зуб на зуб не трапляючы, тэрмометр апусціўся ніжэй за плінтус.

Мы да грубкі – а на ёй хоць марозіва захоўвай. Мы – за Навумаўну, а яна хвост дыба падняла, і палец ёй у рот не кладзі. У грубцы, аказваецца, праз дзень трэба паліць, інакш яна канцы аддасць. Канцэрт бясплатны! Я з ёй стараюся цярпліва ды па-мірнаму:

– Разумееце, Надзея Навумаўна, канцы аддадуць хутчэй не грубкі, а мы з вамі. Але не гэта страшна. Зараз сюды дзеці прыйдуць.

Настаўнікі моўчкі сядзяць, хітра пасміхаюцца, маўляў, ваюй-ваюй. Сёй-той пад сталом азартна пацірае рукі, прадчуваючы гладыятарскі бой. Пагодзіна, як заўсёды, зашчаміла хвост у сваім кабінеце. Няхай Віктар Фёдаравіч адзін, па-рыцарску вырашае праблему ацяплення школы. Мне пляваць, я што думаю, тое скажу, няхай перада мною хоць сам міністр. Я толькі не разумею, навошта дырэктар у школе? Хапіла б аднаго яго намесніка па безгаспадарчай частцы і яе пячорнай філасофіі. Між іншым, Навумаўна ў свой час мела неасцярожнасць закончыць педагагічнае вучылішча і вучыла дзяцей, пакуль яе не “папрасілі” са школы па прычыне, пардон, блізкага сваяцтва з Бахусам. Са школы выгналі, а прывычка павучаць засталася. Прывычка горш за хваробу. Хворых, звычайна, шкадуюць. Але ж Навумаўна ў нас – “хворая” з прывілеямі. Паспрабуй зачапіць жонку старшыні калгаса...

Колькі разоў ступаю на ганак школы, столькі і хвалююся. Далібог, як першакласнік. Мабыць, старэю. Зараз, пакуль падымуся па стромай панскай лесвіцы на другі паверх, буду хакаць, як бы за мною сабакі гналіся. Мне трыццаць пяць, а я абзавёўся пузінаю-гарбузінаю, якая замінае жыць. Жыць і адчуваць сябе... падлеткам. Не дай Бог, мой дзявяты спіша свайго Журнала Фёдаравіча ў дарослыя. Няўжо мы некалі перастанем адзін аднаго разумець? Няўжо я стану для іх тоўстым, занудлівым, акадэмічным Журналам, годным толькі для таго, каб механічна выстаўляць адзнакі і камандаваць? Няўжо я стану дарослым?

У настаўніцкай – пуста. Нашыя так рана не прыходзяць. Бадай, усе яны з аўтобуса. Ездзяць у школу з горада і жывуць тут па аўтобусным раскладзе. Здараецца часам, што аўтобус забуксуе ці зломіцца, і тады нашая педагагічная гвардыя адчайна ловіць спадарожныя машыны дзесьці на паўшляху з райцэнтра, а першы бой прымаем мы з Аксанай Валер’еўнай, маладой настаўніцай матэматыкі, якую прыслалі сюды па размеркаванні два гады таму. Думалася, прыслалі часова, ды нішто не бывае больш пастаянным, як часовае размеркаванне ў сельскую школу. Мы з Аксанай Валер’еўнай – па адным баку барыкадаў. І, што б там ні плялі злыя языкі, тонка намякаючы на тоўстыя абставіны, мы з ёю – проста сябры. Сябры па няшчасці... Мы прымаем першы бой, заняўшы кругавую абарону. Пакуль гарадскія дабіраюцца на падарожных, мы закідваем пяць старэйшых класаў самастойнымі заданнямі, аб’яўляем каменданцкую гадзіну і – хіба што без намордснікаў – як сапраўдныя паліцыянты, шпацыруем з класа ў клас з інспекцыйнымі візітамі. Урэшце нашае заснежанае, расчырванелае настаўніцтва пыхліва прыбывае ў школу і сходу, нават не навёўшы макіяжу, кідаецца закрываць амбразуру...

Мы з Аксанай Валер’еўнай – мясцовыя. Аксане пашанцавала: не паспела агледзецца, як яе запрыкмеціў малады зухаваты механізатар Грышка Кармен. Гэта мой, першага выпуску, вучань. Я помню Грышку на сцэне нашага пустога Сматрыцкага клуба, дзе мы ў той час, з боем вывудзіўшы ў п’янчужкі-заўклубшы ключы, рэпетавалі спектаклі. У першыя гады

настаўніцтва, калі яшчэ думаў, што свет не такі безнадзейна жорсткі і хціві, падахвоціўся я весці ў школе драмгурток. Дзеці павалілі валам. Для іх усё было новым, цікавым, і я проста не мог падвесці іх. Не, я не адчуваў сябе героем-першапраходцам, не думаў, што раблю штосьці незвычайнае, але верыў, што нехта павінен мяне заўважыць, ацаніць.. Заўважылі! Ацанілі! Чарвячок заварушыўся ў калегаў: малады – а шустрэй за ўсіх. А яны на фоне выглядаюць балотам. Заўважылі і вырашылі доўгі нос падкараціць... Загуло, забулькала балота. А як жа яно засмярдзела! На цяперашні розум, навошта мне быў той гурток? Колькі тут перабыло гурткоў! Афармлялі ў журнале, атрымлівалі людзі грошы і жылі не бяды. А я, дурань, думаў, што дзяцей у школе трэба выхоўваць... Але няўжо і праўда тыя першыя мае тэатральныя памкненні пайшлі кату пад хвост? Мусіць, усё ж не. Бо нават калі б аднаго Грышку Кармена выцягнуў з балота той драмгурток, і то хлеб. А колькі ж іх было, гэткіх Грышкаў! Эх, мабыць, нездарма ты, Віктар Фёдаравіч, пратаптаў да школы сваю партызанскую сцежку.

Аксана і Грышка пабраліся, атрымалі ў калгасе хату. Механізатар – не настаўнік, яму лягчэй было хату атрымаць. Праўда, у хаце пакуль ані лыжкі, ані міскі, але затое ўжо сын расце. Тэлевізар купілі. Не зап'е Грышка, будзе свая галава на плячах – усё ў іх атрымаецца. Радавацца трэба іх шчасцю... А іншыя – зайздросцяць...

Самому мне пашанцавала куды меней. Хату купіў, закінутую. Вунь іх колькі, пакінутых гаспадарамі хат. Сіратлівыя, лядашчыя, адчайна зыркаюць павыбіванымі вокнамі, як дзеткі-сіроткі, пакінутыя бацькамі... Хату крыху падлатаў, ачалавечыў, сяк-так абставіў. У іншых няма і гэтага, панапускаюць дзяцей на свет трантамі трэсці, а ў хаце часам няма і зэдлічка да стала падсесці. У цябе ж, Віктар Фёдаравіч, і дываны, і паласы, і кухня, і мяккі куток, і чыста, і ў лядоўні не пуста. Лацвей аднаму: капейка да капейкі – абрастае доўгім рублём. А ўсё роўна ў хаце вусцішна. Нячыстая сіла жыве, бабылём пахне, не хапае гаспадыні, няма сям'і. Праўда, не бывае і дня, каб сюды не забягалі дзеці. Чужыя дзеці асвоіліся ў тваёй хаце і адчуваюць тут сябе як дома. Ды што там, калі дома часта ім не соладка... Вырастаюць адны – на змену прыходзяць іншыя. І я тым часам прывык да іх, жыцця свайго без іх не ўяўляю... Падумаеш – куды ім без мяне, гэтым чужым дзецям – яршыстым, неўраўнаважаным, абяздоленым, безабаронным перад цынічным і жорсткім светам. Яны знайшлі ў маёй хаце тое, чаго ім не хапае дома. Не выганяць жа іх зараз на вуліцу.

Люблю прыйсці ў настаўніцкую, пакуль яшчэ нікога няма. Які ён будзе, сённяшні школьны дзень? Чысты ліст паперы, дзе ты, настаўнік, павінен паставіць свой аўтограф...

– Добры дзень, Віктар Фёдаравіч! Вы, як заўсёды, у першых радах. Добра нежанатаму: ні клопату табе, ні адказнасці. Падняўся, паеў, школа побач. Ты пайшоў – і ўсё за табою пайшло.

– Добры дзень, Вікторыя Аляксееўна, а чаму б і вам з сабою таго-сяго не прыхапіць? Сумка вунь якая вялікая. Клопату меней будзе.

Баба... Зусім забыўся, мясцовыя не толькі мы з Аксанаю. Яшчэ – Баба. Дзеці яе так празвалі. Баба, праўда, з суседняе вёскі, ходзіць сюды мо гадоў сорак. Проста не ўяўляю, якім чынам звычайная вясковая баба трапіла ў школу. Сукенка на ёй, мабыць, тая ж самая, якой раніцою пахваляецца перад свіннямі, за плячыма – гаспадарчая сумка. Што ў ёй насіць? Хіба гарбузы – на бутэрброды? Сшыткаў у пачатковых класах кот наплакаў. Кажуць, на

вялікім перапынку Баба вывальвае з гэтае сумкі агуркі, кілбасу, хлеб, тэрмас з чаем, раскладвае роўненька на настаўніцкім стале і апетытна ўплятае. Не ведаю, сам не бачыў, я ў пачатковай школе амаль не бываю, бо яна ў іншым будынку. А ў настаўніцкай Баба, дзякуй Богу, паказваецца рэдка, хіба зранку, каб пахваліцца сваім свінствам...

– Га, браток, гаспадаркі ў сумку не забярэш. Вы, маладыя, цяперака дужа разумныя. Улегцы жывяце, яшчэ й стогнеце, як вам цяжка. Вось калі мы ў свой час – галодныя, паўголыя хадзілі, а дзяцей вучылі. Да Сматрычаў босая іду, туфель шкадую, ля вёскі абуваюся і – на ўрок.

Цяпер я разумею дзяцей. Аднойчы дзявяты пытаецца ў мяне:

– Віктар Фёдаравіч, а чаму ад Сяўніцкай сіласам нясе? Няўжо яна ніколі не мыецца?

Я іх, памятаецца, ледзьве не з’еў. Хіба ж можна так пра настаўнікаў? А цяпер думаю, мо і дарэмна ўшчуваў. Яны ж не дурні, усё бачаць. А трэба было патлумачыць, што настаўнікі таксама людзі, а людзі розныя бываюць.

Баба беспардонна “водрузила” на стол сваю гаспадарчую сумку, сцягнула з галавы хустку. Цікава, ці зазірне хоць у люстэрка? Каб падумала! Распранулася, павесіла ў шафу паліто, узяла журнал, хацела ісці, ды апярэдзіла яе Аксана Валер’еўна, зайшла радасная, узбуджаная:

– Так хораша, калегі! Зіма сапраўдная. З Новага году такога снегу не было. А мароз... Вашы, Віктар Фёдаравіч, усе на коўзанцы. Каток зрабілі, каб вы бачылі, ад школьных варот і да самага возера.

– Авоечкі! – жахнулася Баба. – Патопяцца. Бяжыце, Віктар Фёдаравіч, ганіце ў каршэнь, пакуль начальства не бачыць.

– Так ужо і патопяцца! – усміхаюся. – Не маленькія, хай пакатаюцца.

– Правільна, – і Аксана мяне падтрымлівае, – калі яшчэ пакатаюцца, ім жа хочацца...

– Патураеце! – Баба пакрыўджана падцяла вусны. – Як сабе хочаце, вы падпісваліся ў інструктажы, вам і адказваць.

– Інструктаж... Непамысна кожнага вучня за нагу навязваць. Прыкаваць у школе да парты да канца навучальнага года? Мы і так пасвім іх на кожным кроку, а яны прывыкаюць да пугі і перастаюць галавою думаць. Растуць утрыманцамі. Не супраць, каб пра іх да сівога валаса хтосьці клапаціўся.

– Беражонага, даражэнькая, Бог беражэ. Вот смажаны певень у цемечка калі дзеўбане...

Найшла каса на камень. Аксана даводзіць Бабе педагагічныя прынцыпы. Тэрмінова трэба амартызацыя, і я ўстаўляю свае тры лапці:

– А мароз, між іншым, бярэцца...

– Што бярэцца! – Баба кінула журнал, яна ў сваёй стыхіі. – Возера – не карыта свіное, за ноч не замерзне. Вось карыта... сёння ў хлеў пайшла, а яго – хоць пешняй дзяўбі.

– Божа мой, колькі можна пра свіней! Мы ж не на ферме...

Аксану прарвала. Я яе разумею. І праўда, колькі можна?.. Але сам вось так адкрыта не адважыўся б... Ды што я падумаю, тое Аксана скажа ўголас...

Бабу перакляніла. Нейкі час яна няўцямна пазірала на нас, пакуль яе працэсар апрацоўваў інфармацыю, нарэшце пачырванела – каб толькі не замкнула клемы, схапіла журнал і, забыўшыся пра сумку, куляй вылецела праз дзверы. Баба выглядзела так камічна, што мы з Аксанаю не ўтрымаліся, пырснулі смехам

– Навошта ты яе так?

– Бо дастала... Ну, праўда, Віктар Фёдаравіч, гэдак жа можна і самім захрукаць. Працавала б дзе ля станка ды тачыла балванкі. І то... і станкі не вытрымалі б, захрукалі. А потым дзівімся, чаму з нас дзеці пацвельваюцца. А што ім, плакаць, любуючыся на такіх педагогаў? Паказвае неяк Грышкаў брат мне свой дзённік. Напісана: “Адзнака *завядзенне* дзённіка”. Адзін тыдзень. Думаю, недарэчнасць. І другі, і трэці раз гэтае самае *завядзенне* – у адно слова. Настаўніца выкладае ў чацвёртым класе. Няўжо ніхто, акрамя нас з вамі, Віктар Фёдаравіч, гэтага не заўважае? Альбо не хочуць бачыць! Якое мы маем права калечыць дзяцей?!

– Аксаначка, даражэнькая, ты нават не ўяўляеш, як табе цяжка будзе працаваць з такім характарам. Зразумей жа, школа таксама не эталон, тым болей не Храм. Тут, як і ўсюды, ёсць майстры, ёсць рамеснікі, а ёсць і звычайныя шабашнікі. І кожны, між іншым, хоча добра жыць і смачна есці.

– Віктар Фёдаравіч, вы ж сам не верыце ў тое, што зараз сказалі. Школа – не Храм... А што ж тады, па-вашаму, ёсць Храм? Царква? Там спавядаюцца. А тут мне трэба ВУЧЫЦЬ. А не тлумачыць, ёлкі зялёныя, майму восьмаму, чаму мая калега ўнадзілася на перапынку карміцца ў пачатковай школе на вачах у дзяцей, расклаўшы на настаўніцкім стале ў цэлафанавых пакецiках сала з цыбуляю. І як я растлумачу дзецям, чаму фізрука Барытона на ўроку запраста могуць паслаць, куды Макар цялят не ганяў, і нават тыя, хто грае ў яго аркестры. Яны граюць у аркестры і ненавідзяць свайго дырыжора. Паспрабавалі б Журнала, пардон, Віктара Фёдаравіча, паслаць. Яны ў вас у хаце тусуюцца, і няхай хто слова пра вас брыдкае скажа – вочы выдзеўбуць...

– Ну, малайчына! Не ведаў, што ты так здорава ліслівіць умееш, – засмяяўся я. – Але ты памыляешся. Памятаеш маіх “заклятых сяброў” і леташні выпускны?..

– Усё памятаю. Але гэта былі людзі Барытона. Яны вам не сябры!

– Не згодзен. Які палец ні парэж – баліць аднолькава...

Аксана да гэтага часу мне спавядаецца. Я нават не ведаю, чаму. Хіба што гледзячы на Грышку свайго, з якім яны заадно. А Кармен і цяпер успрымае мяне толькі як настаўніка, хаця мы даўно маглі з ім стаць сябрамі, колькі тае розніцы ў гадах, і хіба гады вызначаюць адносіны між людзьмі? Наадварот, мы сябруем з Аксанай, і Грышка гэта, дзякуй Богу, разумее...

Званок! Аўрал! Зноў гарадскія позняцца. У нас на дарогах не засумуеш. Давядзецца нам з Аксанаю зноў у жандары запісвацца... Хуценька разбіраем класы: ёй – восьмы і пяты, мне – дзявяты, сёмы і шосты. Дзявяты напіша міні-сачыненне “Вясновая зіма”. А вось з малымі давядзецца цацкацца, патрэбна вока ды вока.

Бярэм класныя журналы ды моўчкі разбягаемся...

– Дзень добры, – вітаюся са сваім дзявятым суха і стрымана.

Сёння я павінен быць асабліва стрыманым. Дастаткова ўсміхнуцца, як мае пяцёра бэйбусаў, адчуўшы вольніцу, паразвязваюць языкі, заглынуць маю смяшынку – паспрабуй тады ўрок правесці! Хавацца нам няма ад каго, адзін аднаго з паўслова разумеем, усе дарослыя, таму тлумачу проста і коратка:

– Працуем, хлопцы, самастойна, – пішу на дошцы тэму сачынення. – Пастарайцеся выказаць думкі сцісла, але зразумела. Ацэньваць буду не колькасць, а якасць напісанага. І, калі ласка, не кланіруйце сачыненні, гэта не авечкі, і вы не ў Шатландыі. Ваш генетычны код я добра ведаю.

Хлопцы засмяяліся, але мае сурова ссунутыя бровы падзейнічалі, хуценька сціхлі, ураз пасур’ёзнелі.

– Па званку вашы сшыткі ляжаць у мяне на стале.

– А можно домой? – не вытрымаў дысцыпліны Валодзя, якому, ведаю, ракету лягчэй на Марс дубцом загнаць, чым напісаць сачыненне за сорак пяць хвілін. Хлопец толькі што прыехаў з Украіны і з нашаю моваю, нягледзячы на тытанічныя мае намаганні, яшчэ не наладзіў дыпламатычных адносінаў.

– Дахаты, Серада, ты прынясеш мне сёння дзённік з бабуліным аўтографам, бо вельмі ж хачу бачыць яе аўтограф.

– А чё сегодня?

– Забыўся хіба, сёння ў нас з табою персанальныя заняткі па беларускай мове.

– Будзеш ве-едаць, Пячэнне, як задаваць лішнія пытанні Жур...э ... настаўніку, – з’еднічае мой юны цёзка са смешнаю мянушкаю “Буслік”, якую займеў, напэўна, праз сваю звычку сунуць доўгі, сапраўды як у бусла, нос пад любую купіну. А можа, праз провішча – Буслаеў.

– Дэбаты закончаныя, – аб’яўляю я, – час пайшоў. Адказным за парадак прызначаю... Валодзю Сераду.

– Здрасце! Вечна Серада, ледзьве што, Серада. І чым ты Журналу спадабаўся? Салодкі ты хіба, Пячэнне...

– Сейчас, Бусел, будешь горьким... яблоком... – чую ўжо за дзвярыма. Не рэагую. Трэба спяшацца супакоіць шосты і сёмы класы, дзе, адчуваю, пачынаецца вялікая бітва маленькіх народаў...

* * *

Не паспелі зачыніцца дзверы за Квадратным, як Буслік пачаў мяцеж. Ён выскачыў з-за парты, ірвануў да Мілкі і з усяе сілы ўрэзаў яму па лабаціне. Балюча ўрэзаў, бо нават заўсёды спакойны, усмешлівы Марат, каго вывесці з раўнавагі, здавалася, проста немагчыма – за мілы свой характар і атрымаў хлопец бяскрыўдную мянушку з мульціка, – не вытрымаў, знячэўку падхапіўся, кніжку схапіў і пагнаўся за крыўдзіцелем. “За што?!” – застыла нямое пытанне на яго пакрыўджанай фізіяноміі. Разляцеліся па класе крэслы, здзіўленыя і таксама ні ў чым не вінаватыя. Мілкі нарэшце дагнаў крыўдзіцеля, лёгка яго паваліў – а сілы ў Бусліка, як у кураняці, адна пыхлівасць – ды пачаў дубасіць кніжкаю па чым папала, толькі водгулле ішло па класе.

Хлопцы глядзелі як на дзіва і вачам сваім не верылі. Яшчэ ніхто не бачыў, каб Мілкі біўся, ды па-сур’ёзнаму. У Бусліка дзе і характар дзеўся! Прапаў характар, прапала воля і з’едлівасць. І ён, як дзіця, вартае жалю і смеху, безабаронны, атакаваны ды пераможаны праціўнікам, закрываў рукамі твар, жаласна прасіўся:

– Пусці! Ну, пусці ж ты, хопіць, заб’еш зусім!

А той не слухаў, ударна размахваючы падручнікам па беларускай мове.

– А ці будзеш?! А колькі можна лезці, бусліная дзюба?! За-а-б’ю, гад!

– Пусці яго, бо і праўда пакалечыш, – заступіўся за Бусліка прымхлівы, заўсёды асцярожны Божанька, засмяяўся. – Ну, ты даеш, Мілкі! Ніколі б не падумаў, што такі здаровы.

Божанька ў класе самы моцны ды самы разважлівы. Ніколі кулакі без патрэбы не распускае. Дык яго сілы ніхто і не баіцца! Мілкі – той проста не-

рашучы. А ў гэтага сіла нейкая не такая – адухоўленая. Вадзім жыве ў сям'і вернікаў, і выхаванне не дазваляе яму пакрыўдзіць слабейшага. Хлопцы пра гэта ведаюць і часам карыстаюцца. А ўвогуле, Божаньку ў класе любяць і паважаюць. Нават з'едлівы Буслік любіць з ім паспрачацца на вечныя незямныя тэмы. Тады Божанька становіцца сур'ёзным, вочы ў яго загараюцца, язык красамоўнічае. Падчас тых дэбатаў хлопец выдзяляе столькі энергіі, якой, здавалася б, хапіла пераканаць кожнага. Толькі не Бусла. Той крыўляецца і здзекуецца, а Божанька прымае ўсё за чыстую манету. Пакуль нарэшце спектакль не перапыняе Пячэнне. Сераду Буслікавы прыколы страшэнна раздражняюць. Не тое каб ён вельмі шкадаваў боскага адваката, але не вытрымліваюць нервы. Валодзя спыняе Бусліка на паўслове і дае яму дробязнае якое даручэнне, абы адправіць з вачэй. І той паслухмяна бяжыць выконваць, употай праклінаючы сябе за маладушнасць. Ён баіцца Серады. Ненавідзіць і баіцца.

Спакон веку ў дзявятым класе размеркаваныя ўсе ролі... Застаецца хіба расказаць пра Ахвяру – самага маленькага і самага, здавалася б, безабароннага хлапчука, сапраўднае імя якога крыху дзіўнае і даволі рэдкае – Серафім. Ды які ж ён Серафім, калі ён – Ахвяра!.. Ускочыў вунь на падаконнік, рагоча, аж пуп трашчыць, задаволена паказвае пальцам на забіякаў:

– Мачы яго, Мілкі! Ай, прыкол, мальцы. Зараз Буслу доўгі нос адцяпаюць. Бусел, ты свой нос хоць застрахаваў?

І рабі з ім што хочаш. Ахвяры не тое што выспятка, дастаткова палец на лоб пакласці, ён і рассыплецца. А вось не памірае, бо прыкаліст нумар адзін ва ўсёй школе, бо пафігістам ходзіць па Сматрычах, і няхай толькі паспрабуе, хоць і дужэйшы хто, крануць яго пальцам. Адразу справу займее ці з Пячэннем, ці нават з самім Божанькам. "З намі Бог!" — крычыць Серафім. І то праўда. А з Божанькам жартаваць тое самае, што са Страшным судом. Ніхто не ведае, ці хоць будзе той суд праведны, але ж усе яго баяцца. Вось і жыве Ахвяра несудзімым-непадсудным, жыве як у Бога запазухай. Толькі адзін Серада часам можа паздзеквацца са "святога ўгодніка" Серафіма. Толькі яму дазволена. І то нязлосна, не абразліва, а бяскрыўдна, па-сяброўску, дзеля смеху.

Ахвяра сядзіць на падаконніку і зубы прадае. Мілкі – вярхом на Бусліку, філасофствуе:

– А што, ён першы палез, заманаў!

– Ничё себе заявочки... Ладно, успокойтесь, харе обниматься, зла не хватает. Журнал ваше творчество не оценит. Из-за вас после уроков сидеть придётся, – заяўляе сваю ўладу Серада.

– А чаго ён... першы. Бусел дурны, крыжадзюб.

– Я ж не ведаў, што ты псіх няшчасны, – Буслу ўжо не да жартаў.

– "Ми-ла-я, ты услышь меня-а, – саскочыў з падаконніка Ахвяра, вытанцоўваючы, закружыў ля байцоў.

– Исчезни, Жертва, тебя ещё успокаивать! – зароў раптам Пячэнне. – На место, я сказал!

– "Падают зори, падают зори", – віртуозна прызямліўся за парту хітранькі Ахвяра.

А вось Бусел так проста здавацца не захацеў. Ён палічыў закранутым свой гонар:

– Пяткі Журналу падлізваеш, камандор? Саладзей, Пячэнне, не станеш! – то быў, можа, першы Буслікаў пратэст, адкрыты выклік мацнейшаму.

Іншым разам Серада мо нават і не звярнуў бы ўвагі на такую барзату.

Але сёння ён не з той нагі падняўся. Дзіва што, каторы тыдзень, як няма яго бацькі. Знік недзе. Паехаў на Украіну разменьваць кватэру і нібы праз зямлю праваліўся. На Украіне, у Днепрапятроўску, засталася іх трохпакаёвая кватэра. Там прайшло яго, Валодзі, дзяцінства. Жылі з мамкаю. Ды мамка захварэла на нядобрую хваробу, злегла, а бацька з гора запіў. Калі б не Валодзя, маці б давялося памерці ў роспачы і жахлівай нястачы, так што нават не было каму шклянкі вады падаць. Валодзя даглядаў маці, як мог, як умеў. У школу хадзіў адчэпнага, фактычна ад маці не адыходзіў. Бегаў па магазінах, па аптэках, у хаце прыбіраў, варыў есці і потым з лыжачкі карміў хворую. Адным словам, нялёгкая ношка дасталася чатырнаццацігадоваму падлетку, такая і не кожнаму даросламу па сіле. Але Валодзя нікому не скардзіўся, ён прывык цярпліва несці свой крыж. Нават не ўсе сябры ведалі, што ў яго дома. На людзях жа, у школе, Валодзя стараўся не падаваць выгляду, быў вясёлы, шустры, задзірысты, як і большасць яго аднагодкаў. І толькі па смерці маці, як ні кашчунна пра гэта казаць, да хлопца вярнуўся той непаўторны час юначы, пра які апасля, калі становішся дарослым, успамінаеш з добрай пяшчотнай настальгіяй, бо ведаеш, што “назад не прыйдзе хваля тая...” Закрыўшы вочы дарагой, любімай матулі, Валодзя раптам успомніў, што ён яшчэ хлопец. Захацелася гуляць, захацелася жыць, ні аб чым не думаючы. А там – будзь што будзе!.. І яго нібы прарвала: пачаў жыць так, нібы кожны дзень апошні. Не важна, што часам у хаце не было і кавалка хлеба. Хлопец навучыўся паліць, часцей стаў выпіваць з сябрамі, так што амаль ніколі не еў, адно закусваў. Рана пачаў заглядвацца Валодзя і на дзяўчат. Ён нібы наганяў страчанае, ды так хутка, што нават і не заўважыў, як апынуўся ў спецшколе. У нас жа ў спецшколу трапіць прасцей простага. Пасля смерці мамы Серада стаў часцей прапускаць урокі. А ў вялікай гарадской школе з ім ніхто цацкацца не збіраўся. Не знайшлося каму зразумець, падтрымаць. Каму баліць чужое гора! Хуценька падрыхтавалі паперы, афармілі, атрэслі рукі настаўнікі, пазбавіліся ад вучня, які псаваў рэпутацыю школы.

Добра, што апамятаўся бацька. Апамятаўся толькі калі страціў сына. Раптоўна працверазеў, зразумеў, што адзін, як пень, застаўся ў пустой кватэры – нібы ў цёмным лесе. І найшло на яго прасвятленне. І кінуўся ён выцягваць сына з тае спецшколы, падняў усе свае былыя сувязі, а некалі ж ён быў вайсковым афіцэрам, сувязі меў добрыя. Лёгка трапіць у спецшколу, ды нялёгка адтуль выпаўзці. А хто пройдзе праз усю тую “школу” ды спасцігне яе “навуку”, наўрад ці захавае шанец вярнуцца да нармальнага чалавечага жыцця. Валодзю пашанцавала: бацька ўсё ж паспеў яго выхапіць адтуль своечасова. А выхапіўшы, не стаў пакідаць болей у горадзе, які ледзь было не з’еў яго сына, адправіў да дзядоў у далёкую беларускую вёску, на Віцебшчыну. На нейкі час паехаў і сам туды. Але ж на Украіне засталася кватэра. Не кідаць жа, трэба неяк давесці яе да толку. Вось і вярнуўся назад. Паехаў – як у ваду кануў. Паабяцаў, што праз тыдзень-другі прыедзе, але прайшоў ужо месяц, а бацька не падаваў звестак. Дзе тут будзе які настрой.

Валодзя хадзіў як заведзены, зрабіўся нервовым і не па гадах бурклівым. Раздражняла хлопца кожная дробязь. А тут гэты Бусел – пад гарачую руку. Малы ды га...ністы. Метр сорак з табурэткай, а колькі ж атруты!

– Ты чё, офигел, в натуре, Бусел? – строга, але спакойна папярэдзіў Серада. – Давно фуфло не разукрашивали?

– А што, няпраўду кажу? Якога ражна да Журнала кожны вечар бегаеш? Можа вы там, гы-гы, цалуецеся?

Адскочыць Бусел не паспеў. Моцны ўдар прыйшоўся проста па яго носе, ад чаго доўгі і востры нос ў адно імгненне ператварыўся ў свежую, сакаўную слівіну, а на падбародак ды на падлогу бісерам пакаціліся яркія чырвоныя пацеркі.

Бусел прыкрыў твар рукамі і, глуха ўзвыўшы ці то ад болю, ці ад крыўды, у роспачнае злосці вылецеў проздзверы.

Білі Бусла не ўпершыню. Ёсць людзі, якіх б'юць часта, але не моцна, абы адмахнуцца ад назолы. Гонар быць капітальна пабітым таксама трэба заслужыць. Віцька ж ніколі першым у бойку не лез, характар не той. Ага, не такі ён дурань, каб за проста так падстаўляцца. Бусел любіць паназіраць за бойкаю з бяспечнае пазіцыі, але часта не можа стрымацца, каб не ўставіць свае тры лапці там, дзе яго не просяць. Вось за доўгі свой язык і прападае. Бусліка б'юць трапна і ашчаджаючы сілы – так забіваюць камара. Камар – не сабака, сур'ёзна не пакусае, з дрынам за ім ганяцца патрэбы няма, але ж, бывае, і дастае, паскуда! І няма іншага спосабу ад яго пазбавіцца, як узяць ды прыбіць.

Акрываўлены Бусел вылецеў проздзверы, ледзьве не збіўшы... Пагодзіну. Настаўнікі, замерзлыя, пакрытыя шэранню, нарэшце дабраліся з горада, рашучыя, гатовыя зараз жа кінуцца ў бой. А тут вунь як! Ужо й ахвяры крывёю сцякаюць... Ахвяраю ледзьве не стала і новае паліто дырэктаркі. Тая znячэўку войкнула ды, ледзьве паспеўшы адскочыць, сутаргава ўхапілася здранцвелымі ад марозу пальцамі за расчыненыя дзверы. Каб не ўхапілася, пэўна, тут жа адкінула б капыты, трагічна і заўчасна.

– А божачкі! Не паспела ў школу зайсці, а ўжо забіваюць!

– Буслаеў, што здарылася?! – з ходу ў наступ пайшоў Барытон.

Але Буслік толькі махнуў рукою, выскачыў на вуліцу, хапіў снегу, злосны, пакрыўджаны, расціраў снегам нос, ад чаго твар яго, запэцканы крывёю, зрабіўся яшчэ болей жахлівым, падобным да крывавага месіва. Ну, зусім як у баевіку...

Раз'юшаны Барытон уварваўся ў дзявяты. Следам, не паспеўшы агоўтацца, завалiла туды і ўся прыезджая гвардыя. Хлопцы прыціхлі, зніякавелі, схіліліся над сшыткамі.

– Устаць! – зароў Барытон. – Па кім тут турма плача, бандзюгі?!

Падхапіліся. Замерлі па стойцы "смірна", як на фізкультуры, не ведалі толькі ад хвалявання, куды рукі дзець.

У Серады кулак быў гэткім жа "прыгожым", як і ў Бусліка нос.

– Так, усё зразумела, – ініцыятыву зноў перахапіла дырэктар, – калі чалавек бандыт, то гэта на ўсё жыццё. Серада і Буслаеў, на перапынку – да мяне ў кабінет! Дарэчы, а які ў вас зараз урок?

– Беларуская мова, – апусцілі вочы хлопцы..

– А дзе Віктар Фёдаравіч?

– А ў нас – самастойная. Серада – за старэйшага, – выклаў усё як на далоні Ахвяра.

– За старэ-эйшага? То яно і бачна, – скрывілася Пагодзіна. – Віктар Фёдаравіч усё эксперыментуе...

– За пахана... — ашчэрыўся ва ўсмешцы Барытон.

– Не трогайте Виктора Фёдоровича, – спалатнеў Серада, – он здесь ни при чём.

– Выбачай, Серада, мы пакуль табе слова не давалі. Пракурор табе дасць... слова.

– А што, Пячэнне праўду кажа, – нечакана загаварыў увесь клас. – У Віктара Фёдаравіча зараз у трох класах урокі. А Бусел палез і атрымаў, так яму і трэба...

– І перастаньце выкрыкваць свае ідыёцкія мянушкі! Што за мода! Не клас, а канец свету, турма нейкая.

– Ды што вы, Ала Міхайлаўна, хіба не бачыце, натуральны крымінальны “общак”. Кругавая парука, – ухмыльнуўся Барытон, – так што перадавайце свайму, хм... класнаму... прывітанне.

Настаўнікі выйшлі, і ў дзявятым наступіла магільная цішыня. Педагогі тым часам агоўталіся. Жанчыны похапкам ля люстэрка прыводзілі сябе ў парадак. Мужчыны, не хаваючыся, тут жа бессаромна палілі. Дым стаяў – хоць сякеру вешай, але ніхто на яго не зважаў.

– Трэба рабіць высновы, Ала Міхайлаўна. Па-мойму, настаў час арганізацыйных вывадаў. Школа ў нас урэшце, альбо працоўна-папраўчая калонія? – філасофстваваў Барытон. – Навошта, скажыце, нам гэты Серада? Людзі адкідваюць, а мы прымаем. На табе, Божа, што мне нягожа.

– Абавязковай сярэдняй адукацыі, Сяргей Міхайлавіч, ніхто, між іншым, пакуль не адмяняў. Па добрай волі не возьмеш – прымусяць.

– Даўно было – няпраўда. Нават у вучылішчы зараз не кожнага бяруць.

– У вучылішчы – не кожнага, а школа мусіць збіраць і выхоўваць усялякі зброд.

А то ён не ведае. Думае, тут яму казарма, дзе можна любога паставіць па струначцы, падстрыгчы пад нуль і загадаць рабіць тое, што захочацца. Ведае, але проста адстаўнік прывык камандаваць. Не пакамандуе – не паабедае. Прывык камандаваць і хоча, каб пад яго дудку ўсе скакалі. Гэта табе не ў духавым аркестры, які ты, дарэчы, таксама прадудзеў. Яна, дырэктар, лепей ведае, якая музыка павінна граць у яе школе. І мусяць прыслухоўвацца да яе музыкі.

Барытон ужо не ўкусіць, акрамя грошай, яму тут, у Сматрычах, нічога не патрэбна. Калі ласка, атрымлівай свае грошы. Паўтары стаўкі. Глядзі толькі, каб падавіўся. Будуй сабе за горадам катэдж, хоць Крэмль пабудуй, абы тут не блытаўся пад нагамі, не замінаў. Небяспека – не ад Барытона. Ёсць патэнцыяльныя кандыдаты на яе крэсла. Небяспечны той, хто ідэйны... Зрэшты, Квадратнага яна так і не раскусіла. Цвёрды арэшак. А дакладней, цвік квадратны. Быццам бы, з аднаго боку, і спецыяліст, слоў няма. Працаваў бы як усе, зарабляў свае грошы – цаны яму не было б. Але ж гэты Усама бен Ладэн прэтэндуе на нешта большае: прэтэндуе на духоўнага лідэра. Лідэр у калектыве павінен быць адзін – дырэктар. І яна, пакуль будзе пры ўладзе, не дапусціць ніякага слюнявага плюралізму. Ну што Квадратнаму трэба? Напачатку думала, што ён імкнецца заняць яе крэсла. Не, крэсла такім не патрэбна, ім, бачыце, прынцыпы падавай. Ды пайшлі вы са сваімі прынцыпамі! Чалавек – драпежнік па натуры. Галоўнае для яго – расправіцца са слабейшым і заваяваць аўтарытэт. Аўтарытэт – гэта калі цябе баяцца. Чым болей баяцца, тым болей паважаюць. Расправіцца з ёй Квадратнаму не ўдасца, зубы паломіць, не на такую натрапіў. А вось аўтарытэт заваяваць ён можа, тут у яго талент. Гуляе з дзецьмі ў Макаранку. Дзеці любяць, калі з імі гуляюць. Толькі з часам Але Міхайлаўне здаецца, што любімы дзецьмі Журнал насамрэч не такі просценькі, як прыкідваецца. Ці не вядзе ён якуюсьці двайную гульню? Ці не збіраецца пад прыкрыццем любові да дзяцей

ды напускной дзівакаватасці ўсё ж разгайдаць пад ёю крэсла, каб пасадзіць сюды кагосьці свайго? А чаму б і не? Пасадзіць сюды, скажам, Карменіху. Сёння яна яшчэ дзяўчо са светлымі і радаснымі памкненнямі. Чытае дзецям казкі і сама ў гэтыя казкі верыць. А заўтра, калі брыдкае качаня абрасце пер'ем ды распусціць хвост ды, не дай Бог, адкрые дзюбку, заўтра яна можа стаць небяспечным канкурэнтам...

Яны тут, бачыце, Храм навукі будуюць. Знайшліся святыя! Маліцца будуць у тым Храме, праведнікі. Каму сёння патрэбны вашыя модлы і вашыя багі? Каму цікавыя вашы прынцыпы і сумленне? Людзі робяць грошы. Грошы і ўлада даўно кіруюць светам. Грошы прыводзяць да ўлады, а ўлада, зноў жа, робіць грошы. Кругаварот валюты ў прыродзе – закон новага свету! А розум... Светлая галава патрэбна была Льву Талстому, каб напісаць "Войну и мир". І зараз увесь "мир" ваюе. Ваююць розум з сумленнем, прагматызм – з наіўнасцю... А зрэшты, меней розуму – меней згрызотаў сумлення. Але ж яны, гэтыя юродзівыя: журналы, кармены, яны бяскрыўдныя толькі па адным, а разам – яны таксама сіла. Крыклівыя вельмі, а крыклівых зараз могуць і пачуць. Галоснасць – вось жа і галосяць. І кулаком па стале не грукнеш. Хоцькі-няхоцькі даводзіцца прымаць іхнія правілы гульні і чаўпсці нешта пра дэмакратыю.

Вось чаму ёй патрэбны барытоны, сяўніцкія. І чым болей у калектыве будзе барытонаў ды сяўніцкіх, тым меней застанецца непрадказальнасці, тым спакайней будзе працаваць. Сяўніцкая трызніць свіннямі. Дай Бог яе свінням добрага здароўя і доўгіх гадоў жыцця... Пакуль жывуць свінні – будзе і карыта.

– У нас у арміі я завёў бы крымінальную справу па сённяшніх фактах, – парушыў маўклівую паўзу Барытон.

– Вы пра гэта Квадратнаму скажыце, доўга будзе пацвельвацца. Ён у будбаце служыў. Казаў, там галовы адзін аднаму здымалі, і ніхто ніводнай справы не завёў. Кніжку пісаць збіраецца, – Ала Міхайлаўна любіць сутыкнуць ілбамі падначаленых.

– Кніжку? Няхай піша... Пісакі!.. Па яго камплекцыі бачна, у якой ён арміі служыў. Вось калі б служыў нармальна, часу не было б кампрамат на армію збіраць. Ведалі мы такіх інтэлігентаў. Болей нылі, чым служылі, усё ім было не так, ды ўсё не гэтак. Вы не заўважылі, Ала Міхайлаўна, што прывычка ныць – рыса характару? А ў мужыкоў, якія закончылі педагагічны – такая прывычка – прафесійная асаблівасць характару.

– Праўда? А няўжо ў ваенных вучылішчах вучаць завочным дуэлям? – какетліва засмяялася Пагодзіна, чым нават усхвалявала заўсёды куленепрабівальнага Барытона. Каб не празвінеў званок, той мо нават і запунсавеў бы, як майская кветачка. Але ж на тое і існуюць у школе званкі, каб некаторыя настаўнікі мелі магчымасць памяняць маскі на твары. Ну, зусім як у тэатральнай грымёрцы.

Тым часам у дзявятым класе магільную цішыню прарвала. Не вытрымаў Божанька, заўсёды чуллівы на несправядлівасці:

– Журнала падставілі. Гэтая мымра цяперака яго з'есць. Хіба не чулі, як яны грызуцца ў настаўніцкай?

– Мраки, – згадзіўся Серада, – я когда летом документы приносил, случайно слышал, как они нагрузку делили. Представляете, Баритон матом крыл на всю учительскую и стучал кулаком по столу.

– А ты, Пячэнне, таксама добрая цаца. Нафік гэтаму прыдурку кроў пусціў? Камара яму на носе забіў, а той і рад размазваць соплі, і мамцы зараз пабяжыць скардзіцца.

– Нікуды я не пабягу, – захліпаў носам Бусел. – Вы проста ненавідзіце, ненавідзіце мяне, вось і ўсё!

– Што ты, Буслік, я вось цябе люблю без памяці... “О, белыя яблыні, белыя яблыні, пялёсткаў ружовы хвалюючы пах!” – здзекваўся Ахвяра.

Было не да смеху, але хлопцы злосна зарагаталі.

– Ладна, харэ іржаць! Думайце лепей, як нам Журнала адмазаць. Я вам крычу, гэтая мымра капае пад яго... – не здаваўся Божанька.

– Пыльным мехам яе па галаве хіба... Ды сказаць, што так і было? – з Ахвяраю сур’ёзна не параішся, морда цагліною, а думкі фантанам. Толькі зірнуць на гэтага худзенькага, як сцяблінка, хлопчыка з біцэпсамі старога зайца – ужо смяяцца можна. Так і ўяўляеш, як ён Пагодзіну пыльным мехам у цёмным завулку... Канцэрт па заяўках.

– Успокойтесь. Я сам всё объясню в учительской. Журнал здесь ни при чём.

– Думаеш, яны цябе слухаць будуць? – азваўся Мілкі, які адчуваў сябе больш за ўсіх вінаватым.

– А што рабіць! Слухайце, людзі, давайце мы шэфства над Журналам возьмем. Каб ніводзін гад болей яго не ўкрыўдзіў.

– І то праўда, Ахвяра. Нарэуце ты паразумнеў. Кожнаму біць морду, хто зачэпіць Журнала.

– Не волнуйтесь, пацаны, уж я найду им что сказать..

– Знойдзеш, а як жа! Вунь Барытон даўно на цябе зубы войстрыць. Глядзі, каб сам не загрымеў зноў у калонію. Лепей трымай сябе ў руках.

– Спасибо, Боженька, ты настоящий друг. Но только если я сяду, они все лягут. И Журнала, не бойтесь, им захавать не дам...

– “Спасибо, Середа, сесть мы с тобой всегда успеем”. Але “настоящим другом” ты станеш толькі тады, калі ўсё ж паспееш да канца ўрока напісаць сачыненне, – я, бедны-няшчасны Журнал Фёдаравіч, вяртаюся да сваіх “шэфаў” – у дзявяты клас...

* * *

– А падслухоўваць – нячэсна, вось так, Віктар Фёдаравіч!

– А я і не падслухоўваў, Серафім. Няма мне чаго рабіць, як пільнаваць дзверы ў дзявятым класе. Але ж вашыя гамлетаўскія маналогі слухае вунь уся школа. Ды ладна, давайце сур’ёзна. Што здарылася, хлопцы? Я вас пакінуў усяго на паўгадзіны. Я вам паверыў, вырашыў, што вы дарослыя. Трэба хаця папярэджваць, я даў бы самастойныя заданні малым, а з вамі... з вамі б тут увесь урок гулялі ў лялькі.

Мае юныя сябры вінавата апусцілі вочы, уважліва разглядваюць сталы. Стрэліла... Разглядваць сталы ў школе можна колькі заўгодна, можна любавацца імі, а то нават і вучыцца па іх грамаце. Нездарма кажуць, хто многа чытае, той пісьменна піша. Вывучыўшы пісьмёны на стале, будзеш у курсе ўсіх школьных спраў і пазнаеш жыццёвую мудрасць. Тут – цэлы летапіс школьнага жыцця: хто каго любіў на працягу дваццатага стагоддзя, і ў каго каханне было няшчаснае, нераздзеленае, каго з настаўнікаў трэба спісваць на мяса, а каго здаваць на камбікорм. Усё гэта ўвекавечана ў цудоўнай разьбе па

дрэве, такой глыбокай і пранікнёнай, што ніякімі фарбамі, колькі ні старайся, не замажаш. Дый навошта замазваць самую гісторыю? Якая розніца, дзе падлетак сцвердзіць сябе? Няхай у яго будзе такое працоўнае месца, якое ён сам сабе стварыў і на якім яму зручней працаваць. Усё ў жыцці павінна выглядаць натуральна. А сілком ніякімі фарбамі жыцця не ўпрыгожыш і не навядзеш глянцу.

– Дык што здарылася, хлопцы?

– Яны вам, Віктар Фёдаравіч... прывітанне перадавалі...

– Хто перадаваў?

– Дырэктрыса, Барытон...

– Мне?.. Дзякую, – разгубіўся я. – А што яшчэ здарылася?

– Пячэнне ўдарыў гэтага... адсаджанага, – хлопцы кіўнулі на Бусла.

– Божа ж мой, дзеці! Што за лексіка! Да чаго ж я вас распусціў! Да чаго я сам дажыўся! Можа, вам добра "ўваліць" за тое, што вы так і не навучыліся адчуваць, што дазволена, а чаго нельга. Дзіцячы сад! І яны нада мною шэфства сабраліся браць. Вось дык шэфы! Я думаў, вы станеце маёю апораю...

І яны зноў старанна вывучаюць парты. Перажываюць... Дарагія мае дзеці, вы суперажываеце мне! Дзякуй табе, Божа, што ты даў мне вялікае настаўніцкае шчасце: чужыя дзеці не толькі разумеюць з паўслова, але і суперажываюць. Такое шчасце – не ў кожнага... Вось толькі Busліка ніяк не магу перайначыць, хаця, напэўна, зразумець магу і яго. Віця граў у Барытонавым аркестры, і тры гады капалі яму на мазгі... Вада камень точыць, а падлетак... Падлетак, людзі, зроблены з такога пластыліну, што якую форму ні пажадаеш – вылепіш. І нават не трэба высільвацца.

Мой клас не можа, не хоча зразумець Бусла, бо ён граў у Барытона, а яны ў аркестры аказаліся лішнімі. Фэйс-кантролю не прайшлі, ці то мядзведзь ім на вуха наступіў? Хлопцаў не прынялі, акрамя Бусліка, і ён гэтым вельмі ганарыўся. Хлопец увогуле ж таленавіты, ён ад сціпласці, аднак, не памрэ. Мо затое і не любяць яго хлопцы. А ці вінаваты Буслік? У аркестры кожны лічыў сябе элітарным. Такая была ўстаноўка. Барытон стварыў калектыў па сваім вобразе і падабенстве, ён замбіраваў дзяцей. Я неаднойчы казаў пра гэта на педсавеце, але каму з настаўнікаў была справа да маіх псіхалагічных высноў? Галоўным быў вынік. Барытон аб'ездзіў са сваімі маленькімі зомбі паўсвета, былі нават за мяжою. Прыйшла слава, падняўся прэстыж школы. Паказчыкі ўсім засцілі вочы. Але ж далей падлеткаў чакала выпрабаванне "меднымі трубамі". Не кожны яго вытрымлівае. Барытону пляскалі ў ладкі, і нікому не прыйшло ў галаву, якім коштам вырывае ён апладысменты ды граматы. Скажаце, зайздрошчу? Так мне і казалі ў вочы незычліўцы, калі я ўсіх перасцерагаў... Такому не пазайздросціш. Бо ў аркестры ўсталявалася фактычна казарменная дысцыпліна. Ледзьве не строем хадзілі, ледзьве не аддавалі "чэсць" кіраўніку. Некага гэта забаўляла, а ў кагосьці выклікала замілаванне. Памятаеце, калі людзі, асабліва пажылыя, глядзяць па тэлевізары парад, яны таксама замілавана плачуць. Я часта думаю: няўжо людзі не здагадваюцца, што любому параду заўсёды папярэднічае муштра? Тое ж самае было і ў Барытона. Горш – там... білі! Не было сведкаў. Калі Барытон нацкоўваў "умелых" музыкаў на "нерадзівых", астатнія проста маўчалі. Маўчалі, бо баяліся. Колькі магло тое працягвацца? Напэўна, бясконца, бо механізм муштры працаваў спраўна. Кожны баяўся не столькі таго, што будуць біць, колькі – што... выганяць з аркестра, а казарма ёсць казарма, тут існуе

няпісанае правіла – нягожа выносіць смецце з хаты. Калектыўная кругавая парука, ад якой у арміі можна было выратавацца толькі пусціўшыся наўцёкі. Не важна, што сёння цябе б'юць, галоўнае – заўтра, калі аркестр бліскуча выступіць, заўтра будзе свята. Барытон напіваўся сам і літасціва дазваляў дзецям рабіць тое, што яны пажадаюць. Што тут пачыналася! Няцяжка ўявіць, на што здольныя падлеткі, выкупаныя ў каварных промнях славы. Стрэл традыцыйнай у такіх выпадках бутэлькі шампанскага выглядаў толькі першым залпам “Аўроры”. А пад сталом, для працягу банкета, было яшчэ сёе-тое падрыхтавана. А потым, потым хлопчыкі чапляліся да дзяўчынак. Разбэшчаныя славаю падлеткі рана ўявілі сябе дарослымі. Не ведаю, чаго дамагаўся Барытон, гэты маленькі Напалеончык, абраўшы аб'ектам сваіх сумніўных эксперыментаў школьны духавы аркестр, але яму, калі ўжо сабраўся выхоўваць дзяцей, павінна быць вядомая адна простая ісціна: якія дзеці на сцэне, такія яны затым і ў жыцці. Падлеткі могуць стаць неблагімі артыстамі і хараша забаўляць публіку, але яны назаўсёды застануцца маральна скалечанымі людзьмі. Дарослыя могуць “пагуляць” і перастаць, дзеці ж такіх метамарфозаў рабіць не ўмеюць, яны “гуляюць” заўсёды ўсур'ёз.

А Буслік не вінаваты. Проста ў яго вельмі занятыя бацькі, не да сына ім, не да выхавання. Бацька, старшыня калгаса, сялянскае шчасце куе. У маці, у Надзеі Навумаўны, клопату яшчэ болей – школьны ганак пачысціць ды грубкі добра напаліць... Хаця дома яна добрая гаспадыня. Вочы за гаспадаркай паслеплі, вось і не бачыць часам сына, і не ведае, куды Віцька ходзіць, што робіць. А Буслік гэта вунь як адчувае. На вуліцы з равеснікамі ён не ладзіць. Хітры Бусел, а хітрых не любяць. Сябры, а дакладней, хаўруснікі па аркестры, закончылі школу, паляцелі ў гарады задавальняць свае амбіцыі. І Бусел застаўся пакуль між двух агнёў: з аднаго боку – новы калектыў, а з другога – уласнае самалюбства, праз якое цяжка пераступіць.

– Можа, ты, Буслаеў, раскажаш, што тут здарылася? – далібог, каб я ведаў, што Віцьку будзе так сорамна, я б у яго не пытаўся.

– Правільна, няхай Бусел і расказвае, – абурана загаманіў дзявяты, – ён заварыў кашу. Чаму мы за яго парыцца павінны. Хай хоць раз набярэцца мужнасці...

Але набрацца мужнасці двойчы на адным уроку было для Бусліка занадта. Хапіла таго, што ён упершыню сёння адважыўся запярэчыць Серадзе.

...Ненавідзяць! Яны ненавідзяць яго, адзінокага і безабароннага. Там, у аркестры, яго не любілі таксама, горш таго, часам запрагалі: прынясі, падай, збегай у магазін па цыгарэты, прыбяры са стала. Там – яшчэ можна было даравать, ён быў на цэлы год маладзейшы за астатніх. Затое ж якім вялікім ён станавіўся на сцэне! Хай сабе ён быў усяго толькі вінцікам вялікага аркестровага механізма, але без яго, без Віці-вінціка, таксама не іграла б музыка. Там ён быў патрэбен, а тут... Тут ён ніхто і толькі блындаецца пад нагамі. Нават Віктар Фёдаравіч яго трывае толькі таму, што ён настаўнік і павінен кожнага выхоўваць. А насамрэч Журнал таксама яго ненавідзіць...

– Вы-вы-вы... Вы мяне... за што?! – Буслік заплакаў. Буйныя, зусім дзіцячыя слёзы каціліся па шчоках, хлопец падхапіўся і кінуўся на вуліцу.

Яго ніхто не даганяў і ніхто не кінуў услед ніводнага слова. Празвінеў званок, ён стаў для ўсіх выратаваннем. Скончыўся нарэшце ўрок, які, нам здавалася, ніколі не скончыцца...

... А ў настаўніцкай сабраўся імправізаваны педсавет. Чакаюць мяне. Што

ж, добры дзень, калегі, рад вас бачыць. Але вы нас з Аксанай Валер’еўнай ужо...

– Праходзьце хутчэй, Віктар Фёдаравіч. Чакаем. У нас, між іншым, толькі дзесяць хвілін часу, – Пагодзіна настроена па-баявому.

– Нічога, – супакойваю грамадскасць, – мы з Аксанай Валер’еўнай вас чакалі даўжэй.

– Прабачце, досціпам будзем абменьвацца потым. Часу сапраўды няма. Такім чынам, у нашай школе, шаноўныя калегі, адбываюцца апошнім часам дзіўныя рэчы. Справа дайшла да рукапашных баёў. Сёння на ўроку беларускай мовы ў дзявятым класе быў жорстка збіты вучань. Мора крыві – сама бачыла, сцэнарый фільма жахаў, якія так любяць глядзець нашы мілыя дзеткі. І , па ўсім відаць, яны добра засвойваюць гэтую навуку... Так-так, Віктар Фёдаравіч, нашы дзеці, уявіце сабе, вучацца жыццю не па падручніках беларускай мовы..

– Вось як! А я думаў, іх падвучыў Дунін-Марцінкевіч сваёю “Пінскаю шляхтаю”...

– Можаце з’едлічаць колькі заўгодна, але калегам няма часу выслухоўваць вашыя філалагічныя сентэнцыі. Давайце лепей вырашым, што будзем рабіць? Як вы збіраецеся далей працаваць з вучнем вашага класа, які развальвае дысцыпліну, падводзіць школу, зводзіць на “не” намаганні ўсяго педагагічнага калектыву? Бо імідж школы Серада...

– Правільна, паганая авечка псуе *ўсю стаду*, – Баба выказалася...

– А давайце, калегі, яе... з’ядзім!

– Каго? – спужалася Пагодзіна.

– Авечку, якая “ўсю стаду” псуе. Няма авечкі – няма і праблемы. Пахвальна. Хоць і ў стылі трыццаць сёмага года. Праўда, застаецца яшчэ адна субстанцыя – так званая “стада”. Вось вы, Вікторыя Аляксееўна, за дзесяць хвілін здолелі вынесці прыгавор нашай авечцы, хаця вы – не юрыст. А вось я – філолаг, і таму мушу вас паправіць: слова “стадо” ўжываецца, як правіла, у рускай мове і гэта “существительное среднего рода”, а ніяк не жаночага, па-беларуску ж гавораць “статак”. Статак – ён мой, мужчынскі род. Зрэшты, гэта дробязі...

– Вось так ён і заўсёды! – ускочыла расчырванелая Баба. – Да слоў чапляецца, кепікі строіць, ён усіх нас за стаду лічыць, а сваімі выхадкамі пазорыць усё сельскае настаўніцтва.

– Сапраўды, Віктар Фёдаравіч, вы зноў за сваё...

– Я закончу, з вашага дазволу. Гэта дробязі. А галоўнае – я проста не разумею, калегі: што ў нас зараз адбываецца – суд над Серадой? У такім разе, чаму я не бачу адвакатаў, пракурора, чаму ўрэшце няма самога падсудзімага ў клетцы? Альбо гэта толькі папярэдняе следства? У гэтым выпадку існуе прэзумпцыя невінаватасці...

Зноў – званок.

– Ціха, калегі, ціха! Што будзем рабіць? Можа, перанясем нараду на пасля ўрокаў? Справа сур’ёзная, і Віктар Фёдаравіч кажа праўду: за дзесяць хвілін тут нічога не вырашыш. А вырашыць трэба. І неадкладна. Так далей працягвацца не можа. З Серадой трэба нешта рабіць, бо пакуль мы тут займаемся філалагічнымі практыкаваннямі, пакутуюць дзеці – наша будучыня. Усё, пасля ўрокаў збіраемся.

Званок выратаваў Валодзю... пакуль што... Але мне званкі часам перашкаджаюць думаць. Яны не даюць мне засяродзіцца... Адкладзены бой...

Я толькі паспеў расчахліць сваю цяжкую артылерыю: гарматы і кацюшы. А можа, іх, ворагаў нашых, трэба знішчаць "тамагаўкамі" – крылатымі ракетамі наносіць удары па іхніх цэлях і мэтах? Вось жа пацэліў сёння Бабе не ў дроб, а ў лоб. А па-іншаму яе не праймеш – жалезабетонная і з моцнаю арматурай. Падхалімаж, узведзены ў ранг маральнага крэда чалавека...

А ў мяне зараз "фортка". Можна праверыць сшыткі. Але як жа я буду сшыткі правяраць, калі нервы ўзняліся на рэвалюцыю – прафесійная настаўніцкая хвароба. Мы ў школе не можам, каб не папсаваць адзін аднаму крыві. Часам думаеш: ці не ў гэтым і заключаецца сутнасць нашых творчых педагагічных пошукаў? Калі ты не варушышся, значыць, табе ўжо няма чаго новага сказаць, і час табе на пенсію.

У мяне "фортка", і я рэпетую сваю прамову на педсавеце. Вывесілі вунь аб'яву: педсавет на тэму "Актывізацыя выхаваўчага працэсу ў сувязі з некаторымі негатыўнымі з'явамі, якія маюць месца ў нашай школе". Любіць Ала Міхайлаўна пад кожны пшык падбіць ідэалагічную падэшву. Давыхоўваліся! Ні сабрацца разам не можам, ні абмеркаваць спакойна. Вайна самая натуральная, толькі што ў асобна ўзятай школе. А можа, і ўсюды так ваююць?.. Вайна амбіцый, Хтосьці кагосьці падкузьміў, закрануў самалюбства. Карона ўпала з Бабы, заўвагу ёй, настаўніцы, зрабілі – за непісьменнасць. Меней хадзі ды збірай плёткі па школе ды па завуголлі, а знайдзі час кніжку ці хаця б газету пачытаць. Можа, і мова не была б такою неахайнаю, можа, і навучылася б этыкету... Аксана правільна сказала, не да свіней ходзіш, а да дзяцей у школу. А потым здзіўляемся, чаму нашы дзеці не ведаюць элементарных рэчаў, чаму яны такія нявыхаваныя, адчуваюць сябе чужынцамі, недарэкамі ў прыстойнай кампаніі. І камплексуюць. А затым вясковыя дзеці, трапіўшы ў горад, стараюцца як найхутчэй забыцца, адкуль яны родам, зрабіцца "как все". І ва ўсім вінавацяць, праклінаюць сваю родную вясковую гаворку. І становяцца манкуртамі. А ўсё таму, што "ва ўстановах часам ёсць вось такія Бабы..."

Люблю быць у настаўніцкай адзін. Люблю ўсё ж адзіноцтва. Для кагосьці яно здаецца вар'яцтвам, а для мяне – нармальны, нават жаданы стан душы. На адзіноце можна супакоіцца, можна перажыць любую бяду і любую праблему вырашыць. Людзі – гэта абстракцыя. Яны з'яўляюцца на кароткі ці доўгі час, калейдаскопам змяняюць адзін аднаго і зноў сыходзяць, і толькі сам-насам ты кожны дзень, кожную гадзіну і хвіліну. А сур'ёзным у жыцці можа быць толькі пастаянства. Вось пастаю ля акна, палюбуюся акварэлямі-сюрпрызамі, якія падарыў пачатак сакавіка. Адсюль, з акна, запозненая зіма таксама выглядае часовай, абстрактнай, несур'ёзнай. Слухаю раўнамерны, нават меладычны гул, які сюды, у настаўніцкую, даносіцца з класаў – музыка школьных урокаў. Нашую прафесію можна лічыць музычнай. Пастаю, паслухаю, супакоюся...

У нашай школе гукаізаляцыя, як у трубе. Не трэба хадзіць да калегаў на ўрокі – дастаткова выйсці ў калідор, і каштоўны вопыт калегаў сам палезе ў вушы. Ніколі не падслухоўваю – моды такой не маю. На гэта ў нас ёсць іншыя, вельмі добрыя спецыялісты. Вунь Навумаўна. Адкуль жа, як не ад яе, дырэктар ведае ўсё ў падрабязнасцях?

"А вот мне казалі". "А вот я чула". Выбачай, мяне зусім не цікавіць, што табе казалі і што ты чула. Ці ў абавязках дырэктара зараз хадзіць ды збіраць чуткі? А Пагодзіна, між іншым, часта на аснове "я чула" ды "мне сказалі"

выбудоўвае свае выступленні на педсавеце. Бог з ёю, адміністратары прыходзяць і сыходзяць, а застаюцца дзеці...

Чаго яны прычапіліся да Серады? Зразумела, не ведаюць, як падвудзіць на кручок Журнала, вырашылі абысці яго з тылу. Пратараніць у лоб не ўдаецца – пайшлі ў абход. Ну, не з-за разбітага ж носа пажар разгарэўся. Не выйдзе! Толькі праз мой педагагічны труп. І трупа яны таксама не дачакаюцца. І справа тут не ў амбіцыях. Проста Валодзьку болей нельга ў калонію, загуба гэта для яго. Сераду я ім у крыўду не дам, падавяцца, зубы паламаюць, а вось крыві нашай папсаваць могуць.

Трэба брацца за сшыткі. Бо стаю ля акна, гляджу ў адну кропку, яшчэ й сам з сабою размаўляю. Можна звар'яцець. Добра, калі Навумаўна не пільнуе пад дзвярыма. Нервы ў цябе, Журнал, зусім нікуды не вартыя, і сам часам не заўважаеш, як пачынаеш думаць уголас.

Прыхапіў сачыненні сваіх ахламонаў – зараз буду над імі адпачываць. Вучні мае растуць, яны ўжо выйшлі з таго ўзросту, калі людзі кажуць святую праўдачку, яны ўжо ведаюць, што жыццё не такое адназначнае. Хто не ўмее хаваць свае пачуцці, той няшчасны чалавек. А вось у сачыненнях мае дзеці яшчэ не навучыліся хлусіць.

Зарыпелі дзверы, тыя, што вядуць на вуліцу. Па калідоры, па лесвіцы хтосьці рашуча тупаў. Я адчуў неўсвядомленую трывогу, а прадчуванні мяне ніколі не падводзяць. У настаўніцкую ўваліўся велізарны снежны чалавек, у якім я не адразу пазнаў Навумаўну.

– Дзе дырэктар? – запыталася, зірнуўшы на мяне адчужана, як на незнаёмца.

– На ўроку.

Навумаўна, нічога не патлумачыўшы, зачыніла дзверы. Празвінеў званок з урока, высыпалі дзеці на калідор, загаманіла, загула школа. Неўзабаве Пагодзіна павяла Навумаўну ў свой кабінет – шаптацца. Адтуль яны ванілі некуды, бо трашчаў у настаўніцкай паралельны тэлефон. Я не надта прыслухоўваўся. І дарэмна. Каб ведаў, якое значэнне будзе мець для мяне і майго класа той званок – можна было падрыхтавацца. Паленаваўся. Мог бы ўсё ўладзіць ад самага пачатку. Мог, ды не захацеў, ва ўсякім разе, не праявіў настойлівасці. Ах, гэтая наша інертнасць!..

Круцель прычаліў на школьны двор інкогніта і нечакана снежным комам на галаву зваліўся. Ішоў урок, апошні, шосты. У мяне была ў дзявятым літаратура, і я дазволіў, так і быць, сваім ёлупам дапісваць сачыненне, якое не скончылі на мове. Спачатку пісалі ціха, потым нехта ўголас пракаментаваў сваю думку, і пайшло, і паехала... Неўзабаве недапісаныя сачыненні зноў адклалі і экспромтам пачалі дыскусію. Не страшна, калі пісьмовая работа раптам змяняецца шчыраю, цікаваю гаворкаю. Навучацца выказваць думкі ўголас – заўтра ім будзе прасцей пісьмова пабудаваць сказ. Вось толькі граматычныя памылкі – бяда! Дарэчы, пісьменна пісаць не навучыш. Гэта – ад Бога. Можна навучыць мядзведзя скакаць, але нельга мядзведзя зрабіць пісарам. Пісаць пісьменна – такі ж талент, як і любы іншы...

– Віктар Фёдаравіч, а праўда, што ў нас хутка не будзе ні зімы, ні лета, а снег будзе выпадаць не ў лістападзе і не ў снежні, а тады, калі яму ўздумаецца, як сёння во? Ён будзе кружыцца ў паветры, але на зямлю ападзе дажджом, цёплым дажджом, бо на зямлі ў гэты час будзе расці зялёная трава, людзі будуць купацца, загараць, палоць грады, пасвіць каровы, а ў паветры – снег.

– А ты паэт, Серафім! Дзе такое вычытаў?

– У мяне кніжка ёсць...

– Брехня, Жертва. Фантастика. Сказки. Разве могут быть зима и лето одновременно?

– Могуць, Пячэнне. А калі ўлетку град ідзе, аж бела на зямлі.

– Дарэчы, не заўважылі, хлопцы, зараз пад снегам застаецца многа зялёнае травы. Зганяе снег па сто разоў за зіму, глядзіш – і ўжо зелянее то там, то тут травіца.

– Азімыя.

– Каб толькі азімыя... У прыродзе, хлопцы, сапраўды стала рабіцца штосьці неверагоднае. Бачыце, якія ў Беларусі пачаліся ўраганы? І таму не ведаеш, што заўтра чакаць.

– Уга. Летам ураган быў. Помніце, лавіна ішла? Класна! Ніколі дагэтуль не бачыў, як лётаюць дрэвы.

– Вот калі б табе, Ахвяра, дрэвам па глобусу. Класна было б? А ўраганы, Віктар Фёдаравіч, таму што мы балоты паасушвалі.

– Таму што награшылі, вось Бог і шле нам папярэджанне, адно, другое, а ўслед за ім будзе...

– Страшны суд? Усіх нас пасадзяць у катлы, нальюць туды смалы пабалей і...

– Не багахульствуй, Бусел. Божанька табе не даруе. Ён ужо і так сёння наехаў на цябе, кару нябесную наслаў, ледзьве вады хапіла ў кране – адмыцца.

– Молчи, Жертва, а то сейчас и тебе господь кару придумает.

– Во-во, – смяюся, – за доўгі твой язык, Серафім, у пекле на крук падвешваюць.

– Усё, маўчу і слухаю. Тры дзіркі ў носе і ўсё скончалося.

Рогат. Зноў у клас настрой вярнуўся. Нарэшце... Я і рады. Хлопцы не ўмеюць падоўгу сумаваць, зла трымаць не ўмеюць мае юныя філосафы. Не навучыліся помсціць і зласлівіць. Яны яшчэ не падлюкі, а толькі падлеткі і таму... таму я гатоў іх слухаць гадзінамі, ніколі не стамляюся іх слухаць. Як толькі пачынаюць сцвярджаць сябе – становяцца асобамі, яркімі індывідуальнасцямі, характары іхнія граюць, бы колеры вясёлкі на травеньскім небе. І душа адтае, і жыццё напаўняецца сэнсам, як бы перасохшая рэчка – жыццядайнаю крынічнаю вадою...

– Зірніце, мянты прыехалі. Вунь маёр ідзе з інспекцыі, – выгукнуў Мілкі. – І ўвесь клас трывожна прыўстаў, пазірае ў акно. З машыны вылез тоўсты, нязграбны, як барсук, маёр Круцель. Хвіліну чалавек-капешка таптаўся ля машыны, відаць, размінаў ногі, затым павалюхаў да школы.

– Чаго яны, Віктар Фёдаравіч?

– Не ведаю, хлопцы, ці мала...

Міліцыя ў нашай школе не паяўлялася, дай Бог памяці, ці не з часу мінулага выпускнога... Не надта цікавім мы міліцыю. Яно і добра. І нават калі праходзіў тыдзень прававога ўсенавуча, інспекцыя так і не прыехала. Колькі ні званілі, адказ быў адзін: школ у раёне многа, а бензіну мала. Школы, маўляў, ёсць і болей небяспечныя ды крымінагенныя, а наша базавая, сельская, далёкая. Адным словам, радуйцеся візіту свайго ўчастковага Цвыркуна. Той, калі ў школе вучыўся, трох слоў звязаць не мог, дый зараз ці ўзбіўся на чацвёртае. Вось дык лектар! Дзеці Цвыркуна не баяліся, бо ён і сам ад іх мала чым адрозніваўся.

Ну, і не трэба нам міліцыі! Кажуць, не было б ліха, абы ціха. Ды раптам – такія госці, аж дрыжаць косці.

Першым па дарозе аказаўся наш клас. Жывем вечна як на выгане, хто ні йдзе – да нас адразу.

– Маёр міліцыі Круцель, – адчыніўшы дзверы, бесцырымонна заваліў на ўрок "госць", нават не прывітаўшыся. Ён цяжка дыхаў, наш ганак быў для яго дужа непад'ёмны.

– Віктар Фёдаравіч Квадратны, – амаль па-вайсковаму адрэкамендаваўся я, – настаўнік беларускай мовы і літаратуры.

– Гэтыя, ці што? – не слухаў мяне маёр, падазрона свідруючы вачыма хлопцаў.

– Не зразумеў.

– Гэтыя, пытаюся, бандыты?

– Няма тут ніякіх бандытаў. А што здарылася? – ад таго нахабства я нават на хвіліну зніякавеў. Але разгубленасць доўжылася ўсяго імгненне. А ў душы лавінаю расло абурэнне. З хамамі, я пераканаўся, трэба паступаць па-хамску, бо супраць лому няма прыёму. – Чым, так сказаць, абавязаны?

– Што здарылася?! На ўроках у іх дзяцей калечаць, ледзьве не забіваюць, а яны тут, паніма-аш, не ведаюць. Ці прыкідваюцца? Настаўнічкі! Дзе ваш дырэктар?

– Выбачайце, цяпер зусім не разумею, – ледзьве не сілаю выпхнуў я з класа капешку і, толькі зачыніўшы дзверы, даў волю пачуццям. – Па якім праве, хачу ў вас запытацца, вы ўрываецеся да мяне на ўрок і абражаеце дзяцей? Альбо ў вас у інспекцыі па справах непаўналетніх так прынята?

Ён не чакаў.

– Як... як вы смееце?! Што вы дазваляеце сабе? – Круцель аж заікацца пачаў.

– Я дазваляю сабе выстаўляць з урока пастаронніх, да таго ж не зусім ветлівых людзей. А зараз я зноў дазволю сабе запытацца: што, уласна, здарылася? Вам патрэбны дырэктар? Калі ласка, другі паверх, направа – настаўніцкая. Шыльды, спадзяюся, чытаць умееце?

– Вы будзеце адказваць! – ва ўладным голасе маёра, аднак, паявіліся ноткі няўпэўненасці. Урэшце да яго пачало даходзіць... Таўсцель нязвыкла шустра для яго габарытаў пацiснуў па лесвіцы.

Адказваць я заўсёды гатоў – перад сваім сумленнем, дай Бог яго не растаптаць і не запляміць, а не перад рознымі хамамі. А зараз – у клас, да ўзвінчаных, разгубленых маіх хлапцоў. Валодзя вунь белы, як чысты ліст паперы. А ты, Журнал, зараз павінен выглядаць спакайней за нябожчыка...

– Працягваем наш урок. Дык на чым мы, хлопцы, спыніліся?

Які там урок! Па званку ў клас зноў завалілі Круцель з Пагодзінай. Дырэктарка, люта зірнуўшы на дзяцей, замагільным голасам аб'явіла:

– Усім заставацца на сваіх месцах. Праводзім экстранны класны сход.

І тут зайшла яшчэ адна "зацікаўленая асоба" – Навумаўна:

– Я не запазнілася? – запыталася ў Пагодзінай, нас тут як бы і не было.

– Акурат, Надзея Навумаўна, праходзьце, сядайце, калі ласка... Такім чынам, усе ў зборы... Сёння ў нашай школе адбылося надзвычайнае здарэнне. Прама на ўроку беларускай мовы, пры адсутнасці, праўда, па ўважлівых прычынах, настаўніка, быў жорстка збіты вучань дзявятага класа Буслаеў Віктар. У інспекцыю па справах непаўналетніх паступіла заява грамадзянкі

Буслаевай Надзеі Навумаўны з просьбаю разабрацца па дадзеным факце і прыняць меры. Ад сябе дадам, што гэта жудаснае здарэнне ні ў якім разе не застанецца па-за ўвагаю адміністрацыі школы. Мы пачалі ўжо разбірацца і абавязкова прымем меры. Нельга патураць бандытызму. Але да нас прыехаў старшы супрацоўнік інспекцыі па справах непаўналетніх Міхаіл Іларыёнавіч Круцель. Для высвятлення ўсіх абставінаў ён мае намер пагаварыць з кожным з вас. Будзьце шчырымі, не надумайцеся што-небудзь замоўчваць ці маніць, бо з законам не жартуюць.

Крута! Я б нават сказаў, у лепшых традыцыях дэтэктыўнага жанру. Я, вядома, люблю глядзець спектаклі, нават вострасюжэтныя, але браць удзел у трагікамедыях не збіраюся, тым болей, калі дзейнымі асобамі ў іх выступаюць дзеці. Што ж, давядзецца спыніць гэтае дзейства, і я, вядома, спыню яго. Але чакай, Віктар Фёдаравіч, не спяшайся. Вельмі ж цікава паглядзець, да чаго можа дакаціцца чалавек, апантаны нянавісцю і зайздрасцю, на што здольны пярэварацень з педагагічным дыпломам. Шкада дзяцей. Бедныя хлопчыкі! Прыціхлі, зніякавелі, збянтэжыліся, прыраслі да партаў і чакаюць самага страшнага. У Валодзі на твары крывінкі няма... Клянуся, дзеці, страшнага не здарыцца...

– І так, калі ласка, Міхаіл Іларыёнавіч, вам слова.

– Гм... я толькі што з Аўчыннікаўскай школы. Уяўляеце, там пяцікласнікі не давалі праходу, здзекваліся з маладой настаўніцы прама на ўроку. І адміністрацыя аказалася бяссільная. Давялося, паніма-аш, умешвацца міліцыі. Мы, вядома, навядзем парадак, прымем меры. Каго трэба, паставім на ўлік, будзем выхоўваць, паніма-аш. Справа не ў гэтым. Справа ў тым, што моладзь, карыстаючыся нашаю з вамі педагагічнаю слабасцю, разбэсцілася, узлезла нам на карак і спрабуе, паніма-аш, кіраваць намі. А мы маўчым. У вашай школе вучацца некаторыя асобы, якія ўжо стаялі на ўліку ў міліцыі. Мы павінны трымаць вуха востра і ведаць: мала хто з іх становіцца на шлях выпраўлення. На жаль, большасць – гэта патэнцыяльныя злачынцы, паніма-аш. Але бліжэй да справы. Папярэджваю, ухіляцца і маніць мне не мае сэнсу. Я кожнага з вас бачу наскрозь... Як прозвішча пацярпеўшага?

– Буслаеў, – падказала Пагодзіна.

– Раскажы нам, таварыш Буслаеў, пры якіх абставінах і якім чынам ты быў, паніма-аш, збіты?

– Устань, Віця, не бойся, – паласкавела дырэктар.

Буслік ускочыў, чырвоны, як вараны рак, дзіка, зацкавана азірнуўся па баках, шукаючы падтрымкі:

– Ды я... што, я нічога... нос толькі. Ну, і ладна. Ды і самі разбярэмся. Разабраліся ўжо... Навошта?.. Мама, навошта ты выклік*а*ла міліцыю?..

– У цябе не запыталіся. Расказвай лепей... – пагрозліва абсек Круцель.

– Хлопцы, але ж я... я не ведаў, я не хацеў... Даруйце... – прашаптаў збялелы Бусел.

І мне зрабілася шкада яго, каго падставіла родная маці. Ці зразумеюць, ці даруюць яму хлопцы? Не, яны адарвалі вочы ад партаў і зірнулі на Бусла так, што... І ворагу не пажадаў бы апынуцца на яго месцы.

Буслік заплакаў.

– Мы чакаем цябе, Віця, ты ўсіх нас затрымліваеш, – суха выціснула Пагодзіна.

І тады ён зірнуў на мяне, з адчаем, са спадзяваннем, але, каюся, і ў маіх вачах не сустрэў хлопец нічога: ні асуджэння, ні падтрымкі.

– Нічога, – загаварыў ён праз слёзы, – мы тузаліся. Мілкі спачатку мяне кніжкай па галаве, а мы не супакоіліся. А Пячэнне – кулаком у нос. Ён адказны быў... Вось і ўсё...

– Чакайце, якая мілка, якое пячэнне?

– Віця! – заківала галавою дырэктарка. – Хіба ж так можна? Гэта ў іх мянушкі такія. Мільчанін ударыў яго кніжкай па галаве, а Серада – кулаком у нос.

– М-да! Дык тут цягне на групавую! Нічога сабе справы. Вясёленькая школка! – маёр аж прысвіснуў, як мне падалося, ад задавальнення. – Вось што значыць пусціць на самацёк. Ну, нічога, мы паправімся... А нагамі яны цябе часам не білі?

– Не, толькі ў нос адзін раз, і ўсё, ды ерунда...

– Ерунда? – падхапілася Навумаўна. – Ты хочаш, каб яны забілі цябе? Забілі каб, хочаш? Бандзюгі гэтыя. Праходу ад іх вечна нямашака. Які, прабачце, класны, такі і клас...

– Ладно, харе комедию корчить! – неспадзявана падняўся Серада. – Я один во всём виноват, и нечего сюда Виктора Фёдоровича приплетать. Вам до него, как блохе до мамонта.

– Маўчы, бандыт! Вось так і заўсёды. Так і запішыце ў протакал, яму ці жанчына старая, а ці горкае дзіця, усё адно. Саджаць трэба такіх, каб людзям жыць не замінлі.

– Тьфу, – горда сплюнуў Валодзя, – бабы они и есть бабы. Я, между прочим, на вас заявы не кидал, когда вы меня на корридоре избили. Весь класс видел, могут, между прочим, подтвердить...

– Ты што брэшаш, сабака? Чулі? І клас настроіў. Во ў іх які тут хаўрус. Во які паклёп на чэсную савецкую жэншчыну...

– Да, это я ударил Бусла, пускай язык свой поганый не распускает. Ты, Бусел, знаешь, кто ты? Чмо ты последнее после этого. Петух ты гамбургский. У нас в колонии такие, знаешь, возле параши имели честь сидеть. А Милки ты сюда, чмурило, тоже не прыплетай. Сам ударил, сам и отвечу, пускай твой нос премьер-министром на троне восседает. Правда, пацаны?

І тут узбунтаваўся мой дзявяты.

– А што, можна ў міліцыю заяўляць? Так, мужыкі, я заўтра таксама заяву накатаю, – азваўся Ахвяра. – Ты мне, Бусел, учора падножку падстаўляў? Падстаўляў! Усе бачылі. Хлопцы, сведкамі будзеце. Вось мы цябе і пасодзім. Ты, Мілкі, таксама мне лінейкаю заехаў? А я даўно казаў, турма па табе плача. Вот так во, я не Марат Казей, маўчаць не буду...

– Пачакай, Ахвяра, але ж мы... мы ж усе так кожны дзень б'ёмся, і мірымся, мы – пацаны... скажыце, Віктар Фёдаравіч, скажыце хоць вы... – нават Божанька не вытрымаў. – Ну, разбіў ён нос, ды бог з ім. Табе, Бусел, шакаладку купім, складзёмся, каб не плакаў.

– Хопіць крыўляцца! Не клас, паніма-аш, а дурдом! – грукнуў кулаком па стале Круцель. – А з табою, – кіўнуў на Сераду, – будзем размаўляць у іншым месцы...

Так, дастаткова. Нагледзеўся спектакля. Колькі ж можна траўмаваць дзяцей! Нельга дзецям так нервавацца, нервовыя клеткі не ўзнаўляюцца. Сюжэт закручаны нічога сабе, але акцёры некаторыя надта фальшывяць, яўна пераацаніўшы свае здольнасці...

– Прабачце, калі ласка, вы, Ала Міхайлаўна, прыйшлі на класны сход?..

Ага, добра, пабудзьце... Я, паважаны таварыш... э... маёр, класны кіраўнік гэтага класа. Мне вельмі прыемна бачыць... міліцыю, тым болей, што, сапраўды... рэдкія госці. А трэба было б нам бліжэй пазнаёміцца. Я спадзяюся, мы будзем надалей супрацоўнічаць... У нас вось вельмі цікавае намячаецца мерапрыемства. Запрашаем.

Круцель нічога не зразумеў у тонкасцях маёй дыпламатыі, зірнуў на мяне каляным, як у вепрука, вокам і хацеў зноў раскрыць рот. Нельга яму даць загаварыць. Трэба дзейнічаць неадкладна, і я пачаў дзейнічаць:

– А зараз, – я дэманстратыўна зірнуў на гадзіннік, – зараз, думаю, павестка нашага сходу вычарпана. Мы ўсё зразумелі, абмяркуем і зробім вывады. Праўда, хлопцы? Можаце, дзеці, быць свабодныя...

Двойчы паўтараць не спатрэбілася, хлопцы зніклі ўмомант. Ні Круцель, ні Буслаева, ні Пагодзіна не паспелі нават і слова мовіць.

Маёра як не хапіў інфаркт.

– Вы... вы – авантурыст! Вы – хуліган... Вы будзеце...

– Буду. Вось зараз жа і растлумачу. Скажыце мне, калі ласка, якія паўнамоцтвы мае наш сённяшні сход? Вы ўчынілі тут допыт непаўналетніх? У такім разе чаму я не бачу іхніх бацькоў, акрамя Буслаевай?

Маёр спёкся імгненна, законы ён ведаў:

– М-да, гэта мы неяк не ўлічылі, паніма-аш.

– А вы ўлічыце, на будучае, ага? І заадно прыгадайце, вам у дзяцінстве, калі хлапчуком былі, ніхто ні разу носа не разбіваў? Не? А шкада...

– Але ж тут зусім...

– Што зусім? Тут справа зламанага шэлега не вартая. Пабіліся хлопцы, пакапала з носа кроў. Шкадую, што гэта адбылося ў мяне на ўроку, але ж калі ўрокі вядзеш адразу ў трох класах, неабдымнае не абдымеш, ці не так, Ала Міхайлаўна? – я хітра зірнуў на Пагодзіну, тая аж галаву ў плечы ўвагнула. – Але тут, безумоўна, ёсць і мая віна. Перадаверыўся. Я абавязкова пагавару з дзецьмі, і мы зробім вывады.

– Ён пагаворыць... Во знайшоўся камандзір, – закудахтала Буслаіха.

– Надзея Навумаўна, – усміхнуўся я як мага ветлівей, – сёння нешта зноў грубкі ў нас халодныя. Мо глянулі б? А то мароз бярэцца. А дзеці ў нас грыпуюць... Таварыш маёр, прымайце меры, не можам даць рады нашым грубкам... халодныя, як... Надзея Навумаўна, я ўсё ж параіў бы вам не біцца з дзецьмі на перапынках швабраю. Яны, вядома, у міліцыю заяўляць не пабягуць, але ж, разумееце, не да твару неяк чалавеку з педагагічнай адукацыяй... А Віцю вашаму міліцыя не дапаможа, яму ўвага трэба і паразуменне – і з класам, і з бацькамі. Цяжка хлопцу. Калектыў яго не разумее... Дык што там, Ала Міхайлаўна, ці будзе ў нас сёння педсавет?..

Адказам была замагільная цішыня...

* * *

...Я іду са школы... Скончыліся ўрокі, але не скончыўся яшчэ мой працоўны дзень. Трэба пісаць планы, трэба сшыткі правяраць. І хто іх прыдумаў, гэтыя рабочыя, на кожны дзень, планы? Напаказ? Каму? Дырэктару?.. Я добра ведаю, што мне трэба рабіць заўтра на кожным уроку. І любы настаўнік, калі ён, вядома, настаўнік, а не халтуршчык, ведае. А калі халтуршчык, то і планы не дапамогуць. Вядома, калі рыхтуешся да ўрока, праглядваеш, гартаеш літаратуру, міжволі робіш нейкія занатоўкі. Але навошта ж так

кансерватыўна: тэма, мэта, ход урока!.. Помню, у маёй мамы-настаўніцы гэтыя самыя “тэмы-мэты” забіралі ці не ўвесь пасляўрокавы час. А яшчэ трэба было праверыць цэлую кіпу сшыткаў. А яшчэ раз у паўгоддзе трэба было складаць каляндарныя планы. Во дзе кітайская грамата! За які тыдзень – намеціць, распрацаваць і распісаць на паўгоддзе праграму пазакласных мерапрыемстваў. Для птушачкі, дзеля галачкі. Жыццё ўсё роўна ўносіла свае карэктывы, нешта ўдавалася зрабіць, а штосьці набывала зусім іншую форму і змест. Але ж на той час трэба было абавязкова паказаць каляндарны план завучу. І той меў права накрэсліць у ім чырвоным стрыжнем, як у сшытку ў апошняга двоечніка. Ён мог зацвердзіць план, а мог і вярнуць яго на дапрацоўку. Усё залежала ад настрою начальства і ад тваіх адносін з ім. Божа мой, колькі ж у нашай педагагічнай справе залежыць ад настрою начальства! Здавалася б, не балванкі выточваем, а стругаем ды адфугоўваем дзіцячыя душы. Якая філігранная, якая дакладная праца! Глядзі і глядзі... А колькі ў школе выпадковых людзей: кар’ерыстаў і нават злодзеяў, колькі гультаёў, якія не хочуць працаваць, але хочуць на халяву атрымоўваць грошы, і не абы-якія грошы. А ёсць проста недалёкія людзі, якім бы працаваць дзесьці ў іншым месцы. Можа, там яны і карысныя былі б. Можа, там ім было б лягчэй, і не пакутавалі б ні самі, ні дзеці. Але ж лезуць. Лезуць, бо тут ім здаецца цяплей, зацішней, рукі не забрудзіш. Казала тая Ганна Чарнушка – у Мележа: “Ведама, не з віламі...” А таго не разумеюць, што нідзе няма такіх страшных скразнякоў, як у школе, і нідзе так не рызыкуеш запэцкацца, як у працэсе выхавання. Ну, трапіў бы я сёння на кручок да гэтых круцялёў ды пагодзіных. Аддаў бы ім на расправу хлопца, які і так адной нагою стаіць над прорваю. Аддаў бы ў ахвяру амбіцыям. Вось і запэцкаў бы не толькі рукі, па вушы залез бы ў дзярмо. І хто б я быў пасля гэтага? І дзе было б маё месца? Ды гнаць мяне ў такім разе са школы ў каршэнь, каб і духу тут не было!

Чаму яны так ненавідзяць дзяцей? За што ім Бог вызначыў такое суровае пакаранне? Подлыя, далёкія ад педагогікі людзі знайшлі сабе ў школе сховішча, прыкрыўшыся педагагічнымі дыпломамі. Чаму вунь на журналістаў бяруць вучыцца пасля конкурснага адбору, а ў педагагічны паступае любы з вуліцы? Хоць бы якія тэсты праводзілі на прадмет дзетафобіі...

Сцежку маю паспелі прыбіць, быццам табун прабег па ёй. Сляды-слядочкі! Маленькія і большыя. Гэта дзеці вярталіся са школы. Але ж я ўсё пра школу, усё пра яе думаю. Настаўнікі – мабыць, адзіная на свеце катэгорыя людзей, якая і пасля работы гаворыць і думае толькі пра сваё, пра школьнае... Сляды-слядочкі... Колькі трэба выхадзіць, пераўчыць урокаў, памяняць настаўнікаў, памяняць поглядаў, паразумнець, каб з маленькага твайго слядочка вырас вялікі. “Не забывайцеся, якія вы пакідаеце сляды...” Колькі трэба зрабіць добрага на зямлі, каб сляды твае не зніклі, не расталі разам з гэтым часовым сакавіцкім снегам, а засталіся на зямлі назаўсёды...

А снег, пагляджу, не такі ўжо і часовы. Бачна, па-сур’ёзнаму вяртаецца зіма. У прыродзе, як у грамадстве – штурмаўшчына. Спачатку раскачваемся, эксперыментуем, выніку не бачым, вяртаемся да пройдзенага, а потым, калі прыпячэ, наганяем страчанае. Як можна вывучыць літаратуру за адзін-два ўрокі ў канцы чвэрці? Як можна насыпаць снегу ў сакавіку столькі, колькі не было за ўсю зіму? Як можна выхаваць чалавека, паставіўшы яго на ўлік у міліцыі? Хто ўвогуле прыдумаў гэты ідыёцкі тэрмін: “цяжкі” падлетак? Па вазе іх сартыраваць: гэты цяжкі, а той лягчэйшы. Альбо па катэгорыях

расфасоўваць ды дабівацца прывагаў у параўнанні з мінулым навучальным годам? Па катэгорыях расфасавалі і нас, настаўнікаў, засталося падгадаваць крыху і здаваць на мяса. І то праўда, каму мы сёння патрэбныя, акрамя мясакамбіната? Састарэла маральна нашая прафесія. Хто такі настаўнік у вёсцы? Левы і крайні. Дзівак, якога яшчэ пакуль не чапаюць, але не надта і лічацца з ім. Даўней, бывала, перад панам настаўнікам шапкі скідвалі, бо гэта быў адзіны пісьменны чалавек у вёсцы. Пісьменны – азначала разумны. Ён і зараз, бадай, адзіны пісьменны ў вёсцы чалавек. Але ж зараз гэта азначае наадварот – дурань. Дурнем быў, сушыў мазгі, вучыўся. А цяпер кожны дзень у школе папраўляй сваю нервовую сістэму. За жабрацкую капейку, на якую не можаш купіць сабе нават прыстойнага касцюма. Стаў бы фермерам, працаваў бы ад зары да зары, то хоць якую капейку меў. І без нерваў. Хаця фермерам – таксама не мёд. То залье, то засушыць, то ўвогуле, як летась, ураган патаўчэ-павырывае з карэннем. Таксама не надта забагацееш. Вось паехаць у горад. Там не фермы, там фірмы. Купляй – перапрадавай, і засуха з ураганам не страшныя. Можна ўладкавацца так спрытненька, што будзеш катацца, як сыр у масле, ды "Мэрсэдэсы", як пальчаткі, мяняць. Хаця і там свае замарочкі – разборкі крымінальныя, дзяльба тэрыторый ды сфераў уплыву, дылеры-кілеры-рыэлтары... Адправяць на той свет – і "Мэрсэдэс" не спатрэбіцца...

Лепш за ўсё быць начальнікам вялікім. Ні табе мазалёў, хіба што на задніцы, а ні згрызотаў ці нерваў. Усе вялікія начальнікі стогнуць, якая знясільваючая і адказная іхняя праца, і – ніводнага пакуль чорт не хапіў. Тлустыя, задаволеныя, на іншамарках раз'язджаюць, у метро ці ў аўтобусах нябо ніхто не таўчэцца. А лезуць жа, лезуць у тое начальства, як бы ім там мёдам намазана. І з коллем, і за чубы, а ці ў Маскве, а ці ў Мінску. Абы тэлевізар уключыў – хоць плач, а хоць смейся...

Няма калі сядзець ля тае скрынкі. Летам – агарод, зімою – іншых сто работ. І круглы год – школа. Можна, вядома, стаць і фермерам, і фірмачом, і бізнесменам, і палітыкам, каб толькі не ажаніўся ты са школаю...

Я нават і не заўважыў, як ногі самі прывялі на шырокую вясковую вуліцу, да маленькага, нешаляванага, але акуратна, спрытна зрубленага на нямецкі вугал доміка з чысценькім, дагледжаным дворыкам, але старым спарахнелым плотам. Тут жыве Валодзя Серада. Безуважна, бадай, па-інерцыі прачыняю скрыпучыя варотцы. Толькі зараз дайшло да мяне, што прыйшоў не дадому. А навошта я сюды прыйшоў? Што скажу яго гаротнай бабулі, якая сама недзе ночы не спіць, зачакаўшыся з Украіны непуцёвага сына? Чым парадую? Расказаць хіба пра сённяшнія Валодзевы непрыемнасці і падліць алею на папялішча спаленай душы? Але ж нечага прывялі мяне сюды ногі. Што ні робіцца – усё не проста так...

Грукаю ў сенцах, абабіваю, гальнём старанна абмятаю боты, каб не нанесці ў хату снегу. Снег сёння так і ліпне, так і прыстае да абутку. Нерашуча патаптаўшыся на парозе, гукаю:

– Дзень добры ў хату! Ці ёсць тут хто жывы?

З-за печы паказвае заспаныя вочы бабулька. Старая няўцямна-падазрона пазірае на мяне, бы ўпершыню бачыць, ды раптам падхопліваецца:

– Авохці мне! Настаўнічак! Ото госці... Праходзьце, Фёдаравіч, я зараз...

Не па гадах спрытна старая саскочыла з печы, замітусілася:

– А я ж во толькі свінням дагадзіла. Дай, думаю, прылягу, адпачну.

Прыгрэлася ля каптура ды во, мусіць, і кімарнула. Валодзька па дровы з дзедам паехаў, нават есці не еў, каліўца ў рот укінуў. Ды вы сядайце, Фёдаравіч. От, я вас зараз лянухаю пачастую. Гарачанькая – прама з печы.

– Што вы, баба Пёкла. Хіба ж я ў рэстаран прыйшоў? Я ненадоўга, так вось, ішоў міма, дай, думаю, зазірну...

Але старая нават і слухаць не хацела:

– Няго ж, чалавека з дарогі не накармлю, хіба я пустадомак які? Рэстарацыя не рэстарацыя, а сёе-тое пакуль маецца...

Пёкла спрытна выцягнула вілачнікам чыгунок, паставіла на загнет, пакуль налівала ў місу капусту, па хаце панёсся спакуслівы, прыемны пах, аж заказытала ў мяне пад "лыжачкай" і здрадліва загуло ў страўніку.

– Нябо яшчэ не абедалі? – угадала Пёкла. – За гэтымі жэўжамі і паесці чалавеку няма калі... А мо натварыў наш ужэ чаго? – раптам спахмурнела, насцеражылася гаспадыня. – Дак вы кажыце, не таіцеся. Характар, ведаю, не солад, увесь татулька. У галаве, выбачайце, як у пуні – вецер гуляе.

– Ды не, баба Пёкла, – схітраваў я, – нічога Валодзька ваш не натварыў. Дый дарэмна вы на яго. Хлопец, вам скажу, залаты: працавіты, башкавіты, пашукаць такога. На хаду матэрыял на ўроку засвойвае. Падленьваецца крыху, хаваць не буду, захацеўшы, мог бы й лепей вучыцца. Ды хто з іх цяперака не падленьваецца?..

– І то праўда, – уздыхнула бабуля, – за нагу да кніжак не прывяжаш, гізуе, хоць бы й наш, па вёсцы, як незаганяны. Ухадынцу на яго няма.

– Затое душа ў вашага Валодзькі ёсцека. Вялікая душа. А гэта зараз важней, чым веды. Самі ведаеце, баба Пёкла, які цяпер жорсткі і нахабны свет...

– Душа, кажаш? – павільгатнелі вочы ў старой. – А гэта, дзетка, у ім Марыльчына душа пасялілася, царства ёй нябеснае. Хоць і нявесткай яна мне даводзіцца, а, маніць не буду, крапчэй як сына яе любіла. Каб хоць слова, каб паўслова калі поперак сказала. Не даў Бог лёсу, рана да сябе паклікаў. Бачна, такія людзі і там патрэбныя. Хворая Марыля ляжала, і то ніколі пра сябе не думала, а ўсё пра Валодзеньку. Як жа ён адзін застанецца? Я, казала, ні па кім не нуджуся. Як Бог дасць, так і добра. Мне толькі Валодзенькі шкада. Малы яшчэ. Хто ведае, як павернецца да яго планіда? Хаця б не скруціўся... – Пёкла, не хаваючыся, заплакала. Я разумеў, плакала найперш па сваім горы, бо не ведала, колькі яшчэ гадкоў адмераў Бог і ёй самой, і ці паспее паставіць на ногі ўнука. – Дык жа ешча, Фёдаравіч. Ня грэбуйця. Мы ж, гэта, па-гарадскому не ўмеем. Вы не зважайце, расплакалася баба, вочы на балоце выраслі. А можа, чарку возьмеце? Свая, не бойцеся, чыстая, як слязіна.

– О не, – замахаў рукамі я, – толькі не гэта.

Не хапала яшчэ пачаць па вучнях шастаць, каб астаграміцца...

– Ну, як хочаш, – здалася старая, – ведаю, што не п'еш. І правільна робіш, Але галодным я цябе з хаты не выпушчу, – Пёкла называла мяне то на "ты", то на "вы". Не ведала, як лепей, бо хоць і ў дзеці ёй гаджуся, але ж настаўнік... – Што Бог паслаў, так сказаць...

Сёння ёй Бог паслаў, акрамя духмянае, наварыстае лянухі з добрай галамяткаю, яшчэ апетытнае колца сырое дамашняе кілбаскі, пальцам піханай – аб'есціся, і талерку халодненькіх, крамяных агурочкаў, і салёненькія апетытныя грыбочкі, і бульбачку, запечаную ў мундзірах, і глечык малака,

і малінавае варэнне. Вочы разбегліся, але не пакаштаваць Божага дарунку за Пёклiным сталом было б вялікім грэхам. Чорт мяне спакусіў зайсці ў гэтую хату. А паесці я мастак. Ну, нічога, мо не аб'ем. Урэшце ж, не зусім да чужых людзей у хату прыцёгся. Іхняга Валодзьку даўно ўжо лічу сваім "хрэснікам", хаця сам нехрышчоны. Ды людзі, я вам скажу, родняцца не толькі па крыві, і нават не столькі... Іншым разам чужы чалавек бывае даражэй і радней, чым каторыя сваякі, з якімі не бачышся гадамі і якіх часам не ведаеш нават у твар. Ну, кім мне даводзіцца іхні Валодзька? Не свінні пад дубам жолуд. А ў маёй хаце ён бывае нават часцей, чым у дзядоў сваіх. І за сталом ён у мяне не чужы.

– Дзякуй, баба Пёкла, наеўся, як на Дзяды.

– На здароўечка, Фёдаравіч. Малачка папі, малачко ў нас казінае, тлустае.

– Дзякую. Ці чуваць, баба Пёкла, што пра сына?

– Не чуваць, дзетка, я ўжо ўся змарнела, сама не свая хаджу, ледзьве жыва. Бога прашу кожны дзень, каб хоць якую вестачку пра Антона прыслаў. Крый Божа, што якое са мною, куды ж тады падуростак дзенецца?

– Слухайце, а ці ёсцека там, на Украіне, каму пазваніць?

– А балесь яго ведае. У самога ж няма тэлефона, Хіба ў суседзяў? Нічога ён мне, дзетка, не пакінуў. Адрас толькі ёсцека, дык жа піша Валодзька, як у студню. Ні гуку, ні груку ў адказ.

– Адрас, кажаце, ёсць? Што ж, паспрабуем з Украінаю перамовы заказаць. Дайце мне, калі ласка, баба Пёкла, адрас. На вайне і то людзей знаходзілі, быць не можа, каб мы ў мірны час не знайшлі...

Старая доўга корпалася, шукала ў шафе, і на Валодзькавай паліцы, і за абразамі, ды паперкі так і не знайшла. Нават разгубілася:

– Гасподняя волечка! А куды ж ён бацькаў адрас паклаў?

– Не хвалюйцеся, у Валодзькі не прападзе. Вернецца з лесу – запытаецеся.

– Ага, дзетка, Валодзька тады адвечары прыбяжыць. Усёдна ж пабяжыць да вас. Вы ўжо, Фёдаравіч, пастарайцеся як-небудзь. Вы ж там лепей ведаеце, куды і як пазваніць. Дапамажыце сіраціне. Бог вам аддасць.

– Усё будзе добра, баба Пёкла. Вось убачыце, яшчэ вернецца ваш Антон. А мы з вамі яму вушы накруцім...

– Эх, каб твае слоўцы, дзетка, ды Богу ў вушкі...

– Ну, пайду я ўжэ, баба Пёкла. Яшчэ ж у печы паліць трэба, планы пісаць, сачыненні трэба правяраць, работы да самай суботы.

– Маладзіца табе трэба, Фёдаравіч, каб было каму ў печы паліць. Хіба ж можна ў хаце без гаспадыні?

– Будзе, будзе, бабуля, не цяпер, дык у чацвер. Сваё шчасце не празяваю.

– А не, дзетка, чацвярга не чакай, а то і ў суботу не ажэнішся. Адна галавешка і ў печы не гарыць. Яно цяперака і жонку ўзяць – каб не прагадаць. Дзеўкі пайшлі распусныя. Асабліва ж у горадзе. Кураць, каб на іх поўсць курылася, гарэлку п'юць ашалеўшы. Так што глядзі, Фёдаравіч, пільна прыглядвайся, каб якую трасцу ў хату не прывесці. На карак уссядзе і не злезе.

– Вось жа і гляджу, ды надта заглядзеўся, – пераводжу на жарт.

– І Валодзьку там спуску не давай. Хай робіць, калі ўжо ён так да тваёй хаты прыліп. Ён, Фёдаравіч, не глядзі, што з гораду, усё робіць: і дровы, і вада, і скаціна – усё на ім. Дзед наш ужо няпошлы, на ўнука ўся спадзева.

– О, каб вы бачылі, – засмяяўся я, – там у мяне не хата, а працоўна-папраўчая калонія. Хіба адзін ваш Валодзька, усе мне дапамагаюць. Падлетак без працы – як жарабок незацугляны. З гэтымі жэўжамі, як з тыграмі ў клетцы – толькі й ваюй. Хоць ты папругу ў рукі бяры.

– І ахвота ж вам займацца з імі...

– Яшчэ якая ахвота, баба Пёкла! Прафесія ў мяне такая. І прызванне...

– А мо і праўда чаго нарабіў Валодзька?

– Зноў вы за сваё. Не хвалюйцеся, пакуль усё нармальна. Няхай толькі паспрабуе нарабіць... Ну, то пайду я ўжо, бывайце, дзякуй вам за ўсё.

– І вам таксама...

Не хачу я расказваць гаротнай бабе Пёкле пра нашыя школьныя ваенныя баталіі. Ды я ёй праўду і сказаў – Валодзька нічога не нарабіў. Дзіця не вінаватае, што яго пакарысталі дарослыя.

Чамусьці дадому ісці не хацелася. Хаця звычайна я вяртаюся дамоў з вялікім задавальненнем. Мой дом – мая крэпасць. Якія б ні бушавалі буры, як бы ні штурмавала жыццё, які б ні быў стомлены і раздражнены, спустошаны, зняверaны, але прыходзіш у сваю хату, прыляжаш на канапе, прыслухаешся, як цвыркаюць ходзікі на сцяне, супакоішся... Зноўку вернуцца сілы, энергія, і жыццё ўжо болей не здаецца такім нікчэмным і бессэнсоўным.

Паволі, не спяшаючыся, усё ж тэпаю дадому. Разглядваю схаваную ў халодных абдымках зімы вуліцу. Снег парабіў усе хаты ў нашых Сматрычах аднолькавымі. Памаладзіў стрэхі, пачысціў двары. Хаты з надыходам зімы страцілі сваю індывідуальнасць, зрабіўшыся падобнымі да навабранцаў. Вясковыя хаты, не заўважылі, падобныя да сваіх гаспадароў.

Вунь маленькая і згорбленая, як сама гаспадыня, Антонішына хата. Антоніха за свой доўгі век перажыла такое, што не пажадаеш і ворагу. Загінулі на вайне дзеці, памёр муж. Потым згарэла яе новая хата. Перабралася бабуля жыць у істопку. Так дагэтуль у ёй і вякуе. Але, нягледзячы на свой незайздросны лёс, бабуля не страціла веру ў людзей, не ачужылася. І людзі яе не пакінулі. У Антонішынай хаце дзверы, бадай, не зачыняюцца: то той на сяло прыйдзе, то гэты. І вокны ў хаце, хоць маленькія, ды гэткія ж светлыя, аптымістычныя, пяшчотныя і добрыя, як вочы ў старой.

А вось насупраць жыве Сенька Князь. Некалі ў хаце была вялікая сям'я, ды дзеці раз'ехаліся, засталіся Сенька і яго Князёўна. Хата высокая, стройная, лес добры – як звон. І вокны вялікія, і плот высокі, новы. Але ж вокны халодныя і ваўкаватыя. Хціва, зайздросна пазіраюць яны на вуліцу. Некалі Князь са сваёю Князёўнаю нахабна арудавалі тут, у Сматрычах, спуску не давалі нікому. Заўжды ў іх быў і лепшы кавалак зямлі, і дзе якая дошка, дзе якая цагліна – усё цягнулі дахаты, што кепска ляжала. Затое во і пабудавалі хароміну. Зараз, пастарэўшы, Князі пацішэлі. Сенька аберуч ухапіўся за агародніцтва, вырошчвае ды выгадна прадае жэньшэнь, абставіўся парнікамі, абзавёўся сабакамі. Заўсёды ў першага яго – то свежы агурок, то памідоры раннія, то нават вінаград. Але ніколі нікому з вяскоўцаў не даводзілася пакаштаваць Сенькавай агародніны ды садавіны. Нават падлеткі, для якіх не перашкода ні высокі плот, ані цвікі, пазаганяныя ў штакетнік вастрыём уверх, знарок дзеля таго, каб гарэзы парвалі сабе штаны ды скрывавілі рукі, нават падлеткі ні разу не паспыталі Сенькавага вінаграду. Бо вокал хаты, за высокаю брамаю, сноўдаюць тут-сюд вялізныя злыя ваўкадавы. Сустрэнешся з такім – не захочаш і прысмакаў. Рэдка заходзяць вяскоўцы

ў Сенькаву хату. Дый навошта туды заходзіць, калі ў гаспадара зімой снегу не дапросішся. Хіба ад смерці адкупіцца?

Так я мог бы распавесці пра кожную хату ў нашай вёсцы і пра кожнага яе гаспадара. У хат, як і ў людзей – свой лёс. Часцей хаты жывуць нашмат болей, чым іх гаспадары. Чалавечы век кароткі. Але бывае і наадварот, як тое здарылася з Антонішынай хатаю. Нягледзячы, што жыву тут не болей як дзесяць гадоў, паспеў прывыкнуць, палюбіў Сматрычы, надоўга, мо і назаўсёды звязаў свой лёс з гэтаю на першы погляд нічым не адметнаю, аддаленаю ад райцэнтра вёсачкай. Не кожнаму ж гарцаваць на скрут галавы па вялікіх гарадах.

А вось і мая хаціна. Паглядзеўшы знадворку, пра яе не скажаш, што жыве тут пустэльнік, дзівак-інтэлігент, жыве ў палоне сваіх незразумелых нармальнаму вяскоўцу летуценняў ды ў акружэнні гвардыі непрадказальных у сваёй нечаканасці падлеткаў.

Летась я – нарэшце-такі дабраўся – паставіў новы плот і ад няма чаго рабіць зафуганіў шыкоўную браму. Брама нагадвае казачны церамок: дах, комін – усё як трэба. Не хапае толькі буслянкі і буслоў. Нічога, хутка я выражу іх з фанеры, альбо змайструю з дошак, і тады мая брама будзе самая прыгожая ў Сматрычах. Няхай сабе буслы не сапраўдныя, а намаляваныя ў маіх фантазіях, але яны таксама, я веру, павінны прынесці шчасце ў маю хату. Што ні кажы, але ты, Журнале, непапраўны дзівак-летуценнік. Ды калі не марыш, навошта ўвогуле жыць? Жыць вось так, як большасць тваіх равеснікаў у вёсцы: адмерваючы сваё шчасце чаркаю? Паяўляцца на людзях няголеным, нямытым, учарнелым і азызлым ад гарэлкі? Перастаць сябе паважаць? Але хіба мясцовыя п'янтосы сябе не паважаюць? Го! Сустрэнься, пагавары з каторым. Колькі пыхі, колькі гонару! Адзін таленавіты празаік трапна назваў гэта "пыхлівасцю бядоты". Здавалася б, няма чым ганарыцца. "Гразь, гразь, чаму ты не гарыш? Я б гарэла, каб не была карэла". А зрэшты, не судзі і несудзімы будзеш. Шчасце – паняцце адноснае. Кожны бачыць яго складаемыя па-рознаму. Кожны жыве так, як яму хочацца, як атрымліваецца. А ў цябе вунь ні паленца ў грубцы, у каструлі – рэшткі ўчарашняга супу. Добра, што зараз зіма, холадна, хаця суп не ўкіс. Газавая пліта, мусіць, замужам за гультаём была, бо такая ж мурзатая, як у нядбайнага гаспадара карыта для свіней. Дый падлогу ў хаце даўно не мылі і даўно было трэба пачысціць паласы. Хіба гэтага не дастаткова, каб не мець маральнага права ківаць на іншых?

Рукі не даходзяць да генеральнай уборкі, дый нават зварыць сабе есці па-людску не заўсёды хапае часу, жывеш аб сухім, выпрабоўваючы на вынослівасць свой страўнік. Калі б ты заняўся хатаю, абавязкова нечага не дапісаў бы ці не дачытаў. Жывеш жа не толькі ўрокамі, хочацца даверыць паперы сякія-такія свае развагі. Смерць не запытаецца, ці было ў цябе прыбрана ў хаце, але абавязкова пацікавіцца, які ты след пакінуў на зямлі...

А пакуль што – прынесці дроў, брыкету, найперш запаліць у грубцы, сесці начысціць бульбы. У халадзільніку дзесьці гаруе кавалачак фаршу. Можна зрабіць любімыя маміны таўчонікі. Але ж гэта трэба чакаць, пакуль бульба зварыцца, затым астудзіць яе і – таўкачом, а лепей на тарку, на буйную, на бураковую. А затым – мукі, каб выйшла цеста. І – зноў на патэльню, падліўшы туды крыху алею... Не, сёння не хопіць часу на таўчонікі. У дыпламаце ляжаць тры класы сшыткаў – сачыненні і дыктоўка. А яшчэ –

планы. А яшчэ Валодзя прыбяжыць займацца па мове. Няхай толькі не з'явіцца! А ўвечары заваліць увесь дзявяты, сёння хіба, можа, без Бусліка. І ўрубяць хлопцы магнітафон. Так што маміны таўчонікі зноў адкладваюцца на няпэўны час, а будзе – бульба, смажаная на алеі, шклянка малака і, калі з'явіцца раптам кулінарны сверб, будуць яшчэ шкваркі з цыбуляю. Бацькі зірнуць на такую халасцяцкую вячэру скоса і даволі скептычна. Можа, нават злёгку паківаюць галавою, але ж нічога не скажуць. Не ўмеюць гаварыць партрэты. Бацькі вось ужо колькі часу жывуць у гэтай хаце на куце, ніколі нічога не пярэчаць і не радзяць. Яны ўяўляюць сабою тую субстанцыю, якую я сам адвёў ім у жыцці. Не заўважылі, усе людзі становяцца добрыя, калі памруць. А ўсё таму, што нам нецікава ўзгадваць пра іх кепска. Мы ствараем для сябе вобраз іх, і гэты вобраз жыве, пакуль жывем мы. Калі ж не стане нас, мажліва, нехта таксама выкарыстае наш вобраз, калі мы гэтага заслужым. Вось так і працягваецца жыццё.

А ў філосафа не хочуць гарэць дровы. Быў бы тут Серада, ён запаліў бы ў печы адным запалкам. Хто на што вучыўся...

* * *

Ціха! Здаецца, нехта шкрабецца!..

– Го! Успомні га...но – вось і яно...

– Обижаешь, начальник. А что, если я завтра в школе "стукану", каким тоном Виктор Фёдорович разговаривает со своим учеником?

– Стукай-грукай. Горш, чым сёння, ужо не будзе... А зрэшты, усё роўна ніхто не паверыць.

– Поверят, ещё как поверят. А если сами не поверят, Крутеля сюда подключим. "Асобныя настаўнікі, карыстаючыся нашай з вамі педагагічнай слабасцю, распаясаліся, узлезлі нам на карак, панімаа-аш, і спрабуюць кіраваць намі"...

– О, ды ты, Серада, робіш поспехі ў вывучэнні роднай мовы. Яшчэ годзік-другі, і беларускае аддзяленне філфаку па табе заплача.

– Шизонулся что ли? Какой из меня учитель! Я же детей поубиваю, если они слушаться не будут.

– Я ж вас нікога не забіў.

– Ты – совсем другое дело. Ты вообще какой-то не такой, Журнал. Ну, почему ты нашим пацанам не разрешаешь себя на "ты" называть? Смешно даже, они же всё равно пропадают у тебя вечерами, как и я. В глаза величают на "вы", а за глаза, поди, лахаются.

– За вочы – хоць чыгуном... Хопіць таго, што мы з табой запанібрата. Як ты не можаш зразумець, дурная твая башка. Вы – вучні мае. Настаўнік павінен заставацца настаўнікам, а не быць анучаю, аб якую выціраюць ногі.

– Пустое. Да разве таким образом авторитет себе заработаешь? Смотри, Журнал, ведь мы Баритона куда попадя можем на уроке послать. А тебя никто не пошлёт. Если человек – трепач, если чмо, то какая разница, как его называть? Главное – уважение. А почему он чмо? Да потому, что своих сдаёт. Ведь у него ребята – только орудие в его лапах, одноразового использования у него пацаны. Выстрелил с их помощью по какому-нибудь Журналу, потому что тот поумнее, науськал на него ребят. И всё, и можно этих ребятишек сдавать с потрохами, можно их, например, в колонию отправить, а самому чистеньким остаться.

– Ну, ты і Сакрат...

– А что ж ты думал? За медный грош меня не возьмёшь. А с другой стороны, почему Журнала уважаем? Потому ли, что его нельзя на уроке матом обложить? Да обложили бы, не сомневайся.

– Ды ну на фік!

– Точно-точно, как миленького, и зачморили бы. Не веришь? Давай попробуем. Сам рассказывал, как в стройбате было: не волнует никого, профессор ты или асессор, лишь бы человеком был. А вот за то, что человек, что мужик ты, и уважают тебя ребята. Думаешь, не понимаем, что ты грызёшься с этими стервами каждый день не ради себя, не видим, как отстаиваешь каждого из нас.

– Ну, ты мякчэй усё ж на паваротах, як бы ні было, але яны твае настаўнікі.

– Да в гробу я видел таких “наставников”... Это, что ли, от слова “на ставке”?..

– Ну, ведаеш!.. Давай, лепей у печы распальвай, а то зараз атрымаеш качаргою. Колькі разоў цябе прасіў, не лезь у нашы настаўніцкія справы.

– Ладно, извини, Журнал, не кипятись. Я ведь тебя понимаю, тебе приходится раздваиваться между нами и ими. Тебе не сладко, ты ведь, действительно, учитель. Но почему мы не можем с тобой откровенно обсудить любую тему? Ведь мы друзья? Так же? Я же не на уроке с тобою сейчас. Или ты думаешь, что я ещё не дорос и чего-то не понимаю? Неужели тебе легче одному сражаться?

– Мажліва, і так... Разумееш, Воўка, каб я думаў, што ты не дарос, каб лічыў сябе вышэй, мы б не сябравалі з табою. Але, як бы гэта табе лепей растлумачыць, ты не разумееш некаторых нюансаў. І будзе лепей, калі ты не будзеш умешвацца... Так і табе лягчэй вучыцца, і мне працаваць. Дапамагчы ты тут мне наўрад ці зможаш, а вось ускладніць справу – лёгка. Ты малады, ты яршысты, бескампрамісны. Вечна кудысьці ўлезеш, як і сёння. А ў дарослым свеце без кампрамісаў абысціся немагчыма. Ты хоць ведаеш, што лёс твой зараз вісіць на валаску? Я не аддам цябе ім, можаш не сумнявацца, але...

– Что “але”?

– Але ты павінен мне ў гэтым дапамагчы. І, прабач, не кулакамі. Многае залежыць ад цябе самога. Не лезь на ражон, не перашкаджай мне зараз. І я зраблю ўсё акуратна, *па-даросламу* зраблю. Сам бачыш, Пагодзіна ловіць кожную магчымасць, каб ад цябе пазбавіцца.

– Что я ей такое сделал?

– Ты – нічога. Часткова – перастрахавацца хоча, а часткова – мне дапячы. Ты проста не ведаеш дарослых. Уяўляеш, што было б, каб яны даведаліся, як мы з табой зараз размаўляем?

– И никто ничего не знает? Даже Оксана?

– Аксана Валер’еўна... І яна не ведае таксама. Зусім нядаўна казала мне: “Віктар Фёдаравіч, вы ведаеце, што вас за вочы называюць Журналам?” Дзівачка! Мне было смешна...

– И мне смешно... Странные вы какие-то, учителя. Ну, почему ты даже Оксане не можешь рассказать такой пустяк?

– Разумееш?..

– “Разумею”. Вы, взрослые, все страшные лицемеры.

– А ты хіба не завеш мяне на ўроку Віктарам Фёдаравічам?

– Потому что ты так хочешь.

– А табе хіба не было б сорамна ляпаць мяне ў школе па плячы.

– Ничуть, стыдно, когда видно...

– Цынік ты.

– Хватит нам и одного ханжи... Слушай, Журнал, а почему ты не женишься? Завёл бы себе какую-нибудь Журн*а*лиху, а мы бы к вам приходили по вечерам.

– Навошта вы мне здаліся? Хапіла б і Журналіхі.

– Да ну, зачем тебе утруждать себя? Если уж такой лентяй, мы не прочь взять все хлопоты на себя...

– Здрасце! Цьфу, прыдурак! Каб яшчэ ты даймаў мяне сваімі выколамі.

– Я серьёзно, Журнал, почему ты не женишься? Ставлю вопрос ребром.

– М-да, ад цябе жартамі не адчэпішся. Ведаеш, Валодзя, ці не лепей табе запытацца ў Бога? Расказваюць, што ў кожнага чалавека ёсць свая планіда і свая гадзіна "ікс". І не абыдзеш, і не аб'едзеш. Вось і спытайся ў Бога, ці то я са сваёю планідаю размінуўся, а ці не дасягнуў свайго часу?

– Не расстраивайся, Журнал, смотри на вещи проще. Ведь ты наш друг... Тьфу ты, совсем запутался. Ты впрямь как Ленин – и вождь, и учитель, и друг, разве что не дедушка, но скоро будешь... Но ведь друг же, а мы ещё подростки, выходит, что мы с тобой ровесники, так что рано тебе ещё, Журналище, о свадьбе думать. Гуляй, пока молод.

– Дзякуй, што дазволіў. А ты, "пока молод", начысці мне бульбы і засмаж яе на алеі.

– Ну-ну, полегче! Это что, "дедовщина"? Научился там в своём стройбате... А что, если "не засмажу"?

– Тады я памру з голаду і не знайду часу пазаймацца з табою беларускай моваю. І мы ўсё жыццё так і будзем размаўляць з табой на розных мовах. Падабаецца табе такая перспектыва?

– "Якое жыццё, калі ты памрэш?"

– Брава! Біс! Ты робіш поспехі, my friend!

Пакуль Валодзька чысціць бульбу, спрабую навесці парадак у лянівай сваёй галаве і напісаць планы. Настаў час ад філасофскай дэмакратыі пераходзіць да дыктаруры канкрэтнае справы. Але галава не слухаецца, мозг пасылае не тыя імпульсы. І заміж таго, каб глядзець у сшытак, я любуюся, як увішна круціцца, аж падскоквае бульбіна ў спрытных Валодзькавых руках.

За той час, колькі мы сябруем, хлопец стаў неблагім кулінарам. Можа зварыць суп, кашу, лёгка зробіць наш любімы халасцяцкі торт, які, праўда, зусім не трэба пячы. Я нават не ведаю, з чым бы мой Валодзька не справіўся на кухні? Я кажу яму заўсёды, што сапраўдны мужчына павінен умець зварыць сабе есці. І не толькі сабе. І пры гэтым іранізую, што шлях да сэрца любімай жанчыны ляжыць праз яе страўнік. Смех смехам, а і сапраўды, кожны мужык, калі ён хоць крыху сябе паважае, не павінен выглядаць бездапаможным, у тым ліку і на кухні. Сам я вельмі люблю і ўмею гатаваць. Іншая справа, што не бывае часу, дый няма для каго старацца. А варыць есці для самога сябе нудна і нецікава. Помню, як я ўгаворваў Валодзьку ўпершыню паспрабаваць зварыць суп. Штосьці здарылася ў школе, і выйшла нявыкрутка. Каб не мой сябар, я мусіў бы застацца галодным. Серада на пачатку нават баяўся падыходзіць да грубкі: "Ты что, я не умею, у меня ничего не получится". Але ўсё ж згадзіўся, заняўся нязвыклаю, новаю для сябе справаю. А навізна інтрыгуе. Неўзабаве Валодзька захапіўся і перастаў

клясці сваю долю. Суп атрымаўся на славу. Праўда, неўзабаве ён загусцеў і зрабіўся кашаю. Да таго ж, апасля мне давялося грунтоўна папрацаваць над каструляю, якая прыгарэла. Але суп-каша быў сапраўды смачны. Мы зараз часта з Валодзькам успамінаем тую ўніверсальную страву і смяёмся: не святыя гаршкі абпальваюць, тым болей, каструлі... Так арыгінальна нас, бывала, кармілі ў войску, што даводзілася першае... змешваць з другім, атрымлівалася якраз тое, што можна было есці.

Мы з Валодзькам за час нашай дружбы розныя ўніверсітэты прайшлі... І зусім не адразу сталі з паўслова адзін аднаго разумець. Камусьці мо дзіўна, як гэта настаўнік з вучнем на "ты" і запанібрата? Валодзька таксама не адразу прывык, дый мяне даймалі згрызоты-сумненні – ці тое раблю, ці так? Але дружбу нашу праверыў час і абставіны. І смешна было б, каб мы сёння з Валодзькам звярталі ўвагу на ўмоўнасці. У школе – адно, там дыстанцыя патрэбна, а дома ёсць дома...

А сустрэліся мы з Валодзькам упершыню ў... маім палісадніку, неўзабаве пасля таго, як прыехаў ён з Украіны. Я казаў, што ў палісадніку маім заўсёды расце шмат кветак. Вось сыдзе снег, праветрыцца, абчарсцвее зямля, і выпаўзу зноў у свой кветнік. Там галава адпачывае, пакуль рукі працуюць. Толькі ў палісадніку можна часам схавацца ад жыццёвага бядламу, дый то не заўсёды. Дык вось, кветкі ў мяне ля хаты ад ранняе вясны да позняе восені цвітуць, змяняючыся па чарзе, як бы нясуць ганаровую варту. Прымулы, маргарыткі, цюльпаны, ружы, вяргіні, гладыёлусы, флёксы і нарэшце – маразы. Самы нешчаслівы лёс выпадае маім цюльпанам. У людзей яны разумныя, раннія, зацвітаюць акурат да Дня Перамогі, а перад апошнім школьным званком застаюцца ад іх адны песцікі ды тычынкі. Мае ж дурні – познія. У канцы траўня наліваюцца яны барвовым ды жоўтым сокам, нібы знарок каб падражніць выпускнікоў. А нашыя выпускнікі пра кветкі ўспамінаюць толькі тады, калі патрэбен букет – на апошні званок ці на экзамен. Нашы дзеці – прагматыкі. Для іх кветкі – тое самае, што для каровы сена. Словам, аніякага пачуцця эстэтыкі. Калі б яны сапраўды любілі кветкі, то рука не паднялася б так лёгка пусціць іх пад нож. Зрэшты, мы, настаўнікі, самі вінаватыя. Вунь Сяўніцкая сачыняе оды свінням, аднак, ля хаты сваёй ніколі нічога прыгажэй цыбуліны не вырошчвала. Кветкі ж есці не будзеш – вось і ўся логіка. Абыдзі ўсе Сматрычы, ці налічыш хаця з дзесяток палісаднікаў. Адкуль дзецям ведаць, што кветкі, хоць і не ядуць, але яны таксама багацце, багацце духоўнае, якое часта нашмат каштоўней цыбуліны. З каго ім браць прыклад?

Сустрэліся мы з Валодзькам у палісадніку. Выйшаў я позна ўвечары свежага паветра глынуць. Люблю непаўторныя травеньскія адвячоркі. Здаецца, не салаўі спяваюць, а душа... Абышоў вокал хаты, палюбаваўся агародчыкам. Шахматамі ўзышла цыбулька, кволенькімі, цененькімі радочкамі падняліся ўгору бурачкі, у парніку ваўсю ўжо набіраюць моцы кусцікі памідораў. У кожнае раслінкі – свой настрой, свае праблемы, свая жыццёвая прастора, свой лёс. Самая галоўная таямніца на зямлі – таямніца росту і жыцця. Не ведаю, як каму, а мне здаецца, што бачу, як растуць дрэвы і кветкі, расліны і жывёлы, я навучыўся радавацца і хваляваецца разам з імі. Калі раслінам добра – добра і мне. З агародчыкам пагаварыў, настраёвы іду па вуліцы – палюбавацца на цюльпаны. І раптам, матка найсвенша – нейкая нячыстая сіла прытаілася ў мяне на клумбе і не дыхае. Як я крычаў, мабыць, чула

ўся вёска. Недзе падумалі, што настаўнік ашалеў. А я... мне проста было так балюча, як балюча было маім кветкам, калі іх ірвалі жывадзёрам, калі іх рэзала садысцкая рука.

Пачвара мільганула, толькі яе і бачылі. Але было яшчэ не так цёмна, я паспеў разгледзець высокага спрытнага падлетка. Я ведаў, што такога ў нашай школе няма. А паколькі гарадскія ўнукі яшчэ не паспелі панаехаць, бо канікулы толькі пачыналіся, вылічыць чужога было не цяжка. А назаўтра, на апошняй лінейцы, мае кветкі падарылі Барытону яго легендарныя музыкі. І колькі пры гэтым было выліта کракадзілавых слёз, і колькі сказана прачулых слоў! Пасля лінейкі я павіншаваў Барытона са скрадзеным шчасцем, а заадно і з мілымі яго дзеткамі. Пачаліся разборкі...

У Барытонавых хлопчыкаў нават не хапіла рашучасці самім залезці да мяне ў палісад, і яны падгаварылі Валодзьку, чужога хлопца, якому, ведалі, нічога не будзе. А ў саміх жа наперадзе яшчэ былі экзамены. Валодзька толькі прыехаў у вёску. Вядома ж, яму як найхутчэй хацелася спадабацца мясцовым, увайсці да іх у давер. Вось ён і згадзіўся.

А пасля разборак у школе я ўпершыню нанёс візіт на Зарэчную вуліцу, дзе жыў новенькі. Вось калі я сутыкнуўся з сапраўдным класічным “цяжкім” падлеткам, пра якіх пішуць у педагагічных кніжках. Валодзька пантаваў, стараўся ненавідзець мяне, а насамрэч з дзіцячай цікавасцю разглядваў незнаёмага дарослага, да таго ж настаўніка. Ён рабіў выгляд, што яршысты і незалежны, але за тою пыхлівасцю была няўзброенаму воку бачна ад прыроды добрая душа. Адчувалася, што гэтага хлопца доўгі час пужалі дысцыплінаю, і таму ён так раўніва любіў свабоду. Дома ў іх я ўжо так, вядома, не крычаў, але паводзіў сябе даволі агрэсіўна і жорстка. Я стараўся праняць падлетка халодна-здзеклівым позіркам, імкнуўся пазіраць на яго з вышыні свайго ўзросту. Але па факце, мусіць, і я выглядаў не вельмі страшна. Адным словам, як ні дзіўна, але прыйшоў я туды лаяцца, а выйшла ўсё па-іншаму. Ува мне тады над уласнікам перамог настаўнік. А можа, проста пашкадаваў яго бабулю? Сама дабрыня, яна не ведала, куды дзецца ад сораму за свайго ўнука. Мне стала няёмка...

А потым... Потым мы яшчэ колькі разоў станавіліся з ім у дыбкі. Так заўсёды бывае, калі сутыкаюцца два моцныя характары. Але кожная канфрантацыя з ім была... прыемнай. Не дзіўна, што нашы канфлікты паступова перараслі ў спрэчкі, спрэчкі сталі дыскусіямі, а дыскусіям суджана было трансфармавацца ў інтэлектуальныя размовы, якія ўрэшце набылі характар змовы. І сталі мы змоўшчыкамі, аднадумцамі, сябрамі. Вось як бывае!..

Бульба ваўсю кіпіць. Я заканчваю правяраць сачыненні. Зараз наямося і пачнем урокі беларускай мовы. Адзінае, дзе ў нас з Валодзькам няма пакуль кансенсусу – мова...

Раптам у калідоры чую страшэнны грукат. Нехта ў поцемках, відаць, зачапіўся за вядро. Дзверы – насцеж. Мілкі – на парозе. Я такім яго яшчэ не бачыў. Чаравікі на босую нагу, шнуркі разбэрсаны, шапка чамусьці сціснута ў кулаку, хаця якая цяпер, вясною, можа быць шапка? Вочы вырачыў, твар увесь белы, як крэйда.

– Што за выгляд, Марат, што здарылася?

– Там... там... Буслік...

– Што?!

– Паве... павесіўся Буслік...

Бяжым. Цемра. Рана наваліўся змрок, не выбіраем дарогі, не адчуваем яе. І ўсё тое, што было дагэтуль, раптам перастала існаваць, знікла, рассеялася, як рассейваецца, як знікае пад промнямі паўдзённага сонца, з першымі парывамі ветру, беспрасветны, здрадлівы ранішні туман. Наперадзе нас не чакае нічога добрага...

* * *

...Хлопцы зніклі ў адно імгненне, нібы іх вымелі з класа. Але за школьнымі майстэрнямі, дзе іх не відно было з вокнаў школы, зноў сабраліся гуртам. Яны прывыклі хадзіць у школу разам, за гады вучобы, можна сказаць, адною сям'ёю сталі. Толькі Буслік сёння ішоў на некалькі крокаў уперадзе, быццам арыштант, да расстрэлу прыгавораны. Ішоў моўчкі, і з ім ніхто не размаўляў. Увогуле, хлопцы рабілі выгляд, што Бусла тут няма.

– Ни фига себе, заявочки! – бушаваў Пячэнне. – Опупели ментяры. Ни за что средь бела дня доклеились, еще и бандитом обзывают.

– Ды пры чым тут мянцяры? Не бачылі хіба, усё падстроена? Якія хітрыя, – разважаў Ахвяра, – і сынок, і мамачка заадно. І дырэктарку прыпуталі, і гэтага, тлустага, Круцеля-труфеля.

– Чакай, мальцы, а мо і праўда ён знарок да мяне палез? Хіба раней было такое, каб хіляк-Бусел да каго даклейваўся?

– Я і кажу, Мілкі, палез, бо ведаў, што Пячэнне не вытрымае. У іх з яго мамкай даўно на Валодзю зуб. Яны яго са школы хочуць выгнаць.

– За што?

– Філя іх ведае. Бачыш, як Пячэнне Навумаўну любіць. Хто каго любіць, той таго чубіць.

– Да ну, мне эта Буслиха не впёрлась. И она, и её выкормыш. Филя она пристала? Ну, правда, пацаны, сами же видели, как тогда в коридоре прямо со шваброй на меня набросилась. Я её только спросил, почему печка холодная, а она на меня как рявкнет. Если бы не успел швабру перахватить, ей-Богу, на голове сломала бы.

– Прыкінь, крычыць, разумныя ўсе. Вядома ж, не дэбілы, як яна і сынок яе. Камусьці ж трэба і разумным быць.

– Пачакай, Ахвяра, а можа, і Бусел тут не вінаваты? – разважаў Божанька. Цябе радакі хіба ні разу не падстаўлялі? Хто іх разбярэ, дарослых?

Хлопцы, занятыя сваімі развагамі, не заўважылі, як пры гэтых хловах затаіў дыханне Бусел, не адчулі, як часта забілася яго сэрца.

– Не вінаваты?! Чаго тады Бусел у Журнала прападаў, чаго шпіёніў? Помніш, летась... Хто наводчыкам быў на Журналаву хату ў п'яных Шэткаў?

– Шэткі і самі з вусамі, маглі і без наводчыка... Вунь яны да Журнала перад выпускным разы са два заходзілі, проста так. Між іншым, ты, Пячэнне, іх тады прывёў, бо адных іх Журнал і на парог не пусціў бы. А Пячэнне Журналу даспадобы.

– Счас и тебя, Жертва, урою!

– О, чулі, давай, Мілкі, ручку, буду заяву катаць у ментуру. Пагроза майму неацэннаму жыццю. А ты, Бог, у сведкі пойдзеш.

Хлопцы зарагаталі. Толькі Бусліку было не да смеху. Жаўлакі ў яго нервова хадзілі, твар зрабіўся бясколерным.

– А ты, Бусел, чаго маўчыш? Пойдзеш у сведкі? Пасодзім з табою Пячэнне? У цябе вопыт ёсць.

– Да не трогайте вы это дерьмо. А то завтра опять стуканёт, что избивали. чмо с ушами. У нас таких в колонии, знаете, не то, что трогать, смотреть на них считалось впадлу. У них отдельная миска была, ложка с дыркой, чтобы не перепутать. Спали они возле параши. Неприкасаемые.

І тут Буслік не вытрымаў, загаласіў на ўсю вуліцу і рынуўся наўцёкі.

– Дарэмна ты яго так, Пячэнне, – пашкадаваў хлопца Божанька, – мо і праўда не вінаваты?

– Ничё, пускай, для профилактики, будет думать следующий раз, что делает. Это ему уроком будет на всю жизнь.

– Урокам? А калі б цябе так?

Але Буслік гэтага не чуў. Бег ён безвач, не разбіраючы дарогі. У гэтыя хвіліны яму было ўсё роўна, куды, абы бегчы, абы ўцякаць. Ён нават уявіць сабе не мог, як заўтра пойдзе ў гэтую ненавісную школу, як зойдзе ў клас. Не, ён ніколі ўжо болей туды не вернецца. Навошта хадзіць у школу? Навошта жыць на свеце, калі ніхто, ніхто цябе не разумее? “Чаго ты маўчыш, Бусел?” А што ён скажа? Ён жа цяпер “неприкасаемый”. Усе хлопцы яго ненавідзяць люта і нават не лічаць за чалавека. Ён цяпер – чорная гніда, дробная мошка. Горш... І за што так можна ненавідзець чалавека? Даруюць забойцам, гвалтаўнікам, палітыкам, якія развязваюць генацыд..

А ён жа НЕ ВІНАВАТЫ. Матка падставіла. Матка яго заўсёды падстаўляе, бо яна таксама не лічыць яго, Віцьку, за чалавека. Галоўнае – не багацце. Ідыётка! Усю хату і хлявы – усё пазасцілала б дыванамі і пазастаўляла б крышталём.

Буслік не помніў, як дабег дахаты. Злы і адчайны, ён нават не стаў шукаць ключа. Падхапіўшы важкую жалязяку, з усяго размаху ўдарыў па замку – і прабой выскачыў. Не разбіраючы, што пад нагамі, ступаў хлопец у брудных чаравіках па матчыных паласах. Наводмаш кінуў школьную сумку, і тая ледзьве не пацэліла ў тэлевізар. У абутку зваліўся Бусел на чыстае, дарагое пакрывала. То быў яго неасэнсаваны, адчайны пратэст. Хлопец падабраў пад сябе падушку і заплакаў. Плакалася доўга і соладка. Буслік не хаваўся і не стрымліваў сваіх пачуццяў. Не было ад каго хавацца, не было каго саромецца. Ён плакаў, пакуль не заснуў...

...Ладзіліся да выпускнога. Барытон адразу даў зразумець свайму аркестру – свята для вас. Хочаце, рабіце банкет – як хочаце. Каб толькі ў школе пра гэта не ведалі. І яны рыхтаваліся да банкета. З’ездзілі ў горад, закупілі таго-сяго. Прывезлі “бухла”. На кожнага выходзіла па адной белай і па дзве “чарніла”. Яго, малога Бусла, не лічылі. То ж не яго было свята, дый шкодна дзецям многа піць. Няхай скажа дзякуй, што ўвогуле ўзялі яго на свой выпускны. Узялі за кампанію, бо граў разам з імі ў аркестры. Сабрацца вырашылі на хаце ў Шэткаў. Хата на ўскрайку вёскі, ледзьве не на выгане.

Шэткі – Раман і Віталь – браты-блізняты. Праўда, адзін на другога зусім не падобныя. Рамана як на дыбе хто выцягнуў: ростам пад метр дзевяноста, і фалангі пальцаў на руках ды нагах доўгія, як у мартышкі. Вока ў Рамана адно прымружанае, казалі, ад нараджэння, позірк яхідны і агідны. Заўсёды з ухмылачкай і з мухамі ў носе. Віталік працейшы і прамейшы, больш падобны да чалавека, як габарытамі, так і натурай. Можа, каб не было ў яго брата-авантурыста, рос бы нармальным чалавекам. Валасы ў Віталя бялюткія, як кудзеля, а вочы блакітныя і – халодныя. Ад людзей з блакітнымі ды халоднымі вачыма нічога добрага не чакай. Часам Віталіка

закліньвала, асабліва калі пракаўтне чарку-другую. Тады яго баяліся. Нехаця будзеш баяцца чалавека, для якога не існуе нічога святога. Калі ўжо біў каго Віталь, то біў па-зверску, напавал, не пакідаючы сваёй ахвяры аніякага шанцу. Раман жа, наадварот, бадай, ніколі не пускаў у ход кулакі. Ён любіў спадцішка нацкаваць брата, а сам пры гэтым заставаўся ўбаку.

Буслік не любіць абодвух Шэткаў. Але ж чым меней ты любіш чалавека, тым болей табе ад яго даводзіцца залежаць. Закон подласці. Днём яны апошні раз ігралі ў школьным аркестры, такія ўсе чыстыя, акуратныя – парадныя. Мілыя-нявінныя дзеткі-ягняткі. Настаўнікі любаваліся і цешыліся, асабліва Ала Міхайлаўна. А Барытон увогуле ззяў, як новая спражка ад салдацкае дзягі. А ў гэты час у Шэткаў падвыпіўшая маці – а яна заўсёды пад мухаю – ладзіла ім закусь на выпускны. Бусліка пакінулі тут на падхват. Калі нагледзеўся ён, як п’яная Шэтчыха замешвала гарошак ды залівала салату пад футрам, то ўжо есці, мусіць, не прымусілі б яго і пад руляй аўтамата. Рукі ў Шэтчыхі як на загнеце капціліся. Сукенка таксама, пэўна, у яе адна – і на ферме кароў даіць, і для школьнага выпускнога. Ён і не пайшоў бы на выпускны, як ведаў, як адчуваў... Ды куды дзенешся?

Сабраліся – яшчэ было відна. Чэрвень. Дзень доўгі. Спачатку пілі “чарніла” і, пакуль сцямнела, усё выпілі. За “чарнілам” гаварылі яшчэ к толку. Пра школу, праўда, не ўспаміналі, а згадвалі ўсе свае прыколы: куды ездзілі ды колькі пілі. Калі адкаркавалі беленькую, Барытон штурхануў тост:

– Хай здохне той, хто нас не любіць.

І пайшло, і паехала. Кожнага настаўніка па костачках перабралі-перамылі. Асабліва дасталося Журналу.

Барытон ужо ледзьве трымаўся на нагах, як раптам прапанаваў:

– А давайце напішам наша школьнае завяшчанне.

– О, точна, мы ім усім пакажам, дзе ракі зімуюць, бля буду, – злосна, азартна цадзіў праз зубы Віталь.

– Ты ім пакажаш? Не смяшы мой хвост, – яхіднічаў Раман. – Ды што ты ім зробіш, дурыла? Захацеў Квадратны і паставіў табе трояк па беларускай. Куды ты зараз са сваім атэстатам? Клазеты чысціць?

– Мне – по цэнтру...

– “Врагу не сдаётся наш гордый “Варяг”...” – зацягнуў раптам Барытон. – Эй, хлопцы, не вешайце носа! Мы ім яшчэ пакажам, як камар козы пасе. “Налейте бокалы, поручик Голицын! Корнет Оболенский, надеть ордена!..”

Налілі. Выпілі. Настрой адразу ж падняўся, храбрымі сталі нават тыя, хто дагэтуль яшчэ сумняваўся. Апошнія сумненні, як пацукі, разбягаліся з іхняга карабля. І ўсе цвёрда вырашылі – пісаць!..

Пісарам абралі Бусліка. Ён быў тут самым цвярозым дый самым малодшым. Малодшаму не пазайздросціш... З краю стала прыбралі гарэлку і талеркі з салатамі, пасадзілі на зэдлічак. Доўга не маглі знайсці ручкі, і Буслік спадзяваўся, што не знойдуць, радаваўся, бо так не хацелася пісаць гэтую дурноту. Чаму яго зрабілі крайнім? Хіба ён выпускнік? А калі што якое – яму яшчэ вучыцца ў школе, могуць пазнаць па почырку.

Ручку знайшлі – скалечаную. Стрыжань надтачылі запалкам, уручылі Бусліку.

– Пішы... Толькі не сваім почыркам, – даўмеўся п’яны Барытон, – а калі-гра-фічным. Друкуй літары... Пішы: мы, выпускнікі... пакідаючы родныя пенаты, настойваем, каб наша воля была выслухана і даведзена да калектыву...

Барытон лыка не вязаў. Словы ён выплёўваў з рота разам з недажаванаю капустаю. Было агідна слухаць, а яшчэ агідней было запісваць, але Буслік цярпеў. Што было рабіць?

– Так, хлопцы, – увайшоў у азарт Барытон, – што каму пажадаем? Ва-аша, ёрк, ва-аша воля... Дырэктару школы – больш прынцыповасці і ...на месца паставіць некаторых зарваўшыхся настаўнікаў. Трэба быць на-а-а-чальнікам.

– Дырэктара выбіраць трэба, – зараўлі такія ж п’яныя, як і ён, выпускнікі.

– Правільна, дырэктара трэба выбіраць... Так і запішам: выбіраць дырэктара дэмакратычным спосабам... А завуч... – Барытон на хвіліну замаўчаў і ледзьве не заснуў, бо нос яго адразу ж паспяшаўся ў талерку з капустаю. Пасля сутыкнення з талеркаю нос апрытомнеў, пабудзіў гаспадара, і той глыбакадумна працягваў, – завуч няхай едзе назад у горад.

Прыйшла чарга расфасоўваць шараговых настаўнікаў. Для пэўнасці выпілі яшчэ па адной і адразу ж узяліся за Квадратнага.

– Якія будуць прапановы? – дыпламатычна запытаўся Барытон, голас яго, аднак, усё болей асядаў на мелкаводдзі, хрыпеў і быў не падобным да сябе.

– Журнала? – азверыўся Раман. – Журнала забіць мала. Ён мне траяк у атэстат уляпіў.

– Бываюць жа чмошнікі! – падтрымаў брат. – Прымусіць бы яго з’есці гэту тройку разам з атэстатам.

– Карацей, я так зразумеў, сокалы мае ясныя. Гнаць трэба Журнала... э... Фёдаравіча са школы паганаю мятлою. Пішы, пішы, не бойся, – падахвоціў Барытон. – Квадратнага – выгнаць са школы.

Буслік не сказаць каб баяўся: што міру, тое і бабінаму сыну, а проста яму было агідна глядзець на п’яныя, прамасленыя морды, больш таго, слухацца і падпарадкоўвацца людзям, якіх ён не толькі перастаў паважаць, але і ўзненавідзеў. Што рабіць, у жыцці часта даводзіцца прыніжацца, выслухоўваць розных маразматыкаў і згодна ківаць ім, толькі таму, што яны пастаўлены над табою, а табе таксама трэба жыць, паміраць не хочацца. Прымушаеш сябе прывыкнуць і прывыкаеш. Не, не прывыкаеш, проста, глыбока затаіўшыся, церпіш-трываеш, чакаеш перамен і вельмі спадзяешся на іх. А перамены да лепшага ўсё не прыходзяць... Лёс...

Астатніх настаўнікаў пашкадавалі. Нікога больш са школы не выгналі, толькі Аксану Валер’еўну рашуча папярэдзілі. А некаторым нават падзяку аб’явілі. Асабліва ўславілі Бабу і... Барытона – за вялікі ўклад у справу выхавання падрастаючага пакалення. Сябе ён-такі не забыў. Такія людзі ад сціпласці не паміраюць, дый ці паміраюць яны ўвогуле?.. Хутчэй Кашчэй Бяссмертны здохне...

Сачыніўшы петыцыю, пачалі думаць, што з ёю рабіць?

– Давайце закаркуем у бутэльку і пусцім па рэчцы, няхай плыве, – прапанаваў Віталь. – Нехта праз колькі гадоў, можа, зловіць і прачытае.

– Дурыла ты, – перадражніў Раман, – зловіць і прачытае. Каму твая бутэлька патрэбная? Ракі яе будуць чытаць.

– Правільна, Раман, трэба, каб ужо заўтра ведалі ў школе думку сваіх выпускнікоў.

– А давайце падкінем Журналу да брамы. Заўтра ён са злосці здохне, – зарагаталі Шэткі.

Так і пастанавілі. Паперу паклалі ў бутэльку, папарэдне разліўшы з яе ўсю “Радасць” па чарках. І, радасныя, сабраліся падкінуць бутэльку Журналу. Напачатку хацелі даручыць гэтую адказную справу Бусліку, але перадумалі.

– Яшчэ засцыць дый выкіне куды ў канаву, хлюпік саплівы, – злосна сплюнуў Раман, – сам пайду.

І пайшоў... Пад раніцу ўсе астатнія, набраўшыся, храплі, як на вакзале, дзе каго заваліў, адужаў сон. Буслік да гэтага часу непрыкметна ўцёк. А Рамана хмель чамусьці не браў. Разбірала злосць, колькі ні заліваў яе "радасцю", на душы весялей не станавілася. Злосць забірала на ўвесь белы свет. Асабліва ненавідзеў Журнала. Ці толькі за тое, што той уляпіў яму траяк? Квадратнага ён ненавідзеў даўно. Тоўсты, нязграбны – дзіва што Квадратны, Віктар Фёдаравіч раздражняў сваёй упартасцю і непахіснасцю, і не толькі яго, Рамана. Гэты Журнал ці то здзяцінеў, а ці ў яго не ўсе дома? Выпендрываецца, хоча паказаць сябе вялікім псіхолагам. Ён кожнаму падлетку гатоў падаць лапу, з кожным – на роўных. Так не бывае! Дзе вы бачылі, каб дарослыя былі на роўных з дзецьмі? Прыкідваецца сваім, простым, як трохкапеечны аловак. Заігрывае з дзецьмі гэты мярзотны тып, думае, што ўсе лохі і на дурных натрапіў. Выклікае хлапцоў на шчырасць, цягне іх за язык, а сам, можа, на кожнага папачку завёў? І ён яшчэ прыпомніць хлопцам, вось убачыце. Коўзкі, баязлівы, занудлівы. Не верыцца Раману, што такі чалавек, як Журнал, можа шчыра жадаць камусьці дабра. А зрэшты, чаму ён, Раман, павінен за кагосьці хваляваца і перажываць? Хопіць перажыванняў за сябе самога. Пісьменнікі-прыдуркі сачыняюць вобразы розных лохаў, якія быццам бы за другога гатовы ахвяраваць жыццём. І Журнал на ўроках тую самую ахінею нясе, сам, мабыць, не верыць, што такое бывае. Карчагінцы знайшліся... Як можна клапаціцца пра іншага, тым болей ахвяраваць жыццём? Калі сам ты на гэтым свеце за мокрую анучу жывеш. І апошнім, што ў цябе ёсць, ахвяраваць? Ну, яшчэ зразумела, калі ты рызыкуеш, ставячы на карту апошняе – альбо са шчытом, альбо на шчыце. Тут нават і смерць апраўдана. Навошта жыць бездапаможным старцам? Неба капціць? Астроўскі правільна сказаў: "Жыццё даецца чалавеку адзін раз, і пражыць яго трэба так, каб не было пакутліва балюча за марна пражытыя гады..." Гуляй, пакуль малады, хлопчык. Гарэлка, бабы, "бабло" – мора "бабла". Што яшчэ трэба? А дружба і самаахвярнасць няхай дастаюцца такім ідыётам, як Квадратны. Якая можа быць дружба без выгады?

Барытон – іншая справа. Гэтага мужыка ён, Раман, разумее. Чалавек на пенсіі ў сорак пяць, адстаўнічок, ціха-мірна будуе сабе катэдж за горадам. Нікому не перашкаджае. Як будуе, дзе бярэ грошы – яго справа. Вядома, не з пенсіі, і не ў школе ён тыя грошы зарабляе. А зрэшты, чаму б і не ў школе? З'ездзіў з аркестрам у Германію – сувязі наладзіў. Пакуль дзеткі дудзелі ў трубу, Барытон не спаў у шапку, назад з Германіі тачку сабе прыгнаў, патрыманую, але крутую. Гэтую прадаў – па другую паехаў. Тачкі мяняе, як шкарпэткі – вось табе і грошы на катэдж. Круціцца чалавек, умее жыць.

Думаеце, яму аркестр патрэбен, школьны прэстыж? Ды ў труне ён бачыў той прэстыж і ахвотна сыграў бы па школе пахавальны марш, каб добра заплацілі. Умеюць людзі выбіраць сабе сяброў, і правільна робяць. У прынцыпе, Барытон – нармальны мужык. Хоць ён і не паважае, і не любіць іх, трубачоў. Ён іх проста выкарыстоўвае. Ён, Раман, вырасце і таксама кагосьці будзе выкарыстоўваць. Так і трэба жыць.

Вось толькі хутчэй, хутчэй бы вырасці. Не па кайфу, калі ў жыцці дыктуеш не ты, а табе дыктуюць. Ён у свае чатырнаццаць з "хвосцікам" паспеў ужо многае ўзяць ад жыцця: гарэлка, дзяўчынкі і нават грошы для яго ўжо

не навіна. Грошы, праўда, ён сам пакуль не зарабляе. Але не праблема! “Бабла” поўна ў іншых, няхай падзеляцца! І трэба толькі ўмець яго браць. Брат здзіўляецца, хлопцы смяюцца: ты цяпер ужо ходзіш па бабах, што ты будзеш рабіць у дваццаць гадоў? А тое ж самае, калі, вядома, дажыве. Як там у таго ж Астроўскага: “І трэба спяшацца жыць, бо каварная хвароба ці бязглуздая выпадковасць...” Хто дасць гарантыю, што яму будзе некалі дваццаць, трыццаць, сорак? А калі будзе, ён, не бойцеся, знойдзе сабе занятак па ўзросту. Ва ўсякім разе, як Журнал, смаркачам насы выціраць не стане.

Брат таксама крыху дзівак. Яго лёгка можна выкарыстоўваць. Мяккі ён, дабрадушны, хаця і адчайны. З братам смела можна ісці на справу. Адданы – як сабака! Адно ў вочы пазірае. Братам, калі што, можна і прыкрыцца. Мо падрасце-паразумнее. Не, Віталіка ён, Раман, любіць. Любіць як блізкага чалавека. І ён, вядома, пайшоў бы абараняць брата кулакамі, але падставіць дзеля яго сваю галаву – такога не будзе ніколі. Галава яму самому патрэбна. На гэтым свеце, дзе ўсе цябе ненавідзяць і ты сам за сябе, на гэтым свеце без галавы прападзеш.

Кароткая чэрвеньская ноч заканчвалася. За вокнамі вось-вось пачне шарэць. Трэба спяшацца, інакш могуць сустрэцца выпадковыя сведкі, даяркі зараз рана ідуць на працу. Ды ці мала хто ў вёсцы летам гуляе на досвітку!

Усе паснулі. Нікому зноў няма справы да бутэлькі з завяшчаннем. Трэба ісці. Не пойдзеш ты, ніхто за цябе гэтага не зробіць.

І Раман пайшоў. Асцярожна, азіраючыся, як злодзей, туліўся ён да платоў, дзе прыгінаўся, а дзе і прысядаў, бо занадта высокі рост мог лёгка выдаць яго. Ратаваў туман, калючы, не па-чэрвеньску халодны, затое шчыльны, надзейны, ахутаў раптам пад раніцу вёску, пакінуўшы ад хат толькі стрэхі ды коміны. Нізка над зямлёю гуляў па вуліцы туман-падлетак, лазіў па агародах, лёгка пераскокваючы праз платы. Раман таксама лёгка ўмеў пераадольваць любы, самы высокі плот. Налаўчыўся, калі лазіў па клубніцы. Ягады ён мог выбраць з градкі і ў поцемках. О, якое задавальненне – смакаваць ягады цёмначы на чужым агародзе! Азартнае, незямное задавальненне. Салодкія, сакаўныя клубніцы так і просяцца ў рот, апетытна патрэскваюць на зубах.

Пад покрывам туману лёгка ўдалося хлопцу незаўважаным пераадолець паўвёскі, хоць ужо й пачало віднецца. А вось і хата, дзе жыве Квадратны. Яго славутая шыкоўная брама, размаляваная на розны лад, якую не даходзяць рукі паламаць.

– За брамаю – як за каменнаю сцяною, тваю маць, – нечакана ўголас вылаяўся Раман, ухмыльнуўся. – Бач, размаляваў, як у пеўня хвост.

Хлопец дастаў бутэльку з-за пазухі, акуратна, каб не разбілася, паставіў ля брамы. Хацеў ісці, але звычайная дзіцячая дапытлівасць затрымала яго яшчэ на хвілінку. Як было не пацікавіцца, што за тою высокаю брамаю? “Сцяна то каменная, – падумаў Раман, – ды мы і не такія крэпасці бралі”. Ён спрытна, як малпа, падцягнуўся на руках, асцярожна зазірнуў у дворык. Убачыў на дзвярах замок і тут жа спрактыкаваным, бадай, прафесійным, вокам заўважыў адкрытую фортачку, завешаную адчэпнага марляю. Лёгкія дрыжыкі прабеглі па целе, паявіўся азарт. Рашэнне прыняў імгненна. Хвіліна – і ён ужо ў двары. Высокія брамы – ад добрых людзей ахова. Марля была на чэсным слове прыбітая штапікамі. Нажом можна было акуратна штапікі прыпадняць, але не было часу корпацца. Хто ведае, куды сышоў гаспадар, мо зараз прыйдзе. Не было часу, Раман з усяе сілы ірвануў мар-

лю, прасунуў руку, адшчапіў шпінгалет. Акно расчынілася, астатняе было справай тэхнікі. Хлопец аберуч ухапіўся за вушакі, падцягнуўся і ў адно імгненне апынуўся ў хаце.

Святла ён не запальваў – небяспечна. Дый не канешне было запальваць святло. Ён пару разоў заходзіў у гэтую хату з Пячэннем. Гэтага было дастаткова. Ён усё тут ведае. Запомніў нават, дзе што ляжыць. За акном, налева, была спальня, за ложкам, ля печы, ён бачыў дыпламат. Цікава, навошта было дыпламат хаваць ад староннягa вока за ложак? Напэўна, не проста так. Трыма вялікімі скачкамі, як леапард, дасягнуў ён печы, схапіў, адкрыў дыпламат і – о, удача! Там было "бухло". Прыемна пазвольвалі бутэлькі з гарэлкаю, той звон пасля цяжкое застольнае ночы бальзамам ліўся на душу. Заўтра з "цёлкамі" будзе новы баль! Асцярожна закрыў дыпламат, спачатку хацеў яшчэ і грошы пашукаць, але перадумаў. Каб сквапнасць фраера не загубіла. Не трэба лішні раз выпрабоўваць лёс, раптам за двума зайцамі пагонішся...

Здрадлівы чэрвеньскі туман па-ранейшаму надзейна хаваў напаўсагнутую постаць падлетка, які цішком, агародамі прабіраўся за вёску, да возера. Падлетак уцякаў ад самога сябе...

* * *

Гэткі ж самы туман. Такая ж самая беспрасветная цемра на вуліцы – і на душы. Божа! Чаму мне так не шанцуе на туманы?! Бы хто з неба падае нядобры знак. Знак бяды...

Што будзе? Што будзе! Бусліка павезлі ў горад, выняўшы з пятлі. Дзеці сядзяць панішчаныя. Асабліва перажывае Валодзя. Гэта ж ён, атрымліваецца, ва ўсім вінаваты. Без віны вінаваты. Каб ведаць... Хлопец не можа знайсці сабе апраўдання. Сядзім ля тэлефона і кожную хвіліну чакаем званка. Суцяшаю хлопцаў, як магу, як умею. Але хто суцешыць мяне самога? Толькі б Валодзя вытрымаў... Божа, дапамажы! Бедны, бедны мой сябар. Зноў усе шышкі падаюць на яго галаву. Зноў, ужо каторы раз, яму пагражае няволя. За што? Якая злая планіда навісла над гэтым чалавекам?

Туман... Туман... Здрадлівы, як лёс падлетка, каварны, як само жыццё...

...Той раз таксама падазрэнне ўпала на Валодзю. І, што самае страшнае, я ледзьве сам не пасадзіў яго за краты.

Вярнуўшыся з Мінска, куды ездзіў па справах, я ўбачыў ля свае брамы найцікавейшы дакумент стагоддзя, схаваны ў радаснай бутэльцы. Як мала трэба Барытону для паветранага палёту фантазіі, усяго 0,7 літра. Было вельмі займальна чытаць літаратурныя перлы яшчэ не старога маразматыка, увекавечаныя непаўторным Буслікавым почыркам. Гэты почырк я пазнаў бы нават на папірусе ў старажытным Рыме. Зусім забыўшыся пра сваю важкую гаспадарчую сумку, якая адарвала рукі, пакуль вёз з Мінска прадукты, я так захапіўся пацешным дакументам з бутэлькі, як бы адтуль выпусцілі джына. Чым далей чытаў, тым мацней рагатаў. Нарэшце хацеў бегчы да Аксаны, вельмі карцела паказаць, ды вырашыў спачатку пакінуць дома сумку. Зайшоў у двор і вельмі здзівіўся: марлечка, сарваная з маёй фортачкі, ляжала пад акном. Саграшыў быў на вецер, які, прагнаўшы начны туман, сваволіў у мяне на двары, але хутка зразумеў, што вецер я вінавачу дарэмна...

У хаце я не знайшоў свайго карміцельца-дыпламата, без якога мне, вясковаму інтэлігенту, ні агарода заараць, ні дроў насекчы.

Што было рабіць? Хто мог узяць гарэлку, не кранууўшы ў хаце болей нічога, нават грошы? Той, пэўна, хто хацеў мне дапячы і ведаў у маёй хаце ўсё да драбніц. Тут яўна без сваіх не абышлося. Раптам мяне хапіла злосць. Дасталі! Стараешся, дагаджаеш, ратуеш іх, сябе не шкадуючы, падаеш руку ў цяжкую хвіліну. І вось табе – падзяка, адплата за тваю дабрыню. Нікуды не варты з цябе, аказваецца, педагог.

Педагог з мяне і сапраўды неважнецкі, бо, не здолеўшы стрымаць сваю злосць і крыўду, я тут жа пабег да тэлефона і набраў “02”. А што, Журнал, хіба не кралі ў Макаранкі? Кралі, але ж ён ніколі не шукаў паратунку ў міліцыі. Думаеш, яму было не крыўдна, калі кралі свае – тыя хлопцы, выхаванню якіх ён прысвяціў жыццё? Макаранка – вялікі педагог. Але ж яму было лягчэй, бо ў яго быў савет камандзіраў, якога злодзей баяўся куды болей, чым міліцыянераў. Быў савет камандзіраў. А хто табе, Журнал, не даваў стварыць штосьці падобнае? Вось бы і не стаяў зараз, як лох, ля тэлефона. І не набіраў бы абсалютна бессэнсоўнае для педагога спалучэнне лічбаў – “02”. Ты – не Макаранка. Не таго палёту птушка. Дык дзе ж выйсце? Сапраўды, не бегчы ж ззаду за сваімі падлеткамі: “Вярніце мне, хлопцы, мой дыпламат, я вам за гэта бутэльку пастаўлю”.

Толькі пазваніў у міліцыю, як Валодзя прыйшоў.

– Сядзі, – кажу, – тут, пільнуй хату, у мяне ўкралі гарэлку, зараз міліцыя пад’едзе. Мне трэба да Аксаны Валер’еўны збегаць.

Спакойна так кажу, бы да мяне міліцыя кожны дзень прыязджае. І нават у думках у мяне не было западозрыць Валодзю.

А ён змікіціў адразу, што і да чаго:

– Что вы, Виктор Фёдорович, – ён тады яшчэ мяне на “вы” называў, – я же не идиот. Вас обокрали, а я буду сидеть и ждать, пока меня повяжут?

– Куды павяжуць, – не зразумеў я, узлаваўся нават, – ты што чаўпеш! Хіба ты ў мяне гарэлку краў? Ніхто цябе не кране, пакуль я гаспадар у гэтай хаце.

Ледзьве ўгаварыў яго застацца.

Аднак я памыляўся. Ён, падлетак, ведаў жыццё лепей, чым я, дарослы ідыёт. Нашая доблесная міліцыя адразу ж ухапілася за Валодзю, як тапелец за саломінку, і колькі я ні лямантаваў, колькі ні грукаў кулаком па стале, ад гэтага свайго падазрэння яна ўпарта не хацела адмаўляцца, аж пакуль дактыласкапія не выратавала хлопца.

Яго, як, зрэшты, і ўсіх падлеткаў, хто бываў у мяне дома, цягалі па адным у школу на дазнанне, пагражалі, нават шантажавалі. Валодзю прыгадалі ўсе яго колішнія грахі і палохалі турмою. Пасля ён мне пра ўсё расказаў, а тады я нічога не ведаў. А каб ведаў, што рабіў бы? Кінуўся б на міліцыю з кулакамі? Напэўна, пінкертоны так бы і не знайшлі майго дыпламата, хаця дапытвалі ўсіх, і Шэткаў таксама. Усё дарэмна, каб не эксперт-крыміналіст. Той аблазіў з лінейкаю ды вымазаў сажаю ўвесь мой падаконнік і аконную каробку. А потым ва ўсіх нас “адкаталі пальчыкі”. І на бутэльцы, што ляжала пад брамаю, сёе-тое таксама агледзелі... Тут Раман пралічыўся... А затым я напісаў заяву...

І вечарам у Шэткаў не вытрымалі нервы. Парламенцёрам заявіўся да мяне Віталь, нерашуча таптаўся па двары, пакуль адважыўся зайсці ў хату.

– Віктар Фёдаравіч, размова ёсць.

– Слухаю, Віталь.

– Трэба... трэба забраць заяву з міліцыі.

– Не зразумеў!..

– Ну, а калі я вярну вам гарэлку?

Я паціснуў плячыма:

– Зрабі ласку, вярні... Аднак усё роўна не зразумеў, няўжо гарэлку ўкраў у мяне ты? Ты ж, Віталік, мухі не пакрыўдзіш.

Ён толькі вінавата ўсміхнуўся. А потым знік і хутка вярнуўся з дыпламатам, у якім не хапала аднае бутэлькі.

– Выпілі, – растлумачыў хлопец.

– Добра, але... але скажы, Віталік, што гэта зрабіў не ты. Бо я ўсё роўна не веру.

Я і сапраўды не верыў. Я ўжо здагадваўся, хто сапраўдны злодзей, больш таго, бадай што быў упэўнены.

– Дыпламат узяў я...

– А дзе доказы? Раскажы хаця, як ты гэта зрабіў?

Віталь пачаў расказваць, ды з такімі падрабязнасцямі, што не паверыць было немагчыма, і я засумняваўся. І ўсё ж не хацелася верыць...

Я і зараз думаю, навошта было Віталіку браць на сябе віну? Навошта было ахвяраваць сабою, класці на плаху сваю галаву, каб выгарадзіць брата? Чалавек – загадка.

А яшчэ мяне непрыемна ўразілі вяскоўцы. Назаўтра вёска гула! Здавалася, пра існаванне майго праклятага дыпламата ведаў кожны вясковы сабака. Было такое адчуванне, што мая хата стала празрыстаю, нібы акварыум. Вельмі прыкрае адчуванне. Хата – нібы канцэртная зала, у ёй гэтулькі гледачоў, і ўсе смяюцца... За няшчырымі словамі спачування я пазнаваў у вачах сваіх вяскоўцаў (на шчасце, не ўсіх) столькі непрыхаванай зласлівасці, што на душы стала агідна. Я чытаў у людскіх спачуваннях зусім іншы падтэкст: “Так табе і трэба. Звязаўся з бандытамі, вось і абакралі”...

...Дзеці мае сядзяць як папечаныя. А я хіба лепшы? Загуляліся. І дагуляліся. Буслік – у рэанімацыі. Падумаць толькі, хлопца дасталі з пятлі, адкачалі. Ці хоць выжыве?.. Жыццё яго вісіць на валаску, а мы... Каб Навумаўна спазнілася дадому на якую хвіліну, каб не схапіла нож ды не перарэзала вяроўку... А магла ж і не прыйсці. Пакуль бы абмеркавалі свае авантурныя планы з Круцелем ды Пагодзінай, Віцька... Божа мой! Ды пра што я? Якія авантуры, якая вайна? Хлопец адною нагою на тым свеце, маці вунь вар’яцее, а я... Гэта я ва ўсім вінаваты. Разыгралі камедыю, а я не спяшаўся яе спыняць, вытрымліваў паўзу. Здзекліва-зласліва, як дзіця малое, любаваўся тым спектаклем і сваёю роляю ў ім. Я павінен быў прадбачыць трагічны фінал. Мае дзеці “адрываліся” на Бусліку, па-свойму, па-падлеткаваму жорстка, а я не спыніў своечасова іх маральны садызм, хаця мог. Ты што, Журнал, забыўся, якія жорсткія, якія бесчалавечныя падлеткі, калі яны кагосьці “пракідваюць”? Ты забыўся, як цябе самога “пракінулі” і хацелі растаптаць, змяшаць з зямлёю... Ты, дарослы чалавек, ведаючы, што ў любую хвіліну можаш выйсці з гульні і перастаць ведацца з тымі сaплякамі і іхнімі саплівымі законамі, і то адчуваў сябе не ў сваёй талерцы, перажываў, калі табе Шэткі са сваёю шоблаю байкот аб’явілі. А што ж Буслік? Дзіця. Хіба ён можа вытрымаць, адзін супраць усіх? Выйсце знайшоў – у пятлю праўду шукаць палез. Затое, што ніхто, ні дзеці, ні дарослыя, не зразумелі яго. Класным кіраўніком называешся. Псіхолагам неблагім сябе лічыш, тонкім

знаўцам падлеткавай натуры. Цябе не тое што да дзяцей, да мядзведзяў блізка падпускаць нельга. Правільна – Навумаўна вінавата, і вы з ёю на нажах. Але ж пры чым тут Буслік? Трэба ж быць такім бесчалавечным, каб за крыўдаю забыцца падаць руку дапамогі падлетку, які яшчэ верыць табе і просіць-моліць гэтай самай дапамогі...

– Ды не рвіце вы сэрца сабе, Віктар Фёдаравіч. Хто ж думаў, што ўсё так скончыцца? А калі хто і вінаваты, дык толькі не вы...

– Маўчы, Марат, не вярэдзь душу. Звяры, дакладна, не пакінулі б свайго параненага суродзіча. А мы з вамі, людзі, аказаліся горш за драпежнікаў.

Хлопцы апусцілі галовы, апанурыліся, слухаюць і па-свойму, па-дзіцячаму перажываюць. Мы зноў сядзім у маёй хаце, дзеці не спяшаюцца разыходзіцца, хаця ўжо за поўнач, заўтра ў школу, рана падымацца, страўнік пусты, ды і бульбіна ў рот зараз не палезе. Пра яду ніхто нават не ўспамінае. Заміж заўсёднай жывой ды гарэзлівай тусоўкі, калі хадуном ходзіць уся хата – хлопцы, звычайна, то барукаюцца, то прыколы расказваюць, то проста ходзяць на галовах, і Журнал толькі паспявае гыркаць на іх, як на звяроў. Асцярожна: люстра, акно, тэлевізар – заміж заўсёднага гармідару сёння во паніхіда. Усе смірныя, ціхія, панурыя, не падобныя да саміх сябе. Мае юныя пятнаццацігадовыя філосафы і "садысты" – перажываюць. Здаецца, да іх і сапраўды пачынае даходзіць уся бесчалавечнасць нашага сённяшняга ўчынку. А можа, у іх наступае сталасць?

– Віктар Фёдаравіч, але ж гэта не вы і не мы заварылі ўсю кашу. Ну, расквасіў Пячэнне Бусліку нос, і што з таго? Хіба ўпершыню б'емся?..

– Якая, Серафім, розніца, хто заварыў, хто каго любіць і ненавідзіць? Мы, хлопцы, павінны быць вышэй таго заўсёднага бруду. Лепей бы падумалі пра Віцю, за што вы яго так...

– Бо ён стукач.

– Няпраўда, і вы гэта добра ведаеце...

– Ты прав, Журнал... ой, извините, Виктор Фёдорович, вырвалось.

– Ды ладна, – замучана ўсміхнуліся хлопцы, – хопіць вам у хованкі гуляць, як быццам мы не ведаем, што вы карыфаны.

Валодзька зірнуў на мяне, таксама збянтэжыўся, бо не ведаў, як я пастаўлюся. Ён як бы пытаўся ў мяне, што яму рабіць, як сябе паводзіць. І я мусіў таксама выдавіць усмешку, хоць у іншым выпадку і пры іншых абставінах мог бы і трагікамедыю разыграць. Дзіўныя мы ўсё ж людзі, настаўнікі. Абставілі сябе ўмоўнасцямі, быццам і сапраўды не маем права на асабістае жыццё. Планы сабе склалі на ўсё жыццё наперад і па гэтых планах жывем: крок убок – расстрэл. Але ж і мы таксама жывыя людзі...

– Вы... ты... – пыкаў-мыкаў Пячэнне. – Журнал правду говорит. Бусел бывает язвой, иногда лжет, а мы разве никогда не лжём? Но не стучал он никогда. Помните, о Баритоновых делишках от кого мы узнавали? Разве от Бусла? Да Шетки же сами по всей деревне и хвастались. А Бусел молчал. Вот и сейчас, думаете, Наумовна дома никогда нам всем костей не перемывала? А Бусел глух и нем, будто ничего не знает. Он хочет с нами тусоваться, а мы ему – пинком под зад. Любой бы в петлю полез. Зря мы с ним так вчера... Да и Наумовне хватило, и так сполна наказана. Врагу не пожелаешь...Так что, пацаны, харе злорадствовать. Мы взрослых пожалеть должны. Баритон, Аллочка, ведь это же несчастные люди, алчные, желчные, в чём-то ограниченные.

– Ну, вось што, неабмежавана шчаслівыя і разумныя, – не вытрымаў я, – пашкадаваць вы павінны мае вушы. Альбо мне выйсці, пакуль вы правядзеце свой педсавет?

– Ды што вы, Віктар Фёдаравіч, заставайцеся, вы нам не перашкаджаеце.

– І на тым дзякуй, Серафім.

– Жертва, ещё раз ляпнешь в таком духе, и вешаться следующим будешь ты, не захочешь – поможем.

– Не трэба, Валодзя, так... жартаваць...

– Извините... извини, Журнал!

– У такім разе, калі вы, хлопцы, пакінулі мяне на сваім педсавеце, прашу слова, – пайшоў я ў наступ, стараючыся не заўважаць іхніх з’едлівых рэплік. – Ведаю, вы не любіце, калі вам дарослыя чытаюць маралі. А хто іх любіць? Але ж давайце быць больш сур’ёзнымі. Каб сапраўды не выпрабоўваць Боскага цярпення. Мы ўсе вінаватыя. Запомніце. Мы павінны гэта зразумець. Але нам яшчэ дадзены шанец выправіць сваю віну. Адным словам, мы ўсе павінны змяніць сваё стаўленне да Бусліка, павініцца перад ім. Калі толькі ён захоча дараваць нам, калі зможа. Я на яго месцы не ведаю, ці дараваў бы... Забудзем крыўды, забудзем недарэчнасці: хто каму набіў гуз, хто першы сказаў крыўднае слова. Дый не столькі прабачэнне наша яму зараз патрэбна, колькі прызнанне, падтрымка. Хочацца каму ці не, падабаецца ці не вельмі, але Буслік павінен быць з намі не толькі ў адным класе, але і ў адной тусоўцы. Зразумелі?

Хлопцы згодна лапкавалі галовамі і на гэты раз не пярэчылі.

– А зараз – усе па хатах. І ў школу не спазняйцеся. Хопіць, мы ўжо і так вызначыліся.

Я зачыніў за сваімі дзевяцікласнікамі дзверы, па прывычцы зашчапіў іх на кручок. Так спакайней, хаця... Хаця каго баяцца? Нікога я не баюся... Зрэшты, і гэты вось кручок, нібы талісман, часам ахоўвае. Жарты жартамі, а ён ахаваў мяне аднойчы ад п’яных Шэткаў, якія прыйшлі былі на разборкі. Колькі ж бруду, лаянкі, нянавісці вылілі яны ў тую ноч на маю галаву! Баязліўцы! Пакуль вучыліся, сядзелі, прышчаміўшы хвост, а як закончылі школу і адчулі сябе незалежнымі, асмялелі. За тое, што дараваў, што, пашкадаваўшы іхняга малалецтва, забраў заяву з міліцыі, аблілі мяне брудам, апаганілі душу, спрабавалі нацкаваць на мяне мясцовую моладзь, аб’явіць байкот, пракінуць, прынізіць. Думалі, што да Журнала ў хату ніхто і дзвярэй не адчыніць. Памыліліся. Свет не без добрых людзей. Мая хата зноў поўніцца дзіцячымі галасамі, мая школа зноў чакае мяне, і я ведаю, што я патрэбен людзям. А яны, Шэткі – хіба іхняму лёсу пазайздросціш? У вечным пошуку прыгодаў, з вечнымі амбіцыямі, з завышанаю самаацэнкаю. Напэўна, я не павінен так думаць, бо я ж настаўнік. Але мне часам здаецца, што ёсць людзі, якія не паддаюцца выхаванню. Подлымі нараджаюцца, і наўрад ці такім можна чымсьці дапамагчы. Браты думалі, што рабіць людзям зло можна бясконца і беспакарана. Але не ўсе аказаліся такімі мяккацелымі ды міласэрнымі, як настаўнік Квадратны. Знайшліся тыя, хто не дараваў юным западлістам. Шэткі пайшлі пад суд. І гэта, мабыць, справядліва, бо зло абавязкова павінна быць пакарана. Справядліва, але ж і зараз мне... шкада гэтых юных асобаў, лёс якіх аказаўся пакалечаным, спляжаным. Пачалавечы, па-Боску шкада, бо, як сказана ў Святым Пісанні, “яны і самі не ведаюць, што робяць”...

Аб’явілі байкот – разлічвалі прынізіць, “зачмарыць” мяне. У Шэткаў і праўда быў тады даволі высокі рэйтынг у вёсцы. А Валодзя плюнуў на рэйтынг і нікога не паслухаўся. Мы ж толькі з ім тады пазнаёміліся, а вось жа не пабаяўся новенькі мясцовых “аўтарытэтаў”. Ён зразумеў, што дуты ў іх аўтарытэт, ліпавы рэйтынг. Хлопец ён разумны, чуйная душа, і добрая... Божа ж мой, Бусліха з Пагодзінай яго пад суд сабраліся аддаваць, а ён, дзіця, гатовы не толькі даравацьім, але і па-чалавечы іх шкадуе. Валодзька-Валодзька. Зло – з кулакамі, а ты, дзівак, з любоўю і са шкадаваннем...

Наперадзе была яшчэ доўгая сакавіцкая ноч – ноч роздуму, пакутлівых сумненняў і строгай, дакорлівай ды прынцыповай размовы на адзіноце. Спаць не хацелася, дый часу не было спаць. Трэба было ўсё ж напісаць планы і праверыць сшыткі. Заўтра – зноў у школу. Хоць сабе і канец свету, але ў школу без планаў ды з неправеранымі сшыткамі не пойдзеш, права не маеш. Так што выкінь усё з галавы і – наперад! Сёння быў дзень цяжкі, а заўтра... Хто ведае, што будзе заўтра? А зрэшты, сёння быў звычайны працоўны дзень. Не ныць, не плакаць, не канючыць і сябе не шкадаваць! Галоўнае, не думаць, як табе цяжка. У цябе няма ні часу, ні права на асабісты лёс. Ты – настаўнік!

## Частка другая

Лета... Непаравое, несапраўднае – красавіцкае. У сярэдзіне красавіка навалілася на зямлю, душыла яе ў млосных церпкіх абдымках лютая ліпеньская спякота. Тэрмометр у школьнай метэаралагічнай будцы не верыць сам сабе, бо ртутны слупок ледзьве не зашкальвае. Зямля, так і не дачакаўшыся зімою – снегу, а вясною – дажджу, пад бязлітаснымі сонечнымі промнямі ўжо ў красавіку патрэскалася, высмягла, учарнела. Трава яшчэ не вырашыла, ці ёй пускацца і смела расці, а ці пакуль перачакаць стыхію, затаіцца. Не вырашылі і дрэвы. Навучаныя горкім вопытам, маючы плойму гадоў за плячыма, яны добра разумеюць: нельга паддавацца спакусе, нельга верыць непаравому, здрадліваму, дачаснаму лету. Паверыш, выпусціш клейкія пупышкі, з якіх неўзабаве выпаўзуць кволыя салатавыя лісточкі, а маразы толькі гэтага і чакаюць. Вернуцца, накінуцца, драпежнікі, паядуць-панішчаць зеляніну, закружаць-заскачуць зласліва ў карагодзе са сняжынкамі, радыя кароткачасоваму вяртанню зімы. І – бяда: зялёнае стане чорным, маладое – мёртвым.

Але маразы і не думаюць вяртацца. Не дзень, не два і нават не тыдзень стаіць лета. Павольна, асцярожна, неахвотна, нібы прадчуваючы бяду, як са смалы вылазіць на белы свет зеляніна. Спачатку крапіва ды шнітка паявіліся ля плота. Потым нечакана зазелянеў агрэст, і з лесу дзеці нясуць ужо ахапкамі пралескі і кураслеп.

Дзеці бегаюць голыя, як у Пятроўку. Дзевяцікласнікі ўмудрыліся злятаць на возера і пакупацца. Заявіліся мокранькія да мяне на ўрок і пахваліліся. Самі не рады былі. Грымеў, як першы красавіцкі гром. Жартачкі, з дня на дзень чакаем комплексную праверку ў школе, а яны выбралі час купацца. Злягуць, чаго добрага, з запаленнем. Падвядуць класнага, падставяць усю школу. Дырэктар стопрацэнтна адправіць у калонію – толькі ўжо ўвесь клас, а Барытон з задавальненнем сыграе на адпраўках пахавальны марш на сваёй трубе. То будзе развітанне з маімі педагагічнымі памкненнямі. Хапіла мне аднаго сюрпрызу – калі Бусліка давялі да рэанімацыі, а назаўтра дзявяты не прыйшоў у школу. Я тады ноч не спаў, калаціла ад няпэўнасці,

даймалі згрызоты, чаго толькі не перадумаў за ноч... Раніца пахавала ўсе мае начныя страхі і думкі, і на першы ўрок я з'явіўся свежанькі, як агурочак, юны, як майская зеляніна. Настаўнік, пераступіўшы школьны парог, не павінен выглядаць разгубленым і слабым. Бо твая разгубленасць і няўпэўненасць перадасца дзецям. І тады – крычы, прапаў. Заходжу ў дзявяты і... вітаюся з пустымі партамі. І, можа, упершыню за гады свайго настаўніцтва я разгубіўся не на жарт. Добра, што ў тыя хвіліны ніхто мяне не бачыў: ні дырэктар, ні Барытон, ні Баба. Я стаяў, як першакласнік, ля дошкі, рукі па швах. Падумаў, нешта, мабыць, нядобрае з Буслікам, кінуўся ў іншыя класы высвятляць, што здарылася. Ніхто нічога не ведаў. Сустрэў Аксану Валер'еўну і, як малое дзіця, пачаў раптам ёй спавядацца. Мы памяняліся ролямі, бо звычайна спавядалася яна. Аксана толькі пацiснула плячыма. Яна таксама нічога не ведала. Зрэшты, ёй было не да нас, хадзіла бледная, сама не свая, і я, каб не быў такім разгубленым, абавязкова гэта заўважыў бы. У Аксаны паявіліся свае праблемы, пра якія я тады яшчэ не ведаў. А зараз... зараз пра іх ведае ўся школа. Грышка Кармен не вытрымаў, сарваўся, часцей стаў сыходзіць у запой, а выпіўшы, станавіўся зверам. Як падмянілі колішняга баявога ды ініцыятыўнага Грышку, які калісьці быў акторам у маім драмгуртку. П'яны, ён па-дзікаму і слепа раўнаваў. Мог бы прыраўнаваць нават да школьнага ганка. І ў прыпадку рэўнасці пускаў у ход кулакі. Аксана, пакуль было магчыма, хавала сваю бяду ад людзей. І ад сяброў нават таілася. Але ж колькі вяровачцы ні віцца... Немагчыма было схаваць азызлыя сінякі і крывавыя падцёкі. Так, я спачатку не ведаў, але, калі б і ведаў, што мог бы зрабіць? Грышка – не дзіця малое, поперак лаўкі не пакладзеш ды дзягі не ўшпіліш. І ён не вучань, якога дастаткова было б паўшчуваць. Ён ужо дарослы, самастойны чалавек, а кожны жыве, як хоча, як лічыць патрэбным.

Аксана моўчкі пацiснула плячыма, і я, нічога не заўважыўшы, пабег пытацца ў малых. Дзіва, ніхто маіх дзевяцікласнікаў не бачыў, як у ваду канулі. Давялося пасылаць ганца ў разведку, далекавата, аж на пасёлак, дзе жывуць хлопцы. Пакуль чакалі, чаго я толькі не выслухаў, і ад Барытона, і ад Бабы.

Баба даймала мо болей за ўсіх, яна не магла дараваць нам з Аксанаю тых "свіней", вырашыла ўзяць рэванш:

– Во, а вы казалі, Віктар Фёдаравіч, падшыванцаў да парты не прывяжаш. А трэба было б і навязаць. Зусім распусціліся, – Баба быццам бы і спачувала, ды ад такіх спачуванняў калола ў сэрца, – вучыцца не хочуць, як толькі будуць здаваць экзамены? Во ўжо н*а*лле праціўнае! Выпхнем! Школа ўсіх выпіхвае. Каго – на вяроўку, каго – у турму...

– Ну, што вы, – з'еднічаў Барытон, – у іх у дзявятым – калектывізм, кругавая парука, ці не так, Віктар Фёдаравіч? Аднаму пагуляць захацелася – усе са школы сачкуюць.

Каб не было ў мяне іншага клопату: каб сэрца не балела па Бусліку, каб не блукаў я ў здагадках, што здарылася з маімі хлопцамі, знайшоў бы адказ і Барытону, і Бабе. А так – толькі махнуў рукою:

– Не хвалюйцеся, паважаныя калегі, вам пад акно мае выпускнікі паслання ў бутэльцы не панясуць.

І гэтага аказалася дастаткова, каб мае незычліўцы прыкусілі язык.

Дырэктар пакуль маўчала. Ведала, не магла не ведаць, калі раптам з Буслікам нешта здарыцца, атрымае не адзін Серада, а ўсе, і ёй, як дырэк-

тару, першай дастанецца на арэхі. Пад Пагодзінай захістаўся раптам трон, і яна сваёй, выбачайце, сейсмаадчувальнай задніцай гэта адразу ж адчула, прызадумалася, прыціхла.

Яшчэ не паспеў вярнуцца ганец, як у настаўніцкай зазваніў тэлефон. Барытон падняў спачатку трубку, а затым, здзівіўшыся, бровы:

– Ого, злачыннасць выпаўзла на свет Божы і падае голас. Наш шаноўны Серада, просіць да тэлефона свайго сябра... гм... Журнала... э... Віктара Фёдаравіча...

...Той незабыўнай сакавіцкай ноччу, калі Журнал, адправіўшы хлопцаў дадому, накінуў зашчапку на кручок, не заснуў да самай раніцы ні ён, ні яго вучні.

Выйшаўшы на вуліцу, хлопцы ледзьве не схапіліся загрудкі.

– Падлы мы, падлы все. Я не могу, – перажываў Пячэнне. – Журнал прав, Буслик едва ли не на том свете, а мы всё ржем да подкалываем. Теперь вот над Журналом издевались, понтовали. Прикиньте, сколько у него сейчас неприятностей. Ведь по прокуратурам затаскают.

– І цябе, дарэчы, таксама.

– Мне, Боженька, по любому.

– А хто ржаў? Хто пантаваў? Ты ж сам і здзекваўся, – нахмурыўшыся, кінуў Ахвяра, адчуўшы, што каменьчык вось-вось паляціць у яго агарод.

– Харэ, пацаны, заводзіцца. Што было, не паправіш, а ў Бусла нам трэба прабачэння прасіць.

– Ты, Мілкі, завёўся, ты і прасі. А я тут ні пры чым.

– Нет, Жертва! Нет, пацаны. Все виноваты, все и поедем к нему, завтра же.

– А ў школу?

– Обойдётся. Учиться, Боженька, никогда не поздно.

Усё дэталёва абдумалі. Разумелі, што зноў падстаўляюць свайго класнага. Але трэба было выбіраць найменшае зло, і яны выбралі...

...Калі Серада пазваніў, я не стаў на яго лаяцца, ушчуваць. Не тая была абстаноўка. Мае калегі злавілі б вельмі многа кайфу. Таму я сказаў у трубку даволі суха, але канкрэтна:

– Дома пагаворым.

Дома пагаварылі. Хлопцы надоўга запомняць тую размову. Але ж, калі шчыра, я на іх месцы зрабіў бы таксама. Няма сумневу, я таксама паехаў бы прасіць у Бусліка прабачэння, плюнуўшы на ўрокі. Што тут казаць, без лішняй сціпласці... я выхаваў вучняў сваіх па сваім жа вобразе і падабенстве і ганаруся імі. Пячэнне, Мілкі, Ахвяра, Божанька – яны не кожнаму пададуцца салодкімі ды мілымі, але і не стануць па жыцці ахвярамі для сваіх ворагаў, а заўсёды па-боску, справядліва паступяць, так, як падказвае ім сумленне.

...Вырашылі не ехаць на аўтобусе, каб не сустрэцца з настаўнікамі, а цёмначы пешшу пайшлі ў суседнюю вёску, там селі ў аўтобус ужо на зваротным шляху і паехалі. У бальніцу зранку хто пусціць, тым болей, у рэанімацыю, куды не пралезе нават муха! Але куды не суне носа муха, там лёгка пралезе падлетак. Нам, дарослым, цяжка ўявіць, як можна апынуцца ўсім кагалам незаўважанымі на другім паверсе, у стэрыльным рэанімацыйным пакоі. Але, калі дзяжурны ўрач, якая выскачыла была літаральна на хвілінку, вярнулася назад, яна ўбачыла ля ложка хворага хлапчука, дастаўленага ўвечары на “хуткай”, чацвёра жывых бацылаў у стаптаных, брудных чаравіках. Усе мікробы свету толькі і марылі пра такое смелае на-

шэсце ў раённую рэанімацыю. Бацылы весела размахвалі рукамі, аб нечым ажыўлена перамаўляліся з хворым, смяяліся. І хворы таксама ўсміхаўся. Ад нечаканасці жанчына аслупянела, у яе адняло мову, яшчэ хвіліна – і можна было самой мяняцца месцамі з гэтым хворым хлапчуком. Але, на шчасце, дзяжурны ўрач аказалася з моцнымі нервамі і з добраю душою. Істэрыкі не закаціла, скандалу не нарабіла, больш таго, нават дазволіла нашым героям пабыць яшчэ з дзясятак хвілін з сябруком, а потым на свой страх і рызыку падпольнымі сцежкамі вывела іх на вуліцу. Хто ведае, мо ў гэтай жанчыны таксама падрасталі свае дзеці, а мо... Я неаднойчы казаў: ёсць людзі, якія педустаноў не заканчвалі, а ім бы ў школе працаваць, а ёсць наадварот – "педагогі" з вышэйшай адукацыяй, каго трэба трымаць на ланцугу як мага далей ад школы, каб не пакусалі дзяцей. Пасля візіту хлопцаў Буслік пачаў папраўляцца не па днях, а па гадзінах, на здзіў псіхолагам ды псіхіятрам, якія не маглі даўмецца, якая ж дзіўная метамарфоза адбылася з хворым.

Вось такія псіхолагі-псіхіятры вучацца ў нашым дзявятым класе. А зараз гэтыя псіхі выкупаліся ў возеры і ледзьве не сарвалі нам франтальную праверку.

Франтальная... Для настаўнікаў – атамная вайна. Нас, школьных настаўнікаў, трэба тэрмінова змяшчаць у вар'ятню для пацвярджэння самых змрочных дыягназаў. Разабраўшыся, што такое франтальная праверка? Тыя ж самыя экзамены, толькі раз у пяць гадоў. Але мы, педагогі, чакаючы гэтай н*а*ўры, даводзім сябе да стрэсу і па законе перадачы энергіі да стрэсу спрабуем давесці і дзяцей... Дзякуй Богу, нашых дзяцей не надта праймеш, асабліва сучасных "электронікаў", у каго замір органаў пачуцця іонавыя трубкі пракладзены. Але на тое мы і педагогі – прыкладваем усе намаганні, мабілізуем увесь свой талент, каб наша буйнае памяшальніцтва хоць крышачку перадалося і вучням.

Я, напрыклад, не лічу сябе закончаным ідыётам, не выглядаю затурканым і зашораным і не баюся, што магу даць бяздарны ўрок. На дошцы, у адрозненне ад дырэктара нашай школы, не напішу: "срада абітанія млекакормячых". Аднак і я баюся франтальнай, як чорт крыжа. Баюся, каб не разгубіліся дзеці, хаця яны ў мяне не з палахлівых. Але ж, убачыўшы ў нашай школе-маёнтку цэлае нашэсце "раяноўцаў", разгубіцца можа і слон. А там, у аддзеле адукацыі, таксама розны народ. Адзін, бывае, прыедзе з галавою, а іншы метадыст – з указкаю замір галавы. І вельмі прыкра, калі цябе правярае чалавек-указка. Хто ведае, з якімі думкамі сядзіць ён у цябе на ўроку, што скажа, што напіша пра твой урок. Баюся таксама і за Аксану, у яе матэматыка, і будуць даваць "зрэзы" – выбарачныя кантрольныя ў розных класах. Мы, настаўнікі, іх стрэсамі завём, бо на такіх кантрольных "зрэзах" можна зрэзаць любога вучня і зарэзаць любога настаўніка. Чыста псіхалагічны момант. А ў нашым дурдоме, дзе настаўнікі стараюцца падкузьміць адзін аднаго, любую тактычную памылку можна лёгка ператварыць у правал. Я проста не сумняваюся, што Пагодзіна тут жа выкарыстае няўдалы "зрэз", каб расправіцца са мною ці з Аксанаю. Праўда, захапляцца расправамі ёй не выпадае, бо за камедыю жахаў мясцовага маштабу ў раёне найперш дадуць па шапцы самому дырэктару. Але магчымасці папсаваць крыві няўгоднаму настаўніку Ала Міхайлаўна не прапусціць. Вось чаму кожны з нас чакае канца свету ў асобна ўзятай школе, і кожны моліць Бога, як умее...

Буслік акрыяў, расправіў крылы, як бы нічога і не было, ён зноў у школе. Праўда, як мне здаецца, гэта ўжо зусім іншы чалавек: ціхмяны, паслухмяны. Можа, падлізваецца? І хлопцы да яго па-іншаму пачалі ставіцца. Мусіць, нарэшце зразумелі сваю віну. Дай Бог! Хочацца, каб у нас у класе ўсё было добра. Тут жа мой астравок бяспекі сярод шумнай, поўнай нечаканасцяў вуліцы.

Часам лаўлю сябе на думцы, што не хачу ісці ў школу. Калі б там былі толькі дзеці – справа іншая. Надакучылі брудныя разборкі. Як на Камароўцы. Вось толькі гандлюем мы ці не самым каштоўным таварам – сумленнем.

Пасля таго, як Буслік вярнуўся з бальніцы, пацішэла і Навумаўна. Трэба думаць! Калі з такога ўрока не зрабіць вывадаў, значыць, не дружыць з галавою. Навумаўна не такая ўжо затурканая баба, каб не зразумець, што, капаючы яму іншым, яна ледзьве не выкапала яе ўласнаму сыну. Прыціхла і Пагодзіна. Пакуль Валодзю не чапае. Спусціла злосць на тармазах ды прытаілася? Але і мы з Валодзем таксама не лезем на ражон. Знайшоўся нарэшце яго бацька. Пасля маіх званкоў ва Украіну бацька не толькі знайшоўся, але і абяцаў хутка прыехаць. Абяцанкі-цацанкі... А мы з Валодзем і рады, рада і баба Пёкла.

Няўжо лета пачынаецца, а разам з ім наступае зацішша? Няўжо нарэшце настаў час расшпіліць гузікі на пінжаку і расслабіцца?

Расслабіўся. У палоне думак вяртаюся з працы. Іду і не бачу дарогі, не помню, як іду. Адчыняю браму і – вось табе сюрпрыз – у мяне на двары госці: Буслік, Мілкі. Буслік апошнім часам зачасціў да мяне, бывае, бадай, кожны вечар. Падлізваецца, адчувае, што я яго, як бы далікатней сказаць, асцерагаюся. Стаў прыходзіць і, што ж, людзі хутка прывыкаюць адзін да аднаго. Неяк разгаварыліся. Аказалася, не такі страшны Бусел, як яго малююць. Прынамсі, мы з хлопцамі, мусіць, памыляліся, намаляваўшы ў сваім уяўленні даўганосага Бусла з лісінай ухмылкаю. Хлопец ён дапытлівы, любіць пафантазіраваць. І хутчэй не хітры ён, а наіўны. Кніжак не чытае, затое днямі сядзіць ля тэлевізара, за кампутарам. Багатыя бацькі, нават на кампутар грошы не пашкадавалі. А сядзеўшы днямі ля экрана, хочаш не хочаш, нешта вывудзіш, можа, і больш каштоўнае, чымсьці паказваюць у тых фільмах для дэбілаў... Буслік – тэлеман, ля тэлевізара сядзіць гадзінамі і глядзіць усё запар.

Хлопцы ў мяне на двары, і яны, па-мойму, п'яныя?

– Не зразумеў, хлопцы, што вы тут робіце?

– Вас чакаем, Віктар Фёдаравіч, – прыкінуліся ягняткамі – хоць ты іх кладзі да раны. Не, тут нешта не на тым цесце замешана. – Вось вырашылі ў госці зайсці.

Нічога сабе вырашылі – заўтра франтальная праверка ў школе.

– Нешта вы мне не падабаецеся, госцейкі, ану дыхніце!.

– Віктар Фёдаравіч, – прасіліся хлопцы, – ну, раз у год можна крыху? Дзве гадзіны вас тут чакаем, лета-лета, але ж не май месяц. Мы з горада прыехалі.

– Што значыць, раз у год можна?

– Дык у Мілкі дзень нараджэння...

– Ага, вось чаму я вас сёння ў школе не бачыў. Што ж, заходзьце, імяніннікі, будзем клеіць разборкі.

Зайшлі. Паставілі на стол бутэльку шампанскага "Брут" (сапраўдны бруд – натуральны газаваны воцат) і... гарэлку белую.

Мне зрабілася блага:

– Вось што, хлопцы, вы мне, калі ласка, гэтыя жартачкі кіньце, – паспрабаваў я па максімуму закілзаць свае пачуцці, – падарунак мне прынеслі? Я ж не імяніннік. Увогуле, за каго вы мяне прымаеце? Семкамі, па-мойму, на базары разам не гандлявалі, свіней таксама з вамі не пасвіў. Вы часам не пераблыталі адрас, тут жыве Віктар Фёдаравіч Квадратны, ваш класны кіраўнік і настаўнік...

– Не толькі настаўнік, Віктар Фёдаравіч, вы – сябар наш. Гадамі будзем, самы сапраўдны карыфан.

І так гэта сур’ёзна, і так запальчыва, і ў вочы глядзяць, не зміргнуць, я ледзьве не расчуліўся, але ўзяў сябе ў рукі:

– Ну-ну, за карыфана дзякуй, хлопцы. Сябар, кажаце? Прыемна, вядома. Але ж не сабутэльнік. Колькі ж вам тлумачыць, як вы не разумееце? І што знайшлі прыемнага ў гэтым... пойле? Хлопцы, хіба не бачыце, колькі алкаголікаў па вёсцы ходзіць, дачасна састарэлыя, учарнелыя, яшчэ маладыя, а хоць ты іх у труну кладзі, жывыя нябожчыкі. А не жэняцца, бо ўжо ажаніліся з бутэлькаю, а ні на дзяўчат не глядзяць, бо ўжо даўно ў іх іншыя інтарэсы. Вы на іх хочаце падобнымі быць? Дык ведайце, я з такімі не сябрую.

– А вы хіба, Віктар Фёдаравіч, зусім не п’еце?

– Чаму ж, хлопцы, не буду вам маніць. Я таксама не святы. Бывае – выпіваю. Але заўсёды трэба ведаць месца і час, трэба ведаць меру, і галоўнае – не труціць сябе ўсялякай брыдотаю. Заўсёды памятай, што ты – чалавек, а не свіння. Самі ведаеце, як непрыемна, калі людзі паводзяць сябе па-свінску. А яшчэ важна, з кім п’еш. Адным словам, хлопцы, дай вам Бог дажыць да маіх гадоў і піць столькі, колькі п’ю я... Ну, вось, выслухалі маю лекцыю пра шкоду алкагалізму. Але што ж мне рабіць з вашым “падарункам”? Так, забірайце свой гасцінец, і будзем лічыць, што яго не было. На першы раз. А другім разам такі прэзент я занясу вашым бацькам, думаю, яны ўзрадуюцца...

– Няпраўда, Віктар Фёдаравіч, вы ж не шасцёрка, мы ведаем, – асцярожна запярэчылі мае сябры, з недаверам паглядваючы на мяне.

– Занясу, занясу, можаце не сумнявацца.

– Ну, Віктар Фёдаравіч, – даймалі хлопцы, – давайце вып’ем. То ж не проста так, а дзень нараджэння. Хіба вы нас не паважаеце?

– Чакайце, пацаны, пачалася п’яная балбатня. Паважаеце, не паважаеце, – забрала мяне злосць. – Хоць разумееце, на што вы мяне штурхаеце? На крымінал. Хочаце, каб заўтра ўсе Сматрычы пальцам паказвалі: вунь настаўнік пайшоў, які з дзецьмі гарэлку п’е?

– Хто будзе ведаць? Мы ж і самі маглі, удвух, вы і не ведалі б нават, а Мілкі кажа: давай да Журнала пойдзем. Ой, выбачайце...

– Вось вы і прагаварыліся, – засмяяўся я, – мы ўжо й запанібрата, хаця яшчэ й гарэлкі разам не пілі. Ладна, хлопцы, угаварылі. Так і быць. За дзень нараджэння вып’ю з вамі крыху шампанскага, калі ўжо за сябра трымаеце. І – хай мне даруе Бог. А гарэлку вашу, выбачайце, я канфіскую, і хай стаіць у мяне да лепшых часінаў, есці не просіць. Не бойцеся, не прысвою. Падрасцеце, паразумнееце, будзем вас у войска праводзіць, вось тады і бутэлька ваша ўсплыве. Дамовіліся?

Дамовіліся. На тым і пагадзіліся. Сапраўды, не аддаваць жа мне тую бутэльку Навумаўне. Не зразумее. Прыладзілі добрую закусь: зварылі бульбы, сасмажылі яечню, адкрылі дзве бляшанкі кансерваў, якія хлопцы “прадугледзелі” па такой нагодзе.

– Не хапае хіба шакаладу, – сумна пажартаваў я, – у лепшых дамах Парыжа шампанскае шакаладам закусваюць.

– А ў лепшых дамах Сматрычаў "шампуню" ўвогуле не п'юць, глушаць сваю, фірмовую, а закусваюць локцем, – засмяяліся хлопцы.

– А вось гэтага не трэба. Цану, хлопцы, трэба ведаць сабе. Тады і людзі паважаць будуць. Ну, што, адкаркоўваем шампанскае?

Корак выскачыў весела, бутэлька зласліва засіпела, быццам хацела апошні раз мяне папярэдзіць, але я да яе не прыслухаўся. То была мая вялікая памылка. Ці не з гэтага сіпення пачаліся мае далейшыя праблемы, якія адна за другою, як джын, будуць выскокваць з гэтае бутэлькі, каб пасмяяцца ды паздзекавацца з майго арыгінальнага застольна-педагагічнага эксперыменту...

– Ну, Марат, за твае пятнаццаць гадкоў, за тваё здароўе і шчасце. За вас, хлопцы, каб выраслі вы сапраўднымі мужыкамі, каб ні перад кім не згіналіся, нікому не кланяліся, каб нікога не баяліся, але і не крыўдзілі, асабліва слабейшага.

– За вас, Віктар Фёдаравіч, – не пагадзіліся хлопцы, – п'ем за тое, што вы ў нас ёсць, такі вось, просты, дэмакратычны, даступны. Мы ведаем, вы нас любіце і дабра нам хочаце, – расчуліўся Мілкі, – а мы... мы часам падлюкамі бываем. Але мы вырасцем і ніколі вас не забудзем. Не верыце? Пячэнне – ваш сябар, а мы горшыя хіба? Мы ўсе хочам з вамі сябраваць. Чым Пячэнне лепшы?

– Добра, хлопцы, за дружбу дзякуй. За дружбу вып'ем наступны тост, – расчуліўся я.

Настаўнікі – таксама людзі, і, паверце, далёка не кожнаму з нас і, вядома ж, не кожны дзень шанцуе слухаць ад вучняў падобныя словы сяброўскага прызнання. Нялёгкая, няўдзячная, часам рызыкоўная наша прафесія. Лепіш-лепіш і не ведаеш, каго вылепіш, што атрымаецца з гэтага сырцу, назва якому – падлетак. Вынікі сваёй працы ўбачыш толькі праз многа гадоў, і хіба ты можаш быць упэўнены, што яны акажуцца станоўчымі? І таму пачуць ад вучняў добрыя словы – вялікае шчасце. Эх! Каб гэтыя словы былі сказаныя не за келіхам шампанскага...

Я прывык, што жыццё маё не такое і сам я не такі па жыцці. Часцей не знаходжу паразумення ў дарослых, а сябрую во з дзецьмі. Дарослыя – гэта ж сапсаваныя дзеці. Нягледзячы на ўсё, што здарыцца потым, я ўсё роўна буду лічыць, што тыя словы маіх вучняў былі шчырымі, ішлі ад сэрца. Проста дзеці яшчэ не заўсёды ўмеюць кантраляваць свае ўчынкі. А праз многа гадоў я знайду пацвярджэнне сваім самым лепшым спадзяванням.

Мы паднялі келіхі і адчулі момант урачыстасці, шчымліва-радасна зрабілася на душы. Шкада, што гэта быў усяго толькі момант, але я пра тое яшчэ не ведаў...

Для поўнага шчасця хлопцам спатрэбілася вельмі мала "Бруту". Пасля другога фужэра яны асалавелі, апусцілі насы, завялі п'яную гамонку. Я не на жарт спалохаўся. Як магло стацца, што іх так хутка разнесла? А яны мяне супакойвалі:

– Ды на старыя дрожджы, Віктар Фёдаравіч!

Ах, нягоднікі! Мабыць, смакталі тую гаручку сёння цэлы дзень, а я аслеп і нічога не бачу. Дзень нараджэння, ці бачылі, хацелася адзначыць. Наклюкацца вам захацелася. Падчапілі Журнала на кручок, як дурнога карася. І што мне зараз рабіць? Трапіў у нерат, ні ўзад, ні ўперад.

– А ў мяне вось што ёсцека, – дастаў з кішэні Бусел завушніцы, – залатыя.

– Ого, ану пакаж! Дзе ты браў? – здзівіўся Мілкі.

– Месцы трэба ведаць.

Я не зважаў на іх балбатню. Адно было наўме: што рабіць зараз? Сядзяць, насамі дзюбаюць. Выгнаць іх з хаты? Ужо не выганіш. Куды пойдуць? Буслік пойдзе расказваць Навумаўне, як ён у Журнала набраўся... Знарок не прыдумаеш... Прыязджай зараз Круцель і забірай усіх трох цёпленькімі. Не, дамоў іх не адправіш і нават бацькам не пазвоніш. Выйсце адно – трэба як мага хутчэй пакласці спаць, мо яшчэ да вечара праспяцца? Ды дзе там укладзеш!

– Віктар Фёдаравіч, Мілкі, я вас... я вас так па-а-важаю, я вам так зайздрошчу. Вы для мяне як богі. Не верыце? Ну, скажыце, Віктар Фёдаравіч, хоць вы скажыце... Навошта я жыву? Вы мною ўсе пагарджаеце, ненавідзіце вы мяне. Хто я? – біў сябе ў грудзі Бусел. – Казяўка я, блыха вашывая...

– Ды што ты вярзеш?! – Мілкі ўдарыў кулаком па стале, ажно падскочылі, зазвінелі фужэры. – Хто цябе чапае, хто крыўдзіць? Мы цябе, Бусел, за каўнер у калектыў цягнем, а ты выпендрываешся і забіваеш сабе галаву ўсялякаю лухтою. Колькі можна пра адно і тое ж? Праўда, Віктар Фёдаравіч?

– Так, усё, хлопцы, хопіць, адзначылі дзень нараджэння. Усе задаволены, усім весела. А зараз падымайцеся з-за стала і – спаць.

– Давайце яшчэ пасядзім, Віктар Фёдаравіч, песні паспяваем.

– Засталося толькі паспяваць песні...

– А чаму вы такі невясёлы, Журнальчык Фёдаравіч? Аддайце нам тую бутэльку...

– Хопіць крыўляцца! – не вытрымаў, гаркнуў я, моцы болей не ставала. – Зараз жа марш на ляжанку!

– Не-а, мы лепш дадому пойдзем.

– Толькі праз мой труп! Не хапала, каб бацькі вас гэткімі ўбачылі.

– Арыш-тавалі! – засмяяліся мае п’янтосы. – А хоць абкурыцца можна?

– Яшчэ чаго, гора маё з перцам. На ланцуг вас хіба пасадзіць?

Пусці свінню за стол – яна і ногі на стол. Ненавіджу п’янтосаў! Ад сваіх Бог крыў, дык з чужымі валэндацца даводзіцца. У Бусла з кішэні выглядвала пачка цыгарэт. Я акуратненька, дзвюма пальчыкамі, каб не пачуў, выцягнуў іх і схаваў. Далей ад бяды. Заўтра аддам. Мілкі ўбачыў, але, малайчына, выгляду не падаў.

– Віктар Фёдаравіч, мы дзяўчатам пазвонім, можна?

– Ладна, званіце, – здаўся я, – толькі не ў Амерыку.

Сталі званіць, ды ці то дзяўчатам не спадабаліся іхнія п’яныя заляцанкі, толькі хутка тая справа ім надакучыла. Бусел зноў успомніў пра цыгарэты, хапіўся, а іх няма.

Я пасміхнуўся:

– Аддам табе, Віця, заўтра твой “Саюз-Апалон”. Багаты. Добрыя цыгарэты паліш. Няўжо і бацькі ведаюць? А сёння – патрываеш. Так надзейней.

Абурыўся хлапец, пабушаваў крыху, але аціх.

Пакласці іх спаць аказалася не так лёгка. Раз-пораз падымаліся, бегалі на вуліцу, як быццам выпілі не паўбутэлькі “Бруту”, а цэбар брагі. Але нарэшце супакоіліся, захраплі.

Нарэшце я адчуў сябе спакайней. А мо як абыдзецца? Маліў Бога, каб ён мне дапамог. Сон не ішоў, хаця за акном ужо сцямнела. Прылёг, ды

адчуваў сябе на ложку, як скурат на агні. Даймалі, кусаліся неспакойныя думкі. Што я нарабіў?! Чаму не апомніўся раней, чаму сеў са сваімі вучнямі за бутэльку? Што ж ты мяне, Божа, не ахаваў, не папярэдзіў, чаму падштурхнуў на такі неабдуманы, недарэчны, дзіцячы ўчынак і паслаў тым самым мне новае выпрабаванне? Так і ляжаў з адкрытымі вачыма, нават забыўшыся на нейкі час, што заўтра ў школе чакае мяне яшчэ адно выпрабаванне – франтальная праверка. Ды мо так яно і лепей: меней думак – меней хвалявання, усё ўладзіцца само сабою. Мо Бог знарок хацеў мяне адарваць ад думак пра заўтрашнюю муштру? Часам не ведаеш, як лепей паступіць. Хочаш як лепш, атрымоўваецца – як дыктуе лёс. Дый ніхто не прыдумаў яшчэ гатовых рэцэптаў і правілаў для таго свяшчэннадзейства, якое мы так празаічна называем выхаваннем. Хіба лепей: каб мае хлопцы выпілі той “Брут”, змешаны з гарэлкаю, недзе там, на заўголлі. Ці дапаўзлі б яны дадому, набраўшыся? А так спакойна спяць у мяне за печкаю. Вядома, я мог бы прагнаць іх і тым самым спіхнуць з сябе віну. І яны пайшлі б піць на вуліцу. Але кім быў бы я пасля гэтага? Хіба настаўнікам? Цікава, як бы на маім месцы паступіў Макаранка? Можна было б, як яны кажуць, “нашасцярыць” бацькам. Толькі не такім бацькам, як Навумаўна. Баюся, Навумаўна дапамагла б сыну, як хваробе кашаль. Вядома, заўтра я дам хлопцам прачуханцу. Абы толькі сёння пранесла...

Бліжэй да паўначы Мілкі заварушыўся, няўцямна падхапіўся, працёр вочы, нейкі час азіраўся па баках, не мог сцяміць, дзе ён і як сюды трапіў. А сцяміўшы, асцярожна, каб нікога не разбудзіць, пачаў апранацца.

– Ты куды? – здзівіўся я. – Ляжы яшчэ.

– Не, ісці трэба, – адказаў ён разважлівым, памяркоўным голасам, голас быў цвярозы, і я паспакайнеў, – бацькам абяцаў вечарам дома быць. Колькі часу?

– Ды, мусіць, недзе ля поўначы.

– Пайду.

Я не стаў хлопца затрымліваць. Неўзабаве Мілкі пайшоў, а Буслік застаўся храпці на ляжанцы.

Пэўны час я ляжаў у палоне цемры і сваіх невясёлых думак, вочы ў лоб кульнуўшы, здавалася, шклянымі зрабіліся вочы – вялікімі і важкімі. Сон не браў мяне, стомленага, змардаванага. Раптам у акно пастукалі. Я ўвесь сцяўся, стараючыся не дыхаць, спрабаваў угадаць, хто. Трывожнае прадчуванне балюча жыгала, апякала свядомасць. Зноў загрукалі, на гэты раз больш настойліва. Нічога не зробіш, трэба было адчыняць. Не сказаць, каб я баяўся каго, бо не адчуваў за сабою вялікай віны, але ўсё роўна было прыкра.

– Хто там? – спытаўся і пачуў голас Навумаўны:

– Фёдаравіч, мой Віця ў вас?

Так і ведаў. Трэба было і чакаць. Бацькі разумелі, што іх сынок часта трапляе ў розныя гісторыі і, ледзьве сцямнее, ездзілі на сваім “Масквічы”, шукалі, балазе ў старшыні калгаса бензіну не мерана. Вось бы такую ўвагу і клопат праяўлялі Буслаевы да сына ўвесь час, каб не адчуваў сябе пакінутым, падстаўленым уласнымі бацькамі, каб не даходзіла справа да пятлі і рэанімацыі. Пашукаць сына і прывезці яго “бервяном” дадому працей. Заняцца ж яго выхаваннем ў Навумаўны бракавала часу, трэба было плясці інтрыгі і зводзіць рахункі, помсціць, ці проста збіраць па вёсцы плёткі.

– Праходзьце, ляжыць вунь за печкаю. Можаце забіраць, – сказаў я

сурова і абыякава, нават з выклікам. Хавацца і прыніжацца не было сэнсу і не хацелася.

Навумаўна зайшла ў хату насупленая, як індычка, нават не запытаўшыся, не папрасіўшы ні дазволу, ні прабачэння, нахабна, у ботах, прайшлася па ўсіх маіх паласах – таўклася па душы. Дзеці, у тым ліку і яе Віцька, ніколі б сабе такога не дазволілі. То ж дзеці... Пакуль Навумаўна сцягвала яшчэ не працверазеўшага сына з ляжанкі, пакуль апранала яго, мы са старэйшым Буслаевым стаялі ў парозе, маўчалі. Я паспрабаваў быў растлумачыць, што хлопцы прыйшлі да мяне самі, падвыпіўшыя, што прынеслі гарэлку, але мяне ніхто не слухаў. Ён маўчаў, а яна абліла мяне змяінай ухмылкаю, усё роўна як плюнула ў твар, і я замоўк. Зразумеў, што апраўдвацца няма перад кім. Застаецца цярпліва чакаць, што будзе. А чаму быць, таго не мінуць. Буслаевы пайшлі, не развітаўшыся. Я стаяў пасярод пустой хаты, агаломшаны, прыніжаны, растаптаны. Гэтаксама, як у хаце, пуста было і на душы. У душу плюнулі, і, напэўна, зараз доўга трэба будзе выцірацца. Наперадзе чакала мяне невядомасць і няпэўнасць. Але трэба было неяк жыць і змагацца...

...Даўно не бачыла наша маленькая школка такога татара-мангольскага нашэсця. Мусіць, увесь раённы аддзел адукацыі зрушыў з месца, пакінуўшы гадамі наседжаныя гнёзды, і, як на пажар, вылецеў у далёкі вырай. Як Калумб у свой час Амерыку, так "раяновец" адкрыў раптам нашы Сматрычы. Я не здзекуюся і не блазную, я – на поўным сур'ёзе. У раёне каля сямідзесяці школ. Ёсць прыгарадныя і пашаноўныя, на базе якіх і семінары розныя праводзяць, і адкрытыя ўрокі, і метадычныя аб'яднанні. Гэта ўзорна-паказальныя школы, туды і чорта возяць на кабыле, і Бога на аўтамабіле. Ёсць школкі-сераднячкі, што і на Парнас не лезуць, і ў смале не кіпяць. Жывуць сабе і жывуць, на дaверы ў "РАА", ні іх не чапаюць, ні яны не галёкаюць. А ёсць і такія, як наша, Сматрыцкая, базавая, запушчаная, забытая і забітая, да таго ж – проці ліха на ўзгорку, дзе пень на калоду брэша. Пра такія школкі ўспамінаюць тады толькі, калі там, не дай Бог, здарыцца які педагагічны катаклізм. Хвала Усявышняму, у нас яшчэ ніхто нікога не забіў, не было канібалізму. А што самаедства, дык у якім настаўніцкім калектыве яго нямашака? А яшчэ ўспамінаюць пра такія школкі, калі надыходзіць час планавай франтальнай праверкі.

Праўда, пра нашу школу ў раёне ўжо ведаюць. Мы праславіліся – шыла ў мяху не схаваеш – пасля таго, як Пагодзіна заелася са мной і з Аксанай і паспрабавала прымяніць, так сказаць, эканамічныя санкцыі, вырашыўшы пасадзіць Аксану на голую стаўку, той нічога не заставалася, як ехаць у РАА. Паехала да самой Шышкінай – да загадчыцы, і ўсе як ёсць факты ёй вываліла прама на стол. Не столькі пра сябе казала, колькі пра нашую "педагагічную кухню". І пра Барытона з ягонымі п'янымі выпускнымі вечарамі, і пра Бабу з яе "свінячым інтэлектам", які ў нас з падачы дырэктара ўзводзіцца ў абсалют, і пра самую Пагодзіну, што акружыла сябе падхалімамі і трымаецца абедвума за трон. Таму, відаць, і акружыла сябе шэрасцю, якая па-за канкурэнцыяй. Падумаць толькі, Пагодзіна набралася нахабства, паставіла Аксане, якая працуе, бы гадзіннічак, прагул за тое, што яна на дзень пазней вярнулася з хаўтураў, пазбавіла яе прэміі і хацела забраць гадзіны інфарматыкі, каб аддаць іх Барытону. Вось і праславілася наша школа, бо Аксана не дазволіла сябе зрабіць крайняй.

* * *

Шышкіна слухала вельмі ўважліва, не перабівала, часам задавала пытанні. Яна і сапраўды мала чаго ведала пра Сматрыцкую базавую. Жонка вайскоўца, прыехала ў наш раён зусім нядаўна і толькі першы год працуе загадчыцай аддзела адукацыі. Лідзія Паўлаўна пажыла ў вялікіх гарадах, напрацавалася ў гарадскіх школах, доўгі час была дырэктарам. Напэўна, сама ведала, як цяжка працаваць, “когда в товарищах согласья нет”. Але з праблемамі сельскай школкі ёй сутыкацца, бадай, не даводзілася. Хіба ў той час, калі яшчэ сама ў ёй вучылася. Вось і слухала ўважліва. Слухала і не верыла, што яшчэ вучаць дзяцей у былых панскіх маёнтках, дзе паляць у грубцы дровамі, і таму атмасфера фізічная ў прамым сэнсе залежыць ад амбіцыйнай прыбіральшчыцы, а духоўная – ад кіраўніка-шаленца... Чым яна можа дапамагчы гэтай маладзенькай дзеўчынёсе, якая прыехала ў раён, як да Бога, шукаць праўду? Дзяўчыне хацелася паспавядацца, і яна, загадчыца, мусіла ўзяць на сябе ролю святара. Выслухала, і не проста адчэпнага, а цвёрда паабяцала:

– Едзьце і працуйце, і ніхто вас болей не зачэпіць.

А яшчэ паабяцала абавязкова прыехаць у далёкія Сматрычы, за сорак кіламетраў, каб самой на месцы ўбачыць і разабрацца, што да чаго. Бо, да сораму свайго, яна ў той далёкай школе яшчэ ні разу не паказвалася. Аб’езд перад пачаткам навучальнага года рабіў яе папярэднік. Спадчына ёй, казаць шчыра, дасталася незайздросная. Тут дахі цякуць – хоць начоўкі падстаўляй, там трэба пераабсталёўваць кацельні. Не кажучы пра тое, што школам не маеш даць ні капейкі, не тое што на рамонт даху – на слоік фарбы. Дзікунскія рэаліі дзікунскага часу. Вось абрынуцца нашы школкі, і трэба будзе ўжо не ў панскіх маёнтках дзяцей вучыць, а пад адкрытым небам. Горш, чым у вайну.

Закруцілася-завярцелася новая загадчыца ў калатнечы спраў, і да Сматрычаў пакуль не даехала. А трэба і да тае школкі дабрацца. Кажуць, дырэктар там вельмі слабенькі ды бездапаможны, да таго ж, не мясцовы, ездзіць аж з горада, за дзесяткі кіламетраў. Пералётныя настаўнікі – як птушкі ў выраі: гнёздаў не ўюць і песень не спяваюць. Ездзіць за дзясяткі кіламетраў, чаму ж не ўладкуецца на месцы? Бывае, настаўнікі “не цягнуць”, як спецыялісты. Такіх нідзе не хочуць браць, і яны самі зашываюцца ў глушмені, дзе кантроль слабейшы, тым больш, калі ты сам сабе начальнік. Зрэшты, не пабачыўшы сваімі вачыма, не разабраўшыся як след, нельга ацэньваць чалавека толькі на падставе чутак. Аднак жа Пагодзіна не спраўляецца і як кіраўнік. Школа засталася фактычна без рамонту. Паліва вобмаль, і зімою дзяцей ледзьве не памарозілі. Затое горача ў калектыве. Ідзе вайна. Вось і да райцэнтра дайшлі адгалоскі кананады. Трэба разбірацца, прыглядвацца, аналізаваць сітуацыю і, магчыма, мяняць кіраўніка. На каго? Чаго добрага, памяняеш быка на індыка. Які дурань зараз паедзе ў забітую, закінутую вёску, нікому не патрэбную, каб там добраахвотна падзвіжнічаць? Часіны Лабановіча – маладога Якуба Коласа – даўно мінуліся... Прайшло, лічы, сто гадоў, а вёска да гэтага часу не можа выбрацца з багны, у якой загрузла па вушы яшчэ да рэвалюцыі. Селянін дагэтуль, можна сказаць, працуе за проста так, нават не за “дзякуй”, бо і дзякуюць яму не заўсёды. Дырэктар вясковай школы атрымлівае меней, чым прыбіральшчыца ў камерцыйным банку. Так што хіба самазабойца, альбо псіхічна хворы чалавек рызыкне ехаць з горада ў вёску на пасаду дырэктара базавай школы. Трэба шукаць кагосьці з мясцовых. І кадры вясковыя добра ведаем. Цэлы атрад пенсіяне-

раў, хто мо і рад быў бы выпаўзці з хлява, ды без гаспадаркі асуджаны па пагібель. Яны забыліся не толькі пра кніжкі, але і пра газеты. Пра які тут можна казаць інтэлект?.. Брыгада алкаголікаў бальзакаўскага ўзросту, якія спіліся ці ад адчаю, ці ад безвыходнасці. Некалькі ўплывовых прыстасаванцаў, якія налаўчыліся хапаць чужое і век свой паразітуюць на людской нядолі. І яшчэ – пара-тройка дзівакоў. Часам гэта фанаты. Але пытанняў да іх не меней, чым да любой іншай катэгорыі. Хаця б таму, што яны не з'ехалі, не ўцяклі з вёскі, у той час як у нармальнага чалавека спрацаваў бы інстынкт самазахавання. Вось і ўвесь кантынгент. Выбірай.

Ёсць у Шышкінай на прыкмеце адзін такі настаўнік, акурат з гэтых самых дзівакоў. Ён можа, нягледзячы на паважны ўзрост, гайсаць з дзецьмі на веласіпедзе. Але свой прадмет – беларускую мову і літаратуру – ведае на выдатна. Ва ўсякім разе, так кажуць метадысты. Але ж выдатны прадметнік – не абавязкова выдатны кіраўнік. Дый ці згодзіцца чалавек, калі ён на сваім месцы працуе, мяняць яго на чужое і мулкае крэсла? Лідзія Паўлаўна вырашыла бліжэй пазнаёміцца з настаўнікам Квадратным. Трэба ехаць у Сматрычы. Паабяцала – і прыехала, на франтальную праверку ў школу.

* * *

Наляцела, як вераб'ёў на свежую салому.

Я прыйшоў у школу і разгубіўся. Дагэтуль не здагадваўся, што ў аддзеле адукацыі засядае такая гвардыя. Вось бы ўвосень прыехалі да нас на лён, а то так і зазімаваў, пакуль Буслаеў у сваім церамку катлы ў качагарцы мяняў. Кабеты мажныя, плячыстыя, плечы – як у мужыкоў, а рукі, наадварот, далікатныя, гарадскія, пальцы – як падушачкі. Не падобна, што такія рукі свіней гадуюць. Наша Сяўніцкая і тут аказалася ў меншасці. Бледная, безнастраёвая сядзіць Пагодзіна. Цікава назіраць, Пагодзіна насупленая, а... усміхаецца. У Алы Міхайлаўны ўсмешка квашана-марынованая, хоць ты ёю заміж расолу з бадуна галаву лячы. А мне б сёння і не зашкодзіла. Можна, аказваецца, і не піўшы хадзіць "пад шафэ". У галаве – нібы ў малатарні, ці ад думак невясёлых, ці ад бяссоннае ночы. Зайшоў у настаўніцкую, сеў ціхенька ў кутку і сяджу, не рыпаюся, толькі вокам лыпаю ды брывом стрыгу – ці хто мяне зачэпіць? А зрэшты, мне – фіялетава! Абыякавасць, ці то апатыя напала. Ат! Чорт з вамі, рабіце што хочаце: ніжэй шараговага настаўніка не разжалуюць, далей Сматрычаў не сашлюць. І – зачапілі. Падышла высокая, чарнявая, вельмі мілавідная і, дзякуй Богу, не дэбільная – па твары бачна – дама і першая, зусім па-мужчынску, моцна паціснула руку:

– Будзем знаёмы – Шышкіна Лідзія Паўлаўна.

– Квадратны. Настаўнік літаратуры, – зніякавеў я, кладучы ў яе маленькую далонь сваю шырокую лапату, якая самому падалася мне шуфлём. Мо трэба было неяк па-іншаму зрабіць знак увагі, але ж мы "пажаскіх" карпусоў не заканчвалі, дый не ў маёй натуры распаўзацца перад начальствам, як алей па патэльні.

– Хацела б пабыць у вас на ўроку, – прапанавала сарамліва, быццам прасіла, баючыся, што не пушчу, але ж агрэла мяне сваёй прапановаю, як абухам. – Шмат пра вас чула, але ні разу не пашчасціла быць на вашых уроках.

Вось дык сказанула! Баба, якая стаяла побач, папярхнулася і закашлялася. Пагодзіна якраз выходзіла са свайго кабінета – застыла на парозе. Гледзячы на яе, можна было спалохацца, бо ўсмешка, загадзя падрыхтаваная, не

паспела сысці з яе твару, а твар быў чалавека, гатовага клікаць на дапамогу. Уявіце чалавека, які крычыць: “Пажар! Гарым!” – і пры гэтым усміхаецца.

Мне, праўда, было не да назіранняў. У галаве перастала гусці, затое памутнела – як у туман зайшоў. Вочы аж замружыліся ад гарачага прыліву, які раптам хлынуў да скроняў. Ногі зрабіліся ватнымі і не слухаліся, зусім як на дзяржэкзаменах ва ўніверсітэце. І неслухмяным языком, які – сорамна прызнацца – прыліп да зубоў, я прамямліў:

– Калі ласка, у мяне зараз літаратура ў дзявятым.

І павёў яе на свой урок...

...Толькі не хапала... За тое, што ўчора не было часу ні думаць, ні рыхтавацца. Мо так і лепей? Поўны экспромт. Вёў на ўрок такую важную госцю, а думкі блукалі далёка за межамі школы. Што будзе? Як павядзе сябе Навумаўна? Ці хаця праспаліся, ці прыйшлі ў школу Мілкі з Буслікам? Зразумела, што дома нічога не вучылі. Зрэшты, што тут вучыць, не наеўся – не наліжашся.

Канец чвэрці, канец года, і мы зараз паўтараем пройдзенае. Калі я не навучыў іх за год, за пяць, то штурмуй не штурмуй – адным днём нічога не зменіш. Толку, калі б яны ўчора сядзелі за падручнікамі, а я дрыжэў бы, чакаючы гэтага адкрытага ўрока. Так я сам з сабою разважаў, паціху супакойваючыся і апраўдваючыся. Ну, што ж, няхай гэты ўрок і сапраўды будзе нашым іспытам, дарагія мае дзевяцікласнікі. Што змог я вам адкрыць, што змог сказаць новага ў гэтым цудоўным свеце, назва якому – беларуская літаратура, у свеце, поўным яркіх каляровых вобразаў і суровых жыццёвых рэалій, у свеце, які вельмі падобны да таго, дзе мы з вамі жывем, каб толькі ён не быў светам нашага ўяўлення і нашых лепшых спадзяванняў, якія, на жаль, не заўсёды збываюцца...

Рыторыка... Прыгожыя словы. Пафас. А для іншых літаратура – жыццё і лёс.

Адчыніў дзверы – і гара звалілася з плячэй. Усе мае вучні на месцы, сядзяць, як ліпеньскія агурочкі на градцы: свежанькія, маладзенькія, калі пад руку, мо і калючыя, але ж вельмі прыемныя на выгляд. Убачыўшы чужога, дзеці не збянтэжыліся, наадварот, дыпламатычна заўсміхаліся, усё роўна як адчулі добрую энергетыку чалавека. І гэта прыдало мне ўпэўненасці, супакоіла канчаткова.

– Добры дзень, дзеці, – павітаўся я, як штодня, без пафасу, тым самым даўшы зразумець, што нічога не здарылася і наперадзе – звычайны ўрок, але затым сказаў зусім іншае, – у нас з вамі сёння госця, загадчыца раённага аддзела адукацыі. Як і належыць гаспадарам, прымем жа госцю дастойна, пакажам, на што мы здольны, пахвалімся сваімі ведамі. Калі ласка, Лідзія Паўлаўна, праходзьце. Урок у нас сёння, хлопцы, не зусім звычайны, а, назавем так, выніковы, падагульняючы. Сёння ў нас урок духоўнай сталасці...

* * *

...Асцярожна, сарамліва прайшла Лідзія Паўлаўна да свабоднага стала, якіх у гэтай школе, яна заўважыла, было значна болей, чым занятых, села і – растварылася, яе не стала.

Колькі ўжо гадоў заходзіць вось так у клас правяральшчыцай: кантралёрам ці то рэвізорам – і ніяк не можа прывыкнуць да гэтай далікатнай місіі. Бывала на ўсялякіх уроках: на слабенькіх і на сярэдніх, і на вельмі ўдалых,

нават таленавітых. Падчас адных так карцела падняцца і дапамагчы беднаму настаўніку, які, да таго ж, яшчэ й разгублены, бадай, панічна баіцца чужога чалавека ў класе. На іншых уроках было ўсё наадварот: стройна, прыгожа, лагічна і нават бліскуча. Але яна, настаўнік вопытны, адчувала: блішчыць, ды не золата, проста педагог вельмі пастараўся, навёў глянец, як салдат на ботах перад чарговым аглядам, падпусціў пылу ў вочы чужаку. Гэта адразу бачна, нават няўзброеным вокам. У такіх выпадках Лідзія Паўлаўна не тое, каб злавалася, яна, зноў жа, шкадавала настаўніка. Не разумее чалавек, што ён робіць. Пускае пыл у вочы. Каму? Навошта? Можна, вядома, пастарацца і, як рэжысёр на сцэне, паставіць у класе аднаразовы ўрок-спектакль. Можна заваяваць часовую сімпатыю ў начальства, атрымаць грамату і нават больш значную ўзнагароду. Але ж немагчыма акаўпачыць самога сябе. І тым болей – дзяцей. Заўтра ты зноў да іх прыйдзеш у клас, вашы вочы сустрэнуцца. Як ты пасля гэтага самага ўрока-спектакля насмелішся зірнуць ім у вочы? І потым, талент педагога, як і каханне: альбо ён ёсць, альбо яго нямашака. Немагчыма быць крышачку цяжарным, немагчыма быць крыху настаўнікам. Дарэмная трата часу, ніхто і нічога з гэтага “крыху” не народзіцца. І ўсё ж Лідзія Паўлаўна ўзяла за правіла як мага радзей умешвацца ў святое святых педагагічнае справы – у ход урока. Нават пасля ўрока яна вельмі рэдка рабіла заўвагі, а тым болей разносы. Часцей рабіла вывады для сябе, лічыла, што ўрок – як маладая, незалежная дзяржава, як шчырая споведзь, як малітва, не дапускае грубага, бесцырымоннага ўварвання, гэта такая тонкая матэрыя – тыцні пальцам і разыдзецца па швах.

Яна, як заўсёды, прысела на галёрцы, растварылася, ператварыўшыся ў слых і ўвагу, падрыхтавалася ацэньваць, рабіць высновы, і раптам адчула, што... упершыню прысутнічае на падобным уроку. Так, яна ведала, куды прыйшла, чакала ўбачыць моцны, таленавіты ўрок. Нічога дзіўнага. Збіралася толькі вызначыць, ці многа тут экспромту, ці болей загадзя прадуманага, не выключала нават крышачку паказушнасці. Але тое, што адбывалася, перакрэсліла ўсялякія нормы і ўяўленні.. Якая там паказуха! Урок быў поўным экспромтам. Больш за тое, да яго ніхто не рыхтаваўся: ні настаўнік, ні дзеці. Гэта Лідзія Паўлаўна адчула адразу. Заставалася толькі гадаць, што перашкодзіла Віктару Фёдаравічу падрыхтавацца? Самаўпэўненасць? Ды не, па ўсім відаць, ён не з такіх... Але ж тое, што адбывалася ў класе, змусіла яе забыць пра гэтыя дробязі. Тым болей, што, адчула, яна і сама аказалася непадрыхтаванай да такога павароту. Ішоў аўтарскі ўрок. Прычым, яго аўтар быў не проста таленавітым, але і смелым, бескампрамісным. Цяжка сказаць, чаго тут было болей: артыстызму, эксперыменту, эрудыцыі? На ўроку літаратуры дзеці працавалі – не-не, тварылі – алоўкамі. Кожны з іх браў па адным ці па некалькі каляровых алоўкаў, каб намаляваць сваю жыццёвую сцежку, кожны браў такі аловак, які хацеў, кожны маляваў тое, што лічыў патрэбным. Мала намаляваць. Сваю жыццёвую сцежку трэба было прайсці. Жыццё пражыць – не поле перайсці. Прайсці жыццёвы шлях кожнаму з іх павінны былі дапамагчы любімыя героі любімых кніжак. Вобразы, урыўкі з вершаў, сюжэты паўставалі самі, нязмушана, не па выкліку і не для адзнакі, а толькі для таго, каб упрыгожыць сваю сцяжыну, годна прайсці па ёй. Можна вывучыць альбо не вывучыць урок, але немагчыма без сістэматычных трывалых ведаў па літаратуры скласці цэлы будынак з літаратурных вобразаў і персанажаў. Кожны вобраз і кожны персанаж

– як цаглінка ў муры, а цэментуюць іх уласныя разважанні, уласны светапогляд. Арыгінальна, вобразна, аргументавана, цікава. Ды так цікава, што Лідзіі Паўлаўне і самой карцела папрасіць каляровы аловак і праверыць самую сябе.

І ўсё ж уразіла Шышкіну не столькі арыгінальнасць самога ўрока з яго мудраю прастатою, колькі атмасфера ў класе. Дзеці не проста захапіліся ды паплылі па цячэнні ў тым накірунку, які прадвызначыў настаўнік. Кожны з іх быў капітанам і прымаў самастойныя рашэнні. Былі хвіліны, калі Лідзія Паўлаўна са здзіўленнем заўважала, што ўрок вядзе не Віктар Фёдаравіч, а... дзеці, настаўнік жа, ператварыўшыся ў звычайнага падлетка, штосьці крэмзае алоўкам, недаверліва слухае, сумняваецца. Ініцыятыву перахапілі ў настаўніка дзеці і панеслі яе развіваць далей. Такія метамарфозы ёй даводзілася бачыць упершыню: каб дарослы чалавек ў нейкія хвіліны выпускаў штурвал з рук і поўнасцю давяраўся логіцы падлеткаў. Гэтаму павінна была папярэднічаць, на яе погляд, гіганцкая падрыхтоўчая праца. Так мог паступаць толькі абсалютна ўпэўнены ў сваіх магчымасцях майстра. Шышкіна не ведала, што мае справу не проста з арыгінальным, таленавітым, неардынарным педагогам, але і з... дарослым падлеткам. Яна адно бачыла, што ў класе ўсталявалася надзвычайная духоўная еднасць. Здавалася, закрані па-нядобраму любую з шасці дзеючых асобаў гэтага ўрока, і ты атрымаеш імгненны, магутны калектыўны адпор.

Званок празвінеў так нечакана і недарэчы, што ўсе нават здрыгануліся. Толькі зараз Лідзія Паўлаўна апомнілася і пашкадавала, што прыйшла сюды адна, а не прыхапіла з сабою ні дырэктара, ні завуча, ні метадыстаў. Увогуле, на такія ўрокі трэба не толькі дырэктараў вадзіць, а цэлыя метадычныя аб'яднанні, па іх выніках праводзіць семінары і абагульняць вопыт.

Ледзьве стрымалася загадчыца, каб гэтыя самыя словы не сказаць настаўніку прама ў вочы, дачасна і тым самым парушыць логіку франтальнай праверкі, дзе ўсё самае важнае, як правіла, выказваецца на выніковым педсавеце. Сказала даволі лаканічна і суха, і ўсё ж не зусім стрымалася:

– Дзякую, я вельмі цікава адпачыла на вашым уроку. Я вам зайздрошчу...

Здзівілася. Думала, узрадуецца, хаця ўсміхнецца настаўнік у адказ. Каб гу! Нават жылка ніводная не зварухнулася на яго абыякавым твары. Наадварот, твар падаўся ёй заклапочаным, трывожным. Настаўнік чакаў... пакуль яна пакіне клас. Адчула сябе лішняю, чужою, дзякуй Богу, хапіла тактоўнасці не пакрыўдзіцца, а далікатна развітацца, выйшла. Дзіўны, незразумелы настаўнік Квадратны...

* * *

Яны адчулі мой пранізлівы позірк, сцюдзёны і бязлітасны. Захінуцца ад яго не было чым. Яны проста ўвабралі галовы ў плечы, не толькі Мілкі з Буслікам, але на ўсякі выпадак і Пячэнне, і Ахвяра, і Божанька – здранцвелі, разгублена чакалі маіх громаў і бліскавіц. Яны не часта бачаць мяне такім злым. Можа, і ніколі не бачылі.

– Пахмяліцца прынесці? – здзекліва запытаўся я, стараючыся зірнуць ім у вочы. І, не дачакаўшыся адказу, спакойна працягваў. – Да выпускнога рыхтуецеся? Барытону з кампаніяй вырашылі фору даць? Раю падумаць, якое завяшчанне будзеце падкідваць мне пад браму. Не забудзьцеся напісаць, каб вашага класнага выгналі са школы – за спойванне малалетак.

Сказаў і пайшоў. Болей мне не было чаго ім сказаць, дый не хацелася гаварыць з імі. Крыўда не дазваляла. Вось і ўва мне падлетак перамог педагога. Толькі зараз я дазволіў сабе расслабіцца, адчуць сябе пакрыўджаным і нават пашкадаваць сябе. Я яшчэ не ведаў, што расслабляцца мне пакуль рана.

Ледзьве за мною зачыніліся дзверы, як Серада сарваўся з парты, бы шалёны сабака з ланцуга, падляцеў да Мілкі:

– У-убью! Грохну кого-нибудь и до выпускного не дотяну, если ещё хоть какая-нибудзь с-сука подставит Журнала! И ты, долгоносый, – памахаў кулаком Бусліку, – вешайся на здоровье, сколько захочешь. Теперь уж точно я тебе сам помогу и верёвку намылю.

Праўда, званок на ўрок крыху астудзіў яго:

– Благодарите Бога, что сегодня в школе эти ищейки. Не то я бы вам показал день Ангела. Смотрите, ангелочки, не угодите в преисподнюю...

...Нельга было спадзявацца на тое, што і на гэты раз “пранясе”: усё забудзецца, усё ўладкуецца само сабою. Я і не спадзяваўся. Проста разам з праверкаю ў школу прыйшлі клопаты іншыя, здавалася, больш істотныя. І за імі нашы пазашкольныя праблемы схаваліся, адступілі на другі план. У школе пачаўся сапраўдны шмон. Правяралі ўсё: не толькі хадзілі на ўрокі, але цікавіліся кожнай паперчынай, справаздачай, метадычнай распрацоўкай, правяралі нагляднасць і планы, залезлі і ў дырэктарскую “кухню”. Пагодзіна круцілася ваўчком, і з настаўніцкай салідарнасці нават было яе шкада. Напэўна, у дырэктара таксама ёсць што праверыць, якія знайсці недахопы. Школу даўно не рамантавалі. Можа, у навейшым будынку гэта так і не кідалася б у вочы, а наш дагістарычны замак без рамонту з кожным годам набываў усё больш экстравагантны выгляд, хоць ты ў ім размяшчай музей сярэднявечча. Не, лепей усё ж музей безгаспадарчасці, бо, даламаныя, прыйшлі ў непрыгоднасць парты, як яшчэ не рухнулі падчас урока, бо сыпалася тынкоўка і ў любы момант магла зваліцца каму на галаву, не кажучы пра падлогу, што, не фарбаваная колькі гадоў, не мела ніякага колеру. Праўда, школы зараз – бедныя Папялушкі. “Раяноўцы” гэта ведаюць і таму стараюцца надта не засяроджваць увагу на нетаварным выглядзе нашага Храма навукі. Але ўсё роўна, трэба ж і сумленне мець. Не маючы ні капейкі на рамонт школы, Пагодзіна, тым не менш, саламінку не пераламала, каб яе здабыць. Раніцай прыехала з горада, пасля абеда махнула рукой і – гайда дадому, хай хоць чэрці вьюць, хай хоць падаюць, ці з неба каменне, ці са столі тынкоўка.

Зрэшты, нам, настаўнікам, павінна таксама быць усё, як хлопцы кажуць, “по-цэнтру”. Калі дырэктару не свярбіць, якая справа шараговаму настаўніку? Зайшоў у клас, урок адтарабаніў, не звалілася табе тынкоўка на галаву – будзь шчаслівы. Абы ішлі грошыкі. Так, зрэшты, многія і рабілі. Хіба толькі нам з Аксанаю, самым нягеглым і самым дурным, не ставала гармоніі, прыгажосці, эстэтыкі. Нам, як заўжды, болей за ўсіх трэба. Зойдзеш у клас, убачыш трэшчыну на ўсю сцяну, падобную да вялізарнага павука, і настрой адразу прапаў. Нешта гаворыш дзецям, расказваеш, які цудоўны, які гарманічны свет, і ловіш сябе на думцы, што дзеці цябе не слухаюць. Яны – у сваіх фантазіях і мроях. Хіба ў нашай школе гаварыць пра гармонію! Мае дзеці, страляныя вераб’і, на мякіне не ашукаюцца. Любое неабдуманае маё слова падчэпяць ды так пракаментуюць, так раскрытыкуюць – не будзеш ведаць, куды дзявацца. Правільна, я ж сам іх вучу і аналізу, і крытычнаму ўспрыманню рэчаіснасці. Расказваю аб прыгажосці свету і халодным потам абліваюся. Так і чакай, падымецца Серада і скажа:

– Да брехня всё это, Журнал, ты ведь сам знаешь. Зачем, скажи, нам на уши лапшу вешаешь, перед кем выпендриваешься?

Не, не падымецца, Валодзя ўжо дарослы, ён умее хаваць свае пачуцці і не зробіць мне балюча. Ён можа толькі падумаць. Дый гэтага дастаткова.

Напэўна ж, ведае ўжо ўсе падрабязнасці ўчарашняга вечара. Што думае пра мяне? Што скажа, калі вечарам сустрэнемся сам-насам?

Я міжволі лаўлю сябе на думцы, што пачынаю саромецца свайго юнага сябра. Ён зараз – маё сумленне. Пачынаю саромецца і адначас хачу сустрэчы з ім, чакаю яго парады. Уяўляю, як смяяліся б калегі-настаўнікі з майго пачуцця. Падумалі б, напэўна, што ў Квадратнага прусакі ў галаве. Хіба можна даросламу чалавеку ўсур'ёз прыслухоўвацца да меркавання жаўтароціка-малалеткі? Такі вось стэрэатып. Не толькі можна, мае вы дарагія, але і трэба. Уся наша бяда ў тым, што мы ўявілі сябе непагрэшнымі і непадсуднымі. Багамі сябе ўявілі, якія хочуць, прысвоілі права распараджацца лёсамі нашых дзяцей, бо тыя, маўляў, і “цяжкія”, і рагатыя, і паласатыя. Ды люстэрка яны наша. І не яны “цяжкія”, а мы, і не ім у нас вучыцца трэба, а нам у іх. Яны пакуль яшчэ толькі вучацца на дарослых, і можна спадзявацца, што з іх нешта годнае вырасце. А мы прайшлі ўжо свае акадэміі. І – двоечнікі мы! Зірніце, колькі дарослыя робяць адзін аднаму брыдкага, подлага. За што? Ды ні за што. Бо зайздросцяць, бо ненавідзяць... Хочацца ўцячы, “сачкануць” з дарослага свету ў свет дзіцячы...

Чаму ж ты, Валодзечка, не зайшоў да мяне ўчора ўвечары? Кожны дзень, бадай, бываеш, а то не зайшоў. Напэўна, ты выкінуў бы з маёй хаты тых “хэпібёзднікаў”, як кацянят, за каўнер, і раздумваць не стаў бы. Ты, у адрозненне ад мяне – з характарам.

А можа, усё было б наадварот? Мо і ты далучыўся б да нашага пікніка? Божа, збаў! І тады цябе я перастаў бы паважаць. Але гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Калісь было, ды быллём парасло. Адбываецца тое, што павінна адбыцца. Няма ў жыцці нічога выпадковага: ні сустрэч, ні знаёмстваў. Так заўгодна Богу, і ўсё гэта да нечага павінна прывесці.

Чым болей думаў, тым думкі мае ўсё далей ляцелі ад школы. І я злавіў сябе на тым, што не хачу думаць пра школу. Правёў сёння, дзякуй Богу, урокі, хоць і нялёгка мне яны даліся, і хутчэй паспяшаўся дадому.

Балела галава – ажно ў вушах трашчала. Напэўна, зноў падняўся ціск. Праклятая гіпертанія, у трыццаць пяць гадоў не дае спакойна жыць. Урачы кажуць, трэба мяняць лад жыцця, трэба мяняць працу, каб быць спакойным і зусім не хвалявацца. Палохаюць страшэннымі інфарктамі ды інсультамі пасля сарака гадоў. Урачы – вялікія фантазёры і летуценнікі. Дзе можна так спакойна жыць? Хіба ў магіле? Толькі не ў школе. Што будзе, тое і будзе. А пакуль што ўрачы прыгаварылі мяне да пажыццёвых таблетак. Прынамсі, да скону веку мушу піць аспірын нанач. Бо ўся Еўропа, маўляў, з яго дапамогай толькі і ратуецца ад інфарктаў. Што ж, пажывем на таблетках пакуль, а там...

Выпіўшы лекі, я прылёг на канапу хоць крыху адпачыць, перавесці дыханне, перагнаць стрэлкі. Ведаў, што і зараз не засну. Дурны арганізм – не ўмею спаць днём. Дый няма часу доўга валяцца на канапе. Кішкі марш граюць, з ранку макавай расінкі ў роце не было. Хочаш не хочаш, неўзабаве трэба падымацца і ладзіць сабе есці. І планы трэба пісаць. Адзін раз халява прайшла, двойчы не пройдзе.

А ляжаць хораша. Сагрэўся, супакоіўся, нават, здавалася, не так стала балець галава. Вось бы заснуць. Можна і... назаўсёды... Лацвей, ніякіх табе

думак, ніякіх клопатаў! Божа мой! Што мроіцца ў маёй хваравітай свядомасці! Не, смерці я не баюся, але, як кожны нармальны чалавек, баюся пакутаў, якія могуць ёй папярэднічаць. Тым болей, што я адзінокі чалавек, і мне няма каму дапамагчы цывілізавана памерці. Помніце анекдот? Чым адрозніваецца халасцяк ад сямейнага чалавека? Адзін жыве як сабака, другі памірае як сабака. Хто ёсць хто – угадайце самі. А смерці чаго баяцца? Гэта фініш, жыццёвы фінал, пасля якога альбо цябе не будзе, альбо ты пярэйдзеш у іншае вымярэнне. І ўсё зямное, з-за чаго зараз гэдак балюча перажываеш, будзе табе здавацца смешным і нікчымным. Ці веру я ў іншы, у замагільны свет? Нейкім чынам веру. Хаця і не ўскладваю на яго асаблівых надзей. Дапускаю абодва варыянты. Калі мы пасля смерці перастаём існаваць, значыць, тым каштоўней наша зямное жыццё, тым значней усё тое, што мы робім на зямлі. Нас не будзе, і таму трэба спяшацца жыць, каб пасля сябе ўспамін пакінуць. Калі ж ёсць нейкі іншы свет і іншае вымярэнне – а шмат чаго ў нашым жыцці сведчыць на карысць гэтага варыянта – тым лепей. А мо тым горш? Існаваць цэлую вечнасць, напэўна ж, нецікава, сумна. Хаця ў самой таямніцы смерці ёсць нешта загадкавае і нават... прывабнае.

Вярнуў мяне з таго свету настойлівы званок. У мяне на браме прымацаваны электрычны званок. І добра. Цяпер загадзя ведаю, хто да мяне ідзе. Кожны звоніць па-свойму. Але ў сяброў – у сваіх людзей – званок адметны. У нас ёсць свой пароль.

Званіў нехта са сваіх. Трэбаісці адчыняць. А падымацца не хацелася. Апанавала лянота-дрымота, мусіць, каб яшчэ з паўгадзінкі, я, насуперак звычцы, заснуў бы. Балазе ў печы паліць ужо не трэба, вясна, а страўнік патрываў бы, яму не ўпершыню.

Ледзьве прымусіў сябе адарвацца ад канапы. Не сваімі нагамі паклыпаў адчыняць.

– Каго там нясе нячыстая?

– Открой, Журнал! Ишь, затворился средь бела дня.

Валодзя. І голас у яго не такі, як заўсёды: урачысты, радасны.

Адчыніў браму, убачыў сябра і ледзьве не самлеў.

– Весну встречай, медведь, спрятался здесь, как в берлоге, – мой Валодзя непаўторны: новенькі, як з голкі зняты, касцюмчык, беленькая, накрухмаленая кашуля. Хлопец заўсёды быў акуратны, сачыў за сабою, але такім я яго бачыў упершыню. Ён трымаў вялізарную каробку цукерак і... двухлітровую, ледзьве не цабэрак, бутыль шампанскага, – это тебе.

– Што, зноў дзень нараджэння? – міжволі вырвалася ў мяне.

– Тебе отец передал... Приехал наконец-то. В самое ближайшее время приглашает тебя в гости.

І столькі радасці ў шчаслівых вачах юнака! І столькі незямной асалоды!

– Дык вось яно што! Віншую, калі так, Валодзенька. Сёння ў цябе і сапраўды свята. А я, калі ўбачыў, падумаў, ці не жаніцца ты сабраўся? Ну, праходзь жа, праходзь. Госцем будзеш. Хаця... які ты госць? Ты мне даўно ўжо за сына, Валодзька...

Ён уважліва зірнуў мне ў вочы, на хвіліну, было, насцярожыўся, але затым ізноў заўсміхаўся:

– Врёшь, Журнал, в сыновья я тебе не гожусь, а вот друг ты настоящий. Знаешь, я иногда задумываюсь, как такое могло случиться, что мы с тобой скентовались? Ведь я пацан ещё, а ты мужик, мой учитель, писатель. Ну,

разве так бывает? Только в сказке. А потом словил себя на мысли: ведь я тебя воспринимаю, как друга, по факту, как ровесника своего. Пускай мы с тобой не бегаем вместе на танцы, разве что этим только и различаемся, но ведь в остальном ты совершенно свой человек – свой пацан...

– Ладна, пацан, кампліменты пакінь для дзяўчыны, будзеш ёй на спатканні на вушы вешаць, а зараз зварым з табой каву. Добра, што ты прыйшоў, даўно не бачыліся, шмат аб чым пагаварыць хочацца. Торцік бы зрабіць. Шкада, пячэння няма...

– А я кто по-твоему? – зарагатаў Валодзя.

– Ты, напэўна, ужо не смачны будзеш. Сапсаваліся вы, хлопцы, лета адчулі, волю, а ранавата яшчэ.

– Обижаешь, шеф, не пьющий, не курящий, во всяком случае, крепче шампанского ничего не пью.

– Дарэчы, шампанскае мы сёння таксама піць не будзем, – я ўзяў прыгожую пузатую бутлю, паставіў яе ў сервант, дзе ўжо стаяў учарашні трафей – белая гарэлка.

– Почему? – здзівіўся Валодзя, але, убачыўшы гарэлку, здагадаўся. – А, всё понятно. Зажал Журнал "бухло"... Достали они вчера тебя, эти чмошники? Они ведь в городе ещё по бутылке на брата сообразили, сегодня сами рассказывали. Представляешь, мать Милки на подарок дала деньги, а он всё на водяру пустил. Напились с Бусликом как хрюшки, и потом ещё к тебе. Меня не было, как раз отец приехал, я бы им ноги повыдёргивал да спички повставлял, инвалиды, дебилы. Ну, ладно, ещё разберёмся.

– Ні ў якім разе, Валодзя, хопіць мне вашых разборак, вось тут сядзяць, ведаю, як ты ўмееш разбірацца. Пасля таго-сяго даводзіцца з пятлі вымаць.

– Да ну, кто его трогал, Журнал! Козлом обозвали, когда со школы шли. Ах, какой нежный, нервный мальчик, вешаться побежал. Ты ещё меня попомнишь, Журнал, этот фрукт тебе какую-нибудь подлянку устроит под занавес, вот увидишь. Чует моя душа.

– Хопіць мне і ўчарашняга...

– А что вчера? Ну, забрала его Наумовна, так ей не привыкать... Боишься, в милицию побежит? Да ну, не бойся! Здесь уж не ему кровь пустили, если что, милиция его же первого и повяжет. А мы тоже молчать не станем. Не боись, Журнал, Наумовна не такая глупая, чтобы своего сыночка подставлять. А вот тебе это, пожалуй, урок хороший. Не фик было с ними пить. Да такие отморозки, как Буслик, они вообще человеческих слов не понимают. До них только кулаками и можно достучаться.

– Ну, дзякуй, настаўнічак мой, навучыў, – з'іранізаваў я, мне, вядома, было прыемна, хоць Валодзя і паўтараў усё тое, што сам сабе я даўно разважыў, але ж адна галава добра, а дзве лепей. Прыемна, а што ж, іншым разам і падлетак бывае добрым настаўнікам. – Кулакамі я, вядома, арудаваць не збіраюся, а вось піць, ты праўду кажаш, зарокся з вамі, дзецьмі, на ўсё жыццё. Анічога мацней за каву. Бог мне, напэўна, знак падаў.

– Как там у вас говорят: "заракалася свіння за вугал не хадзіць"?

– Ну-ну, цішэй на паваротах!

Мы засмяяліся...

– Ды годзе пра нуднае. Быццам і сапраўды алкаголікі. Раскажы лепей, як бацька.

– Отец – лучше всех. Квартиру продал, больше, сказал, на Украину не поедет, – заззялі вочы ў хлопца. – Деньги у нас сейчас есть. Может, дом в

райцентре купим. Не сидеть же всю жизнь у деда с бабой на шее. Да и что делать здесь, в деревне? Надо в какое-нибудь училище или в техникум поступать. Жить ведь где-то надо.

– Правільна, па-даросламу разважаеш. Вось толькі каб бацька тыя грошы не прапіў?

– А я зачем?

У цябе то ўжо нарасло мазгоў, але трэба і над бацькам тваім, мусіць, шэфства браць. Не сказаў, толькі падумаў так. Тут ёсць над чым прызадумацца.

Але Валодзя маю задуменнасць зразумеў па-свойму:

– Ты не расстраивайся, я к тебе всё равно буду приезжать, ведь я сюда, как домой, прихожу.

– Дзякуй, – расчуліўся я, – па мне не бядуй. Маё шчасце, Валодзенька, каб вам шчасліва жылося.

Даўно ў маёй хаце не было гэткае ідыліі. Мы з сябрам сядзелі за акуратна, з густам, можна сказаць, па-еўрапейску сабраным сталом: былі цукеркі і нават садавіна, нягледзячы на раннюю вясну, былі крышталёвыя фужэры для натуральнага яблычнага соку і прыгожыя сподачкі – для кавы.

Мы пілі каву, закусвалі цукеркамі і маглі гаварыць пра ўсё, чаго пажадае душа. Ніхто нам не перашкаджаў, дый не мог перашкодзіць.

– Как тебе "спадабаўся" твой сегодняшний урок?

– Калі ты дажыў да беларускага слова за нашым сяброўскім сталом, значыць, урок, напэўна, не прайшоў дарэмна. Ты не паверыш, але я не ведаю і не помню, як ён прайшоў. Я сёння ў школе адчуваў сябе ў поўнай бязважкасці, як касманаўты ў палёце...

– Классно было, Журнал, отвечаю! Я даже не заметил, как этот урок прошёл. И тётеньке этой, по-моему, безумно понравилось...

– Крывадушнікі мы. Пусцілі пыл у вочы чалавеку. Сам кажаш, "адмарозкі".

– Ну, что ты, Журнал, какое же тут лицемерие? Мы же все на уроках всегда были единомышленниками, и – пофигистами, сам знаешь. Будь не интересно, не получилось бы такого урока. Пускай – "отморозки" по жизни, но ведь ребята тебя все ценят и уважают, как учителя. Потому что интересно у тебя. Это не лицемерие.

– Затое падхалімажам пахне. Паслухаем, як "интересно" ахарактарызуюць мяне на выніковым педсавеце.

– Тебя это волнует?

– Ведаеш, жартаваў воўк з канём, ды ў жмені зубы панёс, і потым, калі ўвесь час пнём калоду абзываць...

– Меньше думай – больше проживёшь. Да, кстати, а что за фифа на уроке сидела?

– Чым ты слухаў? Я ж вам казаў... Ніякая яна не фіфа, а загадчыца аддзела адукацыі. Я з ёй не знаёмы, але мне здаецца, чалавек даволі прыстойны і разумны. Калі яна не разбярэцца, што і да чаго, то няма на каго больш ускладваць надзеі...

– Вот приедет барин, барин нас рассудит.

– Усё, закрылі гэту тэму, праехалі, як вы кажаце.

– Журнал, а ты иногда, как ребёнок, нервничаешь, капризишь, может быть, тебе надо ремня дать, чтобы и к нам прислушивался? Или ты думаешь, что у нас, пацанов, врождённое скудоумие?

– Не наязджай. Калі б думаў так, то па-іншаму з вамі размаўляў бы. Але ж не лезу ў вашы разборкі і не ўказваю, каму табе сёння нос расквасіць.

– Хм, не указываешь...

Зноў у браму пазванілі. Чуваць было, званіў нехта чужы, і мы абодва насцярожыліся. Хто мог званіць? Нікога не клікалі. Трывожнае прадчуванне кранула маю душу. Пайшоў адчыняць і ўбачыў на вуліцы машыну Буслаевых.

– Мы – да вас, – вінавата, як бы сарамліва патлумачыў старшыня.

Яны прыехалі да мяне ўтрох: бацька, маці, Віця. Навошта? Што яшчэ магло здарыцца?

– Заходзьце, калі ласка, – прапанаваў я здзіўлена. – Чым магу служыць?

Навумаўна моўчкі зайшла на куханьку, спадылба зірнула на Валодзю, які ўсё яшчэ сядзеў за сталом. Ён, мусіць, таксама разгубіўся пад яе пранізліва-халодным позіркам. Любы зніякавее. Позірк быў безуважна-грэблівы, быццам глядзелі на пустое месца, і нічога добрага не абяцаў.

– Віця ў вас нічога ўчора не забыўся? – нарэшце азвалася Навумаўна заміж прывітання.

– А што ён мог забыцца? – здзівіўся я.

– Ну... завушніцы залатыя.

– Завушніцы?! А, так-так, ён казаў... – толькі зараз я ўспомніў, як Буслік учора хваліўся завушніцамі. Не хапала мне... – Шукайце, – збянтэжана прапанаваў я, безабаронна падставіўшы сваю хату хамам.

Навумаўна, не доўга думаючы, як была, у ботах, ірванула ў залу, адтуль – у спальню, дзе ўчора валяўся Бусел. Зазірнула на ляжанку. Затрэсліся ложкі, канапа – толькі пух ды пер'е ляцелі, дайшла чарга да паласаў. Я й сам дапамагаў праводзіць у сваёй хаце імправізаваны вобыск, зусім страціўшы розум і пачуццё ўласнай годнасці. Вар'ят, я сам сябе падставіў, паддаўшыся імгненнай слабасці, раптоўнаму, бадай, жывёльнаму страху і разгубленасці. Цікава, няўжо Навумаўна вось так бесцырымонна ходзіць у ботах па дыванах і ў сваёй хаце? Але ў той час мне было не да гэтага. Па мне тапталіся зайздроснікі і незычліўцы ў брудных ботах на вачах у маіх вучняў. Гэтага я не забуду і не дарую. Бачыў, як збялеў мой Валодзя, як сціснуліся яго кулакі, але, агаломшаны знянацку, я мала чаго тады разумеў.

– Успомні, дзе ты паклаў завушніцы? – пілавала Навумаўна сына, не зважаючы на нас з Валодзем.

– Я іх, здаецца, у пачцы пакінуў з-пад цыгарэт.

– Дзе тая пачка?

– Грэц яе ведае, – апраўдваўся я, – як у ваду канула. Учора ўвесь вечар шукалі...

– А хто ведае? – паставіла Навумаўна рукі ў бокі. – Як гэта ў вашай хаце рэчы прападаюць? Вы што, Віктар Фёдаравіч, не разумееце, чым гэта пахне?

– Ды Бог з імі, – адчуўшы няёмкасць за жонку, махнуў рукою старшыня, – знойдуцца. Можа, той хлопец узяў? Паехалі.

І тут не вытрымаў Валодзя, падняўся з-за стала, хапіў Бусліка загрудкі:

– Ты на кого наехал, гад?! Кому нужны твои вонючие серьги?

– Ды я ж нічога не кажу... – захныкаў Бусел, – але ў пачцы былі.

Ды Валодзя нават і слухаць не хацеў:

– Зато я говорю, веди сюда Милки, животное, если вы мне сей же час не найдёте вашего хлама, я не знаю, что с вами сделаю!

– Не смець! Не смець так размаўляць з маім сынам, бандзюга! – рынулася Навумаўна на Валодзю, як ільвіца, гатовая разарваць яго на кавалкі.

– А як жа з ім па-іншаму размаўляць?! – раптам сурова ўпікнуў жонку старшыня, відаць, ён пачаў здагадвацца... – Паехалі адсюль, дома разбярэмся!

– Серада! Супакойся, яшчэ не хапала... Дарэчы, Надзея Навумаўна, а як тыя завушніцы трапілі да Віці? – запытаў я з'едліва, нарэшце агоўтаўшыся. – Ці не сабраўся ён золата ў вушах насіць?

Тая аж злякнулася, развярнула аглоблі на ўсе сто восемдзесят і не сваім голасам, неяк вельмі ж ветліва прамармытала:

– А ён збіраўся падарыць. Во і падарыў...

– Кому подарить? Милки? – зайшоўся Валодзя ад злога смеху.

– Не твая справа.

Навумаўна зусім разгубілася, а старшыня таксама ўсміхнуўся. Бачна было: яму сорамна і за жонку, і за сына:

– Ладна, паехалі, хопіць тут ладзіць камедыю, – рэзка спыніў ён дэбаты, сам сабе заўважыў: – Мо і праўда нікога ён не паіў, а гэтыя абармоты прывезлі з сабою ды прычапіліся...

Але Навумаўна так проста здавацца не жадала:

– Дык завушніцы мо пашукаеце, Віктар Фёдаравіч, на цвярозую галаву?

Але я ўжо быў падрыхтаваны да атакі:

– Абавязкова пашукаем, Надзея Навумаўна, вось толькі працверазеем. А боты свае дома здыміце, праверце, мо ў іх каторая закацілася. Ды не хвалюйцеся, ваша золата я ў ламбард не панясу.

– Панясеце ў іншую ўстанову, – злосна засіпела кабета, грукнула дзвярыма.

Застаўшыся адны, мы з Валодзем нейкі час маўчалі, не ведалі, як зачапіцца за гаворку.

– Як думаеш, – пачаў я, – заявіць у міліцыю?

– Очумел, что ли? Разве не понятно, что он эти серёжки дома украл? Сдать своего сыночка? По-моему, эта стерва ещё из ума не выжила... А ты тоже хорош, учить тебя надо. Подумать только, позволил ведьме топтаться по паласам, рыться в своём грязном белье. Пускай бы ещё в штанах поискала.

– Лёгка табе, Валодзька, казаць. Ведаеш, якую буру можна раздуць у шклянцы вады, дакладней, майго шампанскага?..

– Пускай только попробует. Как раздует, так сама в нём и захлебнётся... Да не выгодно ей это, я тебе кричу!

– У міліцыю, можа, і не выгадна заяўляць. А шантаж? Скажа, напрыклад, каб за золата ёй заплацілі...

– Ещё чего! Покажи ей преогромный кукиш. Пускай скажет спасибо, что ты её сыночка бухого за дверь не выставил и Крутелю не сдал. А ты засца-ал! Признайся, а Журнал? Душа-то в пятках. Будешь знать, как с "отморозками" дело иметь. А я тебя предупреждал, что Бусел западлист.

– Як думаеш, дзе завушніцы?

– А вот вопрос, конечно, интересный. Ну, не знаю, не знаю, что-то не верю я, что Милки способен... Но, думаю, завтра я всё буду знать, и золото найдётся...

– Не ўздумай...

– А вот это уже моё дело. Как захочу, так и вздумаю. Хватит, докатились мы с твоею, как ты говоришь "талерантнасцю". И правда, недолго так и в

тюряге оказаться, если каждому подонку потакать. На шею усядутся и голову склюют. Так что хватит нас учить, Журнал Фёдорович, сам разберись в своих лабиринтах. И не обессудь, если и мы тебя кой-чему поучим. Сам говорил, учиться никогда не поздно.

– Дзякуй, Валодзенька, – расчуліўся я, выслухаўшы яго зусім дарослую логіку. – Дзякуй, што дапаможаш, што не кінеш мяне зараз, калі мне і сапраўды цяжка. Я толькі прашу, вельмі прашу цябе: не наламай дроў, не перагні палку. Загубіш мяне – паўбяды, а вось сябе каб не загубіў... А цяпер – ідзі, хлопчык мой. Мне трэба на адзіноце пабыць, паразважаць. Ты ж ведаеш, людзей слухай, а ад самога сябе не ўцячэш...

Пайшоў... Пайшоў, каб мне дапамагчы. Нарэшце і я дачакаўся рэальнае аддачы, атрымаў рэальную ўзнагароду за тую сваю мала зразумелую людзям і абсалютна бескарыслівую дружбу з падлеткамі. Я верыў, я спадзяваўся, прыйдзе час, калі мае падлеткі ў цяжкую хвіліну пададуць руку дапамогі, і вось ён, гэты час, настаў. Што ж, на мяжы сапраўднае рызыкі, на якой я зараз балансую, стоячы на адной назе, рызыкуючы страціць многае, калі не ўсё адразу: любімую працу, добрае імя, аўтарытэт, нават волю – на гэтай самай мяжы я магу лічыць сябе найшчаслівейшым чалавекам: падлеткі, каму я прысвяціў усё сваё жыццё і аддаў усе сілы, становяцца рэальнай маёй апораю і падтрымкаю па жыцці...

*(Заканчэнне будзе).*

Уладзімір Мароз



...асалоды не бывае
вельмі шмат...

# Край вялікай вады

***Акіянская нізка***

### *РАЗВІТАННЕ З НЁМАНАМ*

Ты прабач мне, мой Нёман, прабач,
Я не здрадзіў табе, я не здрадзіў!
Проста час праімчаўся наўскач –
Край вялікай вады так прынадзіў.

Нарадзіўся я ў краі лясным
У краіне без выйсця да мора,
Дзе чароўныя спеляцца сны,
Дзе інтымнасцю лашчыць прастора.

Мне хапала азёраў і рэк –
Не злічыць іх, як зорак на небе.
Тут адвеку жыве чалавек,
Мае водаў па ўсякай патрэбе.

Акіян для яго – гэта лес,
Вершаліны разгойдвае вецер.
Хвалі тыя ўгары недзе спрэс,
А табе жыць утульна на свеце.

Ды ў спакоі душу не ўтрымаць,
Да нязнаных мясцінаў ірвецца.
На памкненні сышла дабрадаць –
Акіян зачапіў маё сэрца.

Дык не крыўдзіся, Нёман, відаць,
Як ты сам коціш гонкія воды,
Акіяна шчыруеш дапяць –
Мы абодва ўжо з ім назаўсёды.

### *СУСТРЭЧА З АКІЯНАМ*

Я ішоў па жыцці і прыйшоў,
Як уведаць – запозна, зарана?
Я дапяў да свайго акіяна,
Новасэнс нечаканы знайшоў.

У далёкай чужой старане
Ён чакаў–не чакаў, не ў тым справа!
Ён маіх раздарожжаў праява,
Справа толькі ўва мне, ува мне!

Тут настой забірае густы,
Далучае разліву бязмежжа.
Тут бадзёрыць душу ветрык свежы –
Як нанова пачуешся ты.

Ён цяперачы твой, акіян –
Недзе Нёман далёка застаўся.
Лёс ніяк у цябе не спытаўся,
Але ўсё ж і не кінуў у зман.

Выбар проста ў нас з лёсам супаў –
Абжывайся, вандроўнік, як дома.
Паглядзі, табе ўсё тут знаёма,
Будзь сваім, усяго толькі спраў.

Сустракай вечны сонца ўзыход,
Да свабоды адчуй пакліканне.
Толькі ведай, як наканаванне –
Акіян не пяройдзеш уброд.

## НА БЕРАЗЕ

Узыходзіць сонца з прывітаннем
Ад маёй радзімай стараны.
Раскашуйся з пракаветным раннем,
Мілата бруіць дзе без маны.

Паглядзі на далеч акіяна,
Згадкай аж да Нёмна даляці.
Дзе сустрэчна будзе, дзе растанна –
Так і адбываецца ў жыцці.

Не шкадуй, што сёння ты далёка,
У чужой прыветнай старане.
Не пачуеш тут бусліны клёкат,
І сунічны водар абміне.

Тут затое пальмы і спякота,
Што не толькі цела саграе.
Акіян шапоча беклапотна,
Думкі залагоджвае твае.

У сваім пяску шчыруюць крабы,
Ад людзей хаваюцца ў нару.
Не такія яркія тут звабы,
Але ўсё ідзе ў сваю пару.

Пеліканы ў стане палявання –
Даць нырца ды рыбу ўпаляваць...
Перадам на ўсход я прывітанне
І пайду ў цянёк адпачываць.

## ПЕРАМЕНА МЕСЦА

Прастора чым яднацца мусіць? –
Заўсёды знойдзеш, не скажы.
Вось так мы, братка, з Беларусі
Прывезлі ў Флорыду* дажджы.

Яны тут іншыя, адно што
Кароткія, ды й то не ў суш.
Праходзяць рупна сваім коштам,
І цёплыя, як летні душ.

* Самы паўднёвы штат ЗША.

Усё астатняе дазвання –
Не беларускі краявід.
Спякота з рання і да рання,
Якой не збудзешся наўскід.

Але не стомішся ад сонца –
Дае спатолі акіян.
Надзейны сябар-абаронца
Не дасць патрапіць у капкан.

Вітаюць хвалі нас імпэтна,
Так блізка рай – падаць рукой.
Шпацыр па беразе бязмэтна –
Душы адхланне і спакой.

## *РАНІЦА*

Ты нікому нічога не вінны –
Дык згадай у суладдзі з сабой
Кока Біч*, дзе гуляюць дэльфіны
З акіянскай лагоднай вадой.

Ім спатольнае волі даволі,
Сонца ранішнік свята нясе.
Так шчасліва ім быць на прыволлі,
Дзе жаданні спаўняюцца ўсе.

Добра й нам удваім на ўзбярэжжы,
Ногі босыя лашчыць вада.
Кліча ўдаль акіяна бязмежжа –
Хай нам лёгкаю будзе хада.

Не зважайце, дэльфіны, гуляйце –
Ваш імпэт не парушым ніяк.
Разам з хвалямі ўсцяж адбівайце
Іскры сонца як раніцы знак.

## *БЕРАГ ДЛЯ ДВАІХ*

Жывём удвух на беразе з табой
У поўнай несамотнай адзіноце.
Нагадвае спагадлівы прыбой
Ізноў-наноў аб неспазнанай цноце.

---

* Горад на акіянскім узбярэжжы штата Флорыда, ЗША.

Яе мы рупна спазнаём штораз
Праз немы крык, што кліча спataленне.
Салодкіх целаў нераз'ёмны звяз
Зарукай ёсць насталага збавення.

Суладдзя стан і ўсплёск жывой вады –
Трымаюць водар і пяшчоту хвалі.
Над пачуццём не ўладныя гады,
Каханне ў нас яны не адабралі.

Імгненне тое як мага спыні –
Юдоль зямная хоць на час пазбыта.
Сярод паўсталай раптам цішыні
З вады выходзіш ты, як Афрадыта.

### *ПЯСЧАНЫ ЗАМАК*

Пра лета згадкі ўладкую ў рамку,
Салодка ўспомню такой парой
Той месяц летні ў Пясчаным Замку*,
Што стаў мядовым для нас з табой.

Спякота поўдня, адданасць цела,
Пяшчоты подых як першы раз.
Каханне, бач ты, як ацалела,
Не разарваны пачуццяў звяз.

Знітуе зноўку адно з адным нас,
Каб стаўся явай няўлоўны міг.
Плывем прасторай мы неабдымнай,
Раздзелім слодыч на нас дваіх.

А потым хвалі накоцяць свежа,
Але не змыюць спатолі знак.
Пясчаны Замак, што на ўзбярэжжы,
Жыцця нязводдзя дае нам знак.

### *АДХЛАННЕ*

Час світання, час твой дарагі,
Бо з адхланнем здолееў ты пабрацца.
Хвалі ў рад трымаюцца чаргі
З берагам сустрэцца-павітацца.

---

* Назва жылога комплекса на акіянскім ўзбярэжжы Флорыды.

Цвёрда рытм трымае акіян,
Любіць ён заведзены парадак.
Тут не можа збыцца “не фантан”,
Аніякіх збочнасцяў і звадак.

Часам ён трывае неспакой –
Штормы і віхуры, ураганы.
Але тым не дзеліцца з табой,
Значыць, ты ў таварышы абраны.

Карыстайся момантам такім,
Радуйся, што сонейка ўзыходзіць.
Непатрэбны чалавеку стрым
У жыцця будзённым карагодзе.

Кожны хоча збегчы ад бяды –
З асалодай любавацца раннем.
Мудрасць спаконвечнае вады
Радуе цябе сваім абраннем.

## *АКІЯН І НЕБА*

Прыйсці прыслухацца чулліва трэба –
Вялікі акіян вядзе свой рэй,
Ён размаўляе ўслых з высокім небам,
І прышласць там ужо каля дзвярэй.

Як маеш слых, сумоўе іх пачуеш,
Калі магчыма вечнае спазнаць.
Але душу сваю як адратуеш,
Калі на неба вочы не падняць?

Мы да зямлі панурылі пагляды,
На дольніх затрымаліся шляхах.
Не дыялог – а лаянкі і звады,
Што з нашых словаў робяць толькі прах.

Для згоды іх даўно ніхто не чуе,
Бо закапалі таленты ў зямлю.
Адчайна ў роспачы жыццё вякуе,
І непатрэбна слова нам “люблю”.

Іду самотным краем акіяна
З надзеяю, што прыме за свайго.
Ён рэй вядзе нястомна, нестрымана
І верыць, што пачуем мы яго.

## ЗАКОН АМБІВАЛЕНТНАСЦІ

Адгладжанае водамі ўзбярэжжа,
Па хвалях думка-сполах падграбе:
Амбівалентнасць – ты сярод бязмежжа,
І неабсяжнасць унутры цябе.

Пясчынка ты сярод табе падобных,
Якая ветрам здзьмецца ў той жа міг,
Ці ты прасторы подых непадробны,
Які ўвабраў у горан свой усіх

З бядою, шчасцем-радасцю, трывогай,
З падзеяў кайстрай, што і ёсць жыццё?
Тут акіян прыходзіць з дапамогай –
Тваё сцвярджае пробліск-адкрыццё.

Усё тут разам, ты малы й вялікі –
І гэтым толькі будзеш чалавек.
На грэбнях хваль гуляюць сонца блікі,
Святлом кранаюць змораных павек.

## ПЕЛІКАНЫ

Акіянскія птушкі над воднай стыхіяй лунаюць –
Не адразу ўдаецца наўскід зразумець іх палёт.
Калі сам не галодны, турботы пра харч не кранаюць,
Іншы думкі тваёй выкіроўвае вобразны ход.

Разам з імі цябе забірае прастора і воля –
Уздыміся душою і сам над вадою ляці.
У нябыт адплывае нязбыўная скруха-нядоля,
А прыходзіць нарэшце суладдзя сувой у жыцці.

Пеліканы цікуюць-вартуюць хвалістыя воды,
Крылаў роскідам дужым паветра гартуюць усмак.
Хоць ляцяць чарадою, але не губляюць свабоды –
Кожны з шэрагу выпасці можа імгненна няўзнак.

Тут няма важака, сярод роўных спатольна ты вольны,
За спакусай-здабычаю каменем з неба ляціш.
Толькі так зразумееш, на што ты абраны і здольны,
Што табе на прымнажанне дадзена Госпадам звыш.

Можаш раптам зусім чарады надакучнай пазбыцца –
І пад небам гуляеш-лунаеш узвышна адзін!

Не адпрэчыць таго, што праз лёс з табой мае адбыцца,
Зразумей назаўсёды, што ты авантурнасці сын.

### СОНЕЧНАЯ СЦЯЖЫНКА

Дзе наяве ўсутыч акіяна і неба бясконцасць –
Сузіранне адкрые табе яе сэнс спакваля,
Край вялікай вады нараджае з глыбінь сваіх сонца
І вястуе на свет надыходжанне новага дня.

Слуп святла пырсне радасцю ў самыя вочы
І сцяжынку, як покліч у даль, пракладзе.
Крочыць ёй нацянькі, і нікуды, не дай Бог, не збочыць,
Не баяцца, а проста ісці ды ісці па вадзе.

Тая сцежка вядзе да сустрэчы з радзіннай старонкай
Пад пашэптванне хваляў, прыветны палёт аблачын.
Там далёка душы беларускай схавана скарбонка –
Нёман, хутар чакаюць, як вернецца блудны іх сын.

### ВАРТАВЫ

У тым не знойдзеш нічыёй правіны,
Наканаваны лёсам гэткі стан.
Далёка ёсць шчаслівыя краіны,
Дзе межы іх вартуе акіян.

Нясе ён службу дбайна, без адбою,
Накоціць хвалі і адкоціць зноў.
Яго не змоліш пагуляць з табою –
Чужых адпрэчыць ён заўжды гатоў.

Не пройдзе вораг, проста ён не зможа
Адужаць моц бязмежнае вады.
Таму ў душы спакой і безтрывожжа,
Няма і блізка весткі ад бяды.

Рэальна можна жыць без акіяна,
Адно што межы рупна сцерагчы.
Але няволя лашчыцца падманна,
Каб ты ад брамы не збярог ключы.

Таму й не раз тапталі нашы гоні –
І звад, і войнаў звыш мяжы было.

Праз вэлюм згадак мроя запалоніць,
Што акіян узяў нас пад крыло.

## *КЕЙП КОД**

Сонца, спёка і хваляў дыханне,
Акіянскага лета нязвод.
І зімою залатвім спатканне –
Паляцім на паўвыспу Кейп Код.

Студзень месяц – паветра сцюдзёнасць,
Неба хмарнага й водаў суток.
Але тая ж бяжмежнасць, бяздоннасць,
Той прасторы спатольнай глыток.

Сыну так акіян адкрываю –
Захапленню не ведаць мяжы.
Басанож не прайсціся па краю,
Але ў сэрцы звіняць капяжы.

Бераг, вецер – імпэтна і файна,
З акіянам трымаем давер.
Як далучныя вышняе тайны
Мы супольнікі з сынам цяпер.

Авантурнай шляхецкай пароды,
Для якой уласцівы экстрым,
Беларускія скокі свабоды
Танчым крута на беразе з ім.

## *ВОЛЬНЫ КРОК*

Брыдзём па салёнай вадзе,
Па краі ідзём акіяна.
Мы вольныя, не ў чарадзе,
Свабодзе слугуем аддана.

Стыхія трымае яе,
Прастора дае незалежнасць.
Узнёслыя думкі твае
Наўсцяж падтрымае бязмежнасць.

---

* Паўвыспа акіянскага ўзбярэжжа штата Масачусетс, ЗША.

Рашучы мацуецца крок,
Убок ганарлівасць адхіліць.
Дае спаконвечнасць урок,
Законы дыктуе стыхія.

Калі ты пагодзішся з ёй,
Няўрымслівай, непадуладнай,
Што ўсё не па волі тваёй,
То можаш патрапіць суладна

У шум пракаветнай вады,
У рытм, што вызвоньваюць хвалі.
Свабоднымі станем тады
Напоўніцу, як і жадалі.

## ДВУБОЙ

Акіян жыве сваім жыццём –
Да цябе яму якая справа?
Гэта стане жорсткім адкрыццём,
Адначас адхланнем і забавай.

Бо ў цябе ёсць справа да яго –
Падлабуніцца, залатвіць згоды,
Каб пачуць адзін нам аднаго,
Каб не адштурхнулі яго воды.

Нагуляйся з хвалямі наўсцяж,
Сустракай грудзьмі іх рух няспынны.
Флорыды агорне антураж –
Ты насельнік сонечнай краіны.

Ці хадзі па водмелі ўспатоль –
Ногі хвалі лашчаць-абмываюць.
Знікла ўраз зямная тут юдоль,
Толькі шчасця водсветы трываюць.

Можаш проста сесці на пясок
І бясконца пазіраць на хвалі –
Руху несупыннасці выток,
Акіяна горнія скрыжалі.

Мэты яснай для цябе ані,
Але повязь так з бязмежжам тчэцца.
Спасціжэння волі не спыні –
Не дагоніш, дык хаця б сагрэцца.

### ПА СВАБОДУ

У будзённым жыцці не дастанеш свабоды,
Хоць гукай, хоць шукай пільна днём з ліхтаром.
Зайдрасць спрэс ды ілжа, недароды, нягоды –
З неадчэпным адно сустракаешся злом.

Але ведаеш ты, што далёка-далёка
Незалежна і вольна жыве акіян.
Ад мітрэнгі цябе там чакае палёгка,
Там на звод адступаюць ілжа і падман.

Кінь усё ды ляці да свайго акіяна,
Каб свабоды глыток жыватворны дастаць.
Без сумнення пачуйся нарэшце абраным,
На якога спатольна сышла дабрадаць.

Край вялікай вады, адчуванне свабоды –
І душа без прымусу-прынукі ўзляціць
Да нязнаных вышынь, дзе нябесныя зводы
Цябе звабна чакаюць са словам “любіць”.

Апынешся на долю ў кагорце нязгодных,
Прад табою бяз межаў звініць далягляд.
Рэй вядзі з акіянам спагадліва-годны,
І няма з паднябесся дарогі назад.

### ФАЕРВЕРК

Над акіянам пырснуў фаерверк,
Людзей, стыхію паяднала свята.
Вазьмі яго з сабою, чалавек –
Цывілізацыя вось чым багата.

Адказ стыхіі – водбліскі вады,
Як блёсткі свецяцца там грэбні хваляў.
Паспець бы позіркам туды-сюды,
Каб стаць далучным дольніх-горніх даляў.

Цямноцце ночы рвуць агні штораз,
Яны цяпер пануюць у прасторы.
Суладдзе свету пакідае нас –
Хай рукатворныя пасвецяць зоры.

Пясчаны пляж трымае на зямлі,
А то ўзляцеў бы разам з фаерверкам,
Каб вышыні жаданне спаталіць,
Каб не застацца вечным недаверкам.

Бо калі верыш – то магчыма ўсё,
Начное з акіянам паяднанне.
Зіхценне хваль з сабою панясём,
Каб дачакаць на новае спатканне.

## *РАЗВІТАННЕ З АКІЯНАМ*

Шлях па беразе пустым – рука ў руцэ,
Недзе блізка пры дзвярах мяжа адхлання.
Акіян сцячэ слязою па шчацэ –
Гэта сумнае прадвесце развітання.

Асалоды не бывае вельмі шмат,
Вечна воблiскаў шчаслівых забракуе.
Большасць шэрых дзён не ў лад і неўпапад
Лёс табе няшчодрым чынам адштукуе.

Колькі не расцягвай непаўторны міг –
Ён спатолі дасць і знічкаю патухне.
Толькі згук тых успамінаў дарагіх
У тваёй душы ніколі не заглухне.

Сум міжчасся на ўзбярэжжы прытрымай –
Не растайны толькі крок, але й сустрэчны.
Мы з табой ідзём-брыдзём за небакрай,
Акіян наўсцяж вястуе нам аб вечным.

Віктар Варанец



...чорны дзень надышоў і вы можаце
выгадна абмяняць каштоўнасці
на не менш каштоўнае сваё жыццё...

# Ад Fabergé

***Апавяданне***

## I

Ледзьве першыя промні сонца загулялі па дахах старажытнага Мінска, брыгада Валодзі Ташкевіча ўжо выгружалася з невялічкага пазіка на вуліцы Аранскай. Заказчык Іван Іванавіч, хударлявы, нешматслоўны мужчына ў добрым чорным паліто і капелюшы, загадаў быць на месцы а 5-й гадзіне раніцы. А неўзабаве падкаціў і сам на чорным BMW. Коратка прывітаўшыся, Іван Іванавіч падвёў Ташкевіча да драўлянага двухпавярховага будынка.

– Вось гэты дом я днямі купіў, – сказаў заказчык. – І неўзабаве тут будзе... зрэшты, якая табе розніца, што тут будзе. Твая задача, Валодзя, за сёння разабраць гэты дом да падмурка, смецце згрузіць і вывезці. Увечары я павінен убачыць роўную пляцоўку. Плачу двайны аклад, а табе як брыгадзіру – прэміяльны бонус.

Мужчына выцягнуў з партманета пачак даляраў, адлічыў дзве дзясяткі і працягнуў брыгадзіру. І папярэдзіў:

– Калі не паспееце, уся ваша праца будзе лічыцца дабрачынным суботнікам. Бонусы вернеш у трайным памеры. Усё зразумеў?

Той толькі пацiснуў плячыма. А што тут не зразумець? Адно слова, гаспадар жыцця... Толькі бандыты зараз і жывуць добра. Яны ж і законы свае ўводзяць.

Іван Іванавіч моўчкі развярнуўся і праз хвіліну з’ехаў. Брыгада напружана пазірала на Уладзіміра.

– Ну што, хлопцы, трэба за сёння разабраць хату і вывезці смецце. Абяцалі па трыццаць даляраў кожнаму.

– Ого! – ажывіліся хлопцы.

– А калі не паспеем, дуліну з макам! – астудзіў іх брыгадзір.

– Дык чаго стаім, наперад, – зашумела брыгада.

Усе разабралі інструмент, Ташкевіч вызначыў кожнаму месца працы, а сам, узяўшы ломік, пайшоў выдзіраць вокны (цесць прасіў знайсці якое шкло на лецішча). Валодзя акуратна даставаў шыбы, перакладаў іх паперай і выносіў пад яблыньку. Затым выцягваў падаконнікі, паколькі яны былі шырокія, трывалыя, маглі яшчэ дзе і спатрэбіцца. Раптам, здымаючы чарговы падаконнік, хлопец убачыў у выемцы дзве каробачкі і невялічкі скрутак. Пад вечкамі на аксамітных падушачках ляжалі залатыя завушніцы з каменьчыкамі і два пярсцёнкі з дыяментамі. На ўнутранай частцы пярсцёнкаў стаяў надпіс *Fabergé*. У скрутку ляжаў пашпарт Расійскай імперыі на імя Вілі Генрыхавіча Штраўбаха і пасведчанне, датаванае 1916 годам, што Вілі Генрыхавіч Штраўбах з’яўляецца галоўным бухгалтарам Мінскага аддзялення расійскай кампаніі “Фабержэ”.

## II

Студзень 1918 года замест традыцыйных святочных забаваў прынёс у Петраград чырвоны тэрор, голад, разгул бандытызму. Карл Фабержэ добра разумеў, што хутка прыйдуць і па яго. Вядомы ювелір, гаспадар сеткі магазінаў, пастаўшчык упрыгожванняў для імператарскай сям’і, ён не мог не прыцягнуць увагі новай улады. Праўда, Карл мудра паступіў, аддаўшы гэты дом на Вялікай Марской вуліцы швейцарскай місіі і такім чынам атрымаўшы дыпламатычную недатыкальнасць. Але хіба гэта надоўга? І вось зараз ён сабраў у гасцёўні ўжо амаль не свайго дома найбольш давераных асобаў: даўняга сябра па вучобе ў Дрэзданскім ліцэі, пасла Швейцарыі Ад’е, галоўнага бухгалтара Мінскага аддзялення кампаніі “Фабержэ” Штраўбаха, прысяжнага паверанага Авяркіева, галоўнага бухгалтара кампаніі “Фабержэ” Баўэра.

– Панове, – пачаў размову Карл, склаўшы перад сабой далоні, – вы разумееце, што ў цяперашніх умовах нашая фірма працаваць не можа. Мы вымушаны пакінуць краіну, каб адрадзіць нашу справу за межамі Расіі. Так, пан Вільгельм Ад’е высакародна прыкрывае нас пакуль дыпламатычным статусам. Але бальшавікі ўсё часцей плююць на ўсе міжнародныя нормы. І я ўпэўнены, што неўзабаве прыйдуць сюды з вобшукам. Як нам захаваць каштоўнасці нашыя і нашых кліентаў?

– Магчыма, іх трэба перахаваць у розных месцах? – падаў голас Павел Міхайлавіч Авяркіеў.

– Менавіта ў розных месцах! – падтрымаў паверанага Фабержэ. – І для гэтага мне спатрэбіцца, панове, вашая дапамога.

Ён падняўся з крэсла і падышоў да вялікага куфра, што стаяў каля сцяны. Падняў века і дастаў з куфра тры сакваяжы і чорную скрыню з ручкай зверху.

– Тут знаходзяцца найдасканалейшыя ў свеце ювелірныя рэчы. Нават славутая Мацільда Кшэсіньская перадала нам на захаванне свае каштоўнасці. Усяго 562 прадметы. Іх пералік заняў у мяне 20 старонак тэкста. Вам, панове, я давяраю і абяцаю, што вашая самаахвярнасць будзе шчодра аплочаная, калі мы сустрэнемся ў Германіі. На галоўным паштампе Вісбадэна для кожнага з вас будзе пакінута картка з маім адрасам. Вам дастаткова сказаць: "Мяне чакае паштоўка ад Карла". Шаноўны пан Ад'е бярэцца перавезці два сакваяжы ў пасольства Нарвегіі на Мойку, 42. Адтуль дыпламатычнай поштай уласнаручна даставіць іх у Германію. Пан Баўэр з пакетам каштоўнасцяў едзе цягіком у Рыгу. Пан Штаўбах будзе дабірацца праз Польшу, а пан Аверкіеў – праз Фінляндыю. Вось, панове, грошы на дарожныя расходы. Добра падумайце, дзе будзеце хаваць гэты груз.

– А як жа вы, паважаны Карл Густавіч? – запытаў Штраўбах.

– А я пад выглядам кур'ера народнага камісарыята па знешніх справах РСФСР заўтра ж адпраўляюся праз Рыгу ў Германію, ну і прыхаплю з сабой некаторыя каштоўныя рэчы. І няхай пра нас, панове, паклапоціцца Бог!

Невядома, які бог дапамог галоўнаму бухгалтару Мінскага аддзялення кампаніі "Фабержэ", але Вілі Генрыхавіч Штраўбах дабраўся да роднага Мінска даволі хутка і без асаблівых праблем. За пару царскіх чырвонцаў праваднік пасяліў у купэ Вілі Генрыхавіча аднаго, дзверы зачыніў на ключ, а на ручцы павесіў шыльду "Не ўваходзіць! Дэзінфекцыя!" І ўвесь вагон бокам стаў абыходзіць пракажонае купэ. Дабраўшыся да свайго дома, Штраўбах, не распранаючыся, стомлена апусціўся ў крэсла. Сям'я даўно з'ехала ў Германію, прыслуга разбеглася, і таму дом непрыемна прыгнятаў цішынёй. Трэба было добра падумаць, што рабіць далей. Ехаць у Вісбадэн зараз небяспечна: абабраць, а то і забіць маглі і бальшавікі, што кантралявалі горад, і бандыты, што спынялі цягнікі за горадам, і немцы на мяжы, паколькі вядома, што за законы на вайне. Лепш за ўсё, пэўна, перачакаць які час дома. Новая ўлада доўга не пратрымаецца, тыдзень-другі – і зоймуць Мінск або немцы, або палякі, або які царскі генерал. Але парадак абавязкова вернецца. Вось тады ён і пусціць каштоўнасці Фабержэ ў справу. Гэта ж такія грошы! Праўда, і гаспадар можа вярнуцца па сваю маёмасць, але чаму не спісаць, што ўсё канфіскавалі тыя ж бальшавікі ці бандыты? Хай праверыць...

Для пачатку Штраўбах вырашыў прыхаваць каштоўнасці ў розных месцах на выпадак раптоўнага вобшуку. Штосьці размясціў у схованцы ў піўніцы, пару схронаў меў пад падаконнікамі і масніцамі. Схаваў у піўніцы і рэвальвер, добра змазаўшы яго маслам, бо калі зброю знойдуць бальшавікі, адразу ж расстраляюць. Задаволены зробленым, Вілі Генрыхавіч пайшоў спаць.

## III

Зруйнаваўшы дом і атрымаўшы абяцаныя грошы, брыгада вырашыла адзначыць такую ўдалую падзею ў бліжэйшым бары. Валодзя Ташкевіч адмовіўся, спаслаўшыся на хваробу жонкі. Прычына была больш чым уважлівая, і брыгада, хаця і са шкадаваннем, але адпусціла свайго начальніка.

На працягу ўсяго працоўнага дня Валодзя разважаў, як паступіць са знойдзеным багаццем. Зразумела, што нікому нічога ён не скажа. Завушніцы падорыць жонцы, каханай Маргарыце, бо і так даўно нічога ёй не купляў – усё грошай не было. Адзін пярсцёнак схавае на чорны дзень, мала ці што... А вось другі занясе ў скупку і здасць. Але колькі прасіць за яго? А колькі ўвогуле каштуе залаты пярсцёнак з каменьчыкам? Хлопец вырашыў зазірнуць у ювелірны магазін, які сустрэўся па дарозе і, дзякуй богу, яшчэ працаваў. У вялікім светлым памяшканні апроч прадаўцоў нікога не было. Ды і тыя, агледзеўшы наведвальніка, тут жа адвярнуліся і працягнулі свае размовы. Валодзя падышоў да прылаўка, знайшоў латок з пярсцёнкамі і пацікавіўся коштам. А нічога сабе! Дзевяцьсот рублёў. Гэта амаль трыццаць даляраў па камерцыйным курсе (па афіцыйным ты ж нідзе не купіш!). Ташкевіч зайшоў у невялічкае і досыць цёмнае памяшканне са сціплай шыльдай “Скупка”. За маленькім акенцам сядзеў сівы дзед з акулярам у воку і нешта разглядаў. Блямкнуў дзвярны званочак – стары падняў галаву, перасунуў акуляр на лоб і ветліва запытаўся:

– Добры дзень, малады чалавек! З чым завіталі да нас?

Валодзя адчуў нейкае хваляванне.

– Дык вось, прынёс сямейны пярсцёнак. Ад бабулі застаўся. Возьмеце?

– Канечне, вазьму, – тут жа пагадзіўся дзед. – Але спачатку хацелася б паглядзець на яго.

Ташкевіч раскрыў потную далонь і паклаў на прылавак пярсцёнак. Ювелір вярнуў акуляр на вока, доўга і ўважліва аглядаў тавар і нават чымсьці капнуў на каменьчык.

– Вы толькі не папсуйце, – занепакоіўся хлопец. – Гэта сапраўднае золата, і каменьчык не танны.

– Не хвалюйцеся, малады чалавек, – супакоіў яго стары, – я не першы год у гэтай справе. І колькі вы б хацелі за свой тавар?

Уладзімір адчуў, як пот струменьчыкам пабег па спіне. Але сабраўся з духам і строга сказаў:

– Тысяча сто рублёў! Гэта ж антыкварыят!

Стары задуменна пакруціў пярсцёнак у пальцах і нарэшце прамовіў:

– Тысяча рублёў мая канчатковая цана. І толькі з павагі да вас, малады чалавек.

Ташкевіч адчуў, як крылы шчасця вырастаюць за плячыма.

– Добра, але грошы адразу!

– Канечне, – пагадзіўся ювелір, – зараз прынясу. А вы пакуль падрыхтуйце пашпарт. Трэба ж аформіць квітанцыю.

Ён вярнуўся хвіліны праз тры, несучы пачак купюр. Узяўшы пашпарт, перапісаў чамусьці і адрас прадаўца. “Пэўна, такі парадак”,– падумалася хлопцу. А стары тым часам выклаў грошы перад Ташкевічам, вярнуў пашпарт і між іншым запытаўся:

– Можа, яшчэ што засталося ад бабулі?

– Можа, і засталося, – радасна адказаў Валодзя. – Пагляджу дома...

– Заўсёды буду рады вас бачыць, Уладзімір Іванавіч. І нават крыху падыму для вас цану як для сталага кліента.

Валодзя падзякаваў і, шчаслівы, паляцеў дахаты ўзрадаваць жонку неверагодным багаццем.

Ювелір яшчэ з хвіліну разглядаў пярсцёнак, затым, цяжка ўздыхнуўшы,

паклаў яго на стол, падцягнуў да сябе тэлефон і пачаў накручваць дыск. Пасля некалькіх гудкоў у трубцы пачуўся незадаволены мужчынскі голас:

– Слухаю!

– Іван Іванавіч, гэта вас непакоіць Кац Саламон Маісеевіч. Вы прасілі паведаміць, калі будзе нешта цікавае. Маю неверагоднай прыгажосці пярсцёнак ад самога Фабержэ.

– Еду...

Кац акуратна паклаў трубку на апарат, падышоў да дзвярэй і павесіў шыльдачку “Зачынена”. А сам сеў каля акна і прыплюшчыў вочы. Хвілін праз дваццаць да скупкі пад’ехаў чорны BMW, з якога выйшаў мужчына ў доўгім чорным паліто. Кац расплюшчыў вочы, падняўся з крэсла і, па-старэчы шоргаючы нагамі, накіраваўся да дзвярэй сустрэць госця. Той увайшоў і гучна прывітаўся:

– Вечар добры, Саламон Маісеевіч! Толькі дзеля цябе кінуў усе справы і прыехаў. Ну, паказвай, што прыдбаў.

– Добры вечар, шаноўны Іван Іванавіч, – адказаў Кац і падвёў госця да стала, на якім ляжаў пярсцёнак. Іван Іванавіч уважліва разгледзеў каштоўнасць з усіх бакоў, прымерыў на палец і паклаў на месца.

– Што, на самой справе Фабержэ?

– Так, Іван Іванавіч, рэч зроблена на пачатку стагоддзя ювелірным домам Фабержэ. Паглядзіце, якая тонкая праца, а якой чыстай вады камень. Такога ўжо не робяць. Цаны яму няма.

Мужчына ўсміхнуўся.

– Цана, шаноўны Саламон Маісеевіч, ёсць усяму, нават нам з вамі. Колькі просіце?

– Толькі з павагі да вас, Іван Іванавіч, аддаю амаль без прыбытку. Дзесяць тысяч даляраў.

– Кац, не смяшы гусей! Магу даць пяць тысяч і тысячу за інфармацыю, адкуль гэты пярсцёнак.

– Іван Іванавіч, якія пяць тысяч? Гэта ж Фабержэ! – ледзь не плачучы, запярэчыў стары.

– Ну, і куды ты пойдзеш са сваім Фабержэ? На базар? Ці аб’яву дасі ў рэкламку? Або міліцыя адбярэ, або бандыты, яшчэ і парэжуць. А я табе добрыя грошы прапаную. Згода?

Кац у неверагоднай роспачы сеў у крэсла і сапраўды заплакаў:

– Першы раз у жыцці трымаў у руках сапраўднага Фабержэ і вымушаны аддаць за капейкі... Што робіцца ў свеце!

А госць тым часам адлічыў названую суму і паклаў перад Кацам.

– Гэта твая забяспечаная старасць. Радуйся, дурань. А зараз скажы, адкуль цацка?

Гаспадар у адчаі махнуў рукой, згроб са стала грошы і працягнуў госцю копію квітанцыі. Іван Іванавіч уважліва прачытаў і ажно прысвіснуў ад здзіўлення.

– Саламон Маісеевіч, а гэты Ташкевіч – хлопец гадоў трыццаці, рыжы, рост прыкладна метр восемдзесят?

– Так, – механічна пацвердзіў Кац.

– Цікава жыццё разгортваецца, – задуменна працягнуў мужчына. – Што ж, працягнем знаёмства...

## IV

Вілі Генрыхавіч Штраўбах прачнуўся за імгненне да таго, як са звонам вылецела шыба з акна. І тут жа ў пакой адна за адной улезлі дзве цёмныя постаці. Адна наставіла рэвальвер на гаспадара дома, а другая рушыла да ўваходу. Пачулася бразгаценне дзвярной клямкі, засаўкі, і неўзабаве ў спальню ўвайшлі яшчэ тры чалавекі. Адзін з іх меў досыць прыстойны выгляд: доўгае чорнае паліто з добрага сукна, капялюш з вялікімі палямі, лакавыя штыблеты. Астатнія класічна падыходзілі пад апісанне бандытаў: нейкія ватоўкі, брудныя боты, шапкі-вушанкі. Кожны трымаў у руцэ зброю. Чалавек у паліто прысеў у крэсла насупраць Штраўбаха, міла ўсміхнуўся і закурыў.

– Вы хто? – не вытрымаў гаспадар.

– Ах, Вілі Генрыхавіч, думаю, гэта рытарычнае пытанне. Вы ж і так здагадаліся, што да вас завіталі бандыты. Праўда, мы сябе называем вольнымі стралкамі.

– Робін Гуды? – чыста аўтаматычна перапытаў Штраўбах.

Субяседнік зноў міла ўсміхнуўся:

– Можаце і так нас называць. Дарэчы, асабіста мяне клічуць Іван Іванавіч. Але, шаноўны Вілі Генрыхавіч, мы да вас па справе. Наш атрад збірае нарабаванае багацце ў былой буржуазіі, каб накіраваць яго на патрэбы былога прыніжанага класа. Вы доўга працавалі галоўным бухгалтарам Мінскага аддзялення “Фабержэ”, думаю, тое-сёе прыхавалі на чорны дзень. Хачу паведаміць, што чорны дзень надышоў і вы можаце выгадна абмяняць каштоўнасці на не менш каштоўнае сваё жыццё. Як вам такая прапанова?

Штраўбах толькі паціснуў плячыма:

– Вас увялі ў зман. Ну, адкуль у мяне, звычайнага бухгалтара, каштоўнасці? Было пару бранзалетак, дык жонка забрала іх з сабой, калі ад’язджала за мяжу. Хіба што ў партманеце ляжаць некалькі царскіх чырвонцаў, то можаце забраць, панове.

– Дыялог не атрымаўся, – расчаравана працягнуў Іван Іванавіч. – Шкада!

І ён выразна паглядзеў на суўдзельнікаў. Тыя ў момант адрэагавалі. Яны паклалі Штраўбаха на жывот і моцна скруцілі яму рукі і ногі дротам, канцы якога прыкруцілі да металічнай спінкі ложка. У рот уставілі кляп. Адзін з бандытаў выцягнуў з кішэні бутэльку з газай і стаў палівацы голыя ступні ахвяры. Другі зняў з абразоў свечку і падышоў бліжэй. Іван Іванавіч нахіліўся над галавой звязанага:

– Зараз, дарагі Вілі Генрыхавіч, мы падпалім вам ступні. Газы ў нас дастаткова, і гарэць вы будзеце паволі: спачатку ногі, потым тулава і нарэшце дабяромся да галавы, калі вы яшчэ будзеце здольны гэта адчуваць. Таму або вы скажаце, дзе каштоўнасці, або паступова падсмажыцеся, як калядны гусь. Будзеце гаварыць?

Штраўбах згодна заківаў галавой. Але як толькі выцягнулі кляп, ён зароў на ўсю хату:

– Мярзотнікі! Ды як вы смееце! Вас усіх павесяць!

– Палі! – коратка загадаў Іван Іванавіч

Бандыт паднёс свечку да пятак гаспадара хаты – і яны ўмомант успыхнулі. Штраўбах задрыгаў нагамі, твар яго імгненна пасінеў, затым тулава неяк ненатуральна выгнулася і тут жа абмякла.

– Тушы! – зноў закамандаваў галоўны і выцягнуў кляп з рота ахвяры.

Вілі Генрыхавіч не падаваў прыкметаў жыцця. Іван Іванавіч узяў яго руку і праверыў пульс.

– Памёр, – канстатаваў праз хвіліну. – Відаць, сэрца не вытрымала. Што ж, прыйдзецца самім шукаць. А дом потым спаліць. Вы...

Гэта былі апошнія словы Івана Іванавіча, паколькі ў выбітым акне з'явіўся ствол вінтоўкі, пачуўся стрэл, і вядомы ў крымінальным свеце злодзей у законе Картуз, ён жа Іван Іванавіч, паваліўся на падлогу з дзіркай у лобе.

– Усім на падлогу! – прагучаў з вуліцы загад, і тут жа хату пачалі запаўняць міліцыянеры. Бандыты пакорліва паляглі на падлогу.

## V

Валодзя Ташкевіч і яго жонка Маргарыта сядзелі перад тэлевізарам і вячэралі. На стале стаяла адкаркаваная бутэлька віна, на талерках ляжалі кавалкі смажанай курыцы, вараная бульба і тонка нарэзаны сервілат. Вушы Маргарыты ўпрыгожвалі новыя завушніцы.

– Які ж ты ў мяне малайчына! – ужо ў каторы раз нахвальвала яна мужа. – Такі цяжкі час, а ў нас стол ломіцца ад далікатэсаў. І ўсё дзякуючы табе, дарагі!

Яна гучна чмокнула Валодзю ў шчаку. Па кватэры прарэзліва прагучаў дзвярны званок.

– Каго яшчэ чэрці прынеслі? – незадаволена прамармытаў Ташкевіч і пайшоў да дзвярэй. – Хто там?

– Суседзі знізу. Заліваеце.

Валодзя хуценька адчыніў дзверы.

– Дык мы і не ўключалі ваду...

Сказаў і аслупянеў. З парога яму ўсміхаўся Іван Іванавіч, ранішні працадаўца. За ім узвышаліся тры здаравенныя мордавароты.

– Вы ў нашым пад'ездзе жывяце? – разгублена запытаў Валодзя.

– Не, Вовік, не жыву, – жыццярадасна адказаў госць, – але ўсё яшчэ можа быць.

Ён адсунуў гаспадара ўбок і прайшоў у кватэру. Адзін з амбалаў падштурхнуў хлопца ў плечы, і той пакрочыў следам.

– Добры дзень, шаноўная гаспадыня! – прывітаўся Іван Іванавіч з Маргарытай, завітаўшы ў гасцёўню. – Даруйце, што перапынілі святочную вячэру, але, спадзяюся, мы не надоўга. З вашага дазволу...

І ён сеў на канапу. Два мордавароты сталі па баках ад Валодзі, трэці – за спінай Маргарыты.

– Мяне, шаноўнае спадарства, цікавіць толькі адно пытанне: адкуль у вас з'явіўся гэты прадмет? – госць дастаў з кішэні пярсцёнак Фабержэ.

– Ад бабулі, – тут жа адказаў Ташкевіч.

– Ах, Вовік, Вовік, нядобра хлусіць гасцям, – Іван Іванавіч незадаволена пахітаў галавой. – Твая бабка, як і яе бабка, усё жыццё працавала на зямлі, і максімум, што мела, гэта танны сярэбраны пярсцёнак на ўласным вяселлі. А за такі пярсцёнак яна магла б купіць усю воласць. У вас, Вовік, была свая воласць?

– Не, не было, – сур'ёзна адказаў Валодзя, не заўважыўшы гумару госця.

– Ну вось, значыць, не ад бабулі. І нешта мне падказвае, што з'явіўся ён у цябе толькі сёння. Адсюль і такая раскоша на стале. Я не памыляюся, шаноўная Маргарыта?

– Ды як вы смееце, – раз’юшана закрычала Рыта, – уварваліся ў чужую кватэру і яшчэ нахабнічаеце! Я міліцыю выклічу!

Бандыт, як стаяў за ёй, коратка секанув далонню па шыі дзяўчыну, і яна тут жа абмякла ў крэсле, страціўшы прытомнасць.

– Што робіце, казлы! – крыкнуў Уладзімір і атрымаў ад сваіх вартаўнікоў удары ў жывот і па нырках. Ён упаў на калені і скурчыўся ад болю.

– А так хацелася разысціся па-добраму, – з сумам заўважыў Іван Іванавіч. – Не атрымалася. І тым не менш, Вовік, паўтару сваё пытанне: адкуль у цябе пярсцёнак?

Ташкевіч з нянавісцю зірнуў на яго і ледзь чутна вымавіў:

– Знайшоў сёння ў доме, што разбіралі.

– Я так чамусьці і падумаў, – усміхнуўся бандыт. – Што яшчэ знайшоў?

Валодзя выцягнуў з кішэні другі пярсцёнак, затым падышоў да кніжнай паліцы і дастаў пашпарт Штраўбаха. Усё гэта паклаў на стол.

– Вось і малайчына! – пахваліў яго візіцёр. – Чаму б адразу не вярнуць гаспадару яго дабро? Што за людзі? Але, Вовік, ты забыўся пра грошы, што атрымаў за мой пярсцёнак ад Каца. Прынясі, калі ласка, а тады пагаворым вось пра гэтыя прыгожыя завушніцы, што так зіхацяць на твоёй жонцы.

Ташкевіч зацкавана паглядзеў на бандытаў, перавёў позірк на жонку і пакрочыў да курткі, што вісела ў вітальні. Бандыты пацягнуліся за ім. Валодзя засунуў руку ў кішэнь і, выцягнуўшы адтуль газавы балончык, пырснуў у твар аднаму і другому. Тыя ажно ўзвылі ад болю. А хлопец тым часам кінуўся да дзвярэй, але трэці бандыт імгненна дастаў з-пад швэдра пісталет і стрэліў Валодзю акурат у патыліцу. Ташкевіч упаў на падлогу. Іван Іванавіч зморшчыўся:

– Ну, чаму ўвесь час нейкія выбрыкі здараюцца. Трэба было забіваць?

– Дык ён збег бы, – пачаў апраўдвацца бандыт.

– Ах, – махнуў рукою Іван Іванавіч, – пра што тут гаварыць. Ну дык разбярыся тады і з гэтай паненкай, не пакідаць жа сведку. Толькі здымі завушніцы.

Бандыт перадаў гаспадару ўпрыгожванні, а сам прыставіў да скроні Маргарыты пісталет і стрэліў.

Іван Іванавіч уважліва разгледзеў завушніцы, задаволена гмыкнуў і накіраваўся да выхаду. Бандыты пакрочылі следам. Яны селі ў машыну. Кіроўца запытальна паглядзеў на шэфа.

– На Аранскую! – загадаў той.

## VI

Мікіта Апанасавіч Коўрах павольна цягнуўся па Аранскай вуліцы, шукаючы месца для начлегу. Кудлатыя валасы, дранае, бруднае адзенне, а галоўнае, моцнае амбрэ ад даўно не мытага цела выразна сведчылі, што Мікіта Апанасавіч пражываў у статусе бамжа. Але такі стан рэчаў, тым не менш, яму падабаўся – вольны чалавек. А сённяшні дзень і ўвогуле выдаўся надзвычай добрым. Па-першае, раніцай нейкаму мужыку дапамог зацягнуць халадзільнік на пяты паверх, за што атрымаў рубель. Па-другое, выпадкова натыкнуўся на добра апранутага грамадзяніна на падпітку, які спаў на лаўцы ў парку. Коўрах крыху пасядзеў побач, а потым акуратна выцягнуў з кішэні таго кашалёк. Праўда, знайшоў там толькі тры рублі (астатняе, пэўна, прапіў, гадзіна), але і гэта штосьці... Мікіта да вечара паблукаў па горадзе,

але больш прыбытку не было. Тады зайшоў у магазін, купіў бутэльку віна, кальцо ліверкі, хлеба, а потым, крыху павагаўшыся (эх, гуляць дык гуляць), плаўлены сырок “Дружба”. І вось засталося знайсці ціхае месца і зрабіць сабе свята жывата. Тут увагу Мікіты прыцягнула расчышчаная пляцоўка, на якой яшчэ ўчора стаяў дом. Зараз дома не было, а тырчаў толькі фундамент.

“Разабралі, пэўна, – падумаў мужчына. – Але дом стары, думаю, і піўніца ў ім была. Трэба праверыць”.

Мікіта пахадзіў па пляцоўцы, там-сям адграбаючы рэшткі смецця і пяску, і сапраўды заўважыў вялізнае кальцо, прымацаванае да люка. Ён пацягнуў кальцо на сябе, накрыўка даволі лёгка паддалася, і перад вачамі Коўраха паўсталі мураваныя сходні кудысьці ўніз. Мікіта намацаў у кішэні запалкі і агарак свечкі, запаліў яе і асцярожна стаў спускацца. Піўніца была вялікая, абкладзеная цэглай. На падлозе валяліся некалькі пустых скрыняў, у куце бачылася горба нейкіх анучаў. Выдатнае месца для пікніка!

Мікіта ўмацаваў свечку на скрыні, а сам падняўся па сходах, зачыніў люк і вярнуўся назад. Хуценька накрыў стол, дастаў з кішэні складную шклянку (каштоўная рэч!), наліў да краёў і з задавальненнем усю выцягнуў. Прыемнае цяпло пабегла па целе. Мікіта няспешна прыкусіў і пайшоў да ануч. Старыя, брудныя, што яны тут рабілі, незразумела. Ён нагой пачаў раскідваць гэтую гурбу, як раптам балюча стукнуўся аб нешта цвёрдае.

Бомж запусціў у гурбу рукі і неўзабаве намацаў нейкі скрутак. Разгарнуў асцярожна і ажно ахнуў: перад ім ляжаў сапраўдны рэвальвер у густой змазцы. Мікіта ажно ўзмакрэў. Трэба было падмацавацца. Ён наліў яшчэ адну шклянку, выпіў і пачаў анучамі сціраць са зброі змазку. І вось на далоні ляжыць прыгожы, бліскучы, як у кіно, рэвальвер. Цікава, хто яго тут схаваў? А, можа, ён не працуе ці патронаў няма? Віно ўжо крыху затуманіла розум, і Мікіта адважыўся на эксперымент. Ён узвёў курок, прыцэліўся ў адну са скрынь і націснуў на спуск. Грымнуў стрэл, і ад скрыні адляцела трэска.

– Нічога сабе, – са здзіўленнем адзначыў Коўрах і наліў трэцюю шклянку. Выпіўшы, прываліўся спінай да сцяны і захроп. Прачнуўся Мікіта ад рэзкага святла, што ўпарта сляпіла яго. Ён расплюшчыў вочы. Па твары бегаў прамень ад ліхтарыка.

– Шэф, тут толькі нейкі бомж спіць, – пачуў Мікіта голас.

– Дык выкінь яго адсюль, – загадаў нехта.

– Можа, прасцей застрэліць. Кранаць рукамі гэтую брыдоту не хочацца.

“Зараз мяне заб’юць”, – пранеслася ў ачмурэлай галаве Мікіты. І тут жа накаціла неверагодная нянавісць да гэтых прышэльцаў за ўсё змарнаванае жыццё.

– А-а-а! – прарэзліва закрычаў Мікіта, выцягнуў з кішэні рэвальвер і пачаў страляць у дзвярны праём. Ліхтарык блямкнуў і пакаціўся па падлозе. Штосьці яшчэ бухнулася на зямлю, а па прыступках нехта пабег наверх.

Мікіта падняў ліхтарык і пасвяціў. На падлозе ляжалі два мужчыны: адзін хударлявы, у добрым чорным паліто, другі здаравяк у кароткай скуранай куртцы. Абодва ўжо не дыхалі. Коўрах палез у іх кішэні. Здабыча была нядрэнная: дзвесце трыццаць рублёў, трыста даляраў, а яшчэ два залатыя пярсцёнкі з каменьчыкамі і завушніцы.

– Заўтра аднясу Кацу. Ён купіць, – задаволена прамармытаў Мікіта Апанасавіч, нацягнуў на сябе паліто і капялюш забітага Івана Іванавіча, схаваў пад швэдрам рэвальвер і пачаў падымацца па сходнях на вуліцу.

паэзія

Сяргей Верацiла



...душы маёй
не дадзена памерці...

# Requiem

* * *

Тоіцца рыба на дне акіяна,
Тоіцца звер у пушчанскіх бярлогах,
Тоіцца ў мацiцы перліны ззянне,
Тояцца ў памяцi згукі былога.

Тоіцца жук пад зялёнай сцяблінаю,
Тоіцца позірк пад акулярамі,
Тоіцца сон паміж коўдрай й прасцінаю,
Тоіцца гром паміж небам і хмарамі.

У ночы глыбокай тоіцца ранак,
Тоіцца смерць паміж буйнага квецця,
Тоіцца ў лесе забыты паўстанак,
Тояцца рукі, у рукі заплецены.

Тоіцца ўсё і знаку чакае.
Час настае, і мовіцца слова.
Слова, што тоіцца, робіцца яваю,
І раскрывае згукі былога,
І пранікае на дно акіяна,
У пушчы глухія,
У сон напалоханы.

Слова, што сказана,
Слова, што мовіцца,
Што
у душы
у паэтавай
тоіцца.

* * *

Дождж толькі пакрапаў, і то на ўскраіне,
Яму, дажджу – па-любому.
Я, асцярожна і лёгка ступаючы,
выйшаў з дому
З горадам на спатканне.
Вакзал гаманіў,
прадаваў газеты, целы і піва.
Цягнікі па рэйках развозілі накірункі,
П'яны бомж мармытаў шчасліва,
Ашалелая баба плакала з клункамі.
А я – адчужэлы. Мне мітусня –
не даспадобы,
Вывальваюся з натоўпу, пазбягаючы ачмурэння
і гвалту.
Пранеслі гарачыя булкі з цынамонам –
запахла здобаю.
Мне падабаюцца пахі такога кшталту.
Яшчэ падабаецца, як пахне ліпаю.
(Такога спякотнага ліпеня
мне не прыпомніць.)
І я навучыўся думаць голасам нізкім
і хрыплым,
Недзе нават салодкім,
як вобраз жанчыны паўсоннай,
Мяккай і цёплай,
як угрэтая сонцам лава,
І такой жа даступнай,

што хоць ты плаці перасохлым
лісцем.
Пальцы доўгія, тонкія кісці –
У маёй каханай, а вечар крывую
На даляглядзе
Падводзіць рысу спатканню,
Там, на захадзе,
гэта можна пабачыць кожнаму.
Дождж толькі пакрапаў, і то на ўскраіне.
А я не выходзіў сёння з дому.

* * *

Я збудаваў свой свет з чароўнай мары,
Хоць і няма пад небам гэтым міру.
А ўсё ж пяе абуджаная ліра:
Я збудаваў свой свет з чароўнай мары.

Нямала песняроў пакутуюць пад жвірам,
На іх касцях святкуюць розныя пачвары.
Я ж збудаваў свой свет з чароўнай мары,
Хоць і няма пад небам гэтым міру.

* * *

Адчуць эмоцыяй
Недастатковасць метафары.
Адчуць пальцамі
Кроплі расы на кветцы.
Пераставіць словы месцамі.
Назваць гэта – творчасць.

Разамлелы рытм
Няўлоўным бегам крыві да скроняў
Ад каранёў.

І не дагнаць бессаромную думку,
Якая кладзецца на рытм
Лёгкі, няўлоўны, няроўны.

Адчуць пальцамі
Недастатковасць метафары.
Адчуць эмоцыяй
Кроплі расы на кветцы.

Даведацца
Пра свой самотны світанак.
Зблытаць вечар
З цыгарэтным дымам.
Паляцець за рытмам
У адчуванне.

* * *

І напэўна ж успамінам
Popoнуць гэтыя гады,
Доўгім-доўгім, нават дзіўным,
Як гульня празрыстых ліній.
(Ах, як доўга кава стыне.)
Колер вечара быў сіні,
І чарнеліся сады
Над угрэтаю вадою,
Дзе шалела драбяза.
Быў акунь ёй злыбядою,
Йшлі аблокі чарадою
Па-над лесам грамадою,
Сена пахла сырадоем,
І калілася сляза,
Што народжана ўспамінам:
Колер вечара быў сіні.

* * *

Камусьці восень “залатая”,
А мне шкада
Лістоты хрусткай,
Што так журботна ападае
З радкамі
Мовы беларускай.

* * *

Ужо чарнеюць чаромхаў ягады,
Ужо яблыкі кажуць бакі абагрэтыя.
А ў твае валасы павуцінка ўпрадзена
Прадвесніцаю бабінага лета.

* * *

Кубачак з кавай даўно састыў
І зноўку паспеў у руках нагрэцца.
Дзень ніяк не скончыўся,
І вечар не надыходзіў.

Бясконцая працягласць была ягонаю
адметнасцю.
Ягонаю адзнакаю была самота.
А мне хацелася плакаць.
Верылася мне,
што гэтак будзе лягчэй.
Верылася мне,
што гэтак будзе не так самотна.
Мроілася мне,
Што ты
на тым, на іншым краі зямлі
Таксама думаеш пра мяне.
Што кубачак з кавай
у тонкіх тваіх руках
Састывае
У бясконцай працягласці дня.

* * *

Бясконцыя дажджы –
Надакучлівы напамін
Пра блізкія снягі.

І кляновае вогнішча
Паміж шэрых калонаў
Дзеля нечага
Сагрэла мне душу.

* * *

Змяніўся шэры ранак шэрым днём,
І шэры вечар стаў яго наступнік,
А неба пад аблокавым рыззём
Сабе гатуе да Калядаў крупнік.

## ПІВА ДЫ ІНШАЕ

**1.** Спасцігаю навуку супраціву,
Намагаючыся не зважаць на страты.
Хоць незаўважна,
Але затое няўхільна
Падкрадаецца восень.

**2.** Грабеньчык уступае ў стасункі
з валасамі,
Даводзячы іх да парадку,
Не запытваючыся ў іх дазволу.
Не ўлічваючы іхніх пажаданняў.
Але цяпер мой грабеньчык –
у шуфлядцы:
Я пайшоў і пастрыгся.

**3.** Размяркоўваючы жаданні,
Пакідаю месца для смеху,
Як неабходнае ўмове выратавання.
А таму яшчэ раз нагадаю,
Што і я – смяротны.

**4.** Напружана, бліскуча,
утрапёна і бясконца
У жыццё ўзіраецца
Год за годам,
І пра мінулае не ўзгадае,
І пра будучае не памяркуе
Бязглузда-празрыстая шыба.

**5.** Спаміж амальгамаю й шклом
Пражываюць адлюстраванні.
Іхні выгляд – вынік нашых эмоцый,
З якімі падыходзім да люстэрка.

**6.** У гадзіннікавым механізме
Жывуць чалавечкі –
Так я думаў
Раней, у маленстве.
Яны ўвесь час даганяюць і ловяць
Гадзіны, хвіліны, секунды
І паказваюць нам сваю здабычу.
Неяк, можа, і невыпадкова
Я даведаўся пра існаванне
Тэрцыяў.

Імі цяпер мераю
Жыццё ў эпоху мікраарганікі.

**7.** Гадзіннік як сродак баўлення часу:
Паназіраю за стрэлкамі –
Вось і да вечара не так ужо і далёка.

**8.** Спёка. Стужу галаву ў піве.
Паволі залюшчваюцца вочы.
І чарговая зорка
Прытуляецца да пляча.

* * *

Усё будзе добра,
бо так напісана ў кнігах.
Яны сустрэнуцца,
і ім даруецца ростані грэх,
А сёння на горад абрынулася адліга,
І з тратуарамі развітваецца снег.

Раскашуючы,
кот разваліўся на падваконні
І ўзіраецца, як кашаю робіцца снежань.
А мне падалася метафара зусім свежаю
Пра тое, што вокны ў дамах – іконамі.

І недзе за адным, і, можа быць,
што ў нас
Народзіцца той, каму паклоняцца магі
і каралі.
Ветру паўднёваму крыкнулі: “Фас!” –
І вецер стараецца паказаць галечу
гарадское зямлі.

А я вучуся верыць у непадсуднасць
чакання
І перажываю яшчэ адну адлігу:
“Усё будзе так,
быццам і не было расстання,
Усё будзе добра,
*бо так напісана ў кнігах*”.

* * *

***I***

Мяне прывучала вакно
Глядзець на расталую зіму за шклом.

Мяне прывучалі дзверы
Слухаць крокі па сходах.

Мяне прывучала самота
Глядзець у вакно і слухаць крокі.

***II***

Я жывы яшчэ, пакуль яшчэ жывы.
І, пакуль жывы, кахання прагну.
Вымерзлы, як кветка на марозе,
Я твае чакаю крокі
І тваю маленечкую постаць
Прагну я за шклом пабачыць,
Дзе зіма...
Зіма растала.
Я прывучаны самотай.

## *REQUIEM*

Калі не стане позірк мой агністым,
Калі на твар адбітак ляжа смерці,
Душа згарнецца камячком празрыстым,
Душы маёй не дадзена памерці.

Яна ўзлунае да нябёс высокіх,
Агорне горы, вымерае мора,
На светлых гонях, у садах глыбокіх
Спазнае меру шчасця, сну і гора.

Спазнае ўсё, ў чым замінае цела,
І, можа, зноў да цела паімкнецца,
Ізноў такой празрыстай, чыстай, белай
Маю сагрэе кроў, маё абудзіць цела.

Душы маёй не дадзена памерці,
Душа згарнецца ў камячок празрысты.
І буду жыць, і слоў маіх не сцерці.
І стане слова запаветным ды агністым.

І птушка паляціць,
І пацячэ рака,
І сок салодкі прарасце ў траве,
І дождж пральецца.
І буду жыць, пакуль душа жыве.
І буду жыць, і слова адгукнецца:
І птушкай паляціць,
Ракою пацячэ,
Травою прарасце,
Даждджом пральецца.

Зміцер Вішнёў



…У дзяцінстве заўсёды зайздросціў Сервантэсу.
Я таксама хацеў сядзець у вязніцы
і пісаць творы…

# Марскія запісы

***(Капітан Барада тут жарэ селядзец і цэдзіць халодны шнапс)***

**1**

Шведская глыбінка. Амоль. Увечары на машыне праедзеш – уражанне, што трапіў у нашыя Лынтупы. Цішыня і спакой. Калі раз на пятнаццаць хвілінаў сустрэнецца машына – лічы, што пашанцавала. Ці, магчыма, шведы не любяць увечары перасоўвацца на машынах? Бо, пэўна, лепей сядзець недзе каля каміна, глядзець на языкі полымя і пацягваць віно з келіха? У кожным разе, ад нашых Лынтупаў, безумоўна, ёсць істотнае адрозненне. У цэнтры гарадка, як кажуць у народзе: кавярня на кавярні, рэстарацыя на рэстарацыі. Іншая справа, што прашпацыруеш тут у звычайны дзень – і аніводнага наведніка не заўважыш.

Вось вы, даражэнькія, пра што думалі? Правільна. І я так падумаў. Дзе б прыдбаць пляшку чырвонага?

Алкаголь тут прадаюць толькі ў дзяржаўных спецыялізаваных крамах: *Systembolaget*. І таму ў галаве засела назойлівая ідэя адшукаць гэты вадкі скарб: "Шведскі бімбер – важны крок у ціхім размераным амольскім жыцці". Інтэрнэт паведамляў, што крама па продажы алкаголю знаходзіцца на вуліцы Торгатан, 11. Здавалася, што пасля мясцовага спіртнога зваляцца нябачныя кайданкі – вызваляцца цела і дух! І тады распачнецца дыскусія пра сэнс жыцця. І хто пераможа ў ёй – невядома. Магчыма, гэтая перамога заўсёды эфемерная, няўлоўная і вельмі спрэчная. У кожным разе, я чую:

– Зноў выпіў?

– Выпіў і закусіў. Тыя агуркі былі проста цудам. У нас такіх няма. Бо мы не марынуем нарэзаных агуркоў. Для нас гэта парадокс. Шведская эстэтыка, у пэўным сэнсе, як нешта іншапланетнае.

– Дык ты знайшоў тую запаветную краму?

– Дзе там. Пакуль ужываем прывезенае з сабой. Віскі "Балантайнс" з дзьюці-фры – сапраўднае выратаванне, спатоленне адвечнай смагі.

– Пра палітыку будзем размаўляць?

– Не. Будзем весці гаворку выключна пра алкаголь і бабулек.

– Учора ты трапіў на імпрэзу – распавядзі калі ласка, свае пра свае ўражанні.

– Нібыта інтэрв'ю ў мяне бярэш. Ну ды ладна. Слухай. Было так.

Дом стаяў, ці гэта карабель перанеслі на бераг? Незразумела. У сваім жаданні плыць будынак быў фантастычным. Сонца, мабыць, вырашыла сёння пахрапці. Гэта значыць, спаць і напускаць паўсюль вецер. Красавік – прыгажун і правакатар. Асабліва калі боўтаецца па Швецыі. Была вясна і раптам схавалася. Яна нібыта змерзла, таму накінула на плечы шаль і боўць – у мясцовае возера Венерн. Паваліў снег. Незнаёмая жанчына паглядзела на мяне і сказала: «Выцягвай лыжы!»

Здавалася, што сёння на імпрэзу збіраюцца не людзі, а снегавікі, якія ўсё напаўзалі і напаўзалі ў бухту да карабля. Потым самы вялікі снегавік падняўся на мачту і з гонарам прычапіў пірацкі сцяг.

Снегавікі расталі, і на іх месцы з'явіліся мілыя бабулі і дзядулі. Пасля сытнага супу ў суседняй рэстарацыі яны займалі месцы ў зале і пацягвалі з келіхаў віно, шампань і піва. Паўсюдна лётаў дух ляноты і дабрабыту.

– Ах, падыміце вашую ножку вышэй!

– Танчыце! Танчыце! Скачыце да столі!

– Уключайце сафіты. Патрэбныя прамяні. Бурундукі, выпаўзайце. Рохкайце хутчэй.

– Песня вікінгаў, займай канапу. Храпі і грымі. Цягай за бароды дзецюкоў!

– Дзе тут вокны? Тут толькі ілюмінатары.

– Не кажы мне пра грэнкі. Хочацца піўной пенкі.

– Бабулі і дзядулі, хадземце на сцэну. Адкідайце прэч кубкі – танчыць, танчыць. Стукаць абцасам і ляпаць у далоні. І задаваць пытанні не аўтаркам твораў – рыбам, якія плёскаюцца ў возеры.

– Набыць кнігу і ўзяць аўтограф у вадалаза.

– Паветра. Халодны вецер раскідвае сняжынкі, і здаецца, што танец ператвараецца ў зімовую завіруху.

– Потым раздаць усім мячы і шчыты. Няхай звіняць імі. І не трэба ваяваць. Слухаць сэрцам. Шукаць гэтыя таемныя рытмы.

– У талерках ляжыць не пюрэ – цыбульны сум.
– Бяры лыжку і крышы яго! Крышы!
– Шышкі і крыжы. Пыжыкі і пончыкі. У выніку ўсім раздаць лыжы.
– Гэх, кветачка! Гэх, бухтачка!

Калі Малевіч маляваў чорны квадрат, ён, безумоўна, думаў пра Амоль. Пра ягонае месцазнаходжанне. Магчыма, ён думаў і пра залу са старымі, дзе прэзентаваліся дзве пісьменніцкія німфы. Бясспрэчна, гэта было так. Бо без супрэматызму цяжка ўявіць сучаснае жыццё мясцовых жыхароў.

Вернемся да кніг. Адна аўтарка таемна з прыдыханнем нешта нашэптвала, начытвала. Задавала сама сабе пытанні і сама на іх адказвала. Зазывала чытачоў у пасткі свайго твора. Здавалася, што яна распавядае пра жыццё на кухні. Вось тут яна памыла кубак, тут – талерку, там – лыжку, там – нажык, там – відэлец, а тут яна пачысціла зубы, а тут яна схапіла за каўнер хлопца і пацягнула яго ў ЗАГС. Усё, твор – атрымаўся!

Другая аўтарка выглядала кавалерыстам без каня. Яна рагатала, крычала, махала рукой, нібы шашкай. І нават аўдыторыя час ад часу падскоквала ад страху ў сваіх крэслах. Здавалася, што пахне порахам.

І потым аўтографы, падобныя да абаранкаў, нанізваліся на вяроўку і вывешваліся высушвацца на вуліцу.

## 2

Гэты чалавек быў не выпадковым у нашым аповедзе. Ён быў шэфам кнігарні. Сам узначальваў установу і сам стаяў на гандлі кнігамі. Здавалася, звычайны, нічым не прыкметны чалавек.

“Прекрасное далёко, не будь ко мне жестоко – я отправляюсь в путь”.

Святло разламалася. Так – святло разламалася! Ці, дакладней, так: у святле сафітаў з’явіўся чалавек. Ён быў апрануты, як каўбой: капялюш, боты са шпорамі, пісталеты. Ён крыкнуў:

– Вось і я! Буду забіваць чорнага злодзея! Дзе ён?!

– Я – тут! – крыкнуў яму ў адказ той, хто быў меркавана чорным злодзеем. Той, хто крычаў, быў празрыстым студзенем.

Каўбой выцягнуў свае пісталеты і стрэліў у празрысты студзень. Ад куляў студзень раптоўна счарнеў і зароў:

– А-а-а-а-а-а! Як балюча!!! Як балюча!!!

## 3

Што таго жыцця? Я нацадзіў у шклянку віскі, кінуў некалькі кубікаў лёду, наліў колы. І няспешна выпіў. Гэтую працэдуру я паўтараў разоў пяць. Нарэшце зразумеў, што захмялеў, і таму падумалася: “Аднаму піць сумна”. Падышоў да дзвярэй пакоя, дзе спаў капітан Барада, і пагрукаў яму.

– Што здарылася? – пачуўся заспаны голас капітана.

– Мне надакучыла піць у адзіноце. Хопіць дрыхнуць. Выходзь. Ужо птушкі паздыхалі ад твайго п’янага храпу, – адказаў я капітану.

– Зараз – пачакай, – азваўся капітан.

Праз колькі хвілінаў ён выйшаў. На яго было прыемна глядзець – быў

ён бадзёрым, хоць алкаголь мы ўжывалі ўжо не першы дзень. На ім быў парадны кіцель, на якім свяціўся медаль.

– Чым снедаем? – запытаўся капітан.

– Віскі з лёдам і колай! – агучыў я.

– Тое што трэба, – пагадзіўся капітан і ўсеўся на скураной канапе.

**4**

Я слухаю аповед мясцовага ката: “Снег ператвараецца ў крышталь. Сонца робіцца курыным жаўтком. Вецер прыносіць крыкі кірляў. Макрэль на стале толькі ў выглядзе бляшанкі. І што рабіць табе ў гэтым свеце? Чаму для катоў не кансервуюць мышак і пацукоў? Мур-мур-мур”.

**5**

Спачатку я віскі льдом засыпаў і колай заліваў. І нешта мне не падабалася. Смак не той. Пачаў эксперыментаваць. І ўсё мне падавалася, што атрымліваецца нейкае мярзоцце. Ці напой нейкі хімічны, ці гурок атручаны воцатам. Потым, нарэшце, вынайшаў унікальную шведскую формулу ўжывання віскі. У звычайных шведскіх крамах алкаголь прадаюць не большы за тры з паловай працэнты, і тут хаваецца таемны цудзік – цуд. У гэтых месцах у іх прадаецца шмат слабаалкагольнага сідру (а можа, і без алкаголю) – глынеш, і разліваецца ўнутры неспадзяваная смаката. Сідр ёсць самы розны – яблычны, грушавы, вішнёвы. І на бутэльках з сідрам не пазначаецца працэнт алкаголю. Гэта значыць, ліманадзік – чыста “для аблізнуцца”. І вось вып’еш пяцьдзясят грамаў віскі і зап’еш гэтай ліманаднай смакатой. І атрымліваецца – кайф. Сідр пачынае танчыць і збіраць працэнты шчасця.

**6**

Я мушу прызнацца. У дзяцінстве заўсёды зайздросціў Сервантэсу. Я таксама хацеў сядзець у вязніцы і пісаць творы.

Я тады разважаў прыкладна так: “Ты толькі пішаш, анічога больш не робіш, а цябе яшчэ і кормяць...”

**7**

Я шпацыраваў уздоўж возера Венерн, разглядаў караблі і лодкі. І раптам у мяне ўзнікла непераадольнае жаданне заскочыць у яхту, якая велічна гойдалася на хвалях. Гэтую яхту хацелася параўнаць з лебедзем. Нядоўга думаючы, я сігануў на борт прыгажуні. І адразу – да штурвала. Як раптам:

– Я ўсё бачу.

Хто там? Азіраюся. Ба-а-а-а! Бубулька. І выглядае вельмі каларытна. На ёй – нейкае экзатычнае футра. Прычоска ўяўляе з сябе амаль Эйфелеву вежу.

– Так-так – гэтае футра з сапраўднай афрыканскай гіены, – адказвае бабулька на маё невымоўнае пытанне.

– Вы ўпэўнены? Штосьці футра грае на ветры вельмі спецыфічна. Мабыць, на паверку знялі футра з мёртвай балонкі.

Бабулька злосна цыкае скрозь зубы. Потым супакойваецца й пачынае нешта насвістваць. Дарэчы, па прыездзе ў Швецыю я заўважыў, што шведскія бабці любяць свістаць – вось і гэтая старая ад іх набралася.

– Якім ветрам вас сюды занесла? – пацікавіўся я. – Ці не мясцовы лось вас раптам завабіў?

– Я на кангрэс прыехала, – з гонарам паведаміла бабця.

– Які такі кангрэс? Гэта, напэўна, той які сабраў майстроў па вязанні швэдараў?

– Так, – сказала бабулька. – Гэта менавіта той. Галоўны якут Іван Іванавіч Барбюр будзе прысутнічаць на ім. Сам.

– Ну, калі сам Іван Іванавіч, тады ўсё зразумела, – хмыкнуў я.

## 8

Дзе знойдзеш, там і згубіш. Насамрэч, сцвярджэнне філасофскае. Я пачухаў няголенае падбароддзе. Навошта капітан Барада мяне пацягнуў у Амоль? Ну, гэта ж было, відавочна, не проста так. І гэты падазроны дырэктар кнігарні. Тут, магчыма, была нейкая сувязь. Якая? Я мог пакуль толькі здагадвацца. Нечага канкрэтнага пакуль я не ведаў і не знаходзіў.

Я перакладаў бляшанкі з рыбай і бліскучыя пляшкі з ромам. Разглядваў паштэт у пластыкавым пакунку, асцярожна нюхаў смярдзючыя агуркі. Потым закідваў бульбіны ў рондаль. Не абіраў іх, бо як кажуць: “у мундзірах” атрымліваецца смачней. Потым адвараную бульбу можна ачысціць і падсмажыць на алеі разам з кавалкамі сала.

## 9

У Доме літаратуры Амоля панавала атмасфера творчасці.

Дырэктар сустрэў мяне радасна.

Складалася ўражанне, што чалавек склеены з яркіх сонечных прамянёў.

На цябе наплываюць караблі.

Махаюць рукамі вясёлыя маракі.

Спявае вецер.

Дом праглынуў мяне. Здавалася, што мянеператраўлівае вялізная рыбіна. Я слухаў яе сэрца, назіраў за працэсам стрававання. Было шмат нечаканага й прыемнага, а часам недарэчнага й абсурднага. Бо жыццё рыбіны было шматгранным і важным.

Зрэшты я навучыўся гатаваць розныя прысмакі для рыбіны.

І працягваў гэта рабіць, пакуль яна сама не ператварылася ў страву.

## 10

На мяне не міргаючы глядзеў дзяцюк – выглядаў ён вельмі сытым. Ягоныя белыя рукі ўпрыгожвалі тоўстыя пальцы. На твары былі раскіданыя радзімкі й барадаўкі – быццам нехта не шкадуючы іх тут сеяў. Я нават уявіў таго невядомага з салонкай над тварам дзяцюка й пачуў ягонае балбатанне “бу-бу-бу-бу-бу”.

– Ты – расейскі шпіён, – раптам паведаміў таўстун.

## 11

Варта сказаць, што ў Швецыі я быў некалькі разоў. Першы раз наведаў Стакгольм з перформансам у далёкія 90-я. Тады яшчэ не было інтэрнэту і мабільных тэлефонаў. Цяпер больш за ўсё згадваецца, як у мяне разбалеўся зуб і анічога не дапамагала. Шведы жартавалі з гэтай нагоды – прапаноўвалі прывязаць да зуба нітку і выдзерці.

Потым яшчэ раз я прыязджаў у Швецыю ў 90-я з нагоды выхаду кнігі "4 + 4 + 4". Тусаваліся разам з Алесем Разанавым, Рыгорам Барадуліным, Карласам Шэрманам ды Алесем і Ірынай Туровічамі. Тады адзін дзень мы прабавілі з Сержуком Мінскевічам у гатэлі за гульнёй у більярд. Гулялі азартна і весела. Потым увечары пілі разам з Алесем Разанавым. І спадар Алесь тады радаваўся, як дзіцё, салу і гарэлцы, прывезеным Мінскевічам з Беларусі. Памятаю ягоную ўсмешку і прымружаныя ад задавальнення вочы.

Пазней я наведваў і Гётэборг.

Яшчэ з дзяцінства я думаў пра Швецыю як пра краіну вікінгаў. У першы прыезд я зазіраў праз шкло крамаў і галерэяў і ўсё шукаў міфічных вікінгаў. І смяяўся, калі знаходзіў іх цацачныя выявы.

## 12

заўтра зранку я еду да Гётэборга
адтуль я лячу ў Варшаву
потым цягнікам да Берліна
і далей – у Вiперсдорф
буду слухаць грукат вагонаў і
рокат самалётаў

сёння апошні дзень і
наперадзе апошняя ноч у Амолі
я планую ўначы прыйсці ў Дом літаратуры й
папрацаваць над раманам
(падыхаю на матылька
паказычу жука
пашапчуся з ветрам)
бо здаецца
што менавіта ў цямрэчы мяне наведаюць
тутэйшыя таемныя спадары й
распачнуць гутарку пра літаратуру й
жыццё каля возера Венерн
я чакаю на размову Жывую стронгу
Філосафа ласося Змрочную качку Шчырага Лася й
маленькага кніжнага курдупеля
ўпэўнены што сустрэча мусіць быць незабыўнай

у маім кабінеце – пах кавы й
спявае птушка
сусветныя дыктатары тут
уяўляюцца нейкімі цацачнымі і гумовымі
хочацца думаць не пра сусветныя рэвалюцыі

хочацца марыць пра сусветныя вандроўкі
на круізным лайнеры
жоўтыя кветкі
пазіраюць на мяне й
чакаюць на паэтычныя дыфірамбы
і безумоўна партрэт Евы
што вісіць на сцяне
не пакідае мяне ў спакоі

з капітанам Барадой абмеркаваны
новы план палёту на планету Марс
на стале – заўсёды “Тэлеграм” з голасам каханай

далёкі смех дачкі
натхняе мяне на творчыя падарожжы
з усімі вышэй пералічанымі героямі
праз вакно бачу як хістаюцца яхты

дзякуй Дому літаратуры Паўночных краін
адзін аўтар анікуды не з’едзе й
застанецца ў гэтым кабінеце назаўсёды

Анхела Эспіноса Руіс



...ніхто не спыніць кнігу

ці вясну...

# Беспрасвецце

***Наратыўная паэма ў 13 частках без цэменту і раствору***

***I.***

Найвялікшыя дойліды, наймудрэйшыя магі,
Як пабачыць галоўнае замінае ім зрок,
Могуць зняць акуляры, пакідаць без увагі
Цэлы свет; занядбаць чалавецтва знарок.

Іх нязломнаю воляю і знікаюць сусветы,
І Адам прачынаецца аж на іншай зямлі.
Але нам, апаганеным, жыць-памерці на гэтай:
У суцэльнай самоце, ці ў святле – як жылі.

***II.***

Інана – бедная багіня,
Як не палічым супадзенняў:

«Паветра, сонца, дождж і гліна,
Любоў, супольнае падзенне,
І з пакалення ў пакаленне,
Агонь, старая падваліна,
І дрэва-крыўда між руінаў,
Ад чалавечага цярпення.

Іржавы ключ да брамаў раю,
Ў мяне нічога больш няма,
Бо не пішу я, не чытаю,
П'ю недапітае да дна,
Блукаю ў цемры ўсё ж адна,
З акна ў акно – да небакраю.
Ліра мая даўно не грае:
Маўчыць апошняя струна».

***III.***

Падымецца сонца з усходу,
Заўтра й заўжды.
Над голадам, ценямі, лёдам
Дым залаты.

Загляне і ў наша ваконца,
А покуль зайдзе,
Шукайма братоў-незнаёмцаў
Па сушы й вадзе.

У Вільні штодня адвячоркам
Гарыць святло,
Пануе вясна агародкай
Зіме назло.

Паэце, працуй! Беспрасвецце –
Лютуе сплін.
А як жа далей жыць на свеце,
Як ты адзін?

***IV.***

Ляціць з чорнай смерцю на крылах тут Марыган вечна,
Цягае пахмурных аблокаў сярэбраны рой.
Пакінь, падарожны, надзею, бяжы! Небяспечна
Спыняцца пад небам падвойным між мораў і мрой.

Зубамі, рукамі зрывае зямлю Кацярына,
І цёмны з лістоў каралеўскіх вядзе лістапад,

Сарока напала на вольнасць, на гонар, Айчыну,
Ляціць да Мадонны з дзіцём – ані кроку назад!

Між явай і сном, між балотам і студжаным полем,
У сонца ў абдымку, дзе туляцца ласка ды страх,
Пад зоркай самоты ды цемры, за лесам, за доляй,
Балесная маці трымае сусвет на руках.

Дзіця ўсё варушыцца й плача ля сэрца ў матулі,
Дарослы Ісус памірае ў яе ля грудзей,
Калыша іх мама без слоў, каб абое заснулі,
Калыша Марыя на свеце ўсіх божых дзяцей.

***V.***

Туман і ноч. Гудзе жалеза з цэха,
Зязюля ўпарта, як майстры, куе.
Каваль даўно не бачыў на стале
Любові, славы ці зямных уцехаў.

Па камяніцы выдаецца рэха
Банкета, поўных чаш, віна на дне.
Гефест працуе ў цішы – ўсё міне,
Не слухае пагарды, жартаў, смеху.

І кожны рух, і кожны ўзмах істотны
Ад формаў элегантных і свабодных,
Да дробязяў, здабытых малатком,

Бо з розуму й фантазіі палётных
Рукою грубаватай, бруднай, потнай
Гефест будуе творцам новы дом.

***VI.***

Якога колеру неба тваё, сястрыца?
Што носіш сёння з сабою над галавой?
Раней, чым нас назаўжды знясе бліскавіца,
Адпраўся са мной, Гіпатыя, зноў на бой.

Вучы мяне, пакажы мне ўсе таямніцы
Нябесных колаў, дарог, арбітаў, абшараў.
Раскошнай бібліятэкай стане вязніца,
Запалім тысячу пышных сонцаў з-за хмараў.

За факелам я тваім іду камяніцай,
І цыркулем я тваім намалюю шлях

Каметы, што прывяла да тваёй капліцы.
Падымемся, о Майстрыха, з табой на дах!

Заходзіць Зорка Венера над злой сталіцай,
Па кім, Гіпатыя, плачаш? Чаго дрыжыш?
Паказвай мне сваё неба, мая сястрыца,
А я памагу хвіліну насіць твой крыж.

### *VII.*

[1]І прабілі яны зямлю, каб падрыхтаваць падмурак на пабудову.
[2]І пад зямлёю знайшлі яны руіны Першага Храма. [3]Даўжыня
будынка была 60 локцяў з усходу на захад; шырыня яго –
20 локцяў з поўначы на поўдзень, а вышынёй меў ён 30
локцяў. [4]І месціліся ў Храме тры памяшканні: улам, гехал і
дэвір. [5]Але гэта было няважна, бо яны адразу накрылі руіны
бетонам і пабудавалі вялікую паркоўку, а над паркоўкай –
гіпермаркет. [6]Так пачалі спекуляваць купцы сваімі таварамі
над Першым Храмам. [7]Набралі яны на працу падлеткаў і
прынеслі ў ахвяру іх дзіцячыя мары й надзеі карпаратыўным
нажом. [8]І здабылі манаполію над прадуктамі першай патрэбы,
і маленькія крамы ды цэхі памiралі навокал, як вянуць кветкі
ў спёку. [9]І стаў храм-гіпермаркет адзіным варыянтам закупаў
для адчайных, бедных і жабракоў, і месцам для продажы душы
самому д’яблу. [10]І ніводны месія не адважыўся перавярнуць
бізнес, каб не асудзіць на смерць цэлую грамаду. [11]І так грамада
стала наўпрост выжываць. [12]І выжывала грамада толькі вакол
храма-гіпермаркета. [13]Настала Чорная Пятніца пасля Дня
Падзякі. [14]І ў Чорную Пятніцу храм-гіпермаркет выставіў
на продаж папскія булы са значнымі зніжкамі. [15]І ў Чорную
Пятніцу здарылася вялікая цісканіна, і памерла пад натоўпам
семдзясят разоў па сем мужчынаў і жанчын. [16]І тыя, хто набыў
танную папскую булу, радаваўся бязмерна. [17]І некаторыя
злараднічалі, маўляў, я булу м*а*ю, мая вечная душа апынецца
ў раі, а твая – не. [18]І танчылі яны зларадна на вакханаліях над
руінамі Першага Храма. [19]І вярнуліся дадому з купленай па
зніжках справядлівасцю, або, хутчэй, з суджэннем па выгоднай
цане. [20]А Кароль усё спаў пад гіпермаркетам, пад паркоўкай,
пад падмуркам і зямлёю, і нікога не судзіў.

### *VIII.*

Я пакажу табе замкі старое Еўропы
Такімі, як я калісьці іх бачыла ў сне.
Прашу – ты прымай, дазволь стаць тваёй Пенелопай,
Запальвацьму свечку штоноч для цябе на вакне.

Я здолею з чорнае воўны надзею выткаць,
Дзіцячаю хай і рукою, шаршаткай нядолі,
Я завяжу з ціхім шчасцем чырвоную нітку,
Я падару залатое руно тваёй волі.

### IX.

Пра гэтыя даўнія справы, пэўна, памятаюць не ўсе, або, магчыма, ведаюць толькі нямногія. А паводле знойдзеных дзённікаў дзяцінства і юнацтва мы даведаліся пра тое, што малады Праметэй быў славутым жартаўніком. Часта заходзіў, напрыклад, адвячоркам, то на Парнас, то на Алімп, падыходзіў да самай брамы, званіў і бег — каб падымаўся з трона Зеўс яму адчыніць, і не знаходзіў нікога перад дзвярыма. Бывала, Праметэйчык хаваў прылады беднага Гефеста. Або раздаваў аднакласнікам на школьным двары яблыкі разладу. Пару разоў, яшчэ падлеткам, будзіў Персефону раней за час, каб тая пахадзіла па зімовай зямлі і пакінула за сабой сцежкі кветак і лятучых дзьмухаўцоў – усё, патлумачыў у дзённіку, ад любові да Вясны. Аднак усе багі панфеона любілі яго і заўжды паўтаралі: «Разлічвай на нашую дапамогу, варта толькі спытаць-папрасіць ветліва, тады ўсё табе будзе».

Пэўнага дня дзіця-Праметэй, якому толькі споўнілася было пяць гадоў, наляпіў з простай, чырвоненькай гліны птушак пявучых, з якімі бавіўся цэлую раніцу. У нейкі момант хлопчык заўважыў, што крылы ў іх мокрыя, і спробы ўзлятаць выглядалі б смешна, калі не ўлічыць трагічнасці. Падышоў таму да Геры, якая берагла якраз хатні агмень, і папрасіў: «ці магу карыстацца печчу і божым агнём? Птушкі ўзляцець хочуць, паглядзець на шырокі свет, пабачыць мора, горы, дакрануцца да сонца — а крылы мокрыя дый целы ліпкія. Не выходзіць». Гера, як мама, падумала, што Праметэю трохі рана гуляць з агнём, але сама была занятая, і красамоўства дзіцяці яе закранула. Таму дазволіла хлопчыку закінуць птушак у печ і запаліць божы агонь. Што паспрыяла наступствам, якія і можна было чакаць ад пяцігадовай чалавечай істоты — маленькі пажар, і чарада спаленых птушак, якія ніколі больш не маглі падняцца ў паветра... Ці не так?

Плакаў Праметэй па сваіх гліняных птушках, пакуль Гера нярвова хадзіла туды-сюды, прыбірала на кухні, калі зазвінеў з печы неймаверны меладычны спеў. І яны ўзляцелі, паляцелі праз акно, тыя птушкі, адна за адной, ператвораныя назаўжды ў прыгожых агнявых феніксаў!

Так дасталіся чалавецтву першыя іскры Святла.

### X.

Назло халадам
Заквітнела на вакне
Пад ціхім сонцам
Ружа безыменная.
Хай заўжды нясе святло.

Свеціцца няхай
Марнаю прыгажосцю,
Летуценнямі,
Словамі без значэння
І душамі зняверцаў.

Купалам шкляным
Накрыць бы яе на ноч.
Схавай за вітраж!
Не хапае ёй шыпоў
Бараніцца ад цемры.

### XI.

Ніхто не спыніць кнігу ці вясну,
Працуй, друкар, старонкамі хутчэй!
За цемру плацім божую цану.

Чакае матылькоў мільён людзей,
Скарына, паспяшайся, паскарэй!
Ніхто не спыніць кнігу ці вясну.

Сябры, не пакідайце ля дзвярэй
Сваіх імкненняў, веры ды надзей:
За цемру плацім божую цану.

З паперы нам спявае салавей,
Бальзам для нашых вуснаў і вачэй.
Ніхто не спыніць кнігу ці вясну.

Пісаць, чытаць, ісці мусім далей,
Світанне пасля тысячы начэй!
За цемру плацім божую цану.

Хай не прымусіць нас да сну Марфей,
О, дрэва мудрасці! Расці, квітней!
Ніхто не спыніць кнігу ці вясну,
За цемру плацім божую цану.

### *XII.*

Марыя, лісты на вецер, а ўсё ж... Марыя, Маці ўсіх нямых немаўлятаў нашай Новай Зямлі! Як жывецца табе між сценамі цёмных стагоддзяў? Ці не шкадуеш ты, што ўласнымі рукамі парвала сусвет папалам? Ці застаемся мы цябе вартымі? І ці застаешся ты, незгасальны праменьчык святла, надзеяй і любоўю нашых пяшчотных і смелых мадоннаў? Хто ж, калі не ты, возьме меч забытага гонару з крывавага восеньскага лісця, як прыйдзе час?

Скажы, Марыя, ці не з'ядае цябе знутры цямнота (не) каралеўскай стражы? Знутры, мабыць, Воля трымае... А ці не халадзеюць ногі ад іх мёртвага дыхання? Ці ў дастатковай колькасці даходзяць да цябе цяпло, сонца, неба? Пытаю, бо цяжка бачыць святло, калі гэта ты – маяк. Вечна ўсім маяк.

Дай ведаць, калі ласка, якім паштовым голубам перадаць табе забаронены плод чырвонай прыгажосці. Ці любы пераляціць муры? Я разумею, што яна, прыгажосць, чыста сімвалічная, але сімвалы, як і магія, маюць вялікае значэнне. Прыгажосць, можа быць, не ўратуе жыцця, але калі без яе – дык дзеля чаго тады жыць? Калі без цябе, тады дзеля чаго?

Закінула ў кабэрту кавалак мора з захадам сонца. Спадзяюся, прапусцяць. Абдымаю.

А.

### *XIII.*

Песня мінулых стагоддзяў звініць з мінарэтаў,
Бог мудрацоў на размову чарговы раз кліча.
Цыркулем ставіць на неба ён зоркі, планеты,
Кажа: святло мае безліч на свеце аблiччаў:

Кніга-святло, святло-гора, святло над дарогай
Зоркі, што шляхам птушыным да Рыма вядзе,
Крокам няпэўным няўзнак аддзяляе ад Бога,
Ззяе на захадзе-ўсходзе, паўсюль і нідзе.

Горад святла, святло золку, святло-камяніца,
Дойлідскім светлым пяром намалёваны Храм,
Ціхага сонца святло, і святло-таямніца,
Поўнае моцы святло, і святло папалам.

Старац пад свечкай маўклівай малюе нябёсы,
Поўдзень запальвае ноччу свае прамяні.
Гнеў каралёў парывае паўсотню тых лёсаў;
Поўнач гарыць на світанні ў пякельным агні.

Алесь Місуна



...як прыбытак у чужую кішэню,
дык кожны бачыць...

# Самапіска

***Апавяданне***

Калі б сённяшнія, пачатку трэцяга тысячагоддзя, абаронцы прыроды, зялёныя, ці як іх там завуць, раптам трапілі на маю малую радзіму гадоў гэтак шэсцьдзесят таму, ніхто б з іх сваёй смерцю не памёр. Заўчасныя інфаркты іх выкошвалі б без усялякай літасці, як гаспадар сакавітую атаву для маладзенькага бычка. А вось што яшчэ адметна: пакінулі б яны пасля сябе, часцей незавершаныя, прагнозы-перасцярогі аб поўным знішчэнні раслiннасці, збядненні атмасферы на кісларод і, як вынік, аб рэзкім скарачэнні тэрыторый, прыдатных для жыцця людзей. Прынамсі, маю малую радзіму яны б у сваіх паперах абавязкова запісалі ў нейкую да афрыканскай Сахары падобную мясцовасць.

Але бог літасцівы. Вымiранне барацьбітоў з экалагічнымі праблемамі не здарылася, бо іх у тыя часы ў нашай мясцовасці папросту не мелася. Мабыць, не даехалі, а можа, яшчэ

не нарадзіліся, не набрынялі заклапочанасцю, якая некаму жыццё папсуе, а некаму масла тлусцей на акраец хлеба намажа.

Дарэчы, і з прыродай нічога такога не здарылася, маецца тая прырода лепей, як пры тых часах. Перамагла яна чалавека, выцесніла ў гарады далёкія, у мястэчкі. Там ён прыжыўся і цяпер, бывае, некуды даедзе паветрам экалагічна чыстым падыхаць, у азёрах рыбіну, што не чула пра хімічную вытворчасць, злавіць ды проста так па траве-кустах пашвэндацца, кветак сапраўдных, без араматызатараў, панюхаць, згаладалых камароў з аваднямі целам сваім, што гарадскім побытам распешчана, паласаваць.

Але апошняе не пра мае з дзяцінства знаёмыя мясціны. Людзі адтуль – не з мяне пачыналася – з'ехалі, толькі стрэхі хат ды хлявоў пакуль што сярод кустоў тырчаць, яшчэ не абрынуліся. І не кожны праз леташнюю гавылу ды зараснікі крапівы, што куды вышэй чалавека, адважыцца да тых хат прабіцца. Там цябе нават у сухое надвор'е, пра росную раніцу ці пасля дажджу і не згадваю, акрамя крапівы, ліпучыя дзяды чакаюць ды сухое лісце, што шчодра за каўнер трухой цярушыцца. А яшчэ, калі ўсё ж рушыў, дык ведай, не раз паваліўся, зачапіўшыся за якую жалязяку ці сук, у траве не заўважаны, не раз праваліўся нагой, аж сэрца абарвецца, у глыбачэзную яміну, што дзікі, спажыву шукаючы, выкапалі. Калі шчыра, дык хадзіць да тых будынін не раіў бы.

У тыя часы, пра якія пойдзе гаворка, ніхто не паверыў бы, што ўжо дзецям, а хто зажывецца, дык і самому, давядзецца дазвол атрымліваць, каб дроў насекчы, венікаў у лазню навязаць, дубцоў на кошык нарэзаць альбо ссекчы дубок, каб нарабіць зубоў у граблі. Секлі ўсё, што трапляла пад руку, ні ў кога не пытаючыся, секлі ўсё, што падабалася ды ў гаспадарцы патрэбна. Праўда, была нейкая няпісаная культура – кожны сек толькі тое, што сапраўды патрэбна і так, каб другому вочы не мазоліць, пасля сябе парадак пакідаў. Ніхто не валіў бы вольхі блізка каля чыйго агарода – тут прыярытэт вядомы. Скінуўшы тую ж вольху ці бярозу, непатрэбнае суччa не прыбраць з памежку за грэх лічылася, бо як там потым касой замахнешся.

Дык то гаспадарчыя патрэбы. А здаралася, што і дзяржава падахвочвала тую прыроду нішчыць. Я не пра каларадскага жука, выяву якога з заклікамі да піянераў і школьнікаў, каб нішчылі, на вокладках сшыткаў замест табліцы множання друкавалі. Я пра куды большае.

Пачатак шасцідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя. Тут да мілага ўсім пастаральнага малюнка вясковага жыцця варта пару штрыхоў дадаць. Было яно вельмі беднае. Людзі працавалі ў калгасе. А там пакуль што яшчэ ставілі працадні і ў канцы года нешта на той працадзень выдавалі натурай – збожжам, бульбай... А прысядзібны надзел, які абмежавалі, каб будаўнікі камунізму не стамляліся перад тым, як раніцай ісці на тую будоўлю, пракарміць, не то каб уволю наесціся, не мог.

Асобная тэма грошы. Грашовую аплату маладым, як і пенсію састарэлым калгаснікам, аж дванаццаць рублёў, трэба было яшчэ пачакаць. Адным словам, грошы людзі тыя, што працавалі ў калгасе, трымалі ў руках рэдка.

Была, праўда, на вёсцы і, як казалі "камуністыя", праслойка інтэлігенцыі. Стаўленне да яе было адпаведнае, таму што, як вучыў геніяльны "вождзь міравога пралетарыяту", інтэлігенцыя – г...о. Праўда, пра гэтае меркаванне "важдзя" ніхто не ведаў, але жыццё таго інтэлігента да адпаведнага стану было даведзена, і ўсе гэта бачылі. І не памагала нават тое, што "інцілігент"

перачытаў процьму разумных кніжак, пра існаванне якіх вясковыя, а сярод іх многа хто і з граматай не знаёмы, не здагадваліся.

Гэтая частка вясковай супольнасці ад усіх астатніх мела толькі два адрозненні. Кожную раніцу сусед Аркадзь закідваў на плячо вілы, бывала, іншы рыштунак і шыбаваў да чырвонага кутка, дзе каля падвешанай на драціне жалязякі – звона-вешчуна, брыгадзір Рысь загадваў, каму што рабіць. А бацька пасля ранішняга, як і ў Аркадзя, абходу каровы-падсвінка-авечак хуценька перакусваў ды, апрануўшы касцюм, хапаў да пузатасці наладаваны вучнёўскімі сшыткамі, якія правяраў да паўночы, партфель і, на хаду папраўляючы скасабочаныя капялюш і гальштук, шпарка кіраваўся ў былы панскі палац, дзе месцілася школа.

Гэта адно. Другое ж адрозненне, і яно было прадметам зайздрасці, – грошы. Бацьку, як і ўсім настаўнікам і яшчэ паштальёнцы ды “магазіншчыку” Сярожу, зарплату плацілі грашыма, ды яшчэ ого, кожны месяц!

Гэта ж агульнавядомая рэч – як прыбытак у чужую кішэню, дык кожны бачыць, а як пра траты, дык хто ж іх заўважыць. Трэба сказаць, што зарплата вясковага настаўніка была не такая і вялікая. А калі адняць прымусова-добраахвотную падпіску на дзяржаўны аблігацыйны заём, што забіраў траціну, а то і палову таго, што лічылася заробкам, дык увогуле маленькай. А выдаткі? Вот тут, канечне, размова асобная. Сказаць, што касцюм ды паліто, у якіх бацька кожны дзень мусіў хадзіць у школу, цяпер бы сказалі “пільнавацца “дрэс-коду”, каштавала разоў у дзесяць даражэй за Аркадзеву ватоўку, гэта яшчэ нічога не сказаць пра траты. Шмат грошай з’ядалі частыя паездкі ў раён, а то і далей, на розныя семінары, канферэнцыі. А трэба ж каб і ў хаце неяк лепей было. Бо надарыцца які правяральшчык з раёна, а то і з вобласці, дык не будзе ж ён з табой з адной міскі зацірку сёрбаць.

Але найбольшыя траты – гэта бацькава вучоба. Каб неяк упэўнена пачуваць сябе на настаўніцкай пасадзе, а то часы мяняліся і відаць былі перспектывы далучыцца да Аркадзі, былы выпускнік педвучылішча ўпрогся ў сур’ёзную навуку – педагагічны інстытут. Завочна, вядома. Два разы на год бацька з’язджаў у самую Вільню, на сесію, дзе слухаў лекцыі і здаваў залікі ды іспыты.

Адным словам, грошай у сям’і было вобмаль, лічылі кожную капейчыну. І гэта не прыгожае слова, каб выціснуць у чытача слязу спагады. Гэта зараз дзіцяці пудамі купляюць розныя цацкі, не кажучы пра прысмакі і вопратку. У тагачаснай вёсцы ўсё было інакш. У большасці людзей не было за што, а яшчэ і не было дзе ўсё гэта купіць. У бліжэйшым магазіне, за якіх пару кіламетраў, “магазіншчык” Сярожа, хоць і хітраваты, але ўрэшце добразычлівы чалавек, мог адламаць і загарнуць у кавалак старой газеты цукерак-падушачак, што зліпліся на камень, і толькі. Пра дзіцячыя апраткі-абуўкі ў Сярожавым магазіне ніхто і не пытаўся. Таму нават у сям’і настаўніка не часта перападалі ласункі, рэдка цешыліся крамнай вопраткай. А зрэшты, абнова тая мне не вельмі і абыходзіла. У школу дык маці глядзела, каб крыху нейкі выгляд быў, усё ж сын настаўніка. А каля дому – усё роўна, што ні надзену, як на агні гарыць. А дзе ж яно вытрымае, калі ўсе дрэвы трэба аблазіць, усе балаціны перамераць. Хлопец...

Пэўна, чытач пачаў ужо траціць цярпенне, не разумеючы, да чаго была тая запеўка пра экалагічную заклапочанасць. Вядома ж, не выпадкова. Памятаеце пра амерыканскую “залатую трасучку”, пра рэчку тую Кландайк,

што прыток рамантычнага Юкона... Вядома, размах не той, але нешта падобнае здарылася і ў нашай вёсцы. Не золата, не нафта, канечне. З карысных выкапняў паблізу была толькі балотная жалезная руда. Калі падчас меліярацыі, што адпаведна парадам акадэміка Мацэпуры праводзілі ў ваколіцах вёскі, магутныя трактары С-100, цягаючы велізарныя плугі, злучалі канавамі асобныя балацінкі, у двух месцах выкалупалі некалькі нікому не патрэбных рудых камянёў, ад якіх вада ў тых канавах увесь час была іржавай.

Цяпер ужо дакладна не прыгадаю навошта, а можа, і тады толкам ніхто не ведаў, ды і для нашага аповеду гэта не вельмі важна, але неяк "магазіншчык" Сярожа аб'явіў, што будзе прымаць сушаную лазовую кару па 5, а крушынавую – аж па 7 капеек за кілаграм. Адразу народ да гэтага паставіўся з халадком, не вельмі і верылі. Людзі ж заўсёды хочуць бачыць сэнс. Вось акарыў елку, у абхват, дык будзеш мець вялікі і моцны пласт прасмоленай карыны – такімі пластамі можна нават у якім хлеўчыку дах накрыць, не адзін год паслужыць. А калі пад страхой забіць такімі пластамі сцяну паветкі, дык век стаяць будзе. Тая ж ліпавая кара, хоць ужо і адышоў той час, але зразумела, на лапці гадзіцца. А тут...

Ці то Сярожа з кім асабіста пагаварыў ды папрасіў, бо і яму ж план даводзяць, але праз нейкі час народ пераканаўся – не падман, жывая капейка сама ў рукі просіцца. Тым больш пара стаяла акурат патрэбная. З вясны, пакуль сок бяжыць, пакуль у дрэва рост, кару тую сама драць. Бліжэй да восені абалонь задубее, і нічога ты ўжо не надзярэш. Ну, і рынуўся народ па кустах, па балотах "драць лазу". Дзякаваць богу, дабра таго ў наваколлі было колькі хочаш. Крушына, хоць Сярожа і даражэй плаціў, не вельмі ішла. Дрэва сустракаецца радзей, кара ў яго танчэйшая і, як высахне, куды болей на кілаграм трэба.

Праца гэтая, скажу я вам, была не з лёгкіх. Адно што ў густым лазовым кусце, які не прадуваецца ветрам, духата, як у лазні, дык яшчэ і камар'ё. Грызуць як сабакі. А потым жа здабытак трэба даперці дадому – здаецца, а сырая карына вагу мае. Але цяжка не цяжка, а праз які тыдзень у вёсцы ўжо толькі каля рэдкай хаты паркан не ўпрыгожвалі пукі лазовай, пракідваліся і крушынавай, кары – сушылася. На ноч ці калі находзіць дождж, пукі тыя зносілі пад страху, а з раніцы зноў на паркан. Гэта табе не мурог сушыць, што сёння з раніцы скасіў, а глядзіш, заўтра к вечару, калі дождж не напаскудзіць, ужо і ў тарпу кладзі. Кара тая нават пры добрым надвор'і з тыдзень сохла.

Дарослыя нарыхтоўкай гэтага тавару займаліся мала, а вось старыя і асабліва падшыванцы давалі дыхту, адзін перад адным стараліся. Іншы раз, калі куст не падзялілі, нават да сваркі магло дайсці. Зрэшты, не доўгай і не вельмі зласлівай, бо час траціць ніхто не хацеў, ды і лазы, калі куст крыху і горшы, хапала, дэфіцыту не было.

Вынікам гэтай лазовай ліхаманкі сталася тое, што ўсё наваколле ўпрыгожвалі, як вымытыя дажджамі косткі, белыя ствалы лазняку, што між зяляніны свяціліся з кожнага балотца. Недзе кусты лазовыя нават пажухлі сярод лета. Але экалагічная катастрофа не здарылася – лазіна куст жывучы, ад яго, калі і захочаш, пазбавіцца няпроста.

Так ці інакш, у старых ды дзяцей, самых безграшовых слаёў вясковага насельніцтва, завяліся грошы. Старыя ёсць старыя, яны свае грошы на гаспадарчыя патрэбы пускалі, можа, хто ўнукаў пацешыў ласункам ці сандалікамі бліскучымі, у райцэнтры купленымі. Нецікава.

Іншая справа мы, падшыванцы. Тут фантазій хапала. Праўда? фантазіі тыя часцей за ўсё бездапаможна разбіваліся аб асартымент Сярожавай установы гандлю. Канечне, у райцэнтры, дзе амаль ніхто з нас не быў, магазінаў болей, дык і выбраць можна было б нешта лепшае. Але хто ж цябе ў той райцэнтр пусціць. Нават шофер, што білеты за праезд на грузатаксі прадае, прагоніць – куды, маўляў, без дарослых.

Найбольш часта грошы трацiліся на электрычныя ліхтарыкі. Зваліся яны “Жучок” і нечым нагадвалі сённяшнія ручныя экспандэры. Ціснеш усёй даланёй на бліщчастую жалезную шынку, і яна жу-жу-жу, натужна падасца, нешта там усярэдзіне, чуваць, варухнецца, і загарыцца лямпачка. Так і ціскаеш без перапынку, а перастаў – і патухла твая электрастанцыя. Рука ад таго “Жучка”, бывала, хутка зморыцца і, пакуль адпачывае, ідзеш ў цемры. А у цемры ж вядома, пакуль вочы пасля святла абвыкнуцца, можна і спатыкнуцца аб якую карчаку, ці ў лужыну ўбіцца, а то і яшчэ горш – у свежыя каровіны пляйтухі, што, ад пуза наеўшыся, жывёліны, ідучы з папару, шчодра накідалі ў вулічны пыл...

Былі ў Сярожы і іншыя ліхтарыкі – кітайскія, на два і на тры “пітанні”. Тады акурат з кітайцамі сяброўства ў самым разгары было, усё спявалі: Масква – Пекін, дружба навекі. Начальства, што з раёна час ад часу наязджала, к зіме ў кітайскія фетравыя боты прыабулася, прыгожыя, белыя халявы рудымі лямкамі перашытыя. “Вялікі кормчы”, Даманская выспа і культурная рэвалюцыя з хунвэйбінамі, слова гэтае далёка не кожны заезджы агітатар мог не сканфузіўшыся выгаварыць, яшчэ былі наперадзе.

Той кітайскі ліхтарык – рэч, канечне, вабная. Во, як светанець, дык далёка што ўбачыць можна. Асабліва цікава падражніць дзецюкоў, што так і хочуць дзяўчыну куды-небудзь у цішэйшае месца звесці. А ты ліхтарыкам бліс – і напужаў. Але хлопцы нашыя хутка скемілі, што тыя кітайскія ліхтарыкі – толькі выкінутыя грошы. Пагарыць-пагарыць той ліхтарык, а потым сілкаванне скончыцца, і ўсё. На новае дзе ты грошы возьмеш, хіба толькі бацькі дадуць. Ага, так табе і дадуць.

Другая вельмі вабная штука, якую хлопцы куплялі на заробленыя грошы – сцізорык. Трэба сказаць, што тагачасны вясковы побыт вымагаў да таго, што ў кожнага дарослага мужчыны ў кішэні, часта, каб не выслізнуў ды не згубіўся, прывязаны да дзяжкі на доўгім шнурочку, быў складаны ножык – ці мала што спатрэбіцца адрэзаць... А патрэба тая ўзнікала на дзень па некалькі разоў – то галлё падатлівае натрапіцца, каб мятлу звязаць, то малому свістульку выразаць, то яблык ад скуры ачысціць, то сала ды хлеб, што ў лусце, на скрылькі парэзаць. Гэтых “то” ў вясковага чалавека безліч. Недарма ж показка была: без нажа як без рук.

Вядома, падшыванцам таксама карцела ножык займець. З ножыкам і больш дарослым сябе адчуеш, ну і патрэбы, канечне, былі тую ж зброю, каб у вайну гуляць, з сукаватай палкі зрабіць. Адно, калі ты зробіш аўтамат проста абламаўшы лішнія сукі, і зусім іншы выгляд, калі роўненька абрэзана, ды кара шурпатая аскрабана. А найбольшая патрэба, гэта гульня “ў ножыкі”. Добра гуляць сваім, да якога рука прывыкла, паслухмяным, а чужым пачнеш, толькі дзірвана, “рэпаў” наясіся – і рот чорны, як у гусака, і ад гразі не адпляваецца. А самае галоўнае, што смяюцца з цябе, бывае, віду не пакажуць, а ведаеш – смяюцца. Але сцізорык, каб добры, і з шылам, і з нажнічкамі, не так проста і купіць. Хлопцы бегалі ў магазін, прасілі – дзя-

дзя Сярожа, папрасі ты ў свайго начальства, каб для нас сцізорыкі далі. З таварам гэтым сапраўды было туга, але дзядзька Сярожа такі пацiху попыт хлапечы забяспечваў.

А вось мне свае шчыра зробленыя пяць рублёў з нейкімі капейкамі прыстроіць было цяжэй. Ліхтарык кітайскі, праўда, толькі на дзве батарэйкі, у хаце быў, і бацькі, хоць не часта, але дазвалялі з ім прайсціся. Быў у мяне і сцізорык. Асадка крыху вышчапілася, і бацька купіў сабе новы, а стары аддаў мне. Канечне, хацелася новенькі, бліскучы, з закручастым узорам на тронках, як у сябрука Казіка, але купляць яшчэ адзін было б зусім неразумна.

Пасля доўгіх разважанняў рашэнне было прынята. Вядома, яно ніяк не адпавядала маёй запаветнай мары, але грошай, каб купіць тэлескоп, было напэўна ж мала. Тое, што рэч дарагая, здагадваўся, а яшчэ не ўяўляў, дзе яго можна купіць.

А тут яшчэ і выпадак падвярнуўся. У кабінеце фізікі і хіміі, на самой справе – проста асобная шафа ў адным з класаў, рабілі нейкі ператрус. Ну, каб доўга не расказваць, забылася настаўніца оптыку схаваць у тую шафу. Вялікага дыяметра павелічальнае шкло засталося ляжаць на падваконні, а побач яшчэ і акуляры ад мікраскопа. Акно было адчыненае, і не перасіліў я спакусу, як цяпер кажуць, прыхватызаваць тую оптыку. Адразу скеміў, што з гэтымі дэталямі змагу лёгенька зрабіць тэлескоп, падобны на той, што бачыў у кніжцы пра космас. Далей усё было справай тэхнікі – замацаваў тую оптыку ў скручаны трубкай кавалак пафарбаванага чорным колерам кардону, і прылада гатова. О, колькі было радасці, у сяброў – цікавасці, а недзе і зайздрасці. Колькі начэй патрачана на тое, каб убачыць кратары на Месяцы, кольцы Сатурна, серп Венеры і нават галактыку – Туманнасць Андрамеды, што сваім закручастым, як вір, малюнкам да найвышэйшага градусу распаляла дзіцячую фантазію. А як ад гэтага прыбыло майго аўтарытэту сярод сяброў! Дай ды дай паглядзець у тэлескоп. Калі б быў у нас звычай займацца камерцыяй, дык меў бы, лічы, усё, што ні пажадаю. Так маім сябрам хацелася глянуць праз той тэлескоп у глыбіні космасу, што нічога б не пашкадавалі.

Настаўніца, вядома ж, прапажу заўважыла і аднойчы, відаць, даведаўшыся ад некага пра маю астранамічную прыладу, папрасіла яе паказаць. Было і страшна, і сорамна – украў жа, як ні круці, а зараз усё раскрыецца, і мала не будзе. Але настаўніца, паглядзеўшы ў мой тэлескоп, як у падзорную трубу, справа была днём, нечакана ўхваліла маё вынаходства. Абышлося... Так той тэлескоп і сёння валяецца на гарышчы бацькоўскай хаты. Калі б хто рабіў музей у мой гонар, экспанат бы быў ці не самы каштоўны.

Дык пра рашэнне, а яно мела даволі непрыемныя наступствы, і не так для мяне, як для бацькі. Ужо казаў, што ў тыя часы, дзякуючы сяброўству з Кітаем, да нас дайшло шмат іхніх тавараў – пра кітайскія электрычныя ліхтарыкі і фетравыя боты ўжо згадваў. Сярод гэтага, на самой справе не такога і багатага асартыменту, былі яшчэ і кітайскія самапіскі “з залатым пяром”. Такая ў нашага дырэктара школы была. Ён яе насіў у маленькай кішэні, што з левага боку пінжака. Відаць была толькі бліскучая жоўтая, уяўлялася, што таксама залатая, прышчэпка і малюпасенькі кончык самой асадкі. Толькі аднойчы давялося ўбачыць, як дырэктар нешта пісаў, здалося, пускаючы “зайчыкаў” залатым пяром. Нават убачыць была вунь якая падзея.

Почырк у тагачаснай школе рэч, можа, не самая, але вельмі важная. А з гэтым у мяне была вечная бяда. Можа, маторны, няўрымслівы характар,

можа, якая прыродная абыякавасць да другасных, а почырк, я і зараз упэўнены, не самае галоўнае, не давалі пісаць акуратна. Нават цяпер, лічы, у старасці, прыкра сябе адчуваю, прыгадаўшы тую драўляную асадку з пяром "зорачка", востры кончык якога расшчэплены, каб пры пісьме можна было рабіць націск. Гэта цяпер я разумею, што для таго завостранага, як іголка, пяра з выбітай пяціканцовай зорачкай патрэбна была адмысловая, гладкая і моцная папера, можа, падышла б сённяшняя глянцавая. Але тагачасныя сшыткі добрушскай папяровай фабрыкі "Герой працы" былі зроблены з паперы не нашмат шчыльнейшай, як "прамакатка", што абавязкова ляжала ў кожным. Дык вось, гэтае вострanькае пяро, калі націскаеш, літаральна, як лязо, рэзала тую паперу, добра не наскрозь. А на павароце, асабліва як пачынаеш выпісваць хвосцік у літары "ц" ці дужку над нескладовым "у", пырскала чарнілам і за рэдкім выпадкам не пратыкала старонку наскрозь. Бяда і мучэнне бясконцае. Іншы раз карціць чым цікавейшым заняцца, кніжку якую пачытаць, а тут марнуеш час, кожную літарку выводзячы. А ўсё роўна мазня выходзіць.

Куды лепей атрымлівалася, калі ў тую драўляную асадку ўставіш тупое пяро – чамусьці яго звалі "рандо", можа, брэнд які, ці што. У тым "рандо" дзюбка хоць і была расшчэпленая, але з-за таго, што самы кончык меў патаўшчэнне, такія прыкрасці, як зрабіць дзірку ці пырснуць чарнілам, выключаліся. Але нашыя настаўнікі, не ўсе, праўда, пісьмо гэтым пяром не ўхвалялі – почырк сапсуецца. І сёння не вельмі разумею, што там, пасля мучэнняў з той "зорачкай", можна было сапсаваць.

А вось аднойчы надарыўся выпадак добра разгледзець, патрымаць у руках і нават напісаць пару слоў той чароўнай самапіскай з залатым пяром. Заехаў да нас, здаецца, стрыечны брат маці, што працаваў старшынёй калгаса ў Вілейскім раёне. Было такое – чаго толькі ў нашай гісторыі не было, – партыя правяла нейкую мабілізацыю, і родзіч наш запісаўся ў лік дзесяцітысячнікаў, пакінуўшы настаўніцкую пасаду, "салдатам партыі" пайшоў на пярэдні край, падымаць сельскую гаспадарку.

Пакуль маці мітусілася з закускай, а бацька адхінуўся ў кладоўку, дзе захоўвалася прыпасеная для асаблівых гасцей купленая ў магазіне гарэлка, "казёнка", госць распачаў гутарку са мной. Гэтай гутаркай, і зараз памятаю, вельмі мяне здзівіў. Спачатку, пачуўшы, што я перачытаў амаль што ўсе кніжкі Жуль Верна, ён пачаў распытваць, як я стаўлюся да таго ці іншага героя. Называў імёны, удакладняў нейкія дэталі іх паводзін, нагадваў нейкія абставіны. Было ўражанне, што ён сам тыя кніжкі толькі ўчора прачытаў. У час той гутаркі з'явілася патрэба нешта запісаць. Госць падсунуў бліжэй нейкі шматок паперы, што ляжаў на стале, дзе я звычайна рабіў урокі, дастаў кітайскую самапіску, нешта напісаў, а потым (во цуд!) даў мне – пішы, працягвай.

Калі дакрануўся да той самапіскі, здавалася, усё цела затрымцела ад нечаканага шчасця, аж узмакрэў. А як яна пісала! Літары самі кладзіся на паперу, мяккае пяро лёгенька слізгалася ўздоўж радка, пакідаючы ідэальныя лініі, тоненькія, вечная праблема, на паваротах, з такім прыгожым, дзе трэба, націскам. Тады здалося, што напісаў лепей за тыя ўзоры ў прописях, якія настаўнікі, прысаромліваючы, як першакласніку, паказвалі. Залатое пяро пакідала на паперы залаты след – а як жа іначай.

Вось гэты выпадак і вырашыў праблему, на што тыя "лазовыя грошы"

патраціць. Памятаю, калі сказаў бацькам, дык яны, хоць і стараліся не паказаць віду, здзівіліся. Здзівіліся, але ўхвалілі. Праблема, аднак, вырашалася няпроста, бо ў Сярожавым магазіне такіх рэчаў не было і блізка, ды і сам ён пра іх не чуў. Праз тыдні два бацька, вярнуўшыся з райцэнтра, дзе быў па нейкіх справах, таксама не пацешыў. Казаў, што ў тамтэйшых крамах “кітайскіх аўтаручак” ніколі не было і ніхто іх туды не прывязе. Заставалася толькі адна надзея – паедзе бацька ў Вільню, на чарговую сесію, там жа, у гэткім горадзе, абавязкова купіць. Чакаць давялося месяцы са два, а можа, і болей.

Я ўяўляю, якімі вачыма я глядзеў на бацьку, калі ён нейкага дня пад самы вечар вярнуўся з той Вільні. Нават толкам не распрануўшыся, ён са словамі: ну купіў жа, купіў тваю самапіску, палез у валізу. Праз хвіліну я трымаў у руках прадаўгаватую пушачку з гладзенькага кардону, на якой была выява маёй мары. Акрамя таго з аднаго боку на пушачцы ў рад былі размешчаны нейкія ці то малюнкі, ці то чарцяжы. Гэта падпісана, што ўсярэдзіне ляжыць, патлумачыў бацька – так я ўпершыню ўбачыў кітайскія іерогліфы. Потым я яшчэ здзіўляў сяброў гэтай выявай кітайскай граматы, і мы доўга разважалі, што яе, седзячы ў сваёй вёсцы, ніколі не асіліць.

Разам з самапіскай бацька купіў і некалькі прысадзістых, акантаваных, незвычайных па форме бутэлечак з адмысловым атрамантам, бо запраўляць такую дарагую рэч трэба толькі якасным. Пакуль маці гатавала вячэру, я з бацькавай дапамогай набраў атрамант і паспрабаваў пісаць. Самапіска не падманула.

Ноч прайшла амаль што без сну. Усё ўяўляў, з якой зайздрасцю будуць глядзець аднакласнікі, як здзівяцца настаўнікі. І сапраўды, як толькі перад першым урокам дастаў з сумкі самапіску, сусед па парце амаль на ўвесь клас выгукнуў сваё здзіўленае “ого!” і тут жа параўнаў з дырэктарскай. Гэта не засталося без увагі астатніх хлопцаў і нават дзяўчат, якія звычайна трымаліся воддаль і лічылі за лепшае не чапаць задзірыстых кавалераў. Разглядаючы ды ў захапленні войкаючы, нават не заўважылі, як зайшоў Піліп Фёдаравіч, што выкладаў матэматыку. Трэба сказаць, што быў ён досыць прыдзірлівы і на дзіва беражлівы, можа, нават недзе скваліны. Гэта я зразумеў толькі з гадамі. Піліп Фёдаравіч прыехаў у школу толькі летась, пасяліўся ў часова пустой хаце нашага суседа, якога накіравалі на працу ў другі канец раёна. Таму сваёй гаспадаркай не абзавёўся і жыў з жонкай і аж чатырма дзецьмі, як маці казала, “з капейкі”, а якая яна была, тая капейка, я ўжо згадваў.

Трохі супакоіўшы клас, Піліп Фёдаравіч захацеў разабрацца з прычынай такога надзвычайнага ўзбуджэння вучняў. А прычыну ніхто і не хаваў, і я нават ахвотна, заўсёды ж прыемна чым-небудзь пахваліцца, паказваў яму свой набытак. Трэба было бачыць, як зачырванеўся ягоны твар, нешта падобнае разам на пагарду і крыўду заблішчэла ў вачах. Акуратненька паклаўшы самапіску на парту перада мной, ён загадаў яе схаваць і каб на ягоныя ўрокі я яе ніколі не прыносіў. Потым я бачыў, як на перапынку Піліп Фёдаравіч, размахваючы рукамі, нешта даводзіў дырэктару, як дырэктар доўга і, відаць было, не вельмі згаджаліся адзін з адным, размаўляў з бацькам.

Пра што ішла гаворка, я даведаўся толькі позна ўвечары. Ужо амаль засынаючы, пачуў, як бацька расказваў маці пра свае дзённыя нервацыі, што праз тую самапіску Піліп Фёдаравіч учыніў сварку: як гэта так, я, настаўнік, карыстаюся звычайнай асадкай, а мой вучань – кітайскай самапіскай, ды

яшчэ з залатым пяром. Бацька расказаў і пра тое, што з дырэктарам была доўгая і трохі нервовая размова, што спрачаліся: педагагічна гэта ці не-педагагічна. На пытанне маці, што ён ім адказаў і як быць з гэтай самапіскай, бацька цвёрда, нават ад узбуджэння павысіў голас, сказаў: дзіцё мазалём зарабіла гэтыя рубельчыкі і патраціць іх вырашыў не на цукеркі, не на цацкі-ножыкі якія. Гэта толькі падахвочваць трэба. Дык што, з-за таго, што ў іх галовах іншае на першым месцы, з-за таго, што ў іх жыцці нешта не так склалася, адабраць у дзіцяці самапіску. Дык якая ж тады педагогіка выйдзе. Акурат тут і ёсць педагогіка, і цудоўны прыклад іншым – і як з капейкай разумна абыходзіцца, і як трэба да лепшага імкнуцца.

Канечне, жыццё нашае цяжкае, нават я сабе такую рэч не вельмі магу купіць, паглядзіш, колькі ўсяго пільнейшага трэба, уздыхнуўшы, разважаў бацька. Але што – праз гэта дзяцей сваіх у брудзе трымаць, выгароджваць, каб нічога лепшага не ўбачылі і нават у руках не трымалі? Не, я ў гэтым ніколі не саступлю – дзеці нашыя і жыццё лепшае павінны ўбачыць, і сапраўднымі, вольнымі людзьмі павінны гадавацца, годна сябе адчуваць.

А я засынаў, цвёрда ведаючы, што буду карыстацца самапіскай, што ніхто яе ў мяне не забярэ. І ўжо ў апошні момант паспела прамільгнуць думка, што трэба абмазгаваць, што такое лепей купіць на лета, калі, вядома, “магазіншчык” Сярожа зноў будзе прымаць лазовую кару.

дэбют

Магдалена Лаеўская



...За што я палюбіла беларусаў?..

# Шуфляда

***ШУКАЛЬНІКІ***

Ходзяць чуткі,
што Бог пакінуў
некаторыя запісы
пасля стварэння свету.

Літары абсыпаліся
і расцярушыліся па свеце,
маглі патрапіць у суп
ці гарбату,
заблытацца ў валасох,
краявідзе,
шуфлядзе,
у вясковай бібліятэцы
ці камяністай сцежцы.

Толькі некаторыя,
і толькі час ад часу,
разумелі, з чым маюць справу.

У народзе іх называлі дзівакамі,
а яны самі лічылі сябе
шукальнікамі праўды.

## *МНЕ СОРАК*

*Мне сорак.*

Памятаю, як першы раз пачула такі сказ
і падумала, што гэта значыць:
мне кепска, са мной нешта не так.

Чаму не чатыры дзясяткі, як на іншых мовах?
Этымалогія распавядае пра сорак скураў сабаліных
для пашыву футра ў старых умовах.

Сорак – гэта ўжо ДАСТАТКОВА, каб нешта:

– пашыць,
– зрабіць,
– убачыць,
– стварыць,
– зразумець,
– паспець.

Сорак тыдняў цяжарнасці, каб нарадзіцца.
Сорак гадоў у пустыні, каб дайсці.
Сорак дзён посту, каб памерці.

Мне сорак, а гэта значыць – я магу ўсё,
нават пісаць вершы на іншай мове.
І мне ўсё роўна, што пра мяне падумаюць
людзі ў футры з сарака сабаліных скураў,
сур'ёзныя, як стос рахункаў-фактур.

## *НАЗІРАННЕ СВЯТОГА АНТОНІЯ*

Святы Антоні ўжо чацвёртае стагоддзе
назірае за людзьмі ў Магілёве і здзіўляецца,
як яны будаваць ды разбураць не стамляюцца.

Заходжу ў новы касцёл
і пад коўдрай белай цішыні
чую рэха малітвы даўніх часоў.

Раптам цяжкі гук зачыненых дзвярэй,
і зноў цішыня...
Потым шэпт чыноўнікаў,
якія падпісваюць дазвол.
Далей выбух, цячэнне Дняпра
і зноў цішыня...

Усім здавалася, што гэта канец.

Але не, людзі працуюць, стукаюць, свідруюць далей.
Святы Антоні ўсіх бачыць:
— архітэктара, які ствараў новы праект,
— руплівага ксяндза,
— прапрадзеда, які быў першым фундатарам,
а потым прапраўнука, які грошай на вітраж не пашкадаваў.
Заходжу ў новы касцёл і прашу,
каб мае ўнукі паспелі памаліцца
пад коўдрай белай цішыні,
каб знайшлі загінулы скарб веры.

Святы Антоні, калі ласка, паспрыяй,
каб больш ніхто гэты касцёл не разбураў.

*4 лістапада 2022, Магілёў*

## *МЭБЛЕВАЕ ТРЫА*

### *1. Казка пра шуфляду*

Жыў-быў маленькі хлопчык. Маленькага хлопчыка звалі П.
П. любіў назіраць за светам. Збіраў каменьчыкі, нюхаў зямлю, дакранаўся да кары дрэў, піў ваду з неба. П. абдымаў маці, залазіў на галаву таты, цягаў сястру за косы, гуляўся з вейкамі брата, з цікавасцю разглядаў скуру бабулі і дзядулі.
П. не любіў гаварыць. Перажытае П. збіраў у свой кут.
Былі там разнастайныя лісцікі, шышкі, кветкі, кропелькі, усмешкі, маршчынкі, густы, пахі, смуткі, прыгоды.
Аднойчы скончылася месца ў кутку П. Тады тата П. зрабіў шуфляду.

### *2. Шафа*

Кожны год у навагоднюю ноч
я наводжу парадак у шафе
й раблю важныя высновы.

Фланелевая кашуля распавядае пра адпачынак у гарах.
Блакітная спадніца аб рабоце на кірмашы,

турбоце па дробязях,
як холадна-цёпла,
слаба-моцна,
бела-чорна,
соладка-горка.
Паласатая кашуля пра апошнія дні маёй
свякрухі.
Чорныя штаны пра лепш час са сваімі дзяцьмі.
Спартыўны касцюм пра курсы для кіроўцаў.
Чырвоная камізэлька пра пераезд.

Я складаю ўсе рэчы ў дзве групы.
Адну пакую ў сумку,
а другую назад.

У шафу.

### *3. Скрынка*

Скрынка парадоксаў поўная да краёў,
і я не ведаю,
што з імі рабіць,
таму збіраю старанна
і час ад часу
бяру сваю калекцыю
на пухнатую коўдру
і гляджу праз павелічальнае шкло.

Ёсць каханы чалавек, які не можа дапамагчы,
Бог, якога можна забіць.
Жыццё, за якое трэба памерці.
Вольны вязень і чалавек, заняволены на волі.
Баязлівец-герой,
герой –баязлівец,
настаўнік-місіянер,
місіянер-настаўнік
...

## *ЧАТЫРЫ БАКІ КАХАННЯ*

Аліна
Поўнач
дыстанцыя
глыбіня, схаваная пад метрамі снегу

Павел
Усход
акардэон
душа на далоні

Ганна
поўдзень
кампанія
Вялікдзень

Пётр
Захад
закасаныя рукавы
Божае Нараджэнне

## ***ЗЁЛКІ***

*Валянціне Крачкоўскай*

Я заўсёды захапляюся лацінскімі назвамі раслін.
Такі звычайны рамонак – шаноўная спадарня
*Matricaria Chamomilla,*
святаяннік – спадар *Hypericum L.*
Глог – *Crataegus L.*
Кроп – *Anethum.*

Нават хочацца пагаварыць з імі і пазнаёміцца
лепш,
каб быць крыху больш адукаваным.

Слабасць маю толькі да славянскай маці-мачыхі,
якая з аднаго боку мяккая, як маці,
а з другога — грубая, як мачыха.

Падчас бяссоннай ночы *Tussilago farfara L.*
(якога таксама называюць падбел)
патлумачыў мне:

гэта адзін і той жа чалавек,
часам гэта мама, якая кахае,
а часам мама, якая патрабуе.
Ўсё ўжо палічылі – сумесь любові і дысцыпліны
павінна быць у прапорцыі 3:1,
заварваць трэба пад дахам дома
кожную раніцу і падаваць невялікімі порцыямі
на працягу дня.

Дапамагае ад кашлю ды іншых праблем.

## *БЯЗЛЮДНЫ КУТОК МАПЫ*

Я ўжо навучылася
ў печы паліць,
на жывым агні варыць.
Ва ўсім дапамагае інтэрнэт,
ён стаў маім лепшым сябрам,
перад якім мне не сорамна задаць
самае далікатнае пытанне.
У любым выпадку,
дастаткова ўвесці першыя літары,
і ён можа здагадацца,
што мне трэба.
Рэцэпт хлеба,
клёцак,
бліноў,
расцяжэнне ступні,
бяскрыўднае абмаражэнне...

Лаўлю думку,
што нехта можа ісці
за гэтым безнадзейным пошукам.

А я проста здаганяю шмат гадоў,
напоўненых іншым.
Я закопваю разлом пакаленняў на мяжы,
звязваю абарваную нітку гісторыі,
падбіраю згублены штэтл
у сямейным марафоне.

Я стаю на плячах безназоўных волатаў
і ўжо не здаюся смешным гномам
на гэтым бязлюдным кутку мапы.

## *КУРТКА І КАВА*

Як надакучыла чырвоная куртка!
Апранула я яе ў кастрычніку,
мінула сем месяцаў, як яна са мною.

Павольны надыход вясны тут самы цяжкі час у
жыцці.
Смутак мяне здаганяе не позняй восенню,
а вясной,
калі здаецца,
што цяпла ўжо ніколі не будзе.

У мяне ёсць банальны спосаб застацца ў жывых.
Кожную раніцу я ўстаю першай,
зачыняюся на кухні
і п’ю каву.

Гэта займае роўна сем хвілін
і з’яўляецца святым задавальненнем.
Апошні глыток заўсёды заканчваецца думкай,
што заўтра я зноў буду піць каву,
што я зноў буду шчаслівая.

І што вясна ўсё роўна прыйдзе.

## *БЕЛАРУСЫ МАЕ*

Хацелася пабываць у Берліне,
паглядзець на людзей,
адпачыць у іншай атмасферы,
акрамя польскай і беларускай.

Там усё было багацей, хутчэй, больш сучасна:
кнігарні, музеі, пабы,
крамы, вакзалы, цягнікі,
бібліятэкі і людзі з усяго свету.

Я прапанавала Керстын павесяліцца, адгадаць, хто адкуль.
Керстын гэта не падабалася, бо ў Берліне становішся
берлінцам і толькі на самым пачатку мае значэнне, адкуль ты.
Нягледзячы на гэта, Керстын была непераможнай.
Яна нават магла адрозніць карэйскую, японскую і кітайскую
мовы.

Я бездакорна пазнавала толькі беларусаў, незалежна ад мовы,
якой яны карысталіся.
За што я палюбіла беларусаў? За блакітныя вочы й
блакітныя паштовыя скрыні? За хатняе і паўсядзённае
адзенне?
За цвёрдае л у вуснах? За практычнасць? За ўсе кабачкі
і гарбузы, якія яны мне падарылі? За несправядлівасць
стагоддзяў?
Я не ведаю, але я буду з імі ў добрым і дрэнным.
Амэн.

Андрэй Чапялюк



...не верце таму, што, як кажуць,
мужчыны не плачуць...

# Наросхрыст

## *ВАЛЬС АДЗІНОТАЎ*

Ляжу, маўчу ў пякельнай адзіноце
А недзе ноты, сумныя, ў пустоцці
Лятуць туды, дзе нас ужо не будзе.
Пачуйце, людзі.

Пачуйце, колькі у паветры нотаў:
Ад ўсіх істотаў – вальсы адзінотаў.
А вы не чуеце, капаючыся ў брудзе.
Пачуйце, людзі.

На адзінотаў не хапае квотаў
І крочаць роты новых адзінотаў,
Дзвюма рукамі абхапіўшы грудзі.
Пачуйце, людзі.

Хай атачаюць здраднікі-сексоты,
Схаваўшы ў цемры веліч чыстай Цноты.
Павек фіранкі музыка абудзіць.
Пабачце, людзі.
Прабачце, людзі.

* * *

Яшчэ не бацька,
Ужо не сын.
Ў бацькоўскай хаце
Зусім адзін.

Галінка вербы,
Ды абразы.
Ўжо пасівеў бы
За тры разы.

Але ўвесь чорны,
Як думак рой.
Згадаеш чорта
Такой парой.

Тут я нябожчык,
А не яны.
Заплюшчыш вочы –
Абрыс труны.

Ледзь чуць сіроцкі
Шэпт дзвюх бяроз,
Як адгалоскі
дзіцячых кроз.

Надзеі тыя
Хавае жах,
Сабака вые
На Млечны Шлях.

Наросхрыст дзверы,
Гарыць святло,
Складана верыць,
Што ўсё пайшло.

Гады, гадзіны –
Не спыніш ход.
Нам шлях адзіны –
На Вечны Ўсход.

Рыпн*е* падлога,
Ды што з таго,
Не чуць ні Бога,
Ані каго.

Гудуць ўспаміны
Як ні хавай.
Ўратуй, памілуй
Ды захавай.

У сваім сэрцы,
Дай у душы.
Як ўскалыхнецца –
Тады пішы.

І кожны вечар,
І ў цёмну ноч
Галосіць вецер
Ды плача дождж.

У гэтым свеце
Зусім адзін.
Яшчэ не бацька,
Ужо не сын.

* * *

Хавае ноч твае сляды,
Але ізноў іду туды,
Дзе ток твой адчуваў я скурай?
І дзе мы, згодна Эпікуру,
Жылі адным імгненнем, тым,
Дзе былі сэнс і жарсць. Як дым

Яно прайшло. Вяртаць нявартa,
Але вяртаецца ўпарта
Яно само. Пяро дрыжыць...
Далей як без цябе мне жыць?
Не ведаю. Адно вар'яцтва –
Неспадзяванае юнацтва.

Твой водар, подых, ціхі стогн...
Усё прайшло, як мілы сон.
Салодкі сон дзівоснай ночы.
І толькі я заплюшчу вочы,
Вяртаюся ізноў туды,
Дзе скрала ноч твае сляды.

## ***ПАД БУК/ХОЎСКІМ***

Калі зранку...
(Як зранку? Апоўдзень)
Калі ўбачыш свае вершаваныя п'яныя думкі
А паўзверх іх – шматкроп'е/шматкроўе нявызнаных кропель,
Адразу і не разбярэшся: ці слёзы, ці ўчарашні віскі,
Бо слёзы таксама адметлівы маюць пах алкаголю...

Не верце таму, што, як кажуць, мужчыны не плачуць.
Бывае. Яшчэ як!
І нават па двое, па трое ў абдымку
Але пераважна, хутчэй за ўсё, менавіта такімі слязамі,
Што маюць адметлівы пах
І прысутнасць
Простых і звыклых амерыканскіх імёнаў
*Johny, Jim, Jack.*
*Dziakuju, hłopcy...*

Марыт Капла



Фота: Cato Lein

…нам хочацца верыць,
што ўсе падзеі ў жыцці
маюць пэўны сэнс…

# Месца ў чацвёртым радзе

***З кнігі “Любоў па-шведску”, заснаванай на інтэрв’ю Стэфана Юлена***

Дзмітры Плакс, 50 гадоў

Я пакуль што не зразумеў,
што Петэра няма.

*Пераклад са шведскай Насты ЛАБАДЫ.*

Прайшло дзесяць месяцаў,
і я ўсведамляю гэта як факт.

Разумею, што яго ўжо няма сярод жывых.

Але адначасова
я гэтага не разумею.

Яго магіла на цвінтары
не мае нічога агульнага з ім.

Ты спытала,
ці думка пра тое, што любоў не знікае
проста таму, што знікае аб’ект,
ці гэта дапамагае?

Гэта не дапамагае.

Вось мой адказ.

У ноч на трэцяга жніўня
я даведаўся, што яго забілі.

Забойства адбылося другога жніўня,
але паліцыя прыйшла толькі ноччу.

Я выразна ўсвядоміў,
што хачу запісаць
тое, што яшчэ памятаю.

Зразумеў,
трэба нейкім чынам
спыніць час.

Праўда, ведаю,
гэта немагчыма.

Аднак час, у любым разе,
спыніўся там.

І адразу ж пабег далей.

Для мяне з матэрыяльнага,
з таго, што можна памацаць,
засталіся рэчы.

Можна зрабіць іх выявы.

Так я пачаў маляваць
рэчы, якія засталіся.

Маё жыццё з Петэрам.

Ён тады быў у Вольгі,
у сваёй маці.

Паліцыя перш прыйшла да яе,
а затым да мяне.

Паколькі
мы жывем побач,
я пайшоў да яе.

На яго ложку,
у яго пакоі, у яе хаце
ляжаў ручнік,
яшчэ вільготны
пасля душа перад адыходам.

Такія рэчы
раптам набываюць неверагодную значнасць.

Таму і хацелася маляваць.

Таму што былі рэчы.

Ці яны ёсць.

Рэчы засталіся.

Гэта тое, што засталося.

Я не ведаю, ці стане лягчэй
калі-небудзь.

Мяркую, хутчэй наадварот.

Будзе ўвесь час толькі горш,
бо адлегласць расце.

Тое, што час лечыць усе раны,
проста *bullshit*.

Тое, што адбылося з Петэрам,
ніяк не ўпісваецца ў рэчаіснасць.

Не мае кантэксту.

Я ведаю, што людзі паміраюць.

Я ведаю, што дзеці паміраюць.

Я ведаю, такое здараецца кожны дзень.

Але звычайна ёсць нейкі кантэкст.

Вайна ці рабаўніцтва
альбо аварыя ці хвароба.

Тое, з чым можна гэта звязаць,
так бы мовіць.

Кшталту прычыны.

Тут жа нічога няма.

Мы бачылі матэрыялы папярэдняга следства
сямсот старонак.

Паліцыя доўга імкнулася зразумець сутнасць.

Заўсёды галоўнае пытанне
матыў.

Матыву не было.

Ніякага доўгу на дваццаць крон
ці скосага позірку,
ці чаго падобнага.

Нічога.

Нам хочацца верыць,
што ўсе падзеі ў жыцці
маюць пэўны сэнс.

Што яны павінны чамусьці нас навучыць.
Але чаму вучыць вось гэта?

Калі нельга зрабіць выснову,
Пагадненне не выканана.
Няма падстаў разважаць.

Няма нічога, што цягам часу
Можа прывесці да іншых высноваў.

Альбо цалкам наадварот.
Мы ўсведамляем,
што зразумець нічога не можам.

Што ўсё, што мы меркавалі і ведалі
пра жыццё,
няслушна.

Але і гэта не дапамагае.

Няма ні злосці.

Няма нічога.

Толькі пустэча.

Можа, гэта якраз тое,
што нейкім чынам падтрымлівае ўва мне жыццё.

Апроч псіхатропаў, вядома.

Я не ведаю.

Хачу апісаць яго
якім ён быў
каб ён не знік проста так.

Ён быў вельмі светлым чалавекам.

З тых, каго я ведаю
ці ведаў,
ён быў адзіным,
хто ніколі не засмучаўся.

Ён, вядома, мог быць невясёлым
ці раздражняцца,
але ніколі не засмучаўся.

Ён меў такую рысу
заўсёды знаходзіць
нешта добрае.

Ён іграў на фартэпіяна,
і ў яго добра выходзіла.

Ён нават хацеў стаць піяністам.

Меў абанемент у Канцэрт-хюсэт.

Месца
было абрана вельмі старанна.

Чацвёрты рад
па дыяганалі насупраць клавіятуры,
каб былі бачны рукі піяніста.

Ён сачыў за тэхнікай.

Гэтае месца вольнае,
абанемент прадаецца на год.

Года яшчэ не прайшло.

Можна сказаць
што ўсе пачуцці даводзіцца стрымліваць,
проста
каб не распасціся на кавалкі.

Каб навучыцца трымаць
дыстанцыю ад сябе самога
і таго, што адбываецца,
і таго, што зроблена,
і што можа быць зроблена,
трэба сціснуць пачуцці ў кулак.

*Праз паўтара года*

Асабіста я
паспеў ажаніцца.

Маю дзіця... яшчэ адно.

Пераехаў у іншае месца.

Пачаў працаваць.

Так.

Прыкладна так.

Пачаў есці.

Гэта, магчыма, заўважна.

Яго завуць Максімільян Петэр.
Але клічам яго Максімільян.

Мая жонка...
Гэта была яе ідэя.

Ці яе ўмовы
ў большай ці меншай ступені.

Калі мы сталі жыць разам,
яна амаль адразу зацяжарыла.

Таблеткі яшчэ прымаю,
каб утаймоўваць пачуцці.

Цяжка мне
гаварыць такімі важкімі словамі.

Шырокімі паняткавымі катэгорыямі.

Але зразумела,
што калі б я нічога не адчуваў,
то не ажаніўся б.

Яно ж неабавязкова,
праўда?

З гэтай жанчынай
я знаёмы даўно.

Не тое, што мы сустрэліся
год таму
ці зусім нядаўна.

Дарагая сяброўка з даўніх часоў.

Яна таксама шмат дапамагала
пасля забойства Петэра.

Прыходзіла да мяне,
хадзіла са мной на шпацыр.

Вадзіла мяне на шпацыр.

Напачатку я сам не мог выходзіць.

Такім чынам, тут няма,
так бы мовіць,
нічога дзіўнага.

Мне няма чаго губляць.

Я даволі стары.

Яна нашмат маладзейшая.

Чакаць няма часу.

У маім узросце гэта відавочна.

Калі хочаш нешта зрабіць,
то цяпер ці ніколі.

Пачуваюся добра,
але ў той жа час пачуваюся дзіўна.

З аднаго боку, гэта ўсё змяняе.

З іншага боку, не змяняе нічога.

Я не ведаю.

Не магу апісаць гэта лепш, чым вось так.

За гэты час я зразумеў,
што адзінае, што ўплывае на нашае жыццё,
яго ходу
і якасць,
гэта шанец.

Пашанцуе ці не,
ад цябе не залежыць.

Старанны ты ці нядбайны,
праведнік ці грэшнік,
не мае значэння.

Пашанцавала –
то добра.

А калі не,
то не.

Петэру не пашанцавала.

Я спадзяюся, што Максімільяну
пашанцуе больш,
чым Петэру.

Мне пакуль цяжка даецца стрэс,
звязаны з людзьмі.

Цяжка знаходзіцца ў грамадстве.

Але з цягам часу
робіцца лягчэй.

Ужо не так невыносна,
як было два гады таму.

Дзякуючы Максімільяну.

Калі ён са мной,
я канцэнтруюся
толькі на ім.

Не на сабе.

Гэта і ёсць
вялікая перамена:
не быць адзінокім.

Смерць немагчыма перамагчы.

Новае жыццё
не ёсць перамогай над смерцю.

Застаецца толькі спадзеў
пратрымацца далей ад смерці
як мага даўжэй.

Уладзімір Даніленка



...неверагоднае каханне нагадвае язду
на матацыкле без тармазоў
з павязкаю на вачах...

# Смех начнога пана

## *Апавяданне з нізкі "Сямейныя хронікі"*

Вуліца была застаўленая матацыкламі, роварамі, коньмі ды аўтамабілямі. Канец чаргі спускаўся з узгорачка да сядзібы святара Маська, а пачатак упіраўся ў падвор'е Бенядзя Піліпчука. Пад крыкі пеўняў над Тураўцом заходзіла сонца. Жавала жвачку худоба, і скрыпелі калодзежныя калаўроты.

– Ты чаго прыйшла? – спытаў Бенядзь і заварушыў вялізнымі валасатымі рукамі.

Нязграбны, здаровы, ён глядзеў на маладзіцу, якая сядзела на лаве. Яе спатнелыя рукі нервова мялі саламяны кошык.

– Я, дзядзька, не магу нарадзіць.

Жанчына была падобная да налітай сокам слівы. Ад хвалявання ейныя грудзі напружыліся, а твар заліў здаровы румянак.

– Мужыка маеш?

– Маю, – сарамліва апусціла вочы.

Бенядзь паглядзеў на жанчыну, і яна адчула, што ён бачыць яе наскрозь.

*Пераклад з украінскай Андрэя НАЛІВЫ.*

– Ты можаш нарадзіць шмат дзяцей, але не ад свайго мужа. А яму не дапамогуць ні трава, ні малітвы. Бясплодны і посны ён, як пясчанае поле. Знайдзі сабе іншага.

Жанчына пачырванела, нібы півоня, і пачала даставаць з кошыка круг сыру і вэнджанае сала.

– Нічога не давай, – груба спыніў яе Бенядзь. – Ідзі адсюль.

Жанчына спалохана кінулася да дзвярэй, Бенядзь пачуў, як скрыпнулі за ёю дзверы сенцаў, і ў хату зайшоў высокі маладзён з радзімкаю на шчацэ.

– Што ў цябе?

Маладзён сабраўся з думкамі і адразу загаварыў:

– Я сохну за дзяўчынай, якая не звяртае на мяне ўвагі. Яна смяецца з мяне і кажа абразлівыя словы, а я не магу яе забыць.

– Але ж у цябе, мабыць, ёсць іншая дзеўка? – спытаў Бенядзь. – Такія, як ты, падабаюцца жанчынам.

– Да мяне прычапілася адна дзяўчына, і я не магу ад яе адчапіцца. Яна бегае за мною, а я бегаю за другою. Гэта нейкае праклёцце, – апусціў галаву хлопец.

– Прыйдзеш дадому, знойдзеш пару склешчаных жаб, выдзеўбеш у бураку дзірку і запіхнеш туды гэтых жаб, каб яны не вылезлі. Кінеш бурака з жабамі ў мурашнік і ўцякай без аглядкі. За тваёю спінай пачнуць страшна крычаць дэманы, але не азірайся, бо станеш іхнім служкам. Праз тры дні прыйдзеш і забярэш у мурашніку бурака. Сярод жабіных костачак знойдзеш відэлачак і кручочак. Калі будзеш размаўляць з дзяўчынаю, якая табе падабаецца, незаўважна зачапі яе касцяным кручочкам і пацягні да сябе. Тады яна будзе твая. А тую, якая за табою бегае, адштурхнеш відэлачкам, і яна адразу цябе забудзе.

Маладзён паставіў каля Бенядзя кашэль.

– Гэта я вам прынёс кашэль рыбы.

Рыба была прыкрытая лістамі конскага шчавелю. Ён выйшаў, а за дзвярыма пачулася штурхатня і сярдзіты жаночы крык:

– Мяне не цікавіць, якое ў яго званне, я ў званнях не разбіраюся. Хай зойме, як і ўсе, чаргу.

– Што там такое? – выйшаў на крык Бенядзь і ўбачыў у двары генерала з дзяўчынаю, які хацеў зайсці ў хату, а жанчына яго не пускала.

– Генерал прыляцеў з Кіева да Скамарох вайсковым самалётам, – намагаўся ўгаманіць жанчыну чарнявы лейтэнант з вусікамі.

– Ён прыляцеў, а я прыехала, – выгукнула абураная жанчына. – Тут усе аднекуль прыехалі. Я з Равы-Рускай, а вунь жанчына з Дуклі, – паказала рукою.

– Нам вельмі трэба, – настойваў лейтэнант.

– Ты хто? – спытаў Бенядзь лейтэнанта.

Ад ягонае бесцырымоннасці лейтэнант аж прысеў.

– Я ад'ютант генерала Круцівуса.

– Генерала бачу, а кручаных вусоў не бачу, – буркнуў Бенядзь.

– У мяне тысячы падначаленых! – выгукнуў генерал.

– Тут не казарма, – абарваў яго Бенядзь.

Ад абурэння генерала перасмыкнула, і ён ледзь стрымліваў сябе, каб не закрычаць і не затупаць нагамі.

– Ён нікога не баіцца, – прашаптаў ад'ютант на вуха генералу. Ад такой непавагі да ягонага звання генерала трэсла.

– Ты што, сапраўды нікога не баішся?!
– А каго мне баяцца? – насмешліва абазваўся Бенядзь.
– Турмы, смерці, мяне...
– Мяне ўжо адзін палохаў, – пахмурна прамовіў Бенядзь і нязрушна паглядзеў на вайскоўцаў.
– Хто? Генерал?!
– Асоба са значна вышэйшым чынам.
Генерала разабрала цікавасць.
– І што?
– Уцёк прэч...

Бенядзь не любіў згадваць, як тое здарылася. Вярнуўшыся ў Туравец з Пецярбургу, дзе служыў траўнікам пры царскім двары, пасля таго, як Мікалай II адрокся ад прастолу, Бенядзь прывёз з сабою кнігі Парацэльса, Месмера, Засімы Містыка, Марцэліуса Эмпірыка і графа Дыгбі.

Адну кнігу ён чытаў начамі пры свечцы ў бязлюднай хаце. Чым даўжэй ён яе чытаў, тым больш яго штосьці палохала. У вокны й дзверы нешта шкрабалася, выла, шархацелі крыллем нябачныя істоты, клацалі зубамі, штосьці сапло і чмыхала. А калі дачытаў кнігу, дык узяў чырвонага пеўня і пайшоў у дубовы лес, дзе сыходзіліся тры дарогі.

Апоўначы загуло, завыў вецер і затарахцелі на дарозе колы. Каля Бенядзя спынілася карэта, запрэжаная чатырма коньмі. Карэта была з пазалотаю і ліхтарамі, а на конях паблісквала дарагая збруя. У карэце сядзеў пан у капелюшы са стравусіным пяром.

– Падыйдзі сюды, – паклікаў пан і прыадчыніў дзверцы.

Незнаёмец быў нявызначальных гадоў, з бародкаю і доўгімі прусаковымі вусамі. Ён падняў ліхтар і разглядаў Бенядзя, які трымаў пад крысом пеўня і пагладжваў яго рукою.

– Я дам табе такія веды, што ты станеш найвядомейшым чалавекам на ўсёй Валыні ад Тура да Тураўца. І будуць ехаць да цябе людзі з усяго свету, але ты не будзеш мець жонкі і дзяцей. Калі даеш на гэта згоду, то падыдзі да мяне, разрэж безыменны палец левай рукі і распішыся крывёю ў маёй кнізе.

Бенядзь падышоў да карэты, надкусіў палец, пан працягнуў абшытую скурай кнігу з пяром, і Бенядзь распісаўся.

– Але я хачу прапанаваць табе штосьці большае, чым знахарства, – усміхнуўся пан, выстаўляючы з карэты нагу ў бліскучым боце. – Я магу зрабіць цябе дужа багатым чалавекам. Скажы, што хочаш: грошай, улады, славы, найпрыгожых жанчын?

– А што вы за гэта хочаце?

– Ох, Бенядзікце, – уздыхнуў незнаёмец. – Дай слова, што пасля смерці твая душа дастанецца мне. Навошта яна табе пасля смерці?

Бенядзь успыхнуў ад гневу, кінуў у пана чырвонага пеўня, і тады штосьці завыла, затрашчалі дрэвы, карэта развалілася, з яе выскачыў аброслы поўсцю чалавек і кінуўся на Бенядзя, які жагнаўся і чытаў малітвы. Коні сталі вялізнымі пацукамі і з віскам пабеглі лесам, а ўслед за імі адурэла пабег валасаты чалавек. Раптам усчалася бура, дрэвы гнуліся, выварочваліся з коранем, падалі. Ураган зрываў лісце і птушыныя гнёзды, кружыў віхор, у якім штосьці лямантавала і лаялася.

Бенядзь вынырнуў са сваіх успамінаў і паглядзеў на генерала. Той замоўк і адчуў, як ягоная сіла і ўплыў знікаюць на падворку гэтага знахара, да якога яму параіў звярнуцца кіеўскі прафесар, калі ўсе лекары сталі бяссільнымі перад хваробаю дачкі.

– У генерала хворая дачка, – прамовіў ад’ютант. – Ад яе адмовіліся лекары. Прабачце, калі раптам вас абразілі.

– Заставайцеся ў двары, а яна няхай зойдзе ў хату, – прапусціў Бенядзь дзяўчыну ў прачыненыя дзверы.

Яна ўвайшла ў хату і села на ўслончык, а насупраць яе сеў Бенядзь.

– Як цябе зваць?

– Аксана.

Ён паглядзеў на змарнелую дзяўчыну. Яна была пацямнелая і схуднелая, як згарэлая запалка, але вочы мела вялікія і выразныя.

– Што з табою? – спытаў Бенядзь і ўзяў у руку яе худую бяскроўную далоньку.

– Не ведаю, – адказала яна.

Бенядзь зазірнуў у вочы дзяўчыне і ўбачыў тое, што падточвала ейнае здароўе і прыгажосць.

– Табе давядзецца застацца ў мяне, – сказаў ёй. – Ідзі і развітайся з бацькам.

Вывеў яе ў двор і падышоў да генерала.

– Дзяўчыну пакіньце ў мяне. Праз месяц прыедзеце.

Генерал адвёў дачку да дрывотні, штосьці сказаў, дастаў з гаманца грошы, працягнуў ёй, а ад’ютант прынёс ейную сумку з рэчамі. Двое вайскоўцаў выйшлі з падворку, селі ў запылены джып і паехалі да Скамарохаў, дзе іх чакаў вайсковы самалёт.

З таго дня Аксана пачала жыць у Бенядзя. Ён прымушаў яе раніцай хадзіць босай па расе, струшваў на голае цела кроплі дажджавой вады з бярозак на Лапанцы. Браў на Рудой гразь і жалезную руду, падобную да перапяліных яек, напаўняў бочку, садзіў у яе голую дзяўчыну і лячыў. Яна піла адвараныя і напараныя ім травы, кухарыла і дапамагала па гаспадарцы. Да Бенядзя з’язджаліся людзі з навакольных і аддаленых гарадоў, мястэчак і вёсак. Ён прымаў іх увесь дзень, акрамя святаў і нядзелі, калі ішоў у царкву і браў з сабою Аксану.

Адзін раз ён пачуў, як у бабінцы хтосьці спытаў:

– А што гэта за дзяўчына з Бенядзем?

– Гэта ж ён яе лечыць.

– Такая прыгожая.

Бенядзь здзіўлена азірнуўся і ўпершыню ўбачыў, што Аксана налілася сокам і да яе вярнулася прыгажосць. Яна спявала разам з усімі псалмы і ейныя вялікія вочы вільготна блішчэлі.

– Госпадзе, як добра, – шаптала яна.

А калі выходзілі з царквы, Бенядзь, думаючы пра штосьці сваё, прамовіў:

– Я не бачыў прыгажэйшай за цябе жанчыны.

Усю дарогу ад царквы да хаты Аксана ажно свяцілася ад радасці. У гэты дзень да яе вярнулася жыццё.

Увечары яна дастала з сумачкі каляндарык і з сумам заўважыла, што заўтра па яе прыедзе бацька. Яна не магла зразумець, што з ёю адбываецца,

яе агарнула дзіўнае трымценне, а калі дастала з печы і паставіла на стол смажанае мяса з грыбамі і пачала з Бенядзем вячэраць, зразумела, што закахалася ў гэтага адзінокага мужчыну.

Бенядзь паводзіў сябе таксама дзіўна. Ён паглядваў на яе, чырванеў, пачынаў нешта казаць, але губляў словы, замоўк і цяжка падпёр галаву рукою.

Аксана паднялася з-за стала і адчула, як вабіць яе гэты дзіўны і зачарсцвелы ў сваёй адзіноце і схіме чалавек. Неўразумела, як і чаму прытулілася да яго, запусціла рукі ў ягонае густое валоссе, а ён цяжка задыхаў, пачырванеў, падхапіў яе на рукі і панёс у свой паточаны шашалем драўляны ложак.

Іхнія рукі былі халоднымі, і калі вызваліліся ад адзення, ён прыпаў да ейнага лона й адчуў, як падхоплівае яго ўраган, падобны да таго, што перажыў, калі сустрэў у дубовым лесе начнога пана. Яны не спалі ўсю ноч, бо не маглі спыніць любоўны шал, які захапіў іх і не даваў апамятацца. А калі пад ранак яны супакоіліся ў абдымках адно аднаго, Аксана прашаптала:

– Я хачу застацца з табою.

– Колькі табе гадоў? – спытаў ён і адчуў, як у ягонае сэрца ўпаўзае едкі сум, які заўсёды агортваў яго перад развітаннем з блізкім чалавекам.

– Дваццаць сем.

– А мне пяцьдзясят чатыры.

– Твой узрост не мае ніякога значэння, – усміхнулася яна, і ў прыцемках шчасліва заблішчалі ейныя вочы.

– А што, па-твойму, мае значэнне?

– Тое, што ў гэтую ноч мы перажылі неверагоднае каханне, – прыпухлымі ад пацалункаў вуснамі прамовіла яна.

– Неверагоднае каханне нагадвае язду на матацыкле без тармазоў з павязкаю на вачах, – прашаптаў Бенядзь.

– Ты баішся сваіх пачуццяў?

– Я не магу з табою жыць, – адвярнуўся да сцяны і адчуў, як разрываецца ад роспачы ягонае сэрца.

– Чаму ты не хочаш быць са мною?!

– У мяне свая дарога, – панура прамовіў Бенядзь.

– Дык дазволь мне ісці тваёю дарогай, – прылегла на ягоную грудзіну і зазірнула ў вочы.

– Я даў слова, што ў мяне не будзе жонкі і дзяцей.

– Каму ты яго даў?

– Я не магу таго сказаць.

– Ты даў слова іншай жанчыне?

– Не, гэта быў мужчына.

– Хто ён?

– Я табе не магу сказаць.

– Таемным службам?

– Не.

– А каму?

– Адной уплывовай асобе.

Яна паспрабавала перавесці размову на іншую тэму, каб адцягнуць яго ад навязлівых думак.

– Як табе мае вочы? – гулліва запытала і прыпала да яго.

– У цябе кабачковыя вочы.

– Аліўкавыя, – пяшчотна ўкусіла яго за вуха.

– Кабачковыя, – паўтарыў Бенядзь.

– Ну, калі табе так хочацца, дык іх можна назваць колерам зялёнай гарбаткі.

– Вось бачыш, мы нават не можам сысціся ў поглядах наконт колеру тваіх вачэй, – буркнуў Бенядзь. – А што будзе, калі пачнем жыць разам?

– Знахарства і магія зрабілі з цябе зануду, – пахрустваючы костачкамі, задаволена пацягнулася яна.

– Магія – гэта навука кахання, – выцягнуў з-пад яе сваю руку Бенядзь. – Жанчыны гэта лепш адчуваюць, бо яны бліжэй да кахання, чым мужчыны, якіх больш вабіць дарога. Мужчыны ўсё жыццё адыходзяць ад кахання, захопліваюцца працай ды ідэямі. А жанчынам дарога шкодная. Жанчына вырушвае ў дарогу, каб знайсці мужчыну і свой дом. Мужчына вырушвае ў дарогу, каб знайсці сябе.

– А ты знайшоў сябе? – прашаптала, дакранаючыся грудзьмі да ягонай шчакі.

– Знайшоў.

– У чым?

– У адзіноце.

– У такім выпадку нам няма пра што размаўляць, – сярдзіта паднялася з ложка і пачала апранаць раскіданае адзенне.

Запаліла ў печы, прыгатавала сняданак і больш з ім ні пра што не размаўляла. А калі перад хатай Бенядзя засігналіў аўтамабіль і ў пакой зайшоў генерал, Аксана папрасіла яго пачакаць на вуліцы, пакуль збярэцца.

Сабрала сумку, села насупраць Бенядзя і паглядзела яму ў вочы.

– Дык скажаш што на развітанне?

– Што я магу табе сказаць? – у адчаі прамовіў Бенядзь. – Перад дарогаю памый палыном ногі. Не будуць стамляцца.

– І гэта ўсё?

Ён нічога не адказаў.

– Тады бывай!

Падхапіла сумку, выйшла ў двор, дзе яе чакаў генерал, які намагаўся ўсунуць Бенядзю ў руку грошы, але той не ўзяў.

Вайсковы джып загуў і, набіраючы хуткасць, знік у пыле.

Ад таго прайшло шмат часу, і Бенядзь пачаў супакойвацца. Раны, якія пакінула яму Аксана, ужо загаіліся. Неяк познім вечарам, калі ён чытаў Парацэльса, у дзверы пастукалі. Бенядзь адчыніў. На парозе стаяла захутаная ў хустку жанчына.

– Пасля заходу сонца не прымаю, – сказаў незнаёмцы.

Яна зняла хустку. Перад ім стаяла Аксана.

– Не чакаў? – сумна ўсміхнулася яна.

– Заходзь, – запрасіў у хату. – Адкуль ты ўзялася?..

– Прыйшла са станцыі.

– У такі час? Адна?

– Каханне не любіць сведак, – салодка дыхнула яму ў твар і нейк злосна пасміхнулася. – Дык запросіш мяне сесці?

– Сядай.

– Ты не рады нашай сустрэчы?

– Рады...

– А чаму няма радасці ў тваіх вачах?

– Не ведаю.

– Цябе нешта непакоіць?

– Калі б я ведаў, – выгукнуў з адчаем.

Яму падалося, што перад ім сядзіць чужая жанчына, якую ён ужо дзесьці бачыў, але не мог згадаць дзе. Але яго вярнуў у рэальнасць яе голас:

– А я не магу забыць тую апошнюю ноч, твае ласкі і гарачыя абдымкі, ад якіх я задыхалася.

– Ты параніла маё сэрца, – паглядзеў на маладую, прагную да кахання жанчыну.

Але зноў адчуў, што ў ёй штосьці не так, нібыта Аксану хтосьці злы падмяніў. Яму хацелася ўпасці перад ёй на калені, падхапіць на рукі, заблытацца ў валасах і слухаць, як у напружанай цішыні спаўзае і падае на падлогу яе адзенне. Але штосьці спыняла, адчуў, як дзесьці на дне свядомасці варухнулася страшнае падазрэнне, і ён спытаў, стрымліваючы ў сабе роспачны крык:

– Ты памятаеш у падрабязнасцях нашую апошнюю ноч. А што я сказаў табе, калі мы выходзілі з царквы?

– А што ты мне сказаў?

– Я сказаў: “Я не бачыў прыгажэйшай за цябе жанчыны”, – адказаў Бенядзь. – Я ведаю, хто ты. Мы з табою сустракаліся ў дубовым лесе.

Бенядзь сарваў з шыі срэбны крыжык і працягнуў жанчыне, якая пранізліва закрычала, страціла жаночае аблічча і стала кошкаю. Ён ганяўся за ёю, а яна гойсала па хаце, заскоквала на ложак, мяўкала і кідалася на яго, Бенядзь уголас чытаў малітвы ды заклінанні, і кошка стала кажаном ды ўчапілася кіпцямі яму ў спіну. А калі заспявалі трэція пеўні, кажан разбіў шыбку і вылецеў. За вакном пачуўся толькі страшны смех, які знікаў за рэчкаю ў закінутым Харчуковым садзе.

# Луцкае трыа

**Вольга ЛЯСНЮК**



*З нізкі "Дарослыя хлопчыкі і дзяўчынкі"*

* * *

хлопча мой
не ляжы на гэтай сырой і не-сваёй зямлі

хлопча расплюшчы вочкі
бачыш ляцяць журавы
і аблізвае восень абеліскі
не твае

дай мне руку
і мы пабяжым у тое бесклапотнае дзяцінства
дзе мой дзед распавядзе пра вайну
на якой ты будзеш самым адважным салдатам
з драўляным аўтаматам

хлопча мой ты не ўмееш страляць
і не трэба мяне ратаваць
прыкрываючы жыццём сваім

хлопча мой я малілася на дрэва
якое ты пасадзіў
але яно не прыжылося і адправілася на ўсход

і хадзіла за табой замест анёла-ахоўніка

*Пераклад з украінскай Сержука СЫСА.*

зараз яно спее сліўкамі
у кожнай з якіх –
замест костачкі –
гільза
ад прастрэленага твайго жыцця

### *ПАЭЗІЯ БАБЫ МАРЫІ*

Зразумела б мая бабуля
тое, што я пішу?
Не.
І не таму што
не цяміла ў паэзіі
(хаця, можа й таму).
Яна насіла
у сабе сваю паэзію.
Такую, дзе народная песня
плюсуецца
з салаўём і
мыканнем каровы,
і рохканнем свінні.
«І якой халеры
пад ногі лезеш?»
(гэта да ката).
Яна насіла
паэзію продкаў
(і можа, нашчадкаў,
і можа, маю)
у вялікіх сваіх грудзях,
якія вельмі прыгожа
пахіляліся ў такт хацьбы.
Насіла паэзію ў даёнках,
вёдрах і цэбрах.
Разам з малаком,
вадой і памыямі.
Насіла, сыходзячы ў поле,
закінуўшы на плячо цяпку.
І тады, калі расплятала
касу і доўга яе расчэсвала.
І пахла на ўвесь свет
паэзіяй любісты,
крапівы і лапуха.
А потым каса туга скручвалася
і хавалася пад хустку.
І бабуля пад хусткай насіла
паэзію любісты,

крапівы і лапуха.
А колькі паэзіі было
у кожным руху
бабуліных рук,
калі яна сыпала
пшаніцу або кукурузу
курам і гусям.
Бабуля часта
ўпотай плакала –
і для мяне гэта была
загадка глыбокай
і сумнай паэзіі.
Бабуля насіла
у сабе паэзію –
як штодзённы
будзённы абавязак
(не паэтычнае слова,
але менавіта так).
А таго, што я пішу,
ніколі б не зразумела.
Бо мая паэзія
без любісты,
крапівы і лапуха.
І без хусткі.

### *КАРАНЦІННЫ*

Раз – на адной назе,
Яшчэ раз.
А потым тры – на двух.
Ох,
І на кожны скачок –
Па слове:
Каранцін.
Абсервацыя.
Самаізаляцыя.
ШВЛ...
Новая рэальнасць,
У якой слова карона
Набывае іншы сэнс.
І зялёны аўтобус
У маім акне.
Адзіны на ўсю аўтастанцыю.
Відаць, бяздомны.
І сняцца яму дарогі,
Размаляваныя прыпынкі,

Безліч пасажыраў
З усмешкамі не пад маскамі.
Можа, яму сніцца нават Парыж
Ці Рым.
А хто корміць галубоў
У цэнтры Рыма?
А ў цэнтры Луцка – хто?
У трэндзе гэтай вар'яцкай вясны
Пальчаткі з латэксу,
Медыцынскія маскі,
Бязлюдныя набажэнствы
І пахаванні.
Чалавек чалавеку вірус.
Можа, так і застанемся
Слімакамі і ракавінкамі –
Кожны са сваім
Панцырам каранціну.
Трымай, трымай
Дыстанцыю
Адлегласцю ў жыццё!

## Мікола МАРТЫНЮК



*З нізкі «Адлюстраваныя партрэты»*

* * *

Я пігмей, ліліпут, карлік, гном...
Я да неба цягнуся без краю.
Я ўвесь свет паліваю дзярмом,
а тады праз сябе прапускаю.

Я тут мерка ўсяго. Я – мой бог.
Людства, цемра не вызнала бога.
Паміж намі – нявер'я разлог.
Паміж намі – нічога святога.

Не жыву – сярод часу завіс.
Падміргне смерць адліўкаю вока.
Змен не бачна. Было ўсё. Калісь.
І няма для заганы прарока.

Ні святла, далібог, ані змроку ў цішы:
чаша скепсісу – д'ябла прынада.
Раствараю ўвесь свет у душы,
разам з ім выпадаю в асадак.

Ад яго адракуся. У сэрцы крычаць
жалі немыя, спеў і сумнеў...
На ўсім свеце Іуды пячаць.
Ну а свету пячаць – дык на мне...

* * *

З лёсам у карты? Чаму і не выйграць бы?
Ёсць і амбіцыі – чысты азарт.
Між кракадзілам і пашчаю тыгра ты?
Стаўкі да неба? Ці выйгрыш не фарт?

Вось жа і наслана, як не сурочана,
Шанцы слабыя... Ці й іх хто дае?
Стаўкі да нас і за нас ужо скончаны:
Доля – рулетка, гулец і круп’е.

Хто тут рассудзіць – нам карты ці краты?
Маем адно, хто як жыў ці служыў:
Не нарадзіўся, то смерці не варты,
А не памёр, то хіба такі жыў?

Дзякуй жыццю ўсё ж, нібы інквізітару:
Дзвюх не спазнаем мы судных гадзін.
Выбар усякі – ілюзія выбару,
Правільны выбар – дакладна адзін.

## *СУДНЫ ДЗЕНЬ*

Ноч спраўляе за днём паніхіду.
Вока неба бляднее мярцвей.
У хаосе блукаюць прывіды.
Эфемерныя здані людзей.

Гэта зорны твой час, эра страты!..
Лёсаў згублены храм – варты куш.
Мы сляпыя, як ноч, герастраты,
Інквізітары ўласных жа душ.

Славу продкаў у багну ўтапталі.
Памяць роду?.. Пачвары з пачвар.
Мы з асілкаў пігмеямі сталі
З найганебным таўром «янычар».

Злом эпох. Злом ідэй. Крах ілюзій.
Судны дзень. Чорным скроплены свет.
І жыццё... На пагібельным крузе
Выпраўляе за нас запавет.

* * *

У нашага мінулага
шрамы
ад татарскага зелля
прыпалыя попелам
сасмяглых папялішчаў
якія дагэтуль жыватачаць
запаветным мірам
У нашае будучыні
рэзкі пах
свежасцятага аеру
А мы адно
плюшнік плюшнік
плюскочам
і шпурнуўшы
наводмаш старыя граблі
упарта і густа
пасыпаем галаву
попелам
Дзякуй Богу
не абдзялілі нас
шматлікія татары
і янычары
на скрыжаваннях
і ўсцяж
эпох

## *СЮРРЭАЛІСТЫЧНАЕ*

Нахаба-лета: да аблок
Галее голле.
І поўня ў небе, крывасмок,
Шаткуе долі.

На бляклым месяцы бяльмо,
А ноч – памерці.
Лунае цень над намі – мо
Шукае смерці.

Чуваць жахлівы крык савы,
Нібы ў кананні...
І свет, як свечкі воск сівы,
Вось-вось растане.

Упала знічка неўспадзеў
На дно прадоння...
Сябе спытаць я не паспеў:
А хто я сёння?

Шматае вецер ноч аб дах,
Аж енчыць, сука,
А тая, што завуць Бяда, –
Канае ў муках.

Жыццё сурочыла яна
Калісь малому.
Я сек яе аж давідна,
Прагнаўшы стому.

Ды хутка рана зажыве,
Забачаць вочы.
І ў сэрцы ўжо нішто павек
Не заскрыгоча.

Я той, хто рве душу знутры.
Бо рваць штосьці маю!
І ў апраметнай на кастры
Чакай адчаю.

Блукае поўня ў бурунах
Па неба моры,
Нібы самотны дзікі птах,
Збірае зоры.

## Эліна ФАРМАНЮК



### *ГАНЧАР*

ганчар заўсёды
павінен быць
мужчынам
бо толькі ягоныя пальцы
у гліну прарастаюць
да раю бліжэй

ганчар павінен быць
Майсеем
бо ў абодвух
нават сны
аб глебе абяцанай

ганчар
ваду прымаўкамі
асвячае
і ходзіць толькі
да палонкі
ноч рэшатам выносіць

ён знаёмы
хіба толькі з поўняй
бо на ёй
хаос святлом памазаны
ганчар мае
быць табой
ты жанчыну
з мёду зляпіў

* * *

вецер сточвае тваё крылы
валасы расплаўляе ў мёд сонца
ты б яму нават сон хрысціла
бясконца

ці мадоннай была, ці жанчынкай
кветак вартай і кавы ранкам
перавабленая з горада інкаў
паланянка

навылёт свечка грэе рану
ад калыскі ў цішы безаблічнай
толькі ўхутанымі краямі
вырай кліча

і не мёд не горкі як кава
постаць цёмная вочы маці
крылы сточаныя і русявыя
і не ўзняць іх

## *АНЁЛ*

Дай мне руку сваю ў журбе і пяшчоце
Дахаты гайда – у сонца калыску
Міг звяжуць лозы, дзе храснуў ты ў плоце
Згадка паветраным змеем звісае блізка

Ірвішчы акопаў пад кавылямі
Да далягляду ўюцца зданню нібыта
Над сцягам схілены вербы з крукамі
Плача на ўгорку Дзева Абіда

Людзі замецены снегам і градам
Удовы і бітвы ўраслі ў дол бы рэбры
Там дзе з табою мы ўрэшце асядзем
Ціха святло разальецца і срэбра

Адам Глобус



...Шчамялёў –

пазітыўны жывапісец...

# Леанід

***Словы пра жывапісца Леаніда Шчамялёва***

### Рэч

Першы раз менавіта ад Леаніда Шчамялёва я пачуў, што карціна з'яўляецца рэччу. Для мяне карціны і малюнкі заўсёды былі аб'ектамі культаў, люстэркамі роздумаў, прыкладамі духоўнасці і чалавечнасці. Шчамялёў сказаў як адрэзаў: “Карціна – рэч!” Ён не проста сказаў, ён яшчэ і настойваў на тым, што карціну трэба рабіць, як рэч. Як сталяр робіць стол, так мастак мусіць рабіць карціну. У мастацтве і каля мастацтва шмат штукароў, якія спраўна вырабляюць рэчы, падобныя да карцін. Толькі гэтыя рэчы ўласна карцінамі не з'яўляюцца: няма ў іх ані адкрыццяў, ані святадайнасці, ані намеру стварыць новы ўніверсум.

### Жонкі

Леанід Шчамялёў напісаў шмат партрэтаў сваёй другой жонкі – Святланы. Быў час, калі ці не на кожнай рэспубліканскай выставе з'яўляўся новы партрэт Святланы Мікалаеўны, якая выкладала

фізіку ў мастацкай вучэльні. Якраз тады я і вучыўся ў Святланы Шчамялёвай. Яна была класнай кіраўніцай у маёй групе. Нам усім стала крыху няёмка, калі Леанід Шчамялёў выставіў у Палацы мастацтваў палатно з аголенай жонкай. Любімая натуршчыца, прыгожая жанчына, жонка мастака, аголенае цела... Мы ўсё цудоўна разумелі, але палатно з голай класнай кіраўніцай побач з яе апранутымі навучэнцамі выглядала шакавальна. Мы стаялі ля голай кіраўніцы і абмяркоўвалі падзею. Адзінае станоўчае і запамінальнае, што прагучала на тым спантанным абмеркаванні: “У мастакоў самыя прыгожыя жонкі”.



*Леанід Шчамялёў. Фота Кастуся Дробава.*

### Замовы

Жывапісец Шчамялёў вучыў маладых мастакоў маўчаць: “Можаш думаць пра чужыя карціны што заўгодна, але кепскага пра іх не кажы. Скажаш дрэнь, пакрытыкуеш, хай і справядліва – жыцьцё табе сапсуюць, з’ядуць цябе калегі. Таму або хвалі, а не можаш пахваліць – памаўчы”. Каб Шчамялёў каго з мастакоў моцна крытыкаваў, я не чуў. Хіба што на выступе перад студэнтамі ён аднойчы сказаў, што творчасць Марка Шагала саступае скульптурнаму манументальнаму шэдэўру Мухінай “Рабочы і калгасніца”. Саступае праз сваю лірычнасць і малазначнасць у сацыяльным ды грамадзянскім плане. Сам Леанід Шчамялёў заўсёды шукаў тэмы актуальныя і палітычна правільныя, шукаў і знаходзіў дзяржаўныя замовы. Можна сказаць, што ён служыў дзяржаве, а яна за гэта шчодра яму плаціла.

### Фарбы

У кожнага мастака, нават самага звычайнага, можна навучыцца нечаму вартаму і патрэбнаму. Я не стану казаць, што Шчамялёў мастак звычайны, ні ў якім разе не стану. Але тое, чаму я ў яго вучыўся, выглядае даволі простым. Творчасць Шчамялёва была мне, шчыра кажучы, чужая, і шмат у чым. Чаму ж можна навучыцца ў карціны, для цябе чужой? Скажу. Можна вывучаць на ёй не колеры, не вобразы, а самі фарбы. Шчамялёў быў мастак багаты і карыстаў вельмі дарагія фарбы – кадміі жоўтыя, аранжыкавыя і чырвоныя, цыруліум ды неапалітанскую жоўтую. Мы – студэнты – не маглі сабе дазволіць такога набору фарбаў на сваёй сціплай палітры, які дазваляў сабе заможны і паспяховы Леанід Шчамялёў. Таму на палотнах Шчамялёва я і вывучаў палітру, якую спадзяваўся выкарыстаць пазней, калі сам стану паспяховым і заможным.

### Шаранговіч

На галоўным мінскім праспекце Косця Шаранговіч і Вася Ясюк адкрылі артгалерэю. Падзея! Мастакі самі пачалі прадаваць свае і чужыя карціны. Косця запрашаў усіх знаёмых прыносіць творы. Тры яркіх карціны з абстрактным жыва-


*Леанід Шчамялёў. «Маё нараджэнне», 1967 г.*

пісам прынёс яму і Федзя Лінькоў. Шаранговіч павесіў бэзава-чырвоныя абстракцыі Лінькова на самае віднае месца, што моцна парадавала аўтара. Калі ж той зайшоў у арт-галерэю праз пару тыдняў, ягоныя абстракцыі ўжо не віселі на сцяне, а стаялі ў падсобцы. “Што здарылася?” – пацікавіўся Лінькоў у Шаранговіча. Кастусь пачаў выбачацца, чырванець і расказаў, што ў галерэю прыйшоў са сваімі палотнамі Леанід Шчамялёў. Ён сказаў, што сакавітыя абстракцыі перашкаджаюць тонкаму шчамялёўскаму жывапісу, а таму іх трэба паздымаць і схаваць. Я мог бы і не паверыць ва ўспамінальнае апавяданне Лінькова, каб падобнае здыманне і хаванне Шчамялёў не паспрабаваў учыніць з маёй карцінай на вулічнай выставе ў Траецкім прадмесці. На свяце вясны мастакі павыстаўлялі карціны каля кніжнай крамы “Вянок”. Прыйшоў Шчамялёў і сказаў, што мая карціна кепская і яе трэба прыбраць. Каб у мяне была абстрактная карціна, я б можа і паслухаў паважанага Шчамялёва, але я выставіў “Партрэт жонкі”. Прыбіраць “жонку” я, вядома, адмовіўся. Я так гучна ды катэгарычна адмовіўся, што Шчамялёў і ягоныя таварышы з міністэрства карціну пакінулі на месцы.

## Дзве выставы

Усё намаляванае можна падзяліць на дзве выставы. На адной збяруць творы, у якіх цябе зацікавіць майстэрства мастакоў. Ты будзеш хадзіць і захапляцца тэхнікай выканання і разнастайнасцю матэрыялаў. Шукацьмеш адказ на пытанне: як гэта ўсё зроблена, як напісана, як вымалявана, як атрымалася сама дасканаласць? На другой выставе пакажуць іншыя выявы; сярод якіх цябе найперш зацікавяць і ўразяць аб’екты, якія выбіралі мастакі для сваіх кампазіцый. На другой выставе паўстане іншае, адпаведнае ёй пытанне: чаму выбралася гэта, а не штосьці падобнае? Можна сказаць, што абедзве выставы аднолькава каштоўныя. Праўда, першая больш захопіць нешматлікіх прафесіяналаў, а другая спадабаецца шырокай публіцы. Каб у мяне спыталі, на якой з выстаў варта паказваць жывапіс Леаніда Шчамялёва, я, не задумваючыся, сказаў бы, што на другой. Для Шчамялёва заўсёды быў важны аб’ект, які ён прапаноўвае гледачу. Доказам майму меркаванню можа паслужыць шматаблічная партрэтная галерэя, якую стварыў Леанід Шчамялёў, пішучы дарагіх і блізкіх яму людзей: “Партрэт дачкі (У зялёным)”, “Партрэт настаўніцы”, “Маладыя”, “Марына”, “Скрыпачка”, “Партрэт мастака Чэпіка”, “Святлана”, “Маргарыта і Антон”, “Дочкі”, “Бібліятэкарка Ларыса” і безліч іншых партрэтаў, выкананых з любоўю.

## Антытэрор

Разглядаючы карціну, задаю сабе пытанне... У якім інтэр’еры, у якім асяродку такі твор глядзеўся б ідэальна? У мінулым стагоддзі большасць беларускіх карцін стваралася для тэматычных выстаў, для дзяржаўных устаноў і розных


*Леанід Шчамялёў. «Мароз і сонца», 1999 г.*

музеяў. Таму і фармат, і тэматыку, і стыль карціны мелі адпаведны. Мала хто з мастакоў пісаў і маляваў для сябе і сваіх сяброў, для вучняў і прыватных калекцыянераў. Леанід Шчамялёў, як і большасць (калі не ўсе!) ягоных раўналеткаў пісаў карціны для выстаў. Каб карціна магла патрапіць на дзяржаўную выставу, а на той выставе яе яшчэ і купілі, трэба было выканаць безліч розных правілаў. Таму на выставах гледача здзіўляла мала што. Прыходзіш, а тамака заўсёднае: Ленін, Дзяржынскі, будзёнаўцы, вайскоўцы, партызаны, рабочыя, калгасніцы, дзяржаўныя дзеячы, заводы, саўгасныя палі... Сярод гэтага ўсяго ты раптам бачыш тэрарыста Савінкава. Карціна Шчамялёва “Арышт Савінкава ў Мінску” моцна здзівіла гледачоў у 1977 годзе. Каб карціна называлася “Іосіф Апанскі арыштоўвае тэрарыстаў”, здзіўленне было б меншым, а мо яго і не было б зусім. Пагатоў, усе тады паглядзелі фільм пра перамогу над эсэрам Савінкавым – “Крах”. Стоячы каля карціны з задуменным, падобным да срэбнавечнага паэта Барысам Савінкавым, я не мог прыдумаць, у якім інтэр’еры, музеі, публічным месцы можна павесіць падобны твор. Музей прыдумаўся значна пазней, менавіта пад карціну Леаніда Шчамялёва “Арышт...”. Прымроіўся і ўбачыўся “Музей антытэрору”. Менавіта ў Мінску варта стварыць падобны музей, бо чаго-чаго, а тэрору і тэрарыстаў у нашай сталіцы заўжды хапала. Савінкаў, Освальд, Канавалаў... Гэтыя прозвішчы ўсе ведаюць. Яны вядомыя не толькі ў Беларусі, а і ў свеце. Прозвішчы і твары людзей, якія спынялі тэрарыстаў, мы не ведаем, або ведаем кепска. Таму і патрэбен музей, дзе будзе паказана гісторыя барацьбы з тэрорам і ўшанаваны тыя людзі, хто змагаўся і перамог, і дзе знойдзе сваё месца палатно Шчамялёва.

## Мода

Леанід Шчамялёў з тых мастакоў, хто заўсёды імкнецца жыць модна. Ён модна і густоўна апранаецца, ён модна стрыжэцца, ён выкарыстоўвае ў карцінах кідкія і модныя колеразлучэнні, ён малюе модных людзей у папулярных месцах, і найперш ён малюе – сябе моднага. За Шчамялёвым у шэраг модных беларускіх жывапісцаў вышнураваліся ягоныя маладзейшыя калегі: Барыс Забораў, Уладзімір Тоўсцік, Мікалай Селяшчук, Віктар Альшэўскі, Захар Кудзін... Моднасць падабаецца гледачам і найперш цешыць глядачак. Яркая і сакавітая творчасць Леаніда Шчамялёва мае шмат прыхільніц. Сярод партрэтаў, напісаных Шчамялёвым, большасць – жаночыя. Яно і зразумела. Сам я не ўпісваюся ў шэрагі модных жывапісцаў, бо ў творчасці мяне заўсёды цікавіла не манера, не кідкасць, не моднасць, але мужчынскасць і стыльнасць. Мода – не маё, нават калі і высокая.

## Крэпак


*Леанід Шчамялёў. «Працаўнікі муз», 1975 г.*

Леаніду Шчамялёву пашанцавала з мастацтвазнаўцам, які старанна пісаў пра ягоныя карціны. Бывае, што жывапісцу, графіку ці скульптару не пашанцуе і пра ягоныя поспехі ды паразы ніхто і слова не скажа. Так і міне жыццё маэстра ў мастацвазнаўчым ігноры. У Шчамялёва ўсё наадварот, бо і дасягненні, і хібы, і ўдачы несупынна апісаў лёгкім пяром Барыс Крэпак. Мне падабаецца адзін сказ Крэпака з альбома "Колеры часу", які пабачыў свет у 1978 годзе: "У шматвобразнай палітры жыцця ён (чытайма – Леанід Шчамялёў – *А.Г.*) знаходзіць свае, «шчамялёўскія» фарбы..." Для мяне і маіх раўналеткаў "шчамялёўскія" фарбы запомніліся найперш тым, што былі страшэнна дарагімі ў літаральным сэнсе гэтага слова. З усіх беларускіх карцін сямідзясятых гадоў "шчамялёўскія" былі найдаражэйшымі па затрачаных фарбах. Калі Савіцкі, Кішчанка і Вашчанка пісалі палотны фарбамі, набытымі за капейкі, дык Шчамялёў пісаў кадміямі, невялікі цюбік якіх каштаваў болей за рубель.

## "Троіца"

Усю беларускую савецкую культуру другой паловы дваццатага стагоддзя можна паказаць праз адну карціну Леаніда Шчамялёва "Працаўнікі муз". У аснову кампазіцыі пакладзена схема традыцыйнага хрысціянскага абраза з Троіцай. Толькі замест трыадзінага Бога за сталом сядзяць не анёлы, а дзеячы культуры: кампазітар Лучанок, пісьменнік Быкаў і мастак Савіцкі. Значна пазней празаік Арлоў напіша антыўтапічнае апавяданне, дзе пакажа краіну з адным пісьменнікам, адным кампазітарам і адным мастаком. У Арлова атрымаецца зусім карыкатурна і схематычна, іншая рэч – палатно Леаніда Шчамялёва. Яно не карыкатурнае, а пафаснае, яно належыць да культавых рэчаў савецкай эпохі. На ім паказаны волаты тагачаснай культуры: не інтэлігенты і не дысідэнты, не творцы і не артысты, а менавіта працаўнікі, што падкрэслена ў назве. Іх галоўная праца – ухваляць савецкага чалавека і савецкі лад у Беларусі, за гэта яны дзяржавай былі залічаны ў недатыкальную эліту, у волаты духоўнага жыцця, у зорныя асобы. За гэта савецкая дзяржава давала ім ордэны, прэміі, званні, акадэміі, палацы і кансерваторыі з філармоніямі. Таму і Леаніду Шчамялёву дазвалялася ўзяць "Троіцу" і перарабіць яе ў "Працаўнікоў муз".

## Пазітыў

Ёсць мастакі, захопленыя драматызмам. Пахаванні пад сцягамі, палымяная вайна, заўчасная і гвалтоўная смерць, пакуты ад катаванняў, выгнанне з радзімы, галеча, голад, холад, гарады ў руінах, несупынны крык, несціханы плач, укрыжаванне – іх заўсёдныя тэмы. Паказваючы пякельны боль, такія мастакі спрабуюць разбурыць сце-



*Леанід Шчамялёў. «Дажджлівы дзень у Мінску», 2001 г.*

ны раўнадушша, што выраслі вакол чалавека. Мастак Леанід Шчамялёў не такі, а зусім іншы. Шчамялёў шукае натхненне ў размаітых кветках, у беларускіх вяселлях, у маладых і дзіцячых тварах, у светлаплынных аблоках, у віхурыстым палёце птушынай чарады, у паветраных вершніках, у цнатлівай аголенасці, у золаце мэндлікаў лёну, у белавежных цэрквах, у блакітных сумётах, у музыках з гітарамі і скрыпкамі, у мядовай слодычы... Шчамялёў – пазітыўны жывапісец. Уся прырода ягонай творчасці саткана са светладайнасці і вясёлкавасці. Таму нават у часы суворага стылю, у якім панавалі стрыманасць і драматызм, Шчамялёў піша карціны, прысвечаныя нараджэнню, а не пахаванню. Мо таму ўсе гістарычныя персанажы на палотнах Леаніда Шчамялёва выглядаюць тэатральнымі, а часам і зусім аперэтачнымі, як генерал Даватар і чэкіст Дзяржынскі з рэвалюцыянерам Леніным. Нават Каліноўскі на партрэце Шчамялёва – такі сабе спраўны артыст з магілёўскага самадзейнага тэатра. Пазітыўны Шчамялёў не можа змяніць прыроду ўласных здольнасцяў. Таму ягоныя ўдачы і дасягненні заўсёды звязаны з добрым настроем і сонечным красаваннем рэальнасці.

эпісталярый

Сяргей Чыгрын



…Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць…
Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне
Ў маёй роднай – ды далёкай – старане?..

# “Надзея святая таёмна крадзецца…”

***Лісты Сяргея Новіка-Пеюна***

Часта дастаю з паліц свайго хатняга архіва тэчку з прозвішчам паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994). У ёй захоўваюцца лісты, здымкі, кніжкі, паштоўкі, вершы паэта. Нядаўна яшчэ раз усё перачытаў, пераглядзеў, успомніў гэтага мужнага, цярплівага, таленавітага, цікавага і сціплага чалавека. Лісты Сяргей Міхайлавіч пісаў розныя: і вялікія, і невялікія, але шчырыя і сур’ёзныя. У пісьмах заўсёды мяне называў па-бацьку і на “Вы”, а пры сустрэчах – на “Ты” ці проста па імені. На лістах абавязкова ставіў тры пячаткі: адна была з адваротным адрасам, на другой было напісана “Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн г. Мінск”, а на трэцяй – прозвішча “Сяргей Новік-Пяюн”.

Сябраваў я з Сяргеем Міхайлавічам шмат гадоў. Ён часта наведваў Слонім, дзе жыла яго сястра, заходзіў да мяне ў рэдакцыю раённай газеты, дзе я працаваў. А калі я бываў у Мінску – забягаў да яго ў маленькую аднапакаёўку на вуліцы Купрыянава. Пра што толькі ён мне ні расказаў!.. Але найбольш любіў распавядаць пра Слонім, пра мастака Антона Карніцкага,

180 карцін якога вывезлі немцы ў Германію падчас Другой сусветнай вайны, пра гісторыка і краязнаўца Язэпа Стаброўскага, пра генерала Яўгена Леашэню і пра іншых землякоў. Часта паэт згадваў пра сустрэчу з Янкам Купалам у Слоніме ў 1939 годзе, калі пясняр вяртаўся з Беластока з народнага сходу. Тады Сяргей Новік-Пяюн працаваў у Слоніме інспектарам павятовага аддзела народнай асветы. 14 лістапада 1939 года да яго ў аддзел народнай асветы зайшоў чалавек, павітаўся, а пасля спытаў, дзе жыве Гальяш Леўчык. Сяргей Новік-Пяюн адразу пазнаў у госцю Янку Купалу. Яны разам паехалі ў хатку да Гальяша Леўчыка, там пагутарылі, а пасля "шэўрале", на якім прыехаў Янка Купала, прывёз іх у цэнтр горада.



*Бацькі Еўдакія Пятроўна і Міхаіл Сцяпанавіч Новікі з маленькім Сяргеем. Пачатак XX стагоддзя.*

Пра гэты выпадак Сяргей Міхайлавіч згадваў мне часта. Ён вельмі ганарыўся, што хоць раз у жыцці меў сустрэчу з песняром беларускага народа.

Яшчэ ў 1938 годзе ў Слоніме Сяргей Новік-Пяюн разам са сваёй жонкаю Людмілай пачалі выдаваць на польскай мове (на беларускай мове польскія ўлады не дазволілі) "Газету Слонімскую". Гэта быў тыднёвік, і выйшла з друку толькі некалькі нумароў...

Аднойчы я прыехаў да Сяргея Новіка-Пеюна ў Мінск, а ён адчыняе дзверы ў лагернай фуфайцы з нумарам на плячах. "Гэта мой сталінскі касцюм", – сказаў Сяргей Міхайлавіч. А пасля сеў на табурэтку і ціха заспяваў свае славутыя "Зорачкі":

Дні праходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль бягуць.
Трэці год як на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне...

З вачэй у паэта пакаціліся слёзы. Гэты выпадак памятаецца мне да сённяшніх дзён. Не верыцца, як змог выжыць Сяргей Новік-Пяюн у тых жыццёвых сітуацыях, у якіх ён бываў. Бо лёс яго не песціў. Пры Польшчы сядзеў у турме ў Баранавічах, у чэрвені 1941 года быў паранены, у 1943 годзе – арыштаваны слонімскім СД і асуджаны да пакарання смерцю. У турме захварэў на тыф. Хворага паэта немцы кінулі ў канцлагер Калдычэва, дзе крыху раней загінула яго жонка. А цешча з дзвюма ягонымі дочкамі ўцякла ў Польшчу, пасля чаго дзяцей сваіх Сяргей Міхайлавіч больш ніколі ў жыцці не бачыў. Паводле іншай інфармацыі, жонка засталася жыць і таксама разам з маці і малымі дочкамі з'ехала за мяжу.

4 ліпеня 1944 года немцы вялі вязняў на расстрэл. Сярод усіх быў і беларускі паэт. У час расстрэлу яго паранілі. Прыкінуўся мёртвым, а пасля схаваўся ў бліжэйшым лесе. Так застаўся жыць. А калі 10 ліпеня 1944 года савецкія войскі вызвалілі Слонім, Сяргей Новік-Пяюн пачаў працаваць тут дырэктарам мясцовага краязнаўчага музея. Але і гэта шчасце было нядоўгім.

Вясною 1945 года без прад'яўлення афіцыйных абвінавачванняў паэт быў зноў арыштаваны органамі НКУС і на 10 гадоў пазбаўлены волі. Этапам яго адправілі ў пасёлак Нэлькан у Якуцію:

Плывуць дні за днямі, як шэрыя хвалі.
Нам сніцца радзімага неба блакіт.
Пад сопкай мы многа сяброў пахавалі.
Тут снег нашай цёплай крывёю заліт.
Праз краты нам свецяць паўночныя зоры,
Бы шлюць прывітанне ад роднай зямлі.
Сярэбраны месяц схаваўся за горы,
І чорныя цені вакол заляглі...

(Зборнік "Песні з-за кратаў". Мн., 1993. – С. 128-129).

У Беларусь Сяргей Новік-Пяюн вярнуўся ажно ў 1959 годзе. За плячыма ўжо былі 53 пражытыя гады, але трэба было пачынаць усё спачатку. Яго рэабілітавалі, а ў якасці "кампенсацыі" за гады, праведзеныя без віны ў турме, яму выдзелілі аднапакаёвую кватэру ў пяціпавярховым доме ў Мінску на вуліцы Купрыянава, 9 і датэрмінова прызначылі пенсію, залічыўшы год Калымы за два...

Сяргей Новік-Пяюн нарадзіўся ў вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна 27 жніўня 1906 года. Скончыў мясцовую рускую гімназію і беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. У 1926 годзе ў роднай вёсцы стварыў беларускі народны хор. Як сказаў Алег Лойка ва ўступным слове да зборніка вершаў паэта "Заўсёды з песняй" (Мн., 1984. – С. 4): "Душа юнака рвалася да песень, а песню глушылі". Але заглушыць не змаглі. Бо паэт Сяргей Новік-Пяюн пісаў, спяваў і жыў. Жыў словам, песняй, любоўю да Бацькаўшчыны. Друкавацца ён пачаў ажно ў 1924 годзе ў заходнебеларускіх выданнях "Сын беларуса", "Студэнцкая думка", "Маланка", "Сялянская ніва", "Шлях моладзі", "Беларуская крыніца", "Заранка" і іншых. З друку асобнымі кніжачкамі пачалі выходзіць яго драматычныя і вершаваныя творы "Ёлка Дзеда Мароза" (Вільня, 1927), "Пакой у наймы" (Вільня, 1927), "Цудоўная ноч" (Вільня, 1927), "Прадка пад крыжам" (Вільня, 1939), "Заўсёды з песняй" (Мн., 1984), "Зорачкі ясныя" (Мн., 1986), "Песні з-за кратаў" (Мн., 1993). У сваіх паэтычных кнігах Сяргей Новік-Пяюн пісаў пра тое, пра што сам перажыў у астрогах, лагерах і ссылках. Паэтычныя радкі яго прасякнуты пяшчотай да Бацькаўшчыны, верай у заўтрашні дзень:

Быць можа ў халоднай памру Калыме,
Сям'ю не пабачыўшы ў роднай больш хаце,
Я веру, мяне, песняра, ўспамяне
Не раз Беларусь – мая Маці.
Але ў маім сэрцы наяве і ў сне
Надзея святая таёмна крадзецца:
Да роднае Бацькаўшчыны, усё-ткі мне
Вярнуцца яшчэ давядзецца!

(Зборнік "Песні з-за кратаў", Мн., 1993. – С. 114).

У 1966 годзе Сяргей Новік-Пяюн наладзіў цесныя літаратурныя сувязі з беларускім тыднёвікам "Ніва" у Беластоку, якія працягваліся аж да самай смерці паэта. У студзені і ліпені гэтага года ён друкуе вершы для дзяцей "Дзед Мароз", "Вожык", "Верабейчыкі" і апавяданне "Цешка". Асабліва шмат паэтычных радкоў Сяргей Новік-Пяюн апублікаваў у "Ніве" у 1980-х гадах. Найперш гэта былі вершы пра родную прыроду, лясных і хатніх жывёл, а таксама ўспаміны пра гісторыка Язэпа Стаброўскага, паэта Гальяша Леўчыка і пра Ядвісю – гераіню Якуба Коласа, якая жыла ў Слоніме і г.д.

Прапаную некалькі лістоў Сяргея Новіка-Пеюна, адрасаваных мне ў канцы 1980-х гадоў і напачатку 1990-х. А таксама фотаздымкі, некаторыя з якіх публікуюцца ўпершыню.

## Лісты Сяргея Новіка-Пеюна

*Мінск, 18 жніўня 1988 г.*

Дарагі Сяргей Мікалаевіч!

25 лістапада 1943 года, па даносе правакатара, мяне арыштавалі гестапаўцы і асудзілі на смерць за антыфашысцкую дзейнасць. Са Слонімскага музея, дзе я працаваў і жыў, рабаўнікі пазабіралі ўсе мае рэчы і ў тым ліку маю мандаліну.

Чакаючы смерці ў адзіночцы слонімскага астрогу, я стварыў песню "Мандалінaчка" і "запісаў" яе ў памяці. Дасылаю Вам.

27 жніўня 1988 года мне ўжо спаўняецца 82 гады.

*Сяргей Новік-Пяюн,*
*паэт, член Саюза пісьменнікаў СССР і БССР,*
*былы дырэктар Слонімскага гістарычна-краязнаўчага музея.*

**МАНДАЛІНАЧКА**

Ў Вільні на рынaчку
На самай «Маслянай»
Дарма я працы колькі дзён шукаў, –
Адну карцінaчку
Я фарбай маслянай
На палатне тады намаляваў.
Не меў я грошыкаў.
Сваю карцінaчку
За грошы пану можнаму прадаў
І сорак злоцікаў,
О, мандалінaчка,
У Вільні за цябе тады аддаў.
Ішоў я горкаю,
Ішоў далінаю,
Усцяж па свеце шчасця я шукаў,
І долю горкую
Я з мандалінаю
Ў супольнай песні часта забываў.
Амаль не згінуў я
З смяротнай ранаю,
Што «сябра» ў сэрца ўпотай мне задаў,–
А з мандалінаю,
Маёй каханаю,
Яшчэ сардэчней я пасябраваў.

Ў маю хацінaчку,
Нават без словачка,
Ўвайшоў ціхутка хтось, нібы ліса,
І мандалінaчку,
Маю сяброваччку,
Забраў, – а хто, не ведаю я сам.
Знайду мо згубу я.
Ў маёй хацінaчцы
З сяброўкай зноў шчасліва зажывем.
З табою, любая,
О, мандалінaчка,
Мы разам волі песню запяем.

*Мінск, 8 верасня 1988 г.*

Дарагі Сяргей Мікалаевіч!

З майго асабістага архіву дасылаю вам наступныя 44 матэрыялы, звязаныя са Слонімшчынай.



*Такі здымак Сяргей Новік-Пяюн падараваў Янку Купалу ў 1939 г.*

Гэта толькі частка майго слонімскага архіву. А калі я падрыхтую яшчэ, то паведамлю Вам, дарагі Сяргей Мікалаевіч, каб прыехалі на машыне, бо пасылаць праз пошту нельга, бо шмат.

Успамін Яўгена Леашэні[1] пра Якуба Коласа варта было б надрукаваць у раённай газеце, бо невядома, ці хто чытаў гэтыя ўспаміны.

Вельмі Вас прашу, калі ласка. Прысылайце мне па некалькі экземпляраў тых нумароў, калі будуць надрукаваныя Вашыя і мае, а таксама цікавыя матэрыялы. Напішыце, ці спадабаліся Вам матэрыялы, якія я Вам дасылаю.

*З сардэчным прывітаннем і пашанай –*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

*Мінск, 20 лістапада 1988 г.*

Добры дзень, дарагі Сяргей Мікалаевіч!

18 лістапада 1988 года тэлефонная сувязь перарывалася некалькі разоў і пагутарыць з Вамі не ўдалося. Добра, што я пачуў аб тэрміновай патрэбе маіх успамінаў пра мастака Антона Карніцкага[2]. Праз усю ноч я перапісваў гэтыя ўспаміны, раніцай адаслаў іх да Вас з 6 фотакопіямі карцін мастака і газетай "Звязда" з артыкулам Алеся Шлега[3]. Забыўся я напісаць, што раніцай 19 лістапада 1988 года я атрымаў Ваш ліст, за які шчыры дзякуй.

Калі будзеце друкаваць мае ўспаміны, калі ласка, нічога не выкрэслівайце, няхай усё будзе, як я напісаў. Шкада, што ў газетах друкуюць слова расійскае "историко-краеведческий" "гісторыка-...", лянуюцца глянуць у руска-беларускі слоўнік: историко – гістарычна-краязнаўчы.

У Рышчыцах, былой слонімскай вёсцы, а зараз у Слоніме, ёсць мураваны дом аднапавярховы з чырвонай цэглы. А ў суседнім з ім доме жывуць грамадзяне з прозвішчам Залажук, якія былі суседзямі Антона Карніцкага. І яны маглі б расказаць пра яго і паказаць ягоную магілу на Ружанскіх могілках. Калі б Вам удалося б адшукаць каго-небудзь з Залажукоў і даведацца, дзе ягоная магіла, калі ласка, паведамце мне, буду Вам шчыра ўдзячны. Калі надрукуеце матэрыял пра Антона Карніцкага, вельмі прашу прысласць мне 10 экземпляраў газеты. У рэдакцыі столькі не будзе, дык, калі ласка, купіце ў кіёску, я грошы Вам прышлю.

Я некалькі разоў тэлефанаваў у рэдакцыю тыднёвіка "Беларускае тэлебачанне і радыё", каб звярталіся да чытачоў па-беларуску: добры дзень. А не па-польску: дзень добры. Па-беларуску спярша стаіць прыметнік, а пасля імя, а па-польску наадварот: спярша – імя, а пасля – прыметнік. А рэдакцыя, хоць абяцала выправіць памылку, працягвае далей яе друкаваць. Яшчэ пішуць: раніцОй, хаця па-беларуску трэба: раніцАй. Ужываюць польскае слова "мажліва" замест беларускага слова "магчыма", "па крайняй меры", замест беларускага "прынамсі". Шмат памылак робяць і тыя, што выкладаюць на філфаку, псуюць беларускую мову.

Дарагі Сяргей Мікалаевіч! Бяда з маімі вачыма – з кожным днём горш, асабліва з правым вокам. Давядзецца, мабыць, трапіць у клініку.

Калі рэдакцыя Слонімскай райгазеты пераедзе ў новае памяшканне? Перадавайце, калі ласка, маё прывітанне паважаным Марыі Ўладзіміраўне Данюк – адказнаму сакратару і Сяргею Аляксандравічу Прасняку – рэдактару. Матэрыялы да Вас дасылаю ў двух канвертах, каб не былі лісты надта цяжкія.

*З сардэчным прывітаннем, глыбокай пашанай і ўдзячнасцю –*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

*Мінск, 29 лістапада 1988 года*



Сяргей Новік-Пяюн у Якуціі. 1955 г.

Глыбокапаважаны Сяргей Мікалаевіч!

Дасылаю Вам свой фотаздымак. Гэтак я выглядаў у верасні 1939 года, калі Чырвоная Армія 17 верасня вызваліла мяне з Баранавіцкай турмы. Гэткім я сустрэў у Слоніме 14 лістапада 1939 года народнага паэта Беларусі Янку Купалу, з якім наведаў паэта Гальяша Леўчыка[4]. Ад Гальяша Леўчыка мы паехалі ў "Першы беларускі рэстаран", які знаходзіўся тады ў будынку цяперашняга Слонімскага райвыканкама.

У хуткім часе нам падалі абед. Глянуўшы на мой бледны твар, Янка Купала спачувальна сказаў: "Ой, Сяргей, Сяргей, і благі ж ты! Вось што зрабілі з табою паны!.. Фатаграфію сваю маеш?" "Маю!" – адказаў я.

"Падпішы мне", – папрасіў Янка Купала.

Сваю фатаграфію, копію якой Вам дасылаю, я падпісаў так: "Дарагому, любімаму народнаму паэту Беларусі Янку Купалу на шчыры ўспамін. Удзячны Сяргей Новік (Сяргей Пяюн). Слонім. 14.11.1939 г.".

У маім блакноце Янка Купала напісаў: "Міламу Сяргею Пяюну падчас сустрэчы ў Слоніме. Янка Купала. 14.11.1939 г.".

Расказвала мне Марыя Канстанцінаўна Хайноўская[5], што, калі Янка Купала ўвечары 14 лістапада 1939 года вярнуўся са Слоніма ў Мінск, паклаў на стол Вашу фатаграфію і кніжкі і сказаў: "Цікавага хлопца я сустрэў у Слоніме".

Дарэчы, мае ўспаміны пра Янку Купалу былі апублікаваныя ў кнізе "Народны паэт Беларусі" (Мінск, 1962).

Усяго Вам найлепшага!

*З сардэчным прывітаннем і пашанай –*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

*Мінск, 1 снежня 1988 г.*

Дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Пасылаю Вам газету з партрэтам Антона Валынчыка[6] і артыкул пра яго.

Тэлефанаваў 28 і 29 лістапада 1988 года, але Вас не было. Сёння 1 снежня еду да прафесара, відаць, будуць рабіць аперацыю вачэй.

Прывітанне ўсім.

*З сардэчным паклонам – Сяргей Новік-Пяюн.*

*Нядзеля, 15 студзеня 1989 г.*

Добры дзень, глыбокапаважаны, дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Як я Вам ужо казаў, сёння а гадзін 23.07. маю паехаць у Маскву па накіраванні Міністэрства аховы здароўя БССР і Саюза пісьменнікаў БССР у Інстытут вочных захворванняў, магчыма будзе аперацыя на маім правым воку.

Вашых лістоў я пакуль не атрымаў. Калі будзеце друкаваць нарыс Яраслава Пархуты[7], калі ласка, прышліце мне некалькі асобнікаў газеты.

Не ведаю, як надоўга я затрымаюся ў Маскве, а калі вярнуся – паведамлю Вам.

*З сардэчным прывітаннем, глыбокай пашанай і ўдзячнасцю –*
*Сяргей Новік-Пяюн.*



*Сястра Кацярына Новік выходзіць замуж. Сядзіць другі злева Сяргей Новік-Пяюн, сядзіць другая справа яго жонка Людміла Новік. 1930-я гады. Слонім.*

*Мінск, 1 снежня 1989 г.*

Глыбокапаважаны і дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Дасылаю Вам вальс "Краска шчасця" і ноты. Гэты вальс я стварыў і "запісаў" у памяці (не было ані алавіка, ані паперы) 25 чэрвеня 1945 года на станцыі Курган у вагоне НКУС на этапе на катаргу на Калыму.

**КРАСКА ШЧАСЦЯ**

*Вальс*
*Музыка і верш Сяргея Новіка-Пеюна*

***1.***

Кажуць: на Купалле
У глухім бары
Краскаю караляў
Папараць гарыць.
Ды дарма шукаюць
Людзі краску-чар,
Сіл знайсці не маюць –
Сцяражэ вядзьмар.
А я шчасця краску
Ў лесе не шукаў,
Бо яе як ласку,
Добры лёс мне даў.
Стаўся з той часіны
Ў міг шчаслівым я
Праз цябе, дзяўчына,
Любая мая!
Любая – мне неба дар!
Любая – душы нектар!
Любая – кахання жар!
Любая – мой скарб!

*2.*

Не шукайце краску
Папараць дарма,
Яна толькі ў казках,
Сапраўды ж няма!
Добра разглядайцесь
Ля сябе наўкруг,
Ды згадаць старайцесь,
Хто ваш шчыры друг!
Не дае багацця
Папараці чар –
Шчырае ж каханне
Найвялікшы скарб!
Золата, хоць вабіць,
К шчасцю не вядзе,
Верны ж друг не здрадзіць,
Нават, у бядзе.
Любая – мне неба дар!
Любая – душы нектар!
Любая – кахання жар!
Любая – мой скарб!



*Сяргей Новік-Пяюн у апошнія гады жыцця.*

*Мінск, 5 снежня 1989 г.*

Глыбокапаважаны і дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Дасылаю Вам на шчыры ўспамін мае "Зорачкі" і ноты. Яны былі напісаны ў горадзе Свеце над Віслай у Польшчы ў 1929 годзе падчас польскай ссылкі.

Сяргей Новік-Пяюн

**ЗОРАЧКІ**

Дні прыходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль плывуць.
Трэці год як на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.

Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат,
Не працягне рук зычліва родны брат,
Не падзеліш нават думак з нікім тут,
Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.

Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць...
Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне
Ў маёй роднай – ды далёкай – старане?

Ці татулька мой і матанька ўжо спяць?
Ці таксама на іх зорачкі глядзяць?..
Мо й яны пытаюць зорак аба мне,
Што раблю цяпер ў далёкай чужыне? –

Калі толькі яны, родныя, не спяць,
Калі йшчэ цяпер на зорачкі глядзяць,
Занясеце ім, пакуль не бліснуў свет,
Зоркі мілыя, сыноўскі мой прывет!

І скажэце, каб не плакаў ні адзін,
Што ў выгнанні мусіць мучыцца іх сын!
Прыйдзе, прыйдзе да нас хутка ясны май,
Прыляту тады, як птушка, ў родны край.

З новай верай, з новай сілай зажывём,
Беларускі гімн свой родны запяём,
Беларускай песні роднае пад тон
Заарэм мы і засеем свой загон.

Ўночы будзем мы на зоркі паглядаць
Што, як сёння, будуць ў небе зіхатаць... –
Занясеце ж вы, пакуль не бліснуў свет,
Зоркі мілыя, бацькам маім прывет!

*Мінск, 27 лістапада 1991 г.*

Добры дзень, Сяргей Мікалаевіч!

Ад 1989 года дагэтуль я з'яўляюся сталым наведвальнікам лякарняў. Лечаць мне вочы, якія мне сапсавалі гестапаўцы падчас вайны. Вось і сёння я толькі што вярнуўся з лякарні, адкуль мяне адпусцілі на некалькі тыдняў.

У лякарню мне прынеслі Ваш ліст, у якім Вы пішаце, што да майго 85-годдзя напішаце нарыс. Дзякуй! Калі ласка, прышліце мне тры экземпляры "Слонімскага весніка" з Вашым нарысам пра мяне.

Да 85-годдзя пра мяне надрукавалі матэрыялы "ЛіМ", "Чырвоная змена", "Наша слова", "Народная газета", "Пінскі веснік", "Чырвоны сцяг" (Нясвіж). Не ведаю, ці прачытаеце Вы мой ліст, бо пішу наўздагон.

*З прывітаннем – Сяргей Новік-Пяюн.*

---

[1] Яўген Леашэня (1900-1981) – генерал-лейтэнант інжынерных войск, краязнавец.
[2] Антон Карніцкі (1912-1944) – слонімскі мастак.
[3] Алесь Шлег (1936-1998) – беларускі пісьменнік, журналіст, публіцыст.
[4] Гальяш Леўчык (1880-1944) – беларускі паэт, калекцыянер, мастак, перакладчык.
[5] Марыя Хайноўская (1903-?) – загадчыца бібліятэкі Саюза пісьменнікаў БССР.
[6] Антон Валынчык (1896-1985) – беларускі кампазітар, харавы дырыжор, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі.
[7] Яраслаў Пархута (1930-1996) – беларускі пісьменнік.

згадкі

Сяргей Ваганаў



…і сёння доўжыцца традыцыя,
калі маштаб асобы вымяраецца
яе датычнасцю да ўлады…

# Шматкроп'і-ІІ

*Бязмежны напачатку Час жыцця,*
*Каб Творца меў яго дзеля даробку.*
*А на мяжы жыцця і небыцця*
*Бязмежны Час сціскаецца у Кропку.*

*Працяг. Пачатак у №№ 112-113, 2021 г.*

## Шэсць сотак

Ганна Цімафееўна, школьная настаўніца гісторыі, калі пачынала распавядаць, як мудра бальшавікі вырашылі сялянскае пытанне, любіла падмацоўваць свой аповед жывым, так бы мовіць, прыкладам. Прыклад гэты браўся з неба, адкуль зямля была асабліва добра бачная. «Калі ляціш над Польшчай, – казала яна, – адразу заўважаеш, як зямля падзелена на кавалачкі. Іншая справа – нашы калгасныя палі...»

Было гэта ў сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя, калі Ганна Цімафееўна злётала адзіны раз у ГДР да мужа, савецкага афіцэра. А недзе напачатку 60-х я, ужо студэнт гістфака, сустрэў яе недалёка ад Мінска, дзе гараджане пачыналі асвойваць дачныя соткі. Правальваючыся ў глыбокіх сумётах, яна цягнула на сабе вялізны ліст шыферу, забраны з кучы, што была звалена ля прыдарожнай канавы. Я кінуўся дапамагаць...

– Вось, шэсць сотак атрымалі, хлявок будзем будаваць. Трэба ж недзе рыдлёўкі ды граблі трымаць...

## Прыгажуня

За ўсе шэсцьдзесят гадоў, што мінулі пасля той поўні, не бачыў, каб Месяц свяціў так, як у тую ледзяную, за пару тыдняў да Калядаў, ноч. Нейкая неймаверная прыгажосць лілася з нябёсаў. Праз крышталікі імжы свяцілася ўсё паветра. Мо таму і не заўважыў, як Генка ўехаў у двор. Звычайна прамень ад фары ягонага матацыкла яшчэ здалёк ліхаманкава матляецца па дахах прыснулых хат ды й па нізкіх аблоках. І Соня, выглядаючы яго з ганка альбо ў вакно, звыкла і безнадзейна канстатуе: “П’яны... Зноў заваліцца...” Ну так, валіўся адразу, як толькі спаўзаў з матацыкла. А тут нібы цвярозы: падхапіў з каляскі стрэльбу, злез, паабмятаў ад снегу боты, ды яшчэ прытупнуў... “...Казулю забіў... Сама вінавата, проста на мяне выйшла... Віця, мо і ты, Сяргей, схадзіце за ёй, пад ёлачкай прыхаваў, разлапістай такой, знойдзеце... І нікому! Чуеце? Нікому!..” Зразумела, нікому. Бо лесніком Генку не быць, ды й артыкул не горш за поўню свеціць...

Два кіламетры да лесу, па полі, напрасткі, мы з Віцем, правальваючыся ў сумётах, пераадолелі хвілінаў за сорак. Віцю восем гадкоў, хлопчык спрытны, кінуў санкі і скача ад елкі да елкі, нібы тая казуля... Раптам нешта блісканула пад зусім нізенькай, разлапістай. Адхінуў лапу, а там вока расплюшчанае, а ў воку – поўня, толькі зіхаціць трохі, нібыта з-пад слязы...

Гадзіны праз дзве выходжу на ганак пакурыць. І чую нейкі енк ад хляўка, ды святло праз шчыліны прабіваецца...

– ...А якая ж ты прыгажуня! – усхліпвае Соня. – А сыценькая якая!..

Няшчасная казуля са сцягнутай амаль да паловы тулава скурай вісіць долу, час ад часу шкрэбаючы галоўкай па краі жалезнага таза з крывёй. І вочкі заплюшчаны...

Соня з тых кабетаў, каторых клічуць “кустодзіеўскімі” – круглы твар, моцныя акруглыя плечы... Прыгажуня! Кроў з малаком! Гэта ёй у жніўні, калі я прыехаў на працу, старшыня калгаса Піліпчык прыгразіў:

– Не возьмеш настаўніка на кватэру, пойдзеш у калгас...

У калгас Соня не хацела. Але пасля Калядаў, чырванеючы і хаваючы вочы, завяла размову:

– Слухай, Сяргей, тут плётка па вёсцы гуляе...

– Якая плётка? Ніякай не чуў...

– Ты не чуў, а Генка чуў. Толькі табе не скажа, мне гаворыць. Маўляў, пакуль ён у лесе... З’ехаў бы...

Развіталіся цёпла.

– Калі што, ну, там дровы, ці яшчэ што, звяртайся, – прыкладаў руку да грудзей Генка, стоячы на марозе ў адной кашулі.

– Бяры, бяры, вось, насмажыла, – упіхвала Соня ржавую міску з катлетамі. – Ты ж глядзі, нікому...

Ледзь адмовіўся...

## “Несапраўдны” палкоўнік

1958 год, першы курс гістфака... Палкоўнік Н. вучыць, як вылічаць адлегласць да цэлі. Так пасля ненавіснага ў школе слова *сальфеджыа* ў маім жыцці з’яўляецца яшчэ больш ненавіснае *бусоль*.

– Студэнт Ваганаў, патлумачце нам, што трэба рабіць, каб знішчыць цэль... Як гэта не ведаеш? А калі вайна? Вось пад Сталінградам...

Палкоўнік Н. сапраўды ваяваў пад Сталінградам. Што, зразумела, выклікала

да яго павагу. Але чамусьці лічыў, што інтэлігентнага выгляду хлопчык у акулярах і Сталінград несумяшчальныя. Ад чаго мая асабістая павага падпадала пад ціск выпрабавання. Аднойчы зусім раз'юшыўся, калі я адмовіўся цягаць станіны гаўбіцы, спаслаўшыся на забарону дактароў падымаць цяжкасці: "Вось-вось, такія, як ты, у Ташкенце ваявалі..."

Хутка па прычыне адсутнасці арлінага зроку мяне камісавалі. "Вы яшчэ пашкадуеце, што кінулі армію!" – раздражнёна прарочыў палкоўнік Н. Але мне было ўсё роўна, абы больш ніколі не мець справы з ім, з гаўбіцамі і словам "бусоль".

...1960-я, другая палова. Ціхі стук у дзверы: "Можна?" І ў пакойчык на трэцім паверсе старога Дома друку нерашуча ўваходзіць высокі, схуднелы да попельнага колеру чалавек у чорным зношаным паліто, працягвае ў дрыжачай руцэ паперчыну, і тая падрыгвае: "Вось, кажуць, надрукаваць трэба, каб залік атрымаць..."

..."Несапраўдным" палкоўнікам Н. стаў пасля чарговага хрушчоўскага скарачэння арміі, тады і ваенную кафедру, г. зв. "спецуху", ва ўніверсітэце зачынілі. Н. падаўся на журфак. Што праўда, больш ніколі ў журналістыцы ягонага прозвішча не сустракаў. А тады, пасля маўклівай, ад пачатку і да развітання, сустрэчы тую нататку надрукаваў. Было ў ёй нешта пра артылерыю падчас Сталінградскай бітвы...

## Эфект Одры

1964 год, зіма. У вёску, дзе я працаваў настаўнікам, прывезлі фільм "Рымскія вакацыі" з Одры Хёпберн і Грэгары Пэкам у галоўных ролях. У так званым "Доме культуры", а насамрэч прамерзлым хляве, бітком. Кіно, гэткае святло ў вакенцы, вязуць раз на тыдзень, і тут ужо без "лішняга квіточка" не абысціся. Урэшце рэшт уціскаюцца ўсе... Хто абдымаецца, хто абціскаецца... Пачынаецца фільм, і на нейкім кадры змаўкае хіхіканне дзевак і запаноўвае цішыня. Чуецца толькі стракатанне апарата і свісцячае дыханне каваля Антося з пракуранымі самаробнай махоркай лёгкімі... І час ад часу выгукі: "Валюсь, прыбяры галаву!" Валюсь, вясковы дурненькі, сядзіць на падлозе проста перад экранам. Гаварыць не ўмее, вытлумачваецца адвольнымі гукамі, якія не маюць аніякіх адносінаў да таго, што адбываецца. Але цяпер сядзіць смірна, упёрся ў экран, толькі раз-пораз вырабляе нейкі гук, які нагадвае рахманае мыканне цяляці... Пасля фільма гойсае падскокам па ўсёй начной вёсцы, нешта радасна галосіць...

Такімі засталіся ў маёй памяці "Рымскія вакацыі" – не менскімі, дзе я глядзеў іх студэнтам, а вясковымі, марознай і зорнай ноччу, пад радасныя воклічы дурненькага Валюся...

## Пра стары дуб і дзірку ў Зямлі

Дзяўчынка і хлопчык на роварах, ёй гадкоў 12, яму недзе 10. З усёй моцы круцяць педалі, бо на лецішчы насоўваецца чарнюшчая хмара з хуткімі, бы шывок на тканіне, маланкамі і цяжкімі ўздыхамі грому.

Раптам чую:

– Наташка, вот бы в Земле дыру проделать, и сразу в Японию!

Адказу Наташкі я ўжо не пачуў, бо ўзняўся шалёны віхор, і хмара абрынулася моцным ліўнем.

Стала цёмна, зусім цёмна. І на двары, і ў хаце...

Праз паўгадзіны даведаўся, што вецер паваліў стары высачэзны дуб, мо самае прыгожае на лецішчах дрэва, узростам з паўтара стагоддзі, спрэс абвешанае аб'явамі аб розных паслугах. Упаў і парваў правады.

Святла не было гадзінаў пяць.

Знікла мабільная сувязь, праваліўся кудысь інтэрнэт.

Сядзеў у суцэльнай цемры, слухаў, як перашэптваюцца за вакном апошнія кроплі дажджу, і думаў пра дзірку ў Зямлі, каб адразу ў Японію...

## Пра знешні выгляд

З пэўнага ўзросту людзі пачынаюць прыглядацца да таго, на колькі год яны выглядаюць. Першы раз я зведаў гэткае шчасце ў траўні 1985-га. Было мне тады 44 гады, краіна гула 40-годдзем Перамогі, у Мінск прыехала шмат дэлегацый. Сонечным надвячоркам падыходзіць да мяне знаёмы і просіць падвезці да гатэля "Мінск" двух ягоных сяброў з Харкава. Я пагадзіўся. Харкаўчане – мо недзе пад 30 – сказалі нешта цёплае пра Мінск, і я прапанаваў ім экскурсію па горадзе, паказаць і распавесці, дзе што было і чым сталася.

Гадзіну ездзілі, прывёз у гатэль. Яны дзякуюць, кажуць, што экскурсія вельмі спадабалася. І раптам адзін з іх пытаецца: "А вы сами с какого года в Минске живёте?" – "С 44-го" ... Уважліва паглядзеў на мяне і кажа з гэткім паважлівым прыдыханнем: "Наверно, освобождали?.."

Я рассмяяўся. А потым падумаў: што ж такое магло адбіцца на вонкавым выглядзе чалавека, народжанага ў 1941-м?

## Праўда гісторыі

1956 год, восень... Наш восьмы клас едзе ў Брэсцкую крэпасць. Гістарычка распавядае пра яе гераічную абарону, пра вайну, пра "десять ударов", якія ў мінулым годзе яшчэ называліся "сталинскими"... Слухаю ў паўвуха. Больш прываблівае шыйка Тамары пад тугой касой залацістых валасоў... А гісторыю люблю, пра тыя "удары" магу распавесці не горш ды й на мапе паказаць...

...Да крэпасці ідзем па хісткім мосце, асцярожна абыходзячы правалы ў драўляным насціле. Раптам спатыкаюся, хапаюся за парэнчы і ледзь не выю ад болю... Толькі цяпер заўважаю, што адлітыя, здавалася б, на стагоддзі акруглыя чыгунныя парэнчы на ўсім працягу прабіты, парваны, дзе на шырыню далоні, а дзе і больш, кулямі ды асколкамі снарадаў, ад чаго павытыркаліся вострыя па краях дзіркі... З таго часу сутыкаўся са шмат чым жахлівым з наступстваў вайны.

Але калі чую нешта пра "историческую память", першае, што паўстае перад вачыма, гэта той хісткі мосцік, тыя пабітыя асколкамі парэнчы і разадраная ў кроў праўда гісторыі...

## Беларускі некропаль

1964 год, Браслаўшчына, вяду вучняў паходам на Нарач. На ўзлеску – спалены хутар. Побач з папялішчам – самаробны крыж з пакарабачанай кардонкай. На ёй чорнай фарбай, ад рукі: "Тут пахаваны... і ўся іх радзіна, 7 душ..."

Ля магілы завіхаецца дзядок. Распавядае, што хутар спалілі партызаны, бо старэйшы сын служыў у паліцыі. Дзе цяпер? "Загінуў, тут вайна яшчэ гадоў 8 цягнулася... Крыж? Так, ён і паставіў... Навошта мяняць? Хай стаіць... Вось, па чарзе даглядаем... Не, улады не замінаюць..."

Да Паставаў, дзе начуем, рухаемся моўчкі...

Праз дзесяцігоддзі шукаю паперчыну з імёнамі і прозвішчам... Перапісаў жа!

Але – глуха.

Толькі кардонка і крыж...

## За стырном

Апынуўся аднойчы на фуршэце для журналістаў. У нейкі момант галоўны завадатар вечарыны, высокі чын, трымаючы кілішак, вырашыў “дэмакратычна чокнуцца” з кожным. Пайшоў па коле, прыпыняецца ля кожнага, адтуль чуецца натужлівы рогат. Жартуе, мусіць... Прыпыніўся і ля мяне. Заўважыў бурбалкі ў маім фужэры, запытальна, асуджаючы, паглядзеў у вочы...

– За стырном, – патлумачыў я.

– У нашай краіне толькі адзін чалавек за стырном, – адкрыў таямніцу высокі чын. — І толькі ён можа дазволіць сабе не піць..

Такі вось мудрагелісты жарт.

Мо самы працяглы з усіх мудрагелістых жартаў...

## Цяжкасці перакладу, альбо Зімбабвійскае шчасце

Жонка распавяла.

У 80-90-х гадах быў у яе студэнт, зімбабвіец Піры. Ездзіў з ёй на археалагічную практыку, потым пісаў дыплом. Падчас вакацыяў пабываў на радзіме, вярнуўся...

– Ну і як там у вас, Піры? – пацікавілася жонка.

– На жаль, усё добра, – адказаў Піры.

Жонка рассмяялася:

– На шчасце, Піры, на шчасце... Ты ж хацеў сказаць “на шчасце”?

– Так-так, на шчасце...

Аднойчы патрапіла мне на вочы зацемка пра тое, як жонка 92-гадовага Мугабе абдарыла зімбабвійцаў намерам вылучыць кандыдатам на наступных прэзідэнцкіх выбарах у выпадку заўчаснага скону яе бессмяротнага мужа ягоны труп. “Вось паглядзіце, ён ізноў выйграе!” – запэўніла адданая жонка.

На шчасце... Ці на жаль? Часам, праўда, мне здаецца: што Піры хацеў сказаць, тое і сказаў.

## Нататка ў газеце

1963 год. Але як сёння, перад вачыма дрыжачыя, парослыя светлым пушком, пальцы чалавека па прозвішчы Салавей. А ў пальцах – газета з маёй нататкай пра бязладдзе ў падначаленай Салаўю лясной гаспадарцы раёна, у якім настаўнічаю. Газета таксама падрыгвае. Салавей прыціскае яе да стала, але пальцы ўжо не дрыжаць, а проста барабаняць. І ўсе ў біткам набітым пакоі бачаць, што яшчэ трохі, і іх начальнік страціць твар зусім ...

Якім жа я быў шчаслівым ад таго, што нататку надрукавалі, што адшукаўся ў тым сходзе чалавек, галоўны бухгалтар лягаса, і пасля лавіны абвінавачванняў у хлусні сказаў: “Настаўнік мае рацыю”... Ну а потым і рознае начальства, ад раёна да міністэрства, адрэагавала прызнаннем “недахопаў” і абяцаннем “устранить их до конца 2-га квартала”... Я здаваўся сабе ледзь не адзіным на ўсю акругу носьбітам праўды і праваты. І ўладальнікам зброі, з дапамогай каторай магчыма ўсталяваць справядлівасць у лясной гаспадарцы і нават ва ўсёй дзяржаве...

А што Салавей? Салаўю ўляпілі вымову. І ён хутка памёр. Ад інфаркту.

Мабыць, неблагі быў чалавек, і ўспрыняў маю нататку ў газеце блізка да сэрца...

## Ластаўкі на фарфоры

1971 год. Тэлефануе Алег Белавусаў, на той час журналіст і адзін са стваральнікаў Клуба творчай моладзі: “Не ведаеш, дзе Гольба?” Яўхім Гольба – мастак, паэт – “когда

парное молоко сольется с белых колоколен...” – і мой сябра. Я ведаю, дзе ён – у сутарэнні, якое з дапамогай майго рэдакцыйнага пасведчання ўдалося здабыць пад жыллё і майстэрню. Літаральна андэграўнд...

...У Мінск Сяргей Параджанаў прыехаў па запрашэнні згаданага клуба амаль употай. І амаль употай прывёз свой апошні шэдэўр – “Цвет граната”. Убачыў у мастацкім салоне медальёны з выявамі ластавак, якія Гольба дзеля заробку маляваў на самаробным фарфоры, набыў усе, яшчэ не прададзеныя, і папрасіў Алега Белавусава зладзіць сустрэчу. Алег патэлефанаваў мне...

Да Параджанава ў гатэль “Мінск” мы пайшлі з Гольбам удвух. У нумары было шмат народу, ліўся каньяк... Мы прыладзіліся на ўскрайку кампаніі, Параджанаў дастаў з кішэні “ластавак”: “Вашы?” І адразу прапанаваў Гольбу папрацаваць мастаком на ягоным новым фільме... Раптам, зварухнуўшы паветра, з грукатам расчыніліся дзверы, і нехта ходарлявы, адхінуўшы даўжэзны чырвоны шалік, артыстычна бухнуўся каленямі аб падлогу: “Сярожа, ты – геній!” Мы паціху сышлі...

Параджанава праз нейкі час кінулі за краты. А Гольба з’ехаў у Амерыку. Куды падзеліся “ластаўкі”, не ведаю.

Недзе ж лётаюць...

## Кола жыцця

Чуткі пра тое, як Вадзім Б., вядомы ў Мінску майстар па дробных ювелірных вырабах і мой добры знаёмы, цяжка змагаецца за дазвол з’ехаць у Ізраіль, сталі ўжо, як сказалі б сёння, мемам у мінскім андэграўндзе.

І вось сярэдзіна 70-х, верасень, выпадковая сустрэча на плошчы Перамогі, заўжды Круглай сярод старажылаў, на тралейбусным прыпынку... “Ну, усё, стары, атрымаў дазвол. Еду... Не-не, праводзіць не трэба, у цябе будуць непрыемнасці. Давай тут развітаемся...” І ён моцна сціснуў мяне ў абдымках. Падышоў тралейбус. Вадзім ускочыў у яго, развітальна замахаў з-за шкла, потым сцяў рукі над галавой, потым пераможна паказаў V... Раптам я ўбачыў, як кіроўца нацягвае гумавыя пальчаткі, каб перавесці штангі на правады, якія вядуць па коле плошчы ў дэпо... “З вяртаннем на радзіму!” – абняліся ізноў на прыпынку. “Так, стары, жыццё – замкнёнае кола...” – стрымана ўсміхнуўся Вадзім...

## “Группа товарищей”

*Нешта пра газеты і могілкі*

Неяк апынуўся я ў маладзёжнай кампаніі. Анекдоты, жарты... Нехта згадаў, што я доўгі час працаваў у колішняй усесаюзнай газеце “Труд”.

“А я нядаўна чытаў вашу газету, – з усмешкай ці не на ўвесь твар прамовіў адзін з заўзятых жартаўнікоў, – у прыбіральні кавярні «Товарищ», што ў мінскім Доме ветэранаў. Там і сцены, і столь абклеены «Трудом», «Правдой», «Известиями»...” Усе зарагаталі.

“А што тут дзіўнага? – азваўся я. – Усё адпаведна гістарычнай праўдзе. Калісьці без газеты ў прыбіральню і не заходзілі. Пачытаць у цішыні, ну і... Увогуле, газета была ўніверсальным сродкам быцця... Селядзец загарнуць ці пілотку скласці або турбан, каб закрыцца ад сонца... А ведаеце, дарэчы, як яшчэ называюць кавярню «Товарищ»? «Группа товарищей»...”

Я чакаў выбуху рогату, але чамусьці ўсе сціхлі. “Што, не зразумелі?” – “Не-е-е, – працягнуў заўзяты жартаўнік, – а ў чым гумар?”

Сапраўды, адкуль ім, народжаным падчас скону СССР, крыху раней ці пазней, ведаць, што менавіта так падпісваліся ў савецкіх газетах некралогі па “заўчасна” ці “пасля працяглай хваробы” памерлых функцыянерах. Адкуль ім ведаць, што

па тым, як падпісваліся некралогі – пералікам прозвішчаў саноўных паплечнікаў ці той самай неапазнанай “группой товарищей” – вызначалася вага нябожчыка ў савецкім гістарычным пантэоне...

На жаль, і сёння доўжыцца традыцыя, калі маштаб асобы вымяраецца яе датычнасцю да ўлады. Ну, а калі маштаб асобы сапраўдны, пісьменнік гэта, знакаміты навуковец ці артыст, наменклатура намагаецца прыстасаваць яе да сябе і, у выніку, да суседства на могілках.

Кажуць, што смерць робіць усіх роўнымі. Не буду згадваць прозвішчы, але роўных на Усходніх могілках у Мінску няма...

Гіганты, а побач усё тая ж “група таварышаў”...

## Сашчэпка

Пра тое, што Вера прыязджае менавіта сёння, я даведаўся ў сярэдзіне таго ж дня. Ну што рабіць? Завея, здаецца, скончылася, а снег усё сыпле і сыпле... Хаця ўсяго 7 кіламетраў, але ні прайсці, ні праехаць...

...Збіраўся па-хуткаму. Паклаў у рэчмяшок чорныя вастраносыя чаравікі, якія чамусьці называліся макасінамі, чорныя, з бастону, штаны, шэры, у рубчык, пінжак, белую кашулю... Са жніўня 1963 года, калі з мінскага “Брадвея” прыехаў у вёску настаўнічаць, нічога з гэтага не апранаў. А тут... Вера ж прыязджае!

Да мястэчка, дзе працавалі мае сябры настаўнікі і да якіх мелася прыехаць Вера, я дабіраўся мо гадзіны са тры, пераадольваючы глыбокія сумёты і... страх – здалёк чулася нейкае выццё, не іначай ваўкі. Але паспеў – Вера яшчэ не з’явілася. Пад жарты і рогат сяброў хуценька пераапрануўся. І раптам заўважыў, што да белай кашулі патрэбны... запінкі. Ну, дзе тут сярод ночы знойдзеш у вёсцы запінкі? “Вось, вазьмі, – Галя працягнула сашчэпку, – незаўважна будзе... Зараз другую пашукаю...” Ага, незаўважна, калі манжэты павінны хаця б на сантыметр вытыркацца з-пад рукавоў пінжака...

Прачакалі Веру да першай раніцы новага, 1964 года. Не прыехала.

...З Галяй сябравалі да самай яе смерці. А Веру, яе найбліжэйшую сяброўку па студэнцкім часе, я так ніколі і не пабачыў.

Мо і не ўспомніў бы, каб не тая сашчэпка.

## Цвік рэвалюцыі

Краму абрабавалі ў аўторак, а ў сераду Янак знік.

Янак – мой вучань. Хударлявы твар, завостраныя ваўчыныя вушы, натапыраны погляд... Што ні здараецца ў вёсцы – варона ў коміне ці якое рабаўніцтва – усё на яго. І першы абвінаваўца – завуч школы Раіса Пракопаўна...

Праз усё жыццё Янака цягнецца помста завучыхі за бацькаву вайну супраць Саветаў, за забойства яе мужа, старшыні сельсавета, у 1953-м... А Янак, хоць бацька таксама загінуў, жывы.

“Што ёсць цвіком рэвалюцыі?”? – пытаюся. “Сялянскае пытанне”, – хорам адказвае клас. Янак маўчыць...

...Шукалі з верталёта. Не знайшлі. А ў нядзелю, падчас адлігі, Янак знайшоўся сам. Нехта войкнуў, калі танчылі ў клубе. Засумаваў Янак пад падлогай, ды й давай тыцкаць цвікам у шчыліны паміж старых дошак...

## Бася

Што ні раніца, першае, што кідаецца ў вочы, калі ўваходжу ў залу, маленькая, з бронзы, фігурка негрыцянкі пад парасонам. “Бяры, бяры, хай у вас пажыве, мо

калі і пра мяне ўспомніце", – цётка Паліна, так я называў яе з дзяцінства, ласкава ўсміхнулася. А праз колькі дзён ціха сышла з жыцця...

Цётка Паліна – найбліжэйшая сяброўка матулі яшчэ з даваенных часоў, калі разам працавалі ў газеце "Советская Белоруссия", матуля журналісткай, цётка Паліна машыністкай. 24 чэрвеня 1941 года, пасля самага бязлітаснага бамбавання, разам сыходзілі з Мінска. Пайшлі па вуліцы Карла Маркса, дзе і месцілася да вайны рэдакцыя, міма дома, дзе жыла цётка Паліна. Дом ужо ахапіла полымя. "Ты куды?!" – адчайна закрычала матуля. Але Паліна ўжо кінулася ў пад'езд... Выбегла, задыхаючыся, праз колькі хвілінаў са скруткам нейкай тканіны: "...вось, батыст, жывот падвязаць..."

Той самы жывот, у якім я дажываў ужо шосты месяц... І ў якім "ішоў" з матуляй да Магілёва, каб дабрацца ўрэшце рэшт да Казані...

Хто ведае, ці з'явіўся б я там на свет, каб не той скрутак батысту...

...Але пры чым тут Бася, як назвала бронзавую негрыцянку жонка? Назвала небеспадстаўна. Бо калі прыгледзецца, можна заўважыць "фірмовы знак": PLEWKIEWICZ W WARSZAWIE.

Па ўсім, Бася адтуль, з 1939 года.

Дакладна не ведаю, але чамусьці думаю, што цётка Паліна ратавала Басю ад агню разам са мной...

## "..Люміній"

1963 год, канец жніўня.. Я ўжо атабарыўся на кватэры ў мясцовага лесніка Генкі, акром яго з жонкай Соняй, таго-сяго з настаўнікаў і вяскоўцаў нікога не ведаю. Гуляю па вёсцы, натхнёны будучым невядомым жыццём, любуюся крыжыкам самалёціка, які амаль бязгучна працінае празрыстым швом блакітнае неба. І раптам, гэтак жа бязгучна, пачынае куляцца проста на вёску, потым аглушальны роў рухавіка, выбух і чорны над лесам дым...

...Вайскоўцы з авіяцыйнай базы ў Паставах, кіламетраў за 40 ад маёй вёскі на Браслаўшчыне, прыехалі недзе праз паўтары гадзіны і, не спыняючыся, на вялізнай хуткасці паімчалі на месца здарэння. Яшчэ праз гадзіну маёр, каторы быў на чале, вярнуўся. І адразу ў школу, куды акрамя мяне прыйшла яшчэ завуч Раіса Пракопаўна...

Маёр плакаў. І страшна, і шчымліва было глядзець на слёзы высокага, плячыстага, з мужным, пад густымі чорнымі валасамі, тварам, мужчыны. "Камандзір палка загінуў... сябра... разам з лейтэнантам... толькі прыбыў... жонка з дзіцём яшчэ ў гасцініцы... дапамажыце..."

Дасюль не разумею, якім чынам, усяго за нейкі дзясятак хвілінаў, даімчалі да месца, куды ўпаў самалёт, вясковыя хлапчукі, сёй-той з дарослых, і пазбіралі ўсё, што яшчэ можна было пазбіраць ад таго, што было самалётам.

– ...Дапамажыце...

Пайшлі па хатах. Так я пачаў знаёміцца са сваімі будучымі вучнямі і іх бацькамі.

– Ну навошта вам, – гэта я ўжо пытаўся ў бацькі Валюся, – гэты кавалак крыла?

– Дык мо ў гаспадарцы спатрэбіцца, люміній усё ж...

## Асколак

Мінск... плошча Свабоды... 1948 год... першы клас... Толькі распачаўся залаты верасень, калі пасярод урока нешта выбухнула, з расчыненага акна пасыпалася шкло, а ў паветры адчуўся смуродны пах. Мы кінуліся глядзець. На галінах каштана, якія ледзь не краналіся высокіх вокнаў былога дома губернатара, дзе месцілася нашая музычная школа, віселі нечыя вантробы... Праз колькі хвілінаў мы ўжо ведалі, што

гэта вантробы хлопчыка, які спрабаваў раскруціць “лімонку”. Тое, што засталося ад яго, хутка некуды звезлі. А ў скверы насупраць яшчэ мо гадзіны з дзве нерухома сядзела бабуля, нібыта ціхамірна ўгравалася на вераснёвым сонейку.

Асколак патрапіў ёй у скронь...

## Апошні жаўнер

12 сакавіка 2008 года памёр апошні французскі жаўнер Першай сусветнай вайны Ладзара Панцічэлі. Яму было 110 гадоў.

...Ладзара Панцічэлі доўга адмаўляўся ад прапановы наладзіць яму пахаванне нацыянальна-дзяржаўнага маштабу. Ён казаў, што “гэта будзе абразай для ахвяр Першай сусветнай, якія не былі *ўганараваны* такім гонарам” . Потым пагадзіўся – “у імя ўсіх жанчын і мужчынаў, што загінулі ў Першай сусветнай вайне...”

Гэта была сапраўды нацыянальная цырымонія: прыспушчаныя па ўсёй краіне дзяржаўныя сцягі, хвіліна маўчання ва ўсіх дзяржаўных установах, імша ў саборы Сен-Луі Дома інвалідаў з удзелам двух прэзідэнтаў – былога і тагачаснага, усіх чальцоў урада і нават міністра абароны Італіі, бо грамадзянін Францыі Ладзара Панцічэлі быў італьянцам.

Я не ўпэўнены, што праз колькі год мы такім жа чынам развітаемся з апошнім беларускім жаўнерам Другой сусветнай вайны. Калі насамрэч развітаемся... Не цяжка ўявіць сабе, як ва ўладных кабінетах загадзя будуць рыхтавацца спісы “апошніх”, каб, хаця ж, абраны для магчымай цырымоніі ветэран цалкам адпавядаў “задачам военно-патриотического воспитания”...

## Здзіслава і “лінія партыі”

...1964 год. З блакітных вачэй Здзіславы цякуць слёзы, шыкоўная, да стану, каса ўздрыгвае разам з плячыма... Я супакойваю яе, абяцаю паразмаўляць з Піліпчыкам, употай спадзяюся, што ён не адмовіць мне, бо вінен за дыплом, які я напісаў яму да заканчэння партшколы. Хаця насамрэч гэта я быў вінен Піліпчыку за тое, што ўладкаваў на кватэру. “Не возьмеш настаўніка – пойдзеш у калгас”, – прыгразіў Соні, сваячцы вартаўніка ў Глыбоцкім касцёле. Соня ў калгас не імкнулася, і на нейкі час я зажыў у сытасці і цяпле. А ў лютым Піліпчык папрасіў напісаць яму дыплом да заканчэння партыйнай школы. Тэма знаёмая, я сам талдычыў вучням, што сялянскае пытанне, па Леніну, “цвік рускай рэвалюцыі”... І вось гляджу, як заходзіцца ў плачы лепшая мая вучаніца, бо бацька сказаў, што больш у школу не пусціць, калі хутар знясуць...

– Не, супраць лініі партыі я не пайду, – Піліпчык тыцнуў пальцам у стольь.

А ў красавіку, калі па гэтай лініі падабраўся да хутара выкліканы з леспрамгасу бульдозер, уся сям’я – бацька, маці, Здзіслава, нават два старэйшыя браты яе прыехалі з Латвіі – выйшла на абарону...

...Хутар Здзіславы згарэў у траўні, калі пачаліся першыя навальніцы. Быццам трапіла маланка, працяла хату, як той жалезны цвік. Пэўны час, праўда, хадзіла чутка, што Тадэвуш, бацька Здзіславы, сам падпаліў. Як бы там ні было, сям’я таксама з’ехала ў Латвію, да сыноў.

Працуючы ў газеце, я час ад часу наведваў тую вёску, што месціцца паблізу латвійскай мяжы, распытваў і пра Здзіславу.

Але ніхто нічога пра яе не ведаў і нават не чуў...

## Пра круасаны і “жаўрука”

Пра каву з круасанамі я пачуў, гледзячы ток-шоў АНТ “Адкрыты фармат”. Яго ўдзельнікі шукалі адказ на пытанне, ці ёсць у Мінска свой твар. З падтэксту

вынікала – еўрапейскі. Так я даведаўся, што Мінску тэрмінова патрэбны брэнд, кшталту “мінскія круасаны”. Як у Парыжы...

Пачуўшы пра “круасаны”, я накіраваўся на вуліцу Савецкую, шукаючы поглядам шыльду “Хлеб”. У маім дзяцінстве там прадавалі “жаўрукоў” – мяккую са скарыначкай здобу ў выглядзе птушкі, якую спрадвеку выпякалі мінскія хлебапёкі. Падносячы да рота, я доўга не ведаў, з чаго пачынаць: з хвосціка ці з дзюбкі, над якой чарнелі дзве разынкі – два вочкі...

Замест птушкі да мяне падляцеў малады чалавек у модным гарнітуры, з рацыяй праз плячо, мо яшчэ з нечым падпахай, адчыніў без дазволу дзверцы:

– Вы не кліент нашага банка?

– Не-не...

– Каціце далей!...

Далей – гэта наўпрост у прорву пад тым, што зневажальна працягвае звацца плошчай, ды яшчэ Незалежнасці...

## “Зэкс кіндэр!”

Як і ўсе сапраўдныя франтавікі, бацька ніколі не распавядаў пра тое, што вытрымаў на вайне. Толькі аднойчы распавёў, як недзе ва Усходняй Прусіі падчас атакі перад ім апынуўся паджылы немец, զаваліўся на спіну і, узняўшы ці то рукі, ці то шэсць пальцаў, адчайна заенчыў: “Зэкс кіндэр! Зэкс кіндэр!” “Ты забіў яго?”– “Не, пабег далей...”– “А калі б ён стрэліў у спіну?”

Бацька моўчкі паціснуў плячыма...

Нешта тут было па-за межамі сэнсу, дзеля якога вядзецца вайна, калі ўвогуле можна шукаць у вайне сэнс. Тым больш, што на той час заклік “Забі немца!” ўжо ўзбудзіў усё савецкае войска. Але я адчуў, як бацька ціха ганарыцца тым, што не забіў немца.

Быццам здабыў больш значную за тое, каб забіць ворага, перамогу...

## Камяні спатыкнення

– ...Што, немцы і сваіх габрэяў забівалі?!

Ягонае ўзрушэнне было такім моцным, што ён абышоў камяні з усіх бакоў, убачыў сляды старанна зацертай свастыкі...

Я сустрэў яго ля “Трох камянёў”, што ў розныя нядаўнія часы былі пастаўленыя ў памяць аб тысячах габрэяў з Гамбургу, Дзюсельдорфу і Брэмена, якія загінулі ў Мінскім гета і Трасцянцы. Сюды ён патрапіў выпадкова – прыехаў са Стоўбцаў наведаць сябра ў лякарні непадалёк.

Я спытаў у яго, колькі яму гадоў, як яго клічуць і ў якой сферы працуе. Гадоў яму аказалася за сорак, працуе інжынерам у камунальнай гаспадарцы.

Не ведаю, чаму я спытаў у яго пра гэта. Мабыць, таму, што сам быў узрушаны: мне здавалася, што няма ў Беларусі, ды й нават на Зямлі, чалавека, які нічога не ведае пра Халакост...

Мікалай зашпіліў пінжак, схіліў у задуменнасці галаву з рэдкімі русымі валасамі, потым шырока перахрысціўся і павольна накіраваўся ў бок лякарні...

## Наменклатурнае паліто

– Ну, усё, – з усмешкай прамовіла жонка, – ты цяпер наменклатура. Трэба шыць рацінавае паліто...

Такім нібыта жартам адзначыўся пачатак маёй працы ўласным карэспандэнтам

усесаюзнай па тым часе газеты "Труд". І то праўда: усе ўласныя карэспандэнты тагачасных маскоўскіх газет аўтаматычна трaплялі ў наменклатуру ЦК КПБ...

Жарт жартам, але жонка ведала, што казала. Па рацінавым паліто ды андатравай шапцы наменклатура пазнавала "свайго".

Але дзе прыдбаць гэты кляты рацін?

Ангельскі рацін захоўваўся чамусьці ў Дзяржынскім КБА, там жа працаваў і кравец, які шыў з яго паліто для наменклатуры...

І вось першы раз у новым паліто едзем з маскоўскім калегам на Палессе праз славуты горад Бабруйск, травім пад чарачку розныя байкі ды анекдоты. Тут якраз і прыгадаўся стары анекдот, як сустракаюцца два бабруйскія яўрэі, і адзін пытаецца ў другога, дзе ён шыў такі добры касцюм. "У Парыжы", – адказвае другі. "А ці далёка ён, гэты Парыж?" "За 3 тысячы кіламетраў". "Во дзіва! Такая глуш, і так добра шыюць!"...

Парагаталі, а праз колькі хвілінаў разміналі ногі ля нейкай крамы. І раптам аднекуль з боку, ледзь перастаўляючы ногі, наблізіўся дзядок і, асцярожна дакрануўшыся да гузіка, спытаў: "І дзе вы шылі такое добрае паліто?" Мы з калегам ажно прыселі ад рогату...

Дома жонка перавесіла паліто з вешалкі на плечыкі ў шафу – "лепш захаваецца..."

...Так яно і правісела на плечыках у шафе больш за 30 гадоў, пакуль цешча не аднесла яго ў камісіёнку.

Ну, не любіў я насіць паліто. Ні рацінавых ды ніякіх іншых...

## "Мастацтвазнаўцы"

Недзе ў прамежку паміж 1959 і 1961 гадамі ў Мінск упершыню прыехалі амерыканцы – мужчынскі хор Мічыганскага ўніверсітэта. Гэта было падобна на тое, як быццам праз фортку ўварвалася незнаёмае паветра, свежае, але і ў нечым небяспечнае, і тым вельмі прыцягальнае... Я быў на той час студэнтам гістфака, сябрам так званага Клуба інтэрнацыянальнай дружбы, і пасля шэрагу канцэртаў, якія пакідалі моцнае ўражанне, апынуўся на зладжанай ЦК камсамола сустрэчы кіраўнікоў хора і часткі харыстаў са студэнтамі ў політэхнічным інстытуце. Пакуль сустрэча праходзіла ў зале – з прэзідыўмам, абменам выступамі і ўсялякімі знакамі шанавання, усё было ціха. Але як толькі афіцыйная частка скончылася, студэнты літаральна накінуліся на амерыканцаў з пытаннямі, размовамі, прывітаннямі... Я ўчапіўся ў магутнага негра, але не паспеў нават вымавіць нешта па-ангельску, як быў у момант адціснуты нейкім маладзёнам ў чорным гарнітуры з камсамольскім значком... Азірнуўся і толькі тут убачыў, што па ўсім перыметры фае стаяць такія ж маладзёны, і вольна, нават развязна, з усмешкамі і рогатам самі балбочуць з гасцямі...

Не ведаю, ці былі на не такім ужо даўнім канцэрце аркестра Арміі ЗША гэткія ж "мастацтвазнаўцы" ў галіне музыкі. Мусіць, былі. Але незаўважна.

## "Братишка"

Праз усю залу вясковай крамы цягнулася да прылаўка вялізная, падобная да закручанай сялянскай кілбасы, чарга, а ля самага прылаўка збіўся невялічкі натоўп, адціскаючы бабульку ў падрапанай ватоўцы...

– А ты, бабуля, за кім стаіш? – нярвова спытаў хлопец у джынсах, над якімі калыхаўся навіслы жывот.

– Ды мне трошкі, які кілаграм...

– Трошкі, трошкі... Бачыш, колькі людзей? Наўрад ці ўсім хопіць....

*Разруб* больш-менш таннага мяса ішоў поўнай ходой, на прылавак плюхаліся

ўсё новыя кавалкі свініны з палоскамі бялюткага здору, з плямамі крыві вакол касцей, з яшчэ цёплым подыхам скончанага жыцця. Але чарга не краналася з месца. Раптам хлопец у джынсах падхапіўся і палез праз галовы прымаць ад ледзь бачнай ля прылаўка жанчыны набітыя мясам пакеты. "Мусіць, вяселле..." – "Ага, вяселле... У Расію павезлі. Бачыў я там наша мяса. У тры разы даражэйшае...", – са злоснай усмешкай вымавіў здаровы, галівудскай знешнасці, мужык, за шырокімі плячыма якога я чакаў свайго часу ў чарзе. "Там зарплаты вялікія", – адазваўся яшчэ адзін сусед па чарзе. "Ага, зарплаты... Бачыў я іх зарплаты... Вы Маскву не лічыце. Я пра астатнюю Расію, амаль усю праехаў, ажно да Сібіры – разбурэнне, галеча і павальнае п'янства... Дальнабойшчык я... – ён пачухаў патыліцу і палез у кішэню. – Вось, глядзіце, ці магчыма такое ў цывілізаванай краіне?" – і працягнуў зашмальцаваную візітоўку...

Не хопіць месца для пераліку паслуг дальнабойшчыкам, якія прапануе "БРАТИШКА" – фірма, што дзейнічае ў Чалябінску і вакол, абяцаючы "РЕШЕНИЕ ЛЮБЫХ ПРОБЛЕМ НА ТРАССАХ". Але вось што самае цікавае з абяцанак: "сопровождение", "бандиты", "соляра", "менты", "жалоба", "разборка"...

Скончыўся *разруб* якраз перад дальнабойшчыкам. Ён мацюкнуўся і папрасіў узважыць нейкія вантробы, акуратна раскладзеныя па празрыстых мяшэчках...

## "Дэтэктар праўды"

Недзе на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў горадзе Светлагорску Гомельскай вобласці ўнук забіў бабулю.

Я расказаў тую гісторыю ў газеце "Труд", дзе працаваў беларускім уласным карэспандэнтам. Галоўным героем таго нарысу стаўся горад Светлагорск з ягоным атручаным паветрам, п'янствам і наркаманіяй, з непрагляднай нудой і псіхапатыяй – унуку было сорамна за тое, што бабуля, кінутая шасцю сваімі дзецьмі, збірала ля піўнушак і месцаў так званага "адпачынку" пустыя бутэлькі...

Мяне запрасілі ў аддзел прапаганды ЦК КПБ і сказалі, што я напісаў няпраўду. Праўда ж у тым, што Светлагорск – горад будучага, і бабулям у нашай цудоўнай рэспубліцы няма патрэбы збіраць бутэлькі, унукі іх не забіваюць, а пяшчотна песцяць і даглядаюць...

Праз нейкі час, мабыць, па дурасці, я напісаў пра тое, як у горадзе Чэрвені ў чарзе па карпаў, якія, дарэчы, выгадоўваліся ў тым жа славутым раёне, ледзь не да смерці збілі ветэрана, чатыры разы, і цяжка, параненага на вайне. Мясцовыя ўлады нахабна замялі справу...

Мяне ізноў запрасілі ў аддзел прапаганды ЦК КПБ і сказалі, што я напісаў няпраўду. Далейшая праверка на "дэтэктары праўды" выявіла, што ў нашай рэспубліцы-партызанцы ветэранаў у чэргах не збіваюць. Наадварот, іх прапускаюць наперад, ад чаго ім, як нікому, даступны ўсялякі дэфіцыт...

Ад таго часу, калі аднекуль з вяршыняў улады прамаўляецца гэта слова – ПРАЎДА, я ўпадаю ў глыбокі смутак і ціхую паніку ад дарэмна пражытага ў журналістыцы жыцця.

## Пра Сашу, пашу, "народ" і светлы шлях

– ...Ведаеце што? – Саша нахіліўся да майго вуха і горача зашаптаў, – калгас расейцам прадалі, гавораць, за дваццаць мільёнаў... Пачалося...

Саша – мой добры знаёмы з Камароўскага рынку. Калгас, дзе шафёрыў, кінуў яшчэ гадоў дзесяць таму, завёў невялічкі статак кароў, разам з жонкай пачаў вырабляць уласны сялянскі прадукт і два разы на тыдзень вазіць на Камароўку. Я быў у тым калгасе – руіны...

– ...адбяруць у мяне пашу, – працягваў Саша, – ці такія за яе грошы заломяць!.. Дзе кароў пасвіць буду?! А вы думаеце, Камароўку пакінуць? Паадчыняюць тут казіно з бардэлямі, панабудуюць гатэляў... Дзе гандляваць буду?! Народ? А што народ? Народу да лямпачкі...” “Вам жа ж вось не да лямпачкі...” “Дык то мне. А народу... Пойдзем, запытаемся ў народа”, – і Саша, падхапіўшы мяне пад руку, павёў праз мітуслівы натоўп...

“Народ” у бялюткім фартуху паўзверх спраўнай дублёнкі і ў гэткіх жа бялюткіх нарукаўніках узвышаўся над пірамідамі шклянак з мёдам і выглядаў вельмі здаровым, кроў з малаком.

“Слухай, – незаўважна падміргнуў мне Саша, – вось ты гаварыў, што табе ўсё роўна, пад кім жыць: ці то пад Расіяй, ці то пад Польшчай...” “Пад Польшчай не гаварыў”, – адгукнуўся “народ”, кінуўшы ў мой бок насцярожаны позірк. “Гаварыў, гаварыў, – настойваў Саша, – а краіны не шкада?” “Якой краіны?” – не зразумеў “народ”. “Тваёй, роднай тваёй краіны!” – пайшоў Саша белымі з чырванню плямамі. “А чаго яе шкадаваць? Жылі ж пад Расеяй, і няблага, лепш за расейцаў. А зараз у асноўным расейцы мёд у мяне купляюць... Багатыя...”

Глядзеў я на Сашу, думаў пра ягоную пашу... І згадаўся мне знакаміты калісьці старшыня знакамітага калгаса “Светлы шлях” Уладзімір Калачык.

“Баню, водку, обед и бабу!” – уваліўся да Калачыка заезджы маскоўскі чын... Увечары Калачык выцягнуў непрытомнага “госця” з-пад ложка, дзе той спагадліва паскугольваў, пагрузіў у “газік” і павольнай хуткасцю адправіў светлым шляхам у Маскву...

## Цырк шапіто

2015 год. Прамільгнула абвестка, што ў Мінску распачынае прадстаўленні цырк шапіто. Ужо нават прывезлі сланоў...

Шапіто... Шапіто... Суцэльны цуд і ці не адзінае свята пасляваеннай дзятвы...

Даўно не было ў Мінску цырку шапіто. Мо з таго часу, калі напрыканцы 50-х пабудавалі новы цырк, ці не самы буйны ў Еўропе. Мы, студэнты, таксама працавалі на будоўлі. Аднойчы нас накіравалі прыбраць будаўнічае смецце з падстрэшша. То бок з-пад купала. Я пераадольваю салодкую хвалю страху і гляджу ўніз.

Мабыць, так глядзяць з вышыні жыцця ўспаміны...

Апошнім разам цырк вернецца да мяне з Юрам Нікуліным, у 1965-м.

Ён з’явіўся, і ўсе засмяяліся. Ён не смяяўся, проста глядзеў на ўсіх трохі вінаватым і адначасова дапытлівым поглядам. І ўсе засмяяліся яшчэ мацней... Цесны чорны пінжачок, кароткія ў палоску нагавіцы, белая кашуля з гальштукам і плюскаты, нібы талерка, капялюш...

Ужо прайшоў па экранах фільм “Когда деревья были большими”, ці не першы праўдзівы фільм пра драму чалавека, які перажыў вайну. І ў цырку Нікулін быў куды бліжэй да свайго Кузьмы Ёрданава з таго фільма, чымсьці да традыцыйна-звыклага “кіношнага” Балбеса. Так, нібыта гаворыць ягоны герой, я смешны, нязграбны, зорак з неба не хапаю, люблю груба пажартаваць і выпіць... Але гэта таму, што мне не шанцуе ў жыцці. Часам я прашу вас пакінуць мяне ў спакоі. Але паверце, у мяне добрае сэрца. Як і вы, я маю права на чалавечыя пачуцці. І я больш не хачу ваяваць...

Усё сапраўднае мастацтва – літаратура, кіно, жывапіс – вынікала з гэтай усеабдымнай прагі да жыцця.

Праз дваццаць гадоў пасля вайны.

Праз сорак...

Праз 70 гадоў у мяне знянацку, паміж справамі, пытаюцца, ці думаў я, народжаны ў 41-м, што дажыву да новай вайны.

Праз 70 гадоў у Мінску ладзіцца дыскусія аб тым, “наколькі сур’ёзна выглядае зараз пагроза баявых дзеянняў для Беларусі і якія наступствы выклікае выкарыстанне ядзернай зброі”.

Якраз падчас цудоўнай красавіцкай навіны пра цырк шапіто...

## Папяровы жаўнер

На савецка-афганскай вайне Пятра прызначылі кіроўцам БМП, бо да вайны быў трактарыстам. Хутка БМП раскурочыў рэактыўны снарад. Загінулі ўсе восем – хто адразу, кагосьці дабілі. Пётр прыкінуўся мёртвым, што было не цяжка, бо кроў ажно свістала з амаль адарванай нагі...

Доўга яшчэ пасля вяртання ў сваю вёску на Вілейшчыне Пётр ніяк не мог прызвычаіцца да пратэза. Але ні ў якую не пагаджаўся працаваць падлікоўцам на калгасным складзе, куды, не ведаючы, што з ім рабіць, пасылаў яго старшыня. “Дайце трактар, – прасіў старшыню, – я здолею...” “Які трактар?!” – злаваўся старшыня...

Трактар яму зрабілі на трактарным заводзе, аб чым дамовіліся добрыя людзі. Намалявалі на шкле чырвоную зорку, такую, як на пінжаку. І пачаў Пётр на ім працаваць.

Але гэта не ўсё.

Гісторыя пра Пятра і трактар набыла шырокую вядомасць, пра яго сталі пісаць у газетах. І раптам высветлілася, што ўсё сваё маладое жыццё Пётр хацеў быць падобным да Марэсьева, а камсамольцы з трактарнага толькі і марылі аб тым, каб зрабіць трактар для героя...

Так з Пятра пачалі ляпіць папяровага жаўнера, з газетнай, так бы мовіць, паперы. Уцягнулі ў працэс “патрыятычнага выхавання”, які, вядома, без “франтавых ста грамаў” не абыходзіцца.

З цягам часу абедзве складовыя часткі працэсу зліліся ў адзіную плынь, якая аднойчы вынесла трактар наўпрост на прыдарожны слуп.

Трактар на тым жа заводзе адрамантавалі.

Але брыдотная плынь ужо несла Пятра бесперапынна. І данесла да лаўкі ў закутку райцэнтраўскага сквера, на якой ён і памёр. Гэтым разам па-сапраўднаму...

У Афгане ён здолеў сам перавязаць параненую нагу, суцішыць кроў і выклікаць па рацыі дапамогу.

Але па якой рацыі і па якую дапамогу ён мог дакрычацца з лаўкі ў райцэнтраўскім скверы?..

## Чырвоны аловак

Свой пачатковы журналісцкі вопыт я, студэнт гістфака, набываў, у тым ліку, з напісання артыкулаў да розных гістарычных датаў. Усё, зразумела, вытрымлівалася ў пэўных ідэалагічных межах, што было для выхаванца савецкай адукацыі зусім натуральна. Што праўда, межы патроху хісталіся, догмы размарожваліся, мякчэлі... Адліга, адным словам. І раптам убачыў на сваім творы пра Парыжскую камуну заўвагі галоўнага рэдактара буйной газеты. Увесь рукапіс быў скрэмзаны-перакрэмзаны чырвоным алоўкам, заўвагаў на палях з цытатамі Леніна-Сталіна было больш за сам артыкул, “буржуазный национализм” быў самай мяккай адзнакай маіх памылковых поглядаў. Але, як ні дзіўна, артыкул быў надрукаваны. У некранутым выглядзе... Потым мне распавялі, як доўга пераконвалі галоўнага, што ўжо “не тыя часы”, што “адліга”, што...

Прайшло тры гады. І вось нясу сваю першую нататку да першага намесніка галоўнага рэдактара першай у маім жыцці газеты, дзе ўжо працую. Нататка пра настаўніка, сапраўднага вясковага інтэлігента. Праз некалькі хвілінаў нататка

вяртаецца да мяне распісаная чырвоным алоўкам. Каб жа я ведаў, што слова “інтэлігент” было ў таго газетнага ваўкадава пад забаронай!

Ад таго часу я не бачыў на старонках сваіх артыкулаў “чырвонага алоўка” – так глыбока ён схаваўся ў маёй прафесійнай свядомасці, вымушаючы не тое каб хлусіць, але шукаць словы праўды, каб засталіся. І ператварыўся, урэшце рэшт, з ганебнай прыкметы самацэнзуры ў дакладны сродак этычных паводзінаў у журналістыцы...

## Першы Воін

Не памятаю ўжо, у якім годзе, але дакладна за тыдзень да 22 чэрвеня, пазваніла незнаёмая мне Наташа з Яўрэйскага абшчыннага дома, па-іншаму Хэседа. Маладым прыгожым голасам яна спытала, ці ёсць сярод маіх з яўрэйскага боку сваякоў ахвяры Халакосту – Яд Вашэм, ізраільскі мемарыял Халакосту, усё яшчэ збірае прозвішчы ды імёны. Я адказаў, што маім яўрэйскім сваякам пашанцавала, ахвяраў Халакосту сярод іх няма.

Праз колькі дзён Наташа пазваніла ізноў і спытала, ці не загінуў хто з маіх яўрэйскіх сваякоў на вайне. “Загінулі, – адказаў я, – але з беларускіх...”

– Мо ўсё ж успомніце яўрэйскіх? – настойвала яна.

І я ўспомніў. Успомніў цёмны вільготны паўпадвал на вуліцы Мяснікова, у доме з вышчарбленай чырвонай цэглы. Некалькі гадоў таму яго знеслі, каб не засланяў сваімі трыма паверхамі моднае казіно.

У гэтым доме, у паўпадвале з аднаго пакойчыка і нібыта кухні з печчу жылі бабуля Гіта – матуля бацькі, ягоная сястра Эма і яе дзеці: старэйшы Сёмік, Ліля і Мулік. Бабуля Гіта ўвесь час размаўляла сама з сабой на ідышы, а Мулік вучыўся граць на скрыпачцы, што праўда, з адпаведнай узросту нянавісцю. Потым Сёмік, а за ім і Мулік скончылі школу з залатым медалём, потым – МДУ, сталі вядомымі фізікамі-ядзершчыкамі. Спачатку ў Ерэване і Новасібірску, потым у Каліфорніі...

Успомніў я і фатаграфію іх бацькі ў ваеннай форме на вільготнай, у разводах, сцяне.

Я нічога не ведаў пра іх бацьку. Ведаў толькі, што імя яго было Абрам, прозвішча Хейфец і што ён загінуў на вайне.

Я паабяцаў Наташы дазнацца пра яго падрабязней. І пазваніў у Каліфорнію.

Сёмік, тады ён быў ужо на дзявятым дзясятку, распавёў мне, што іх бацька Абрам Гілелевіч загінуў недалёка ад Мцэнска, пахаваны ў сяле з незвычайнай назвай Першы Воін. У гэтым сяле яму стаіць помнік, а школа носіць яго імя...

Ажно да сярэдзіны 2000-х сусветныя агенцтвы паведамлялі аб смерці апошняга жаўнера Першай сусветнай – француза, брытанца, аўстралійца... Не ведаю, ці пачуем мы імя апошняга жаўнера вайны з германскім нацызмам – у былым Савецкім Саюзе такога рытуалу, лічыць жаўнераў да апошняга, – не існавала.

Ад першага таксама.

Але ж ён быў, Першы Воін, які загінуў на той вайне.

У кожнай сям’і – свой першы.

Мільёны, дзясяткі мільёнаў першых.

...Абрам Хейфец загінуў 6 кастрычніка 1941 года. Таго ж дня і я з’явіўся на Божы свет.

Такое вось гістарычнае супадзенне.

Зрэшты, я ўсяго толькі адказваў на пытанні незнаёмай мне Наташы...

Вольга Бабкова



…найважнейшыя рэчы ў жыцці

адбываюцца ў цішыні…

# Унутраны горад

*…і тады прастора латае тваю адсутнасьць*
*тваім сумам па сваім мейсцы ў прасторы.*

**Валянцін Акудовіч**

Як жа хочацца скруціцца ракаўкай, згарнуцца шчыльна, абхапіўшы рукамі калені і знерухомець на нейкі час, каб пасля выпрастацца ўдоўжкі, у струнку, расплюшчыць вочы і гуліверскім крокам рушыць у туман. Менавіта так зрабіла мая дачка, калі, праседзеўшы каля вакна ў чужым пад'ездзе на апошнім паверсе, асцярожна выйшла пасля апоўначы на пустую малазнаёмую вуліцу, зацягнутую дымам і гарам ад стрэлаў і выбухаў. Недзе ўнізе цякла Свіслач, значыцца, дом быў у іншым баку. Дзіўная рэч – ісці навобмацак па родным горадзе цёплай жнівеньскай ноччу, пераступаючы ўяўныя цені дрэў ды ліхтароў у маўкліні, ад якой закладала вушы. Праз кароткі час да яе далучыліся двое. Агаломшаны хлопец, што вылез з-пад куста непадалёк Кальварыйскага моста, і грамадзянін Ізраіля, які казаў па-англійску. Утрох яны спусціліся да Нямігі,

дзе разышліся моўчкі. Праязджаючы міма таго дома, кожнага разу заву яго пра сябе **Домам Евы**.

Пра ідэю "ракаўкі" хочацца патлумачыць, бо яна таксама – маленькі сімвал майго горада. Да таго ж сімвал, які перайшоў у спадчыну, бадай, з самога Замчышча, а дакладней, з Замкавай вуліцы. На адной з мінскіх калядных выставаў у мастацкім музеі пад шклом ляжалі вырабы са сплаву медзі і цынку – латуні: стрыблі, фібулы, пярсцёнкі, дзівосныя інсекты, якіх аб'ядноўвала адна выкшталцоная дэталь – спіраль, што набывала ў гэтых прадметах нейкую анталагічную рысу. Маўклівая касмічная ракаўка. Аўтарка аказалася дачкой Аркадзя Капілава, які напісаў найцяплейшую кнігу пра Мінск "Замкавая 2/7", Марынай. Калі зрэдку сустракаю яе на гарадскіх вуліцах, унутрана супакойваюся – горад на месцы! Аднаго разу пабачыла імклівую постаць з кіпай заколатых на макаўцы лятучых каштанавых валасоў на вуліцы князя Пятра Крапоткіна, і з таго часу вуліца атрымала ад мяне імя – **Вуліца Марыны Капілавай**.

А пачалося ўсё ў маршрутцы 1111, калі тая нечакана для мяне завярнула ад Кальварыйскага моста ў бок старой "Кароны", каб пасля вынырнуць на Нямізе, і я раптам згадала Славу Васілеўскага і тую жахлівую ноч у жніўні, якую перажылі разам з ім тут, на гэтай невялікай зялёнай вуліцы. Славу, які ўжо небажыхар, а ўсё дзяцінства і юнацтва жыў за сцяной суседняй кватэры і любіў прытупваць у такт нагой, калі граў на акардэоне і спяваў, а мы з братам стукалі кулачкамі ў сцяну. Пасля ён спяваў у пераходзе на Камароўцы, пасля ездзіў са сваім акардэонам па Польшчы і Нямеччыне і страшэнна ганарыўся, што ні дня не працаваў на дзяржаву. Згадаўшы Славу і той дзень, я ўпершыню падумала, што ў МАІМ горадзе – гэтая вуліца магла б звацца **Вуліцай Славы**. Бо сусед па дзяцінстве так шчасліва неабачліва далучыўся да нас у тую ноч, і пасля мы шалёна рагаталі, зганяючы моцны стрэс, бо ўвесь час ён прахадзіў і прабегаў у хатніх пантофлях, у якіх выйшаў з дому. Менавіта тут, каля драўлянага плота захінуў мяне сваёй моцнай рукой так, што мы проста зліліся з шырокімі грубымі дошкамі, а міма, амаль наступаючы на ногі і Слававы пантофлі, пракацілася, грукочучы, арда ў шаломах, не раўнуючы чорны жалезны гарох. А я калісьці лічыла Славу нязграбам ды недарэкам. Даруй, дарагі. Менавіта ў той маршрутцы падумалася, што такіх месцаў у МАІМ горадзе – безліч, і кожнае з іх вартае свайго імя, якім я з любоўю ўганарую ўнутраны горад маёй душы і памяці.

Бывае, у гарадскіх мінаках раптоўна пазнаеш нядаўна памерлых людзей. У самых розных месцах. Ідзеш, і раптам – маланкай працінае – бачыш у мінаку таго, каго быць на гэтым свеце ўжо не можа. І са здзіўленнем заўважаеш, што гэта не цела тваё рушыла насустрач, а памкнулася і ледзь не пакінула яго штосьці іншае, вокамгненнае. Цяпер я "натыкаюся" на тых, хто сядзіць за кратамі ці быў вымушаны з'ехаць, хто асіраціў гэты горад і мяне саму. Нават ледзь знаёмыя, яны займалі свае месца ў прасторы і былі неабходным незаменным пазлам нашага места. Сёння "сутыкнулася" з Бахарэвічам на пераходзе каля Круглай плошчы. Не дзіва, бо калісьці з іншага боку плошчы ішлі невялічкай групкай, смяяліся, рукаліся на развітанне і дамаўляліся па прапанове Альгерда сустрэцца на тым жа месцы праз дзесяць гадоў. Мы стаялі на лапіку вуліцы Кісялёва непадалёк ад аркі, праз якую, нібы праз браму, яшчэ нядаўна праставалі ў кнігарню Логвінава гарадскія паэты і *ламэдвоўнікі*, якая цяпер будзе звацца **Аркай Альгерда**.

Круглая плошча таму і звалася мінчукамі і маёй бабуляй Круглай, бо на магічнай мапе ўнутранага горада на ёй хапае прасторы, каб накрэсліць і згарнуць у спіраль пратаптаныя сцяжыны да маіх знакавых месцаў. Адно з іх тоіцца пад самой плошчай – у пераходзе метро, і я б назвала гэтую кропку пад зямлёй **Міхалавай Восенню**. Менавіта стоячы там, у самым цэнтры Мінска, не ўхіляючыся ад познекастрычніцкай проймы, разам са смаргонскай Таняй і рагачоўскай Настай, уголас па чарзе чыталі верш Міхала Анемпадыстава "Восень".

Па-над абшарамі шэрымі, чалымі
Па-над вазёрамі сінімі, чорнымі
Па-над ярамі і па-над пагоркамі...

А па-над зямлёй панавалі Дзяды. Урэшце, пад зямлёй яны пануюць заўсёды.

Заўжды лічыла наяўнасць трамвая і квітнеючых яблынь у горадзе прыкметай утульнасці. Іх прысутнасць невымоўным чынам улагоджвае агромністасць горада, згладжвае вострыя вуглы. Магчыма, усё вырашае памяць пра колішняе пазвоньванне і бразгатанне трамвая, асабліва на крутых спусках і пры паваротах. Быў у мінскім Верхнім горадзе адзін такі пагорак з рэйкамі пасярод бруку ў бок Свіслачы. Распавядаючы пра тыя трамваі, бацькі найперш згадвалі іх галасы. А квітнеючы сад пасярод горада нітаваў генетычную памяць гараджанаў. Хто б дзе ні нарадзіўся, адкуль бы ні прыехаў, кожны быў сведкам свайго Саду. Пражыўшы амаль цэлае жыццё ў Мінску, толькі ў апошнія гады я пабачыла ў скверыку ўздоўж праспекта на Круглай плошчы траву, засыпаную спелай алычой. Міма носяцца аўтобусы і машыны, каля недалёкага помніка адбываюцца пампезныя рытуалы, гудам гудзе наваколле, а жоўтыя слівкі спеюць і сыплюцца долу, нікім не запатрабаваныя, а таму ціхія і спакойныя. Я называю іх **Мірабэлі Агаты**, бо *мірабэлямі* называлі алычу ў маім ваўкавыскім дзяцінстве. Іх пасадзіла легендарная купалаўская артыстка Галіна Макарава, якая жыла на плошчы і праз перакруты жыцця мела іншае сапраўднае імя – Агата Чаховіч.

За домам Агаты-Галіны, калі падняцца па прыступках пад аркай з калонамі, а пасля яшчэ вышэй, прытуліўся стары двор, захінуты парараднымі фасадамі праспекта. Каштаны, якія растуць у тым цяністым месцы, цягнуцца ўвышкі, нібы імкнучыся зазірнуць за дахі камяніц, што крадуць сонечнае святло. Паміж ствапамі дрэваў гуляюць цэнтравыя дзеці, шмаргаюць пантофлямі па асфальце састарэлыя гараджане, што нясуць у торбачках з блізкага “Каравая” свежыя боханы. Тут, відаць, жылі, а магчыма, жывуць дасюль дынастыі мінчукоў. Але пазнаёміла мяне з гэтым дваром Алена, рэжысёрка Купалаўскага тэатра. Пазнаёміла і нібы паднесла той двор на Круглай плошчы як на сподачку для каштавання. Алена жыла тут кароткі час, але паспела ў дамешак да ягонай угрунтаванай мінскасці дадаць сваёй чалавечай светласці і празрыстасці. Таму двор гэты для мяне цяпер – **Двор Алены**.

Дом на высокім падмурку на Раманаўскай слабадзе насупраць кінатэатра “Беларусь” ад пэўнага часу завецца **Камяніцай Акудовіча**, бо некалі, ідучы па вуліцы, ў вакне на бакавой сцяне дома пабачыла постаць беларускага метафізіка, як, не раўнуючы, рухомую карцінку. Ён штосьці казаў, узмахваючы рукамі, і дужкі ягоных акуляраў блішчэлі з вышыні так прытульна і дзёрзка. Як пасля аказалася, насупраць яго за сталом сядзела Воля Калацкая, і яны горача аб нечым спрачаліся. На той час у тым доме месціўся легендарны Беларускі Калегіум, а ўнізе – даўняя мінская крама “Галаўныя ўборы”, дзе калісьці набыла сабе няўдалую зімовую шапку. Але ж ці бываюць зімовыя шапкі ўдалымі?

На вуліцы Сурганава, непадалёк ад Акадэміі мастацтваў, пачула гісторыю ад прыгожага мастака і музыканта, які, ідучы па вуліцы, нібы намаляваў той аповед словамі, таму відзежа засталася непарушанай часам. Калісьці яму давялося жыць у адной еўрапейскай краіне ў сям’і мастакоў. Муж быў белым, жонка – цёмнаскурай, ці наадварот? Іх аскетычны дом уяўляў сабой свет, створаны з дапамогай выключна двух колераў – чорнага і белага. Кафля, плітка, мэбля, карціны... Гэткая выключная канцэптуальнасць сталася адзіна магчымай, дзякуючы сустрэчы двух людзей. Вобразнасць гэтай гісторыі ўразіла, бо была праявай адной з бясконцых формаў любові. Шматлюдная цесная мінская вуліца для мяне запаволіла бег і атрымала імя Тодара, які намаляваў карціну на хаду. **Вуліца Тодара**.

Фрагмент Нямігі ў раёне былога Ніжняга рынка пасля моста, які звычайна хутка прабягаеш, бо памятаеш, як зверху за каршэнь магла накрапаць іржавая расталая вада, мае назву **Месца моцных абдымкаў**. Тут, на кароткім пераходзе, *дзе стамляюцца змяняцца сляпыя вочы вечных светлафораў*, мы радасна сутыкнуліся з прыгожай цёплай дзяўчынай Юляй, носьбіткай моцнага спеўнага голасу. Складана было разляпіцца нават тады, калі запалілася чырвонае святло, бо яна рэдка з'яўлялася ў горадзе, а наступнымі днямі мусіла пакінуць яго ледзь не назаўсёды. Хто ж тады ведаў сваю будучыню? Хто ведае яе цяпер? Наперадзе яе чакала далёкая краіна з зялёнымі гарамі, а ўспамін вяртаў на вясновыя дарожкі прытульнага Аляксандраўскага сквера ўзору 2020-га, па якім мы калісь наразалі колы і гаварылі-гаварылі. Сёння моцныя абдымкі засталіся найвыразнай формай прыязнасці і салідарнасці пры раптоўнай сустрэчы на вуліцы, на праспекце, на пераходзе. Была сведкай такой сустрэчы, дзе другую, старэйшую Юлю, абняў яе даўні знаёмы проста пасярэдзіне перахода на Круглай плошчы, перад вачыма кіроўцаў машын, маршрутак, доўгай жоўтай соткі, што фыркала, прыціснутая да ходніка. Абняцца, каб не развітвацца навек.

**Мост сустрэч** – былы Хлусаў мост. А цяпер той, па якім ідзеш проста ў абдоймы Язэпа Драздовіча на Траецкім, ці пад ягоным блаславеннем у бок Нямігі. Можна цэлы дзень хадзіць па горадзе і не сустрэць нікога са знаёмых. Але рэдка калі такое здараецца на гэтым мосце праз Свіслач. Тут пратупатала безліч ног, сярод якіх сотні нябачных слядоў маіх бацькоў, якія крочылі на працу ў музей Максіма, а пасля праводзілі і сустракалі адно аднаго, каб вяртацца разам. Тут, на мосце, апалілі мяне калісьці карыя ўважлівыя вочы. Тут мы абдымаліся з Данутай, Нікай, музейшчыцай Тацянай... Тут ішлі рука пры руцэ з дзяўчынай, якой больш пасавала быць птушкай. А калісьці мост быў драўляным, і хлопцы з Замчышча лавілі на ім шчупакоў арэхавымі вудамі і прадавалі на Рыбным рынку колішняй Нямігі. Недзе побач жыў мінскі рыбак-філосаф Юзік, які марыў аб аднаўленні знесенай у 1950-х Замкавай гары, бо "Замчышча без гары, што кручок без прынады". Пра ўсё гэта занатаваў Аркадзь Капілаў. Калісьці па мосце *хадзіў* трамвай да брамы на Старажоўскіх могілках, не пакідаючы слядоў.

У старых карпусах базыльянскага кляштара на Верхнім горадзе ў сярэдзіне 80-х яшчэ жылі людзі. На дзвярах былых келляў віселі нумары кватэр. Цьмяныя лямпачкі асвятлялі гатычныя скляпенні і цесныя калідоры з безліччу трантаў. Драўляная лесвіца на другі паверх была стаптанай і рыпучай, а на ім стаяла вялікая **Шапа**. Гэта была зусім няпростая шафа, бо на ёй таксама вісеў нумар, а пад дзвярыма ляжаў дыванок. Верагодна, там жылі. За шафай цягнуўся шэраг гарачых батарэяў, дзе мы аднойчы пасярод аблožнай зімовай начы таемна грэліся, прытуліўшыся спінай, седзячы на кукішках, бо не хацелася развітвацца, а ісці яшчэ не было куды. Кожны гулкі крок па тых доўгіх калідорах па-здрадніцку адгукаўся рэхам на ўвесь стары кляштар.

Юбілейную плошчу ў месцы, дзе пачынаецца спуск па Мельнікайтэ ў бок Ямы, заву **Пляцам Бабулі**. Тут калісь месціўся рынак, куды мы хадзілі разам купляць цыбулю. Магчыма, нешта яшчэ, але памятаю адно цыбулю з доўгімі хвосцікамі, якія бабуля пасля сплятала ў вялікую касіцу і падвешвала на кухонны цвік. Яе накладала ў сеткі суседка па пад'ездзе цётка Валя Дзядко, выбіраючы з пульхных ад залацістага шалупіння мяхоў галоўкі цыбулі сярэдняга памеру. Мы заходзілі праз браму на рынак, шукалі нізкі, цёмны ўсярэдзіне павільён, дзе пахла кіслай зямлёй з гароду, пасля выходзілі на святло і рушылі дадому. Чамусьці ўсе ўспаміны гэтага часу згадваю праз свае сандалі з выцертымі мыскамі на пальцах.

Вуліцу Купрыянава я б называла **Вуліцай Новіка-Пеюна**, бо тут ён жыў, сюды прыходзіла шмат цікавых людзей, тут за паркалёвай фіранкай, нацягнутай упоперак пакоя, вісела на сцяне Пагоня, вышытая роднай сястрыцай Кацяй са

Слоніма. А за кухонным вакном заўсёды – шматок сала для сініц. Сухенькі, лёгкі, светлы Сяргей Міхайлавіч нячутна перасоўваўся па невялікай прасторы паміж пісьмовым сталом, кніжнай паліцай, гарой ахайна перавязаных стосаў з паперамі на падлозе і шчыранька радаваўся кожнай цікавай гісторыі, паляпваючы сабе па каленях ад задавальнення. Падпісваў сябе "Маладзенькі дзядок" на простых (цяпер вінтажных) пакуначках з аўсяным печывам і цукеркамі для сваіх маленькіх выхаванцаў, у тым ліку маёй пяцігадовай дачцэ. – "Ці замовіла ты краты на вокны?" – пытаўся мяне з самым сур'ёзным выразам твару. – "Навошта?" – дзівілася я. – "Як навошта, ратаваць ад будучых кавалераў Ганульку!" – і вясёленька смяяўся. А тую легендарную Пагоню за фіранкай, дарэчы, пазычалі на выставу ў Дом урада ў гады набыцця нашай Незалежнасці.

Сярэдзіну ўніверсітэцкага сквера, калі ісці ад галоўнага корпуса да вакзала, заву **Скверам Хведара.** Менавіта там ён сказаў мне тое важнае пра зоркі над нашымі галовамі, што не дае веры прызнаваць ягоную адсутнасць на гэтым свеце. Бо тое, што казаў тады, было разлічанае на вечнасць. Сапраўды не бачу Хведара Крываноса памерлым. Ведаю, што *т у т* яго больш няма, але нібы знаю і нешта большае. Не тое, каб адчувала "прысутнасць", хутчэй спакойную веду пра існаванне ягонай жывой душы, якая, нібы паветра, поруч... Нядаўна ехала ў аўтобусе насупраць мужчыны, які нагадваў сябра. Асабліва хударлявасцю, запаласцю светлых вачэй і тым, як адмыслова, па-Федзеваму растуць валасы, Глядзела і спакойна ўсведамляла, што ведаю пра адсутнасць Хведара штосьці значна большае.

У Мінску дасюль стаяць рэшткі будынкаў былога тонкасуконнага камбіната, дзе працаваў мой тата. Іх пафарбавалі брунатнай фарбай і пакуль не знеслі дарэшты. Крывы контур шчыльнай забудовы і доўгіх дахаў на пагорку нагадвае мне фрагмент Мінска ўзору 1920-х, калі, паводле Кузьмы Чорнага, *вада Свіслачы ўвечары мацней пахла гарадской цеснатой.* У бок Свіслачы адсюль цячэ нябачная нікому Няміга. Да яе на глыбіню зазіралі адно тады, калі адсоўвалі люкі і скідвалі ў бездань гурбы талага снегу з тэрыторыі камбіната. На вежы аднаго з уваходных будынкаў на прахадной вісеў наш сцяг, пашыты, відаць, самімі работнікамі з трох кавалкаў тканіны. Калі час перакуліўся і сцяг загадалі зняць, каб утылізаваць, мой тата залез па маленькай прымацаванай лесвічцы, зняў выцвілае ад часу палотнішча і занёс дадому, каб уратаваць. Праязджаючы амаль кожнага дня обак пляца Францішка Багушэвіча, гляджу на вежачку з лесвіцай і бачу празрыстыя абрысы свайго таты, які падымаецца па ёй, напэўна на хвіліну запыняецца і аглядаецца навокал, бо гэта цікавы спазор – з вышыні. А пасля са сцягам спускаецца долу. **Татава лесвічка ў неба.**

На мокрай лаўцы каля аўтобуснага прыпынку на Лермантава ляжала кніга. Некалькі чалавек туліліся пад пластыкавай паветкай. Я вельмі здзівілася. Самотная кніга на лаўцы – "Жанчына ў пяску" Коба Абэ. Ва ўяўленні адразу паўсталі ўспаміны, нават колеры і пахі з мінулага, бо такую самую мелі некалі ў хатняй бібліятэцы. Пакуль вандравала думкамі туды ды назад, да кнігі падсела дзіўнаватая жанчына з падранай цыратавай торбай і скоса пачала прыглядацца да жоўтай вокладкі. Пад'ехаў аўтобус. Кабета і кніга зніклі незаўважна. Цікава, куды яна прывандруе далей? Калі цяпер іду на аўтобус, думаю – ага, падыходжу да **Прыпынку Коба Абэ.**

На праспекце насупраць цырка стаіць самавіты дом. Унізе – кавярня, якая паспела ўжо змяніць безліч назваў. Непадалёк, злева і справа – гарадскія паркі. Адсюль да дома даволі далёка як на мае сем-восем гадоў, але аднойчы мне дазволілі за кампанію з сяброўкай паехаць сюды да яе сваячкі. Мяне адпусцілі толькі таму, што сяброўка была крыху старэйшая і адказная, нават навучыла мяне чытаць перад школай. Горад навокал шумеў. Знаёмым у ім выглядаў адно

цырк. Мы падняліся на неверагодным для мяне ліфце на апошні паверх. Здаецца, сцены ў тым пад'ездзе былі цёмна-зялёныя. Марына пазваніла. Дзверы адчыніла рудая жанчына ў фартуху. З кватэры густа пахла салодкім духам і яшчэ чымсьці смачным. Гаспадыня прапусціла сяброўку ў кватэру, зірнула на мяне і зачыніла дзверы. Я засталася на пляцоўцы адна і страшэнна разгубілася. Хвілін праз пяць вырашыла пайсці адтуль, хаця дарогі назад не ўяўляла. Неўзабаве Марына выйшла са свежым піражком у руцэ. Адным. З гарачым павідлам. Мы моўчкі спускаліся па лесвіцы. Марынка разламала піражок напалам, і павідла плюхнула на прыступкі. Калі мне бывае няёмка і кепска, то душуся затхлым паветрам чужога скваннага жытла. Дом той запомніўся як **Дом гарачага павідла.**

Каля даўняй мінскай антыкварнай крамы, што на праспекце, прытулілася была кавярня пад летнімі парасонамі. Амаль заўсёды бязлюдная на тле імклівага руху горада. Я заву гэтае месца – **Кавярня Дэвіда Боўі,** хаця цяпер там пуста і ветрана. Але ж было лета, і за адзін з вольных столікаў прысеў чалавек у клятчастай кашулі. Ён замовіў малінавай гарбаты і мройна паглядаў на праспект. Я чакала сяброўку, і калі яна прыйшла, з незнаёмым чалавекам за суседнім столікам штосьці пачало адбывацца. Ён пільна ўглядаўся ў твар маёй Лены, раптоўна адводзіў павільгатнелыя вочы, курыў, крыху разліў гарбату. Урэшце прамовіў, што моцна ўражаны падабенствам маёй сяброўкі са сваім сябрам... Дэвідам Боўі, вялікім музыкантам. Аказалася, што чалавек у клятчастай кашулі нядаўна прыехаў з Лондана, каб наведаць маці, якая цяпер жыла ў Раўбічах і вырошчвала касачы. Кажучы пра маці, чалавек летуценна заўсміхаўся. Сам жа ён – карэнны мінчук, але ўжо колькі гадоў – жыхар Брытаніі. “А мая сяброўка – мастачка”, – сказала я. “Больш за ўсіх на свеце я люблю музыкантаў і мастакоў”, – прызнаўся незнаёмец, і вочы яго ізноў павільгатнелі. Я пасля доўга параўноўвала фота Дэвіда і Лены і сапраўды знайшла падабенства – у асаблівым разрэзе/вырaзе вачэй.

Мне падабаюцца назвы “Верхні горад”, “Плошча Свабоды”, але ў маім уяўным каталозе існуе яшчэ адно імя гэтай мясціны – **Пляц Зянона**. У тыя гістарычныя часы, калі яшчэ не з'явіліся мабільныя тэлефоны, а на плошчы зеўралі сваёй адсутнасцю месцы будучай ратушы і Святадухаўкі, сабралася вялікая сціжма ўхутаных людзей. Лютаваў мароз. Заснежаная плошча, на якую мы прыйшлі, пакліканыя “па ланцужку” званком гарадскога тэлефона, рыпела пад нагамі. У Мінску пачыналі будаваць метро. Камяніцам на целе старога горада пагражала згуба. Страчаная Няміга з дакорам паглядала ў нашыя завеяныя снегам спіны. Усе чакалі прамовы Зянона. Яго ўсё не было. Людзі прытоптвалі і хукалі ў рукавіцы, амаль прытанцоўвалі. Раптам схамянуліся, пацягнуліся ў адзін бок і знерухомелі. На ўзвышэнне падняўся хударлявы чалавек у доўгім чорным восеньскім палітоне. Ён зняў шапку і пачаў казаць. Вось гэты момант і запомніўся асабліва. Аголеная, завостраная на макаўцы галава, чорны шалік, шапка ў руках. Пранізлівыя словы пра любоў да горада. А мароз тады сапраўды знік. Было рэальнае адчуванне, што яго растапілі горача прамоўленыя словы.

Оперны тэатр, Асмалоўка, Аліварыя, Белая вежа... Сюды далятаюць водары соладу і печанага хлеба з блізкай Старажоўкі. Назвы гэтых мясцін, як гарадскія шыфры – націсні пальцам на нябачную панэль, і – калі ласка, – ты тут – пасярод камяніц і бэзу, на ўтравелых сцежках ў самым цэнтры горада. У Асмалоўцы. Я заву гэтую мясціну – **Кварталам Стрэльнікава**, бо ў колішнім даўнім лістападзе ён зладзіў тут рухомую пляцоўку для жывога тэатра, калі ўсе ўдзельнікі, разам з дрэвамі, воранамі і зляжалай травой, дыхалі адным рытмам амаль у антычным памеры. Такая была ягоная задума. Ажывалі былыя цені і цугам крочылі з двара ў двор крок за крокам услед за прыгажэннымі людзьмі з паходнямі, якія разварушвалі застылую прастору і нібы перайначвалі яе. Стваралі новыя вымярэнні, няхай

часовыя, але захапляльныя і незабыўныя. Крочачы поруч і заўважаючы новым зрокам не бачаныя раней дэталі, падумала тады, што гэты хударлявы, усмешлівы, з біблейскімі вачыма ствaральнік і павадыр, не раўнуючы Оле-Лукойе, гаспадар мрояў гэтага горада.

А нядаўна я закручвалася ў спіраль разам з ланцужком новых для мяне людзей пасля таго, як усе разам за чатыры дні паставілі спектакль “Антыгона”, дзе сцэнай была лясная паляна каля возера. Гукамі – шоргат восеньскай лістоты пад нагамі і сухога чароту на беразе. Святлом – рэдкае сонечнае сяйво праз галіны дрэў. Атрымалася жывая ракаўка з цэлаў трыццаці чалавек. Шчыльная, цёплая, з дзясяткамі заплюшчаных на імгненне вачэй. Маўклівая. Мы ж ведаем ужо, што найважнейшыя рэчы ў жыцці адбываюцца ў цішыні.

Мой унутраны горад нагадвае панцыр агромністай чарапахі, які размалёўваю і размалёўваю ў цішыні, а вольныя месцы не сканчаюцца...

Васіль Аўраменка



...ці можа лёс сапраўднага прарока быць іншым?..

# Радно і крыж Анатоля Сыса

*"Незалежнасць – гэта..." – пісаў у 1990 годзе Уладзімер Арлоў у сваім знакамітым эсэ. І для большасці слова "незалежнасць" тады стала адкрыццём, акном у вольны свет, пачаткам новай эпохі і невядомых раней магчымасцяў. Быў, праўда, чалавек, для якога той час стаў зенітам славы і, адначасова, – схілам яркага творчага палёту, які хутка перайшоў у самотныя бадзянні па нізінах бязмэтнага існавання. Прага незалежнасці выявілася татальнай залежнасцю ад жорсткіх будзённых праблемаў і наканаваных лёсам непераадольных каляінаў жыцця. Гэтым чалавекам быў паэт Анатоль Сыс.*

Паэзія не прафесія і нават не стан душы. Гэта – крыж і цяжар паклікання, і, каб выжыць, ты мусіш яго несці няспынна. Паэзія – гэта залежнасць, накшталт наркатычнай, і той, хто сапраўды паспытаў яе чары, рэдка можа ад іх адмовіцца, хіба толькі патрапіўшы ў якую іншую залежнасць. Паэзія – вольная пані, і ніхто не можа сілай набіцца да яе нават у каханкі (а не тое што ў мужы), пакуль яна сама не зробіць свой выбар. Але ж тады ўжо літасці не чакай...

Вось такім рэдкім абранцам і быў А. Сыс.

Часта пытаюцца:
як вершы пішуць?
А як жыццё жывуць.
Вось Тэатар Лоркі:
правым вокам ён плача слязу радасці,
левым вокам ён плача слязу гора,
і, зліваючыся,
яны нараджаюць вечную пакутніцу –
паэзію.



*Анатоль СЫС.*

Сыс часта піша пра паэзію і пра паэтава наканаванне, вядома, праектуючы ўсё на сябе. Ён увогуле творца аўтабіяграфічны, эгацэнтрычны (але рэдка эгаістычны), у тым сэнсе, што піша толькі пра сябе і праз сябе, заўсёды максімальна шчыра, эмацыйна, да болі надрыўна. Вершы яго з густой метафарычнай фактурай, без “вады” і лішніх слоў, у іх шмат дзеяння, жарсці, “полымя”, ”крыві” і “бруду”, памкнення за абсягі чыстага, прыўкраснага мастацтва. Як для беларускай паэзіі ён, бадай, самы “болесны” і трагічны аўтар нашага часу. Пра што б ні пісаў, галоўны герой ягоных вершаў – ён сам. А паколькі творчасць для яго не эстэтычная забаўка, не лёгкая гульня ў словы ці постмадэрновыя рэбусы, то эмоцыі і падзеі, што адбываюцца ў вершах (і жыцці), нават з улікам паэтычных гіпербал і фантазій, зусім не бяскрыўдныя для ментальнага стану і псіхікі аўтара. То бок, творчасць у ягоным выпадку становіцца не толькі спосабам існавання, але і паступовага самаразбурэння, часам – самазнішчэння. Бо паэзія – гэта яшчэ мастацтва “раскідвання камянёў”, ды не простых кавалкаў двухвокісу крэмнія, а “камянёў” адмысловых – з кавалкаў уласнай душы, з аскепкаў духу, волі і слоўнай энергіі. Нехта спрытна кідае маленькую пляскатую гальку, і яна весела скача па вадзе, пакідаючы на паверхні роўныя прыгожыя кругі, якія хутка знікаюць. Нехта кідае цяжкія глыжы, і яны, нібы бомбы, гучна бухаюць у ваду, уздымаючы фантаны пырскаў і доўга не заціхальныя хвалі. А нехта рушыць цэлыя глыбы, аграмадныя адломкі скалаў, якія, падаючы ў ваду ці на сушу, не толькі выклікаюць страсенне паветра, вады і зямлі, але мяняюць ландшафт, ствараюць новыя “выспы”, “узгоркі” ці “курганы”. Па іх абрысах і праз шмат год можна пазнаць аўтараў-стваральнікаў новай паэтычнай рэальнасці. Нярэдка такія страты (духоўныя і фізічныя) занадта вялікія, і чалавек не ў стане ўжо вярнуць тое, што згубіў пад час творчага “выбуху”. Толькі магутны мастак, прыроджаны творчы “марафонец” ці геніяльны духоўны майстар можа аднавіць тыя страты ды загаіць атрыманыя раны. Сярод паэтаў, на жаль, гэта не такая частая з’ява, і лёс Сыса якраз таму сведчанне.

Паэт, бы забойца, начамі не спіць:
а жонка сапраўдная чуе,
як кожная жылка ў мужа трымціць.
Прывыкла. З паэтам начуе.

У паэта, дый амаль у любога мастака фантазіі, канфабуляцыі, уяўныя вобразы ці мроі-галюцынацыі і ў жыцці, і ў творчасці – звычайная справа. Гэта не нон-

фікшн і не дакументалістыка, але ў Сыса яно спалучаецца з гранічнай шчырасцю, адкрытасцю, часам абуральнай і незразумелай простаму абывацелю.

Дзяўчына з вачыма колеру піва,
калі я ад смагі канаў,
цыцкай сваёю мяне адпаіла,
паслала пасцель,
перад гэтым памыла,
прылегла са мною,
цнатлівасць згубіла...
Я пальцам яе не кранаў.

Пазамаральнасць, ігнараванне правілаў "добрага тону" і агульнапрынятых нормаў паводзінаў – працяг той самай гіпершчырасці, якую спавядаў і якой кіраваўся ён усё жыццё. І хоць гэта было адной з галоўных прычынаў, чаму грамадства і творчы асяродак дыстанцыяваўся ад паэта апошнія 15 гадоў яго жыцця, ён застаўся незалежным і ад грамадскага меркавання, і ад намаганняў блізкіх нешта памяняць, але верным сваім звычкам, правілам і заганам. Нягледзячы на перманентны пажыццёвы эпатаж і нязручнасць суіснавання з ім для родных, сяброў і знаёмых, нельга сказаць, што гэта было праявай снабізму, мізантропіі, вытанчанага цынізму ці спробы ўзвысіцца за кошт прыніжэння іншых. Хутчэй тое выглядала прапановай людзям пабыць як дзеці – простымі і шчырымі, часова стаць роўнымі – "голымі" і "бясполымі", як у фінскай лазні, судакранацца і гаварыць толькі "душамі", адкінуўшы сацыяльныя ролі, амбіцыі ці кар'ерныя рэгаліі. Утапічнасць і немагчымасць такіх паводзінаў у сучасным соцыўме была відавочная для ўсіх, акрамя дзівака-паэта.

Увогуле Сыс – чалавек "не ад гэтага свету", ці дакладней – не з гэтага часу, бо наскрозь мінула-дальні, патрыярхальны, часам – архаічны. Вельмі арганічна выглядаў бы ён у Беларусі і 100, а ў Еўропе і 150 гадоў назад. Ён цалкам звернуты ў мінулае, у жыццё простага народа, у легенды, паданні, міфы. І вядома ж, у паганства. Гэта цалкам ягоная стыхія, як і для многіх беларусаў, што толькі павярхоўна, умоўна-рытуальна закранутыя хрысціянствам. Спраўджаныя, свядомыя вернікі Хрыста, хто да канца асэнсаваў і прыняў яго веравучэнне, пасля ахвяры Богачалавека ўжо не маюць патрэбы ў паганскіх капішчах, ахвярапрынашэннях, гэтак жа як і ў прароках. Ісус быў апошняй, усёвыкупляльнай ахвярай і апошнім прарокам. Далей трэба толькі наследаваць догмам і законам ягонай царквы ды рыхтавацца да другога прышэсця. Шлях існага хрысціяніна прамы і ясны, як і лінія прагрэсу – толькі ўгору, толькі наперад, толькі ад мінулага ў будучыню і ад горшага да лепшага. Але нешта разломвае гэтую схему, не дае наўпрост патрапіць да жаданае мэты, не парушыўшы чагосьці важнага, істотнага, бадай непазбежнага.

Для Сыса гэта – патрэба быць ахвярай, пакутнікам, прарокам, жывым шляхамуказальнікам для іншых. Як сапраўдны словатворца ён падобны да Першатворцы, а як верны сын сваёй зямлі-Радзімы падобны да Сына Чалавечага, а галоўнае – гатовы таксама стаць прыступкай у будучыню, апірышчам для свайго народа. "*І Сыс – Хрыстос*" – ці то жартам, ці то сур'ёзна, бывала, казаў ён падчас сваіх бадзянняў. Каламбур спісвалі на яго заўсёдную эпатажнасць і хмельную затлумленасць, але я думаю, тут была і свая рацыя.

Яшчэ ад часоў Багдановіча і Купалы ў беларускай традыцыі павялося зачынальнікаў паэзіі называць "прарокамі", укладаючы ў гэта слова не першапачатковабіблейскі, а сучасны секулярызаваны сэнс. То бок, чалавек, які не толькі запачаткоўвае літаратурную традыцыю ці нацыянальнае пісьменства, але прадбачыць наперад, прадказвае лёс народа і накрэслівае шляхі для наступнікаў. У сучаснай версіі гэта хутчэй дасведчаны палітфутуролаг, што прадбачыць на некалькі хадоў наперад гістарычны рух, ці праніклівы адмысловец-гуманітарый, што складае ўдалы

перспектыўны план, які будзе паспяхова рэалізаваны ў будучыні. Аднак у старых пракокаў, як і ў нашага героя, іншы, ірацыянальны сюжэт: не цвярозы матэматычны разлік ці новыя веды-тэхналогіі, а толькі вера і ахвяра, боль і пакута могуць быць брамай у прышласць, гарантыяй будучага шчаслівага жыцця. Гэта, бадай, яшчэ паганскі падыход, калі толькі задобрыванне багоў і духаў, дары і ахвяраванні лічыліся надзейным "пропускам" у будучыню. А самай важкай і дарагой ахвярай былі пакуты і, канечне, жыццё чалавека. Такі дагістарычны спосаб "інвестыцый у будучыню" быў адрынуты хрысціянствам і прагрэсам, але ж цыклічнасць сялянскай працы і патрыярхальнага жыцця беларуса, назіранне за штогадовым кругазваротам смерці і нараджэння, залежнасць тутэйшага чалавека ад прыхамацяў прыроды жывілі паганскія традыцыі і паганскую веру ў сілу ахвяры. Сёння мы гэта называем містыкай і цемрашальствам, а калісьці то быў адзіны "рэальны" і "дзейсны" спосаб спрыяць прышласці ці наблізіць лепшую будучыню.

Гараць камяні ў маім вогнішчы,
расквечаныя агнём,
нібы ваўчаняты ў логвішчы
сонечным прамянём.
У твар мне шугае полымя,
ды я ўсё адно бяру
каменні рукамі голымі
і гэткім, як сам, дару.
Бяруць і да сэрцаў туляць:
няхай нас ратуе боль...
...Дай Бог, каб маё каменне
аднойчы іх апякло,
прымусіла ўстаць з каленяў,
пайсці на маё святло.

Анатоль Сыс, верны сын свайго народа і законны спадкаемца сваіх бацькоў, атрымаў у спадчыну і творча рэалізаваў культурныя, гістарычныя і генетычныя коды, стаўшы нарэшце тым, кім мы яго ведаем. Яго паэтычны і "прароцкі" ўзлёт у другой палове 80-х супаў з часам абуджэння беларускага нацыянальнага руху, наклаўшыся на так званы этнаграфічна-культурніцкі перыяд (дзейнасць "Талакі" і "Тутэйшых"). Тады зварот да народных традыцый, патрэба ў гістарычных міфах і рэмінісцэнцыях патрапілі ў рэзананс з духоўнымі пошукамі і паэтычнымі знаходкамі маладога аўтара. Ён сапраўды прамаўляў словамі і вобразамі "Купалы-Багдановіча", прарока, што ажыў у "новым целе" і валодаў больш экспрэсіўнай, сучаснай, энергічна-выбуховай мовай. У гэтай "рэінкарнацыі" насамрэч было нешта эзатэрычнае, ірацыянальнае, як быццам бы паэты знішчанага пакалення праз часавую прорву, праз "сусветны эфір" перадалі эстафету і спрыялі з'яўленню на свет напрыканцы стагоддзя такому паэтычнаму феномену. Але настаў 1991 год. Прыйшла нечаканажаданая незалежнасць, і новыя рэаліі абрынуліся на Беларусь. Хтосьці сышоў у палітыку, хтосьці ў бізнес, хтосьці ў "трэці сектар" ці ў папулярызатары гісторыі, а хто ўвогуле падаўся за эмігранцкай "птушкай шчасця". Патрабаваліся прафсаюзныя лідары, менеджары, журналісты, эксперты, дыджэі адраджэння, ці хаця б байцы і валанцёры палітычных партый. А вось прарочых вакансій ужо не было. Дый паэзія так і не стала прафесіяй, а таму наш герой застаўся не пры справах і суздром беспрацоўны.

Упісацца ў новы сацыяльны расклад перашкаджала яшчэ некалькі акалічнасцяў. Пра адну з іх ужо казалася вышэй – непрадказальнасць паводзінаў у грамадзе і татальнае панібрацтва ў зносінах з іншымі. Другой была яшчэ не астылая гучная слава, "зорная хвароба" і вялікая колькасць сяброў ды прыхільнікаў, якія першы час сяк-так падтрымлівалі знакамітасць "на плыву". Была і яшчэ адна прычына, больш

банальная і “простанародная”, якую многія ставяць на першае месца – схільнасць да алкаголю. Такую ж праблему меў і бацька Анатоля, але той усё жыццё працаваў і дажыў з ёй да старасці. Невядома, ці быў гэта алкагалізм, ці толькі бытавое п’янства, але доўга існаваць без выпіўкі апошнія 15 гадоў паэт ужо не мог. Сам ён катэгарычна адмаўляў алкагольную залежнасць (а хто й калі ў ёй прызнаваўся?) і тым больш лячэнне ад яе. Але, як бы там ні было, злоўжыванне спіртным нікому не дадае здароўя, і смерць А. Сыса ў 2005 годзе абумоўлена якраз наступствамі гэтай шкоднай звычкі. Між тым, творчасць наўпрост не залежыць ад віна, бо колькі вядомых аўтараў-выпівох плённа працавалі і ў часы алкагольных рэмісій, і пад хранічным уздзеяннем акавіты. Не алкагольная залежнасць стала прычынай амаль татальнага паэтычнага маўчання Сыса ад пачатку 90-х. Важнейшымі якраз былі грамадскія абставіны, пра якія казалася вышэй, але найперш – творчая вычарпанасць і духоўная выпаленасць пасля фенаменальнага ўзлёту 80-х. Сказаць нешта яркае, новае, нечуванае, вышэй за ўжо агучанае не было з чаго, а самапаўтарацца, фальшывіць, пісаць дзеля “колькасці” і ганарару ён не мог. Гэтак жа, як і не здолеў пераступіць праз свае звычкі, прымхі і заганы. Так па інерцыі і каціўся ён з году ў год па каляіне лёсу пад жыццёвы схіл.

Маё жыццё – гняздо з калючых руж.
Не Беларусь, маё жыццё – Радзіма.
О Божа-мазахіст – і я, бы вуж,
дзяру з сябрамі скуру каля Рыма...

Так прынародна, з самазабойчым задавальненнем здзіраў ён з сябе рэшткі грамадскай павагі, побытавага дабрабыту і луску былой славы. Бажаволак, блазан, лузер, бамж-валацуга – уражанне, якое пакідаў ён апошнія гады ў тых, хто не ведаў яго ў лепшыя часы. Але ж быў, быў у Сыса яшчэ адзін талент, які б мог затрымаць ягонае падзенне. Яго артыстызм. Ён быў артыстам, адметным прамоўцам, таленавітым дэкламатарам. І калі б прафесійным акцёрам стаў раней, чым знаным паэтам (а такая магчымасць была, ён паступаў, ды не паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут), хто ведае, мо гэтая прафесія дапамагла б лягчэй інтэгравацца ў новае гарадское жыццё. А праблема, тыпова беларускі комплекс – “сена на асфальце” – была і ў яго, вясковага хлопца з невясковымі амбіцыямі, і хіба што не стала цэнтральнай, як для старэйшага пісьменніцкага пакалення. Яго гняло сталічнае жыццё без сталай занятасці і “гарадской” прафесіі, ён разрываўся між родным Гарошкавам і тлумным бадзяннем па Менску. А прыроджанае акцёрства не знайшло карыснага ўжывання (як, напрыклад, у Высоцкага), бо, пэўна, надзяваючы маскі іншых герояў, пражываючы на сцэне чужое жыццё, ён лягчэй бы адаптаваўся да соцыўму і творчых калабарацый, лепш бы разумеў патрэбы і жаданні блізкіх і далёкіх людзей. А так усё жыццё ён іграў адну і тую ж, сваю “любіма-заклятую” ролю – паэта-пакутніка, адрынутага прарока ў знявечанай Айчыне. І быў рэжысёрам сваіх бясконцых перформансаў, загулаў і сумніўных містыфікацыяў. Ды вось якая бяда: ужо амаль незалежная Айчына ўзнялася з каленяў і пайшла далей, пакінуўшы прарока ў самоце, зноў адрынутым і незразуметым. А ці можа лёс сапраўднага прарока быць іншым?

Я зжэр бы свой народ,
бы зерне ў недарод,
і, як віном,
сваёй крывёй запіў бы...

Была яшчэ адна, бадай, усё ж, гіпатэтычная магчымасць у паэта Анатоля Сыса працягнуць кар’еру “прарока” альбо духоўнага гуру – стварыць уласную школу, камуну, секту ці нейкі духаборніцкі рух. Патэнцыйна ягоная творчасць сягала за межы ўласна літаратуры, але сам ён бачыў сваё існаванне суздром у парадыгме беларускай

паэтычнай традыцыі, бо не меў ні палітычна-грамадскіх амбіцый, ні арганізацыйна-лідэрскіх здольнасцяў ці жаданняў. Пры ўсёй палкасці і эгацэнтрачнасці натуры ў жыцці Сыс заставаўся альтруістам, анархістам і фаталістам, які ніколі б не здолеў кіраваць іншымі ці выкарыстоўваць людзей у прагматычных мэтах. Дый рэлігійныя праблемы былі для яго пераважна падставай для паэтычных формулаў, сюжэтаў ці інтэнцый, а не цэнтральнай тэмай духоўнага жыцця ці мэтай існавання. Дух паганства, хрысціянская сімволіка і аскепкі багаборства ў роўнай меры прысутнічалі ў яго інтэлектуальна-духоўным абсягу, саступаючы часам толькі нацыянальна-гістарычнай і змагарскай тэме. То бок ён зрабіўся нявольным стыхійным індывідуалістам, адзінокім літаратурным "хутаранінам", у будзённым жыцці – самаабмежаваным маргіналам. А па сутнасці быў нацыянальна-арыентаваным, але кансерватыўна настроеным, тыповым беларусам. Пэўна, Анатоля Сыса, а не Барадуліна, трэба было б лічыць апошнім (самым маладым) народным паэтам, якога, праўда, народ так і не паспеў разгледзець (бо вельмі быў заняты іншымі клопатамі), а сам паэт надта хутка, хоць і са скандалам, сышоў са сцэны. І чыя тут віна? Такі шлях ён выбраў сабе сам. Ці мо хто іншы? Хто абірае лёс, пакуль мы яшчэ не можам нічога рабіць самі?.. Радзіма, радзіна, радно, ражно, народ, род...

Радзіма пачынаецца з жанчыны.
Я гэта адчуваў, а ўразумець
яшчэ не мог – дзіцём шчыпаў лучыну,
каб хворую матулю адагрэць,
і разам з ёй да позняе гадзіны
мы слухалі трывожна крыгалом,
не ведаў я, што грэў тады Радзіму
і не падманным, а жывым агнём.

*P.S.* Прайшло 30 год, як закацілася паэтычная зорка А. Сыса, і – 17, як счэзла яго фізічнае цела. Здавалася б, назаўсёды прыйшлі часы інтэрнэта, сусветнага павуціння і ўсеагульнага "цік-току". Прарокі засталіся ў быльнягах гісторыі, як і ўся архаіка, антыкварыят ды іншая олдскульная нуда. Ды вось нечакана, як з неба гром:

Прыйшла бяда. Ды не адна.
І не ў адну краіну – не толькі ва Ўкраіну.
Гусцее цемра, надзея чэзне...
Што будзе? Што настане?..
Пастой... Прарок паўстане?!
І мы пачуем, як калісьці на світанні
яго гарачае магутнае дыханне:

*"У гэтай краіне не маю я..."*

Прарок – як фенікс. Нараджаецца ці адраджаецца з попелу, калі ўзнікае ў тым патрэба. І пакуль хоць нехта ведае чароўную замову ці родную мову, на ёй і будзе сказана выратавальнае, вырашальнае, ачышчальнае Слова Паэта.

## Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Людміла Хейдарава



***1.*** Несумненна, нейкае пакліканне да літаратурнай творчасці існуе, але адкуль яно ідзе, цяжка вызначыць. Я мела адукацыю ў галіне прыкладной матэматыкі. Вядучы канструктар, выдатны заробак, навуковыя працы, аўтарытэт. Днём на працы, а паначы занатоўвала вершы, якія пераследавалі мяне, не даючы заснуць, адкуль тое бралася? Я зусім не думала пра літаратуру і да сваіх вершаў ставілася... ніяк не ставілася. Прыйшлі, дык прыйшлі. Не выганяць жа!

Дзякуючы маме, якая пасля вайны выкладала рускую мову ў Сібіры, а таксама тату, які нарадзіўся і вырас у Сібіры, у мяне была добрая руская мова, хаця дома мама, ураджэнка нашых мясцін, часта што-небудзь казала, апавядала па-беларуску. Гэта заўсёды – менавіта заўсёды! – гучала выразна, ярка, цікава, вобразна, трапна, так, што запаміналася адразу. Неяк на працы мяне ўзнагародзілі падпіскай на часопіс “Юность” і, зразумела, што аднойчы я адправіла туды нешта з маіх начных паэтычных набыткаў. Не мінула і два тыдні, як атрымала ліст ад Андрэя Дзяменцьева. Ліст мяне здзівіў тым, што да мяне сур’ёзна ставіліся, як да паэта. Прафесійныя парады, далікатнасць, добразычлівасць, нават некаторая зацікаўленасць падштурхоўвалі мяне стварыць нешта адметнае. Але я не паспела. Мама часта пыталася ў мяне, ці я аддаю куды-небудзь свае вершы. Якраз на тую пару, едучы ў адпачынак да мамы, я кінула ў канверт некалькі сваіх беларускіх вершаў на адрас часопіса “Маладосць”. Адказ за подпісам Петруся Макаля прыйшоў амаль што імгненна. Мяне выклікалі ў рэдакцыю. Дзякуючы гэтаму выбітнаму паэту, якога ў свой час параўноўвалі з Гётэ, я атрымала некаторую адукацыю ў галіне сусветнай і сучаснай беларускай літаратуры. Палова ягонай бібліятэкі перабывала ў маёй кватэры. Першая нізка маіх вершаў у часопісе “Маладосць” адразу была адзначаная прэміяй за лепшую паэтычную публікацыю 1980 года. Я пачала рыхтаваць сваю першую кнігу “Адведзіны рамонкавай паляны”, за якую пасля выхаду з друку ў 1985 годзе мяне далучылі да Саюза пісьменнікаў Беларусі і амаль адразу да СП СССР.

А цяпер пасмейцеся з мяне. Калі Пятрусь Макаль пасля вынікаў галасавання падвёў мяне да высокага мужчыны з уважлівым добрым паглядам і прадставіў: “Людміла, пазнаёмся! Максім Танк”, – я ледзьве не страціла прытомнасць. Нават палумачыць не магу, чаму я лічыла нашага сучаснага паэта равеснікам дзекабрыстаў? І, зразумела, што ніяк не спадзявалася паціснуць пры жыцці працягнутую да мяне руку Максіма Танка. Але рука была цёплай, а погляд лагодным.

***2.*** Звычка працаваць ноччу, набытая ў юнацтве, так і засталася ў мяне. Выдатны час! Самы лепшы, прыдатны што да творчасці, што да малітвы, што да медытацыі. Усе дзённыя справы завершаныя. Нішто і ніхто не замінае. Неба выкрывае сваю зорную сутнасць, спараджаючы ў адказ давер і прагу палёту. Забываюся і некуды знікаю да світання... Чытаю ранкам напісанае і дзіўлюся – трэба ж! – здаецца, і не думала пра тое, што склалася ў радкі. Радуюся, калі годныя, лічу іх дасланымі звыш. Калі ж не знаходжу вартымі, смяюся з сябе – гэта ўжо дакладна я напісала! – і з лёгкім

сэрцам кідаю ў сметніцу. Раней хапала дзве-тры ночы, каб аднавіцца, зараз даводзіцца даўжэй збіраць моц на маю ўсяночную. Дарэчы, стан, калі цалкам аддаеш сябе творчасці, асабліва паэзіі, лічу малітоўным. А пішу, як патрапіць, дзе патрапіць і чым патрапіць. Неяк я размаўляла з Сінгхам, духоўнай асобай, ацаляльнікам з Манголіі, які прыязджаў да нас лекаваць людзей. Разумны, жвавы, уважлівы, засяроджаны, цікаўны, заўсёды ў тонусе. Міжволі запыталася, як ён падтрымлівае сябе ў такім стане пасля штодзённай шматгадзіннай працы? Нейкі трэнінг, духоўныя практыкі? Ці часам спажывае алкаголь? Сінгх шчыра здзівіўся: “Алкаголь? Навошта алкаголь, калі ёсць жанчыны!” Зайздросны адказ. Таксама не маю штучных творчых стымулятараў. Проста я каваманка незалежна ад творчага працэсу. Але я маю пяць зборнікаў паэзіі. І ў кожным з іх ёсць вершы пра каханне адпаведнага часу. Мяркую, што адзіна гэтае жыццядайнае пачуцце і выклікала да жыцця мае зборнікі... А наконт натхнення не маю пэўнай думкі. Хутчэй, што гэта не стан, а іскра, якая запальвае нейкі адпаведны кнот у чалавеку. Такое можа раптоўна здарыцца ў метро, на прыродзе, у рэстаране, у ложку, дзе заўгодна і калі заўгодна – без папярэджання, без якой прывязкі да рэчаіснасці – і тут галоўнае, каб была магчымасць занатаваць тое полымя.

***3.*** Праца патрабуе працы. Над сабой і над творам. Гэта і ёсць цяжкасць. Праца сама па сабе заўсёды напруга ў дасягненні, адольванні чаго-небудзь. І напісанне твора тут не выключэнне. Дадам, што без унутранай свабоды і самадысцыпліны вынікаў творчай працы можна і не дачакацца.

Слова – нашае ўсё. І не толькі ў літаратуры. І не толькі ў якасці матрыцы нашага свету, але і ў якасці матрыцы ўсяго, што мянуе сабой. Да прыкладу, возьмем нашае знакамітае (а, можа стацца, выклятае) слова “хлопец”. І Уладзімір Даль у сваім “Толковом словаре” арт. (ХЛОПЕЦЪ м, (*хлапъ, холопъ*)), і наш Уладзімір Юрэвіч выводзілі яго ад слова “халоп”– так у старажытнай Русі менавалі раба, імя якога не мела сэнсу ведаць, бо для таго, каб паклікаць, дастаткова было проста пляснуць (хлопнуць) у ладкі. “Сына халопа называлі халапцом, халапуком (адсюль і беларускае хлопец)”. Хто яго ведае, можа быць, тое і маем. Ды тут і матрыцай можна не азадачвацца. Вядомая прыказка патлумачыць: “Назавіце чалавека сто разоў свіннёй, ён і зарохкае”. Вось яна фраза, што ў граматычным, што ў фанетычным значэнні – трапнае, часам вобразнае, мастацкае ўвасабленне слова! Што тычыцца рытму, дык без яго не ўяўляю твора – ані ў мастацкай прозе, ані ў паэзіі. У адным з вучэнняў ёгі гаворыцца, што ў міфалагічным Залатым веку ўсе людзі будуць прамаўляць вершамі, паколькі гэта самы прыгожы, дасціпны, гарманічны сродак зносінаў. Сёння дык неяк і ўявіць смешна. Але зважаючы на тое, колькі зараз людзей пішуць вершы, можна падумаць, што ідзе актыўная падрыхтоўка. Будзем пачакаць.

***4.*** У рэалізацыі творчых задумак спрыяе адно праца, адказнасць, здаровыя творчыя амбіцыі. Што і хто перашкаджае, мы ўсе добра ведаем. І, вядома, я радуюся добрым водгукам на мае творы. Давер, запатрабаванасць у чытачоў і сяброў заўсёды падштурхоўвае, набліжае да новых твораў. З рэдактарамі крыху складаней. Але мне пашанцавала. Адразу прыгадваю выпадак з маім вершам “Песні маленства”, які, працуючы ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, рэдактар маіх першых зборнікаў паэзіі Леанід Дранько-Майсюк катэгарычна параіў зняць як няварты з рукапісу майго зборніка паэзіі “Тваё святло”. Спрачацца і затрымліваць выданне не хацелася, таму я проста ўключыла гэты верш у мой наступны зборнік “Купанне ў росах”. Не перадаць майго здзіўлення, калі я прачытала ягоную заўвагу на лісце з гэтым вершам. Леанід чырвоным колерам з клічнікамі напісаў, што гэта лепшы верш кнігі! З таго выпадку я канчаткова супакоілася наконт стаўлення да сваёй творчасці. Магчыма, што гэта быў самы важны ўрок, які я атрымала на тую пару.

Паэзія ва ўсіх адносінах суб'ектыўная, бо патрабуе часам адпаведнага стану душы нават у прафесіяналаў высокага кшталту. І няхай часам бачацца нейкія моманты, якія можна паправіць, падняць, але і не хочацца. Што пражыта, тое пражыта. Паэты вырастаюць са сваіх вершаў у сябе будучых.

***5.*** Наўрад ці я адмовілася б ад моўленага ў маіх кнігах. Але, як кажуць, не без граху. Адзін радок не толькі насцярожвае, але і выклікае цяпер здаровы сумніў: "З трох бярозак адна адгукнулася: "Белая Русь!" Што паробіш, выхаваныя...

Тры гады таму пачала трывожыць думка, што зацягнула я працу над раманам "Князёўна Дарута, або Чалавечая кроў ліпучая". Дзеянне рамана прыпала на сярэдзіну 17-га стагоддзя падчас Невядомай вайны, або Крывавага патопу, як яшчэ мянуюць гэтую страшэзную падзею на нашай зямлі. Перашкаджала адказнасць і жаданне ўжыцца і перадаць найбольш дасканала і адпаведна часу атмасферу, у якой дзейнічаюць мае героі, ва ўсім, што тычыцца побыту, гістарычных асоб, тагачаснай зброі, кніг па ваенным мастацтве, мясцінаў, дзе адбываліся падзеі. Сеціва было яшчэ зусім бедным. Тагачаснай даведачнай літаратуры не хапала, каб зарыентавацца ў маіх памкненнях. Дапамагалі паданні родных мясцінаў, якія назбіраліся ў мяне. Да таго ж я мела на мэце нагадаць у жанры рамана пра той пагібельны час, але ў прыгодніцкай, займальнай форме, каб чытач не мог адарвацца ад яго з першага сказу па дарозе на працу, у метро, падчас адпачынку, таму імкнулася зрабіць кнігу кішэннага фармату. Задач было паўстаўлена безліч. Думаю, што атрымалася, бо кніга адзначаная "Залатым апострафам" майго ўлюбёнага часопіса "Дзеяслоў". Гэтак радавалася я толькі свайму першаму зборніку вершаў. Пакуль што не атрымалася пачаць пісаць працяг "Князёўны...", як ахрысцілі маю кнігу сябры. Але нешта ўжо выбудоўваецца. Не магу нічога казаць наперад. Ведае той, хто нада мной. Дарэчы, я чула, што нечым нагадваю Даруту з "Кнёзёўны...". Гэта мяне здзівіла. Не хочацца, каб давялося перажыць наноў тое, што адбывалася тады на нашай зямлі – ні мне, нікому, нідзе. А ў паэзіі лірычную гераіню часам пісала з сябе або атаясамлівала з сабой. Перажытае заўсёды са мной. Навошта яго паўтараць? Пакуль гэтае жыццё не скончанае, варта выкарыстоўваць астатні час, каб набірацца новага вопыту. Па сіле. Годнага.

***6.*** Аднойчы мама знайшла мой дзённік, схаваны пад дыванком. Я тады толькі паступіла на матэматычны факультэт БДУ. Запіс у дзённіку сведчыў пра сустрэчу з былым дзесяцікласнікам, які некалі на навагоднім ранішніку згінаўся напалову свайго росту, каб навучыць дарослым танцам смаркатую пяціклашку. Наконт саплівай пяціклашкі, думаю, што няма пытанняў. Потым, недзе працуючы, ён час ад часу дасылаў мне свае вершы пра невыноснае каханне да той дзяўчынкі. Мама зразумела галоўнае: студэнку самай прэстыжнай ВНУ краіны можна адным пацалункам, памянёным у дзённіку, збіць з належнага шляху, калі пяць гадоў рыхтавацца да гэтага. Са мной пагаварылі "за розум". Розум выказаўся за розум. Каханне прамаўчала. Не тое не даспела, не тое думала, што паспее адпомсціць. Я спаліла дзённік і болей не заводзіла ні дзённікаў, ні кавалераў. Дзённікаў ніколі. Кавалераў роўна адзін год, бо на наступны год навучання ў прэстыжнай ВНУ было прызначанае вяселле з вельмі разумным і дасціпным студэнтам. Калі здавала навуковы камунізм, выкладчыца нават папікнула, што мой муж, у адрозненне ад мяне, меў цвёрдыя веды па гэтай навуцы. Бог з ім, гэтым вандроўным прывідам камунізму! Не да ночы згадка!

З мамінай ласкі адсутнасць дзённікаў паспрыяла таму, што ўключылася нейкае 3D успрыманне рэчаіснасці, разам з гукамі, малюнкамі, якое можна перагледзець, як кіно. Якраз такім чынам склалася мая кніга жыццёвых апавяданняў "Дарт". Зараз завяршаю працу над серыяй новых жыццёвых

апавяданняў і ўспамінаў. Мой 3D, дзякуючы мамінай праніклівасці, працуе і застаецца запатрабаваным.

А вось жахлівае “Ні дня без радка” – не пра мяне. Праца без натуральнай іскры, без таго, што інакш немагчыма жыць... Можа стацца, гэткі фітнес з радкамі дапамагае трымаць нейкую творчую мускулатуру ў тонусе. Не спрачаюся. Але ў мяне інакшы прынцып – ні дня без Любові. Інакш усё робіцца нішчымным, нікчэмным, непатрэбным. Лянота? Ды мы ўсе лянівыя! Вось толькі калі жывеш з Любоюю ў сэрцы, калі жыццё спрабуеш на нюх, на смак, на трываласць, на крылы... – цікава жыць. Інакш навошта сюджы прыходзіць? Але, напэўна, я не дужа ладжу з часам: то не хапае яго на творчасць, то на дом, то на сяброў, то на сябе, на басейн, на здароўе... Вось тут асечка. Ляжыш з заезджым грыпам і разумееш, што няма горшага ворага, як сам сабе. І ўстаеш... Да пліты. Да мальберта. Да “Мушкецёраў”. Да сяброў. Да жыцця. Да творчасці... Да паштовай скрыні са 121-м нумарам “Дзеяслова”.

***7.*** У пару маёй матэматычнай дзейнасці адзін з маіх начальнікаў агледзеў наш калектыў і раптам з горыччу прамовіў: “Напэўна, што састарэў! Усе маладыя дзяўчаты здаюцца прыгожымі!..” Нешта падобнае сталася і са мной. Чытаю ў “Дзеяслове” маладых і дзівуюся – усе цікавыя. Праўда, чытаю не ўсё запар. Як усіх дзяўчат не перакахаць, так і ўсіх маладых не перачытаць. Таму не бяруся рабіць нейкія высновы, апроч таго, што школа маладога пісьменніка працуе! Ну а сталыя пісьменнікі на тое і сталыя, каб не пісаць абы чаго. Чытаю з даверам да ўлюбёнага “Дзеяслова”. Чытаю сяброў, чытаю тых, каго рэкамендуюць сябры, тых, да каго хаджу на прэзентацыю ці юбілей. Чытаю яшчэ тых, хто просіць пачытаць, або дасылае прыватным чынам. Але скажу шчыра: тэлеглядач ува мне даўно загінуў, а чытач хапаецца за галаву, бо, здаецца, што зараз пішуць усе і, трэба прызнацца, даволі прыстойна. Безумоўна, не прапускаю псіхалагічна вывераных апавяданняў Уладзіміра Сцяпана, якія базуюцца на рэальных героях і падзеях. Не тое, каб добрым словам якім, а проста добрай душой малюе ўсіх запар. Трэба шмат перажыць, каб так разумець людзей. Трэба быць сапраўдным пісьменнікам, каб так перадаць тое, што зразумеў. Яшчэ насалоджваюся давыдгарадоцкімі гаворкамі ў апавяданнях Леаніда Дранько-Майсюка, вызначанымі як “дыялект лебядзіны гарынскай вады”. Прыкіпела да “Шчонаўскіх абразкоў” Алы Петрушкевіч. Трымаць у памяці, каб проста, дасціпна, без розных відавочных мастацкіх прыёмаў, з павагай і непадробным унутраным спрыяннем апавядаць пра тых, з кім пачыналася і доўжылася пэўны час уласнае жыццё – дарагі падарунак не толькі сваёй малой радзіме, але і ўсім нам. Ніколі не пакідала і не пакідае захапленне паэзіяй Уладзіміра Някляева, Фелікса Баторына. Застаецца цікавым Сяргей Законнікаў. Не прамінула пазнаёміцца з новымі вершамі Васіля Жуковіча. Люблю паэтычнае шчыраванне ў арганічных, гарманічных наватворах Антаніны Хатэнкі... Радуюся вышыні, якую набрала паэзія Усевалада Сцебуракі... Падкупляе даверлівая шчырасць вершаў Анатоля Івашчанкі... У гэтым годзе адкрыла для сябе псіхалагічную, з элементамі містыкі, прозу Людмілы Андзілеўкі, паэзію Ванды Марцінш душ Рэйш. Яе зборнік вершаў “Мора мары” перачытала двойчы – прыцягвае багатай мовай і часам зусім нечаканымі вобразамі, сюжэтнымі ходамі. Няўдзячная справа распавядаць пра пісьменнікаў у такім фармаце. Канечне, не можа не кранаць бальшынёй сваіх вершаў Наста Кудасава... Андрэй Хадановіч шчыруе на ніве класічнага верша. Яго аднаго хапіла б на ўсю Еўропу... Але... Няхай вяртаюцца... Жывымі. Здаровымі. Вось тут... не хочацца болей гаварыць. Ведаеце, як шчыра, ды каго б я зараз ні згадала, гэта ўсё адно будзе не справядліва ў адносінах да астатніх. У нас багатая літаратура, яшчэ нават толкам не ўспрынятая, не асэнсаваная ні чытачамі, ні нашымі крытыкамі, ні замежнымі. А вось з замежнай літаратуры чытаю прак-

тычна толькі духоўную. Да прыкладу, тым, хто цікавіцца, магу рэкамендаваць аўтабіяграфію Парамахансы Ёгананды. Вялікая кніга! Велічная кніга! Без спецыфічнай тэрміналогіі, у займальнай форме неверагодная гісторыя жыцця, сведчанняў і досведаў ёгіна, які змяніў свядомасць мільёнаў. Безліч адказаў на пытанні, якія вякамі заставаліся таямніцай для непасвячоных. Пасля робіцца не толькі лягчэй жыць, але і болей даверу гэтаму свету, на якім мы не пакінутыя.

З маім 3D уяўленнем не маю патрэбы перачытваць кнігі, хіба што асобныя кавалкі, нечым значныя для мяне. Часам нешта яшчэ шукаю ў творах Алеся Разанава. Не зажывае памяць... Да духоўнай літаратуры свету звяртаюся наноў тады, калі наспелі чарговыя пытанні, на якія шукаю адказу. Ва ўсім астатнім – карты, даведнікі, энцыклапедыя, дакументы, летапісы...

Ай, здаецца, схлусіла! Часам звяртаюся да паэтычнай класікі свету і казак народаў свету. Там шмат станоўчай энергіі, якой цяпер бракуе і ў жыцці, і ў СМІ, і ў мастацкай літаратуры.

***8.*** Нашай літаратуры не стае адзіна ўласнай мовы народа ў народзе. Ды і ўсім нам катастрафічна не хапае гэтага.. Мова народа – код годнасці, славы, бяспекі, багацця, росквіту краіны і жыцця кожнага ў ёй. Мова народа – стрыжань нашай еднасці, пераемнасці і непер573можнасці. Вялікую сілу, вялікі дух, вялікую патэнцыю мае народ, які пад непамерным гнётам суседскіх амбіцый на адным глытку волі выжываў, адраджаўся і набіраўся моцы.

Дарагія наступнікі, што спрабуюць сябе ў літаратуры! Вы – ёсць. І вы ёсць часткай нашага народа. Верце ў сябе. Верце ў наш народ. Верце ў тое, чаго шчыра жадаеце. Будзьце непахіснымі ў веры вашай і нястомнымі ў вашай працы, каб вашыя жаданні спраўдзіліся. Прыйдзе час, і мы пакінем літаратуру на ваш зямны клопат. Набірайцеся моцы. Вы заспелі спрыяльныя ўмовы для развіцця сваіх талентаў. Але, як вы ўжо зразумелі, на гэтым свеце ўсё няўстойлівае, плыткае. Жывіце шчасліва. Заставайцеся вернымі Слову.

# Нашыя аўтары

**Аўраменка Васіль** – публіцыст, паэт, бард, лекар-неўролаг. Аўтар кнігі-эсэ «Нябачнае і ява (фрагменты інтымнай аўтабіяграфіі)», паэтычнага зборніка «Кругі і колы». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мазыры. Жыве ў Магілёве.

**Бабкова Вольга** – літаратарка, гісторык-архівіст. Займаецца даследаваннем і выданнем тэстаментаў беларускай шляхты XVI–XVIII стст. Аўтарка кнігі эсэ па гісторыі штодзённасці ВКЛ «...І цуды, і страхі». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча (2010). Нарадзілася ў Мінску ў 1961 годзе, дзе і жыве.

**Ваганаў Сяргей** – журналіст, эсэіст, паэт. З 1961 года працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Знамя юности». У 1976-2008 гг. – уласны карэспандэнт газеты «Труд», галоўны рэдактар газеты «Труд» в Беларуси». Аўтар шматлікіх эсэ і публіцыстычных нарысаў. Аўтар кніг «Мосцік над вечнасцю», «Я веру ў Цуд», «Праз межы Часу». Двойчы лаўрэат конкурсу «Вольнае слова». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Казані, у эвакуацыі. Жыве ў Мінску.

**Варанец Віктар** – празаік. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў». Аўтар кнігі «Рамізнік». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Вераціла Сяргей** – празаік, паэт, перакладчык. Аўтар кнігі апавяданняў «Разбітае сэрца Вітаўта». Сярод іншага перакладаў на беларускую мову некаторыя творы Хорхе Луіса Борхеса, Хасэ Артэга-і-Гасета. Нарадзіўся ў мястэчку Краснае Сяло на Ваўкавышчыне ў 1961 годзе, дзе і жыве.

**Вішнёў Зміцер** – празаік, паэт, мастак. Адзін са стваральнікаў літсуполкі «Бумбам-літ». Аўтар кніг «Бочкавы краб», «Клёкатамус», «Штабкавы тамтам», «Тамбурны маскіт», «Верыфікацыя нараджэння», «Замак, пабудаваны з крапівы» ды інш. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Дэбрэцэне (Венгрыя). Жыве ў Берліне.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Даніленка Уладзімір** – украінскі празаік, крытык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг прозы «Місто Тіровиван», «Сон із дзьоба стрижа», «Газелі бідного Ремзі», «Кохання в стилі бароко», «Грози над Туровцем» ды інш; кнігі крытыкі «Лісоруб у пустелі», п'есы «Гроші для Йонеско». Па-беларуску выходзіла кніга «Клетка для івалгі» ў перакладах Валера Стралко і Барыса Пятровіча. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія «Благовіст» (1999), прэмія імя Івана Агіенка (1999), «Березіль» (2010), прэмія Валерыя Шаўчука (2013). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Туравец на Жытоміршчыне. Жыве ў Кіеве.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Капла Марыт** – шведская культурная журналістка і літаратарка. Лаўрэатка прэміі «Augustpriset» за дэбютную кнігу «Osebol» у намінацыі мастацкая літаратура. Аўтарка кнігі гутарак «Любоў па-шведску». Нарадзілася ў 1970 годзе ў мястэчку Усеболь (Швецыя). Жыве ў Гётэборгу.

**Лаеўская Магдалена** – паэтка. Скончыла польскую філалогію ва ўніверсітэце імя Адама Міцкевіча ў 2005 годзе. У 2006 годзе прыехала ў Беларусь, дзе працавала выкладчыцай польскай мовы. Нарадзілася ў 1981 годзе ў Познані. Жыве ў Магілёве.

**Ляснюк Вольга** – украінская літаратарка. Аўтарка кніг «Босоніж у вічність», «Третє бажання», «АНАЛОГіЯ», «Поцілунки у скло», «[без іронії]». Старшынька Валынскай арганізацыі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Нарадзілася ў 1978 годзе ў Нававалынску на Валыні. Жыве ў Луцку.

**Мароз Уладзімір** – празаік, паэт, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» ды інш. Аўтар сцэнарыяў больш як 60-ці дакументальных фільмаў. Фільм «Успаміны пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Мартынюк Мікола** – украінскі пісьменнік, крытык, перакладчык, вучоны, выдавец. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат шматлікіх міжнародных і нацыянальных прэмій. Аўтар дзясятка паэтычных і празаічных кніг, зборнікаў перакладаў, больш за 50 навуковых і літаратурна-крытычных прац. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў вёсцы Залібіўка Ровенскай вобласці. Жыве ў Луцку.

**Місуна Алесь** – празаік, паэт. Кандыдат эканамічных навук. Аўтар больш за сотню навуковых і навукова-метадычных прац у галіне эканамічнага аналізу. Аўтар кніг «Дзякуй за неба» і «Простыя людзі». Нарадзіўся ў 1951 годзе ў засценку Маргі (цяпер Леанардова) на Мядзельшчыне. Жыве ў вёсцы Багушова на Міншчыне.

**Міхно Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Горкі зефір», «Азартныя гульні». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Чэрцы на Лепельшчыне. Памёр у 2019 годзе.

**Спрынчан Аксана** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг «Вершы ад А.», «Хата для Моўчы», «ЖываЯ», «Смачная кніга» ды інш. Пераможца конкурсу «Літаратура – дзецям» (2009). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Сыс Сяржук** – паэт, журналіст. Аўтар кніг вершаў «Стрэмка», «Павук». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Вільні.

**Фарманюк Эліна** – украінская паэтка і журналістка. Лаўрэатка нацыянальных літаратурных конкурсаў. Друкавалася ў калектыўных зборніках: «Трынаццаць», «ЛІТпошта», «Дотык». Аўтарка кніг паэзіі «Па другі бок вясёлкі» і «Срэбра і святло». Нарадзілася ў 1989 годзе ў Берастэчку на Валыншчыне, жыве ў Луцку.

**Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт», рамана-фэнтэзі «Князёўна Дарута, або Чалавечая кроў ліпучая». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996), прэміі «Залаты Апостраф» (2021). Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Чапялюк Андрэй** – паэт. Дзяцінства правёў на Палессі. Скончыў каледж мастацтваў па спецыяльнасці «фальклор», гістфак Гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Нарадзіўся ў Краснаярску ў 1991 годзе. Жыве ў Гародні.

**Чыгрын Сяргей** – паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» ды інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка ды інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Эспіноса Руіс Анхела** – экзафонная (беларускамоўная) паэтка перакладчыца. Аўтарка чатырох зборнікаў паэзіі і прозы. Пераклала на іспанскую мову выбраныя вершы Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Янкі Купалы ды інш. Перакладае творы беларускіх і ўкраінскіх літаратараў на іспанскую мову. Таксама перакладае на беларускую мову. Лаўрэатка і фіналістка шэрагу літаратурных і журналісцкіх конкурсаў, у тым ліку прэміі імя Міхася Стральцова (2019). Нарадзілася ў 1993 годзе ў Малазе (Іспанія). Жыве ў Варшаве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Глеба Лабадзенкі,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.